

# Напалеон Орда.

## Шлях да Бацькаўшчыны



D Subua fl.
Livones in fidem ac clientelam Sigismundi Augusti Regis Poloniæ Moscoviticis armis atq. tirannide oppressi Positonæ suscipiuntur An.o 1559
Lisna
Niessewa
Sokol
Kosian
Oskatczyna fl.
Anno 1563 Polotia sub Sigismundo Augusto Rege Poloniæ a Moscho adempta a stephano autem Rege recuperata
Statua fl.
Arx Druia
Drissa
Drissa fl.
Druia
Braslaw
Drunskidwor
Duna vel Dzwina fl. Ptol. Rubon
Dzisna
Vkolskidwor
Ikaznia
Polota fl.
Poloczk
Budowicze
Dziesna fl.
Bohomecz
Anno 1564 ad Vtam arcem cæsus est Moschorum exercitus hominum duce Suiscio a Nicolao Radziwil in Dubinki et Birze duce auspicys sigism. Augusti
Obola fl.
Zamosse
Opsa
Pohost
Vhora
Mossar
Psuia
Plissa
Hlubokie
Woromecz
Turowla
Vla
Polowo
Olbiey
Winzenne
Dryswiatczyca fl.
Ozunicze
Osinzorodok
Dolce
Suchodolce
Ciotcza
Hoducisski
Luczay
Dunilowicze
Wolkolata
Kissczin
Vszacza fl.
Vla fl.
Czasniki
Postawy
Komate
Lukomla
Kobylniki
Miadzial
Sczydat
Milesseuss kihorod
Vila fl.
Zanaroczе
Dozarzi
Narocz fl.
Narocz
Rzeczki
Kosenicze
Mileza
Dolhinow
Czerein
Krasny staw
Woistoma
Karzemec
Wilika
Serwecz
Doxico
Monsieiewicze
Chudow
Zodzisski
Stary
Dzwinosa fl.
Krask
Plussczenice
Berezina fl.
Slow
Grusska
Iablonka
Markow
Ilia
Mostodczno
Ilia fl.
Dalkowicze
Zebin
Lessnica
Nacza
Krupka
Radziwilow
Bobr
Kamien
Liebiedzow
Radosskowicze
Dubrowa
Lohoisk
Iuriewo
Solomireczki Horodek
Ostroczyce
Borysow
Chlwino
Slowiensk
Wolozyn
Zaslaw
Iuriewo
Dory
Horodek Ostroczyczki
Horodzissczе
Bobr fl.
Rakow
Wolma
Piersaie
Minsk
Wolma

Леанід Несцярчук

# Напалеон Орда.
# Шлях да Бацькаўшчыны



Мінск
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
2009

УДК 75.071.1.03(476)(092)+929 Орда
ББК 85.143(4Беи)
Н56

Кніга выдадзена за сродкі Фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва, а таксама дзякуючы падтрымцы Міністэрства інфармацыі і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, абласных, гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтаў, цэнтральных, абласных, гарадскіх і раённых бібліятэк і музеяў, бібліятэк ВНУ, іншых зацікаўленых арганізацый і ўстаноў Беларусі.

У кнізе-альбоме выкарыстаны фотаздымкі акварэляў і літаграфій Напалеона Орды з фондаў Варшаўскага нацыянальнага музея, Кракаўскага нацыянальнага музея, Музея г. Варшавы, музейнага комплексу Н. Орды ў Варацэвічах (Іванаўскі раён), Музея Ф. Шапэна (Варшава), Музея А. Міцкевіча (Парыж), Нацыянальнага музея Вільнюса (Літва), Нацыянальнага музея Познані (Польшча), Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнай бібліятэкі Польшчы, бібліятэкі НАН Украіны імя В. Стафаніка (Львоў), бібліятэкі Ягелонскага універсітэта (Кракаў), а таксама фотаілюстрацыі з асабістага архіва аўтара.

**ISBN 978-985-02-1031-9**

Гэта кніга — найбольш поўная беларускамоўная навуковая манаграфія пра знакамітага сына Палесся, выдатнага майстра алоўка, вядомага кампазітара і піяніста Напалеона Орду (1807—1883). Ён жыў і тварыў у суровы час, будучы актыўным удзельнікам складаных і бурлівых падзей. На прыкладзе жыцця нашага земляка можна ствараць жывы партрэт тагачаснай інтэлігенцыі, вывучаць гісторыю многіх еўрапейскіх краін.

Радзіма Напалеона Орды — Беларусь. Яна нарадзіла, выхавала і прыняла на вечны спачын майстра. Сваёй творчасцю ён разбудзіў у беларусаў цікавасць да гістарычнай спадчыны і дапамог усвядоміць і памножыць глыбокае пачуццё патрыятызму.

Напалеон Орда напісаў больш за тысячу акварэляў і графічных аркушаў, на якіх адлюстраваў унікальныя аб'екты архітэктуры, гісторыі і культуры, звязаныя са слыннымі асобамі і гістарычнымі падзеямі як у Беларусі, так і па-за яе межамі.

Тры дзесяцігоддзі працягваецца праца Брэсцкага абласнога і Іванаўскага раённага выканаўчых камітэтаў, творчай інтэлігенцыі, асабліва журналістаў рэспублікі і работнікаў культуры Іванаўшчыны, даследчыкаў, аматараў і прыхільнікаў творчасці Н. Орды па папулярызацыі яго імя на Бацькаўшчыне, адраджэнні ягонай спадчыны. Імя слыннага творцы ўжо носяць вуліцы у гарадах Іванаве і Пінску, навучальныя ўстановы і абласное грамадскае аб'яднанне. На радзіме Н. Орды ўзведзены помнік (пакуль яшчэ адзіны ў Еўропе), усталяваны мемарыяльныя знакі, да 200-й гадавіны у вёсцы Варацэвічы адкрыта мастацкая галерэя, рыхтуецца праект аднаўлення дома-сядзібы, тут пастулова ствараецца ў яго гонар мемарыяльны комплекс.

Дадзеная кніга з'яўляецца не толькі вынікам абагульнення зробленага па ўшанаванні імя Н. Орды, але і спробай кампенсаваць той вялікі доўг, што мае не адно пакаленне беларусаў перад светлым вобразам майстра.

*Старшыня Брэсцкага аблвыканкама,*
*старшыня каардынацыйнага савета па ахове матэрыяльнай*
*і духоўнай спадчыны*

**К. Сумар**

Зёмістым навуковым даследаваннем Леаніда Несцерчука «Напалеон Орда. Шлях да Бацькаўшчыны» азнаёміўся з асаблівай цікавасцю. З кожнай прачытанай старонкай выспявала ў душы пачуццё ўдзячнасці аўтару за новую навуковую працу з серыі «Знакамітыя людзі Беларусі», выкананую ім на высокім узроўні.

Кніга чытаецца, што называецца, на адным дыханні. Тэма жыцця і творчасці Напалеона Орды, паднятая аўтарам, безумоўна, патрэбная, актуальная і своечасовая. 200-годдзе Н. Орды было абвешчана ЮНЕСКА як адна з важнейшых юбілейных дат для святкавання ў 2007 годзе ўсімі краінамі свету.

Яшчэ свежыя ўспаміны і ўражанні, атрыманыя ад урачыстасцей, прысвечаных юбілею Н. Орды, якія адбыліся ў Іванаве, Брэсце, Пінску і Мінску, тым больш што аўтар браў самы непасрэдны ўдзел у іх падрыхтоўцы і правядзенні. Таму праца Л. М. Несцерчука ўспрымаецца, як працяг мерапрыемстваў па дастойным ўшанаванні імя нашага слыннага земляка.

Кніга, якая складаецца з трох частак, напісана разважліва і адказна. Неабходна падкрэсліць, што аўтар смела і грунтоўна ўзяўся за напісанне біяграфіі Н. Орды і, як бачна, справіўся з гэтай задачай даволі годна.

Акрамя шчырага жадання, даследчык меў маральнае права на гэтую працу, маючы за плячамі шэраг манаграфічных прац па гісторыі Беларусі, ахове яе матэрыяльнай і духоўнай спадчыны, з якіх манаграфія «А. Т. Касцюшка. Вяртанне героя на радзіму» з'явілася даволі ўдалай спробай напісання навуковых прац пра гістарычных асоб Берасцейшчыны.

Аўтар старанна сабраў і апрацаваў амаль поўную бібліяграфію пра Н. Орду, што налічвае больш за 500 друкаваных прац як айчынных, так і замежных даследчыкаў жыцця і творчасці Н. Орды. Важна падкрэсліць, што тэму «Бібліяграфія Н. Орды» аўтар паспяхова агучыў, выступаючы з дакладам на Міжнароднай навуковай канферэнцыі (16.02.2007 г.) у Мінску, прысвечанай жыццю і творчасці нашага слыннага земляка.

У навуковы ўжытак аўтарам уключаны шэраг новых архіўных матэрыялаў, якія раскрываюць асобу Н. Орды як таленавітага мастака, вядомага кампазітара, музыканта,

нястомнага змагара за гуманістычныя ідэалы, літаратара, публіцыста і педагога. Гэтаму садзейнічала амаль 15-гадовая збіральніцкая праца Л. М. Несцерчука ў айчынных і замежных архівах, музеях і бібліятэках.

Асабліва плённай была праца даследчыка ў аддзелах графікі і старадрукаў Варшаўскага і Кракаўскага нацыянальных музеяў Польшчы, дзе сканцэнтравана амаль уся мастацкая спадчына Н. Орды. Аўтару ўдалося пазнаёміцца і апрацаваць усе акварэлі (1060) і ілюстраваныя альбомы Н. Орды (8 серый з 260 літаграфіямі), якія захоўваюцца ў вышэйназваных музейных установах Польшчы, выканаць фотаздымкі 227 акварэляў, прысвечаных гістарычным пейзажам Беларусі, і 133 здымкаў акварэляў з замежных вандровак Н. Орды.

З сабранай калекцыі фотаматэрыялаў аўтарам ужо апублікавана 56 здымкаў акварэляў Н. Орды ў манаграфічнай працы «Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X—XX стагоддзяў» (Мінск, 2002, перавыдадзена ў 2005 г.).

У першай частцы кнігі, акрамя раздзелаў з біяграфічнымі звесткамі Н. Орды, уведзены раздзелы, у якіх старанна прааналізавана дзейнасць дзяржаўных органаў (Брэсцкі абласны і Іванаўскі раённы выканаўчыя камітэты), рэспубліканскіх органаў (Нацыянальная камісія Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА, Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Міністэрства культуры і Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь), грамадскіх аб'яднанняў, у першую чаргу абласнога Фонду імя Н. Орды, па папулярызацыі і ўшанаванні імя Н. Орды на радзіме і за мяжой.

Найбольш удалай і цікавай з'яўляецца другая частка манаграфіі — «Сэрцам маляваў Айчыну», прысвечаная мастацкім працам Н. Орды, якія выканаў наш зямляк у час вандровак па гістарычных мясцінах Беларусі. Варта зазначыць, што Л. М. Несцярчук адышоў ад практыкі папярэдніх стваральнікаў ілюстраваных альбомаў, якія змяшчалі толькі копіі літаграфій і акварэляў у чорна-белым выкананні без анатацый і гістарычных звестак. Наадварот, аўтар да кожнай фотакопіі арыгіналаў Н. Орды дае гістарычную даведку аб мясцовасці, гістарычнай падзеі, што адбылася тут, ці асобе, жыццё і дзейнасць якой звязана з гэтай падзеяй і мясцінай. Таму дадзены раздзел выступае як асобнае навуковае даследаванне, прысвечанае замкам, палацам, культавым архітэктурным аб'ектам і гістарычным падзеям у Беларусі за амаль 1000-гадовы шлях развіцця беларускай нацыі.

На наш погляд, новая кніга Л. М. Несцерчука «Напалеон Орда. Шлях да Бацькаўшчыны» з'явіцца важкім унёскам у гістарыяграфію Беларусі, тым больш што факты і падзеі пра нашага слыннага земляка Н. Орду, выкладзеныя ў кнізе, захоўваюць адбітак свайго часу, не губляюць гістарычнай памяці пра гісторыю роднага краю і яе цудоўных людзей.

Кніга будзе карысна выкладчыкам гісторыі і архітэктуры, музыкі і мастацтва ВНУ і сярэдніх навучальных устаноў, гісторыкам, архітэктарам і мастакам, спецыялістам па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, а таксама ўсім, хто неабыякавы да айчыннай матэрыяльнай і духоўнай спадчыны. Акрамя таго, кніга з цудоўнымі ордаўскімі ілюстрацыямі гістарычных пейзажаў Беларусі будзе спрыяць узвышэнню гонару нашай краіны сярод гасцей, турыстаў і наогул далёка за яе межамі.

**Аляксандр Лакотка,**
*дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства,*
*этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы,*
*член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі,*
*доктар гістарычных навук, доктар архітэктуры*

# Ад жыццёвых рэалій да творчага свету

Грунтоўная і шматаспектная праца Леаніда Несцерчука, прысвечаная жыццю і творчасці Напалеона Орды, з'яўляецца першай айчыннай беларускамоўнай манаграфіяй па дадзенай праблематыцы.

У час абуджэння асобай цікаўнасці беларускага грамадства да сваёй гісторыі «ў асобах і постацях» сам факт звароту да імя слыннага сына Беларусі — мастака, кампазітара, педагога і грамадскага дзеяча, 200-годдзе якога адзначыў у 2007 г. увесь славянскі і еўрапейскі свет,— падаецца вельмі сімвалічным і, несумненна, надзвычай актуальным.

Праца Л. М. Несцерчука вызначаецца і навізной — перш за ўсё ў сваім гістарыяграфічным разгорце і фактаграфічным падмурку, што ахоплівае (апрача агляду і абагульнення друкаваных крыніц) каля 350 новых архіўных матэрыялаў, назапашаных у Беларусі, Расіі, Украіне, Францыі, Італіі і Швейцарыі. Яны выяўлены аўтарам у фондах Нацыянальных гістарычных архіваў Беларусі ў Гродне і Мінску, Дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобласці, Цэнтральнага ваенна-гістарычнага архіва ў Маскве, Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Санкт-Пецярбургу, аддзелаў стааўдрукаў і мастацтва Львоўскай нацыянальнай бібліятэкі імя В. С. Стафаніка, Нацыянальнага гістарычнага архіва Украіны ў Львове, Нацыянальнага музея і універсітэта ў Варшаве, Ягелонскай бібліятэкі, Дзяржаўнага архіва і Нацыянальнага музея ў Кракаве, ваяводскіх архіваў і дзяржаўных бібліятэк Познані, Вроцлава, Любліна, Беластока, Бялай-Падляскі і інш.

Вельмі істотна, што аўтарам упершыню здзейснена больш за 360 фотакопій з акварэляў мастака з аддзелаў графікі кракаўскага і варшаўскага музеяў.

Праца адзначана таксама навуковай абгрунтаванасцю і вычарпальным ахопам шматграннай дзейнасці Н. Орды ў розных стваральных сферах — ад уласна мастацкай да асветніцкай. Логіка падачы матэрыялу грунтуецца на руху аўтарскай думкі ад жыццёвых рэалій да творчага свету.

У першай частцы кнігі падаецца разгорнуты жыццяпіс Н. Орды, у другой — даецца агляд мастацкай спадчыны differing рознабакова адоранай асобы. Дарэчы, менавіта гэты універсалізм дзейнасці і, адпаведна, яе асвятлення робіць кнігу Л. Несцерчука запатрабаванай і надзвычай карыснай для шырокага кола чытачоў — ад аматараў беларускай гістарычнай спадчыны да прафесійных даследчыкаў мастацтва і культуры Беларусі і больш шырокага еўрапейскага арэала.

**Вольга Дадзіёмава,**
*доктар мастацтвазнаўства, прафесар,*
*загадчык кафедры беларускай музыкі*
*Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі*

## УВОДЗІНЫ

Цікавасць да постаці нашага знакамітага земляка ніколі не згасала ў даследчыкаў. Пра Напалеона Орду як пра вялікага майстра пачалі пісаць яшчэ пры ягоным жыцці. Большасць сучасных нарысаў, артыкулаў і брашур належаць польскім і беларускім даследчыкам. Аднак у айчыннай бібліяграфіі дасюль няма грунтоўнага даследавання жыццёвага і творчага шляху гэтай легендарнай асобы.

Невялікія біяграфічныя публікацыі грунтуюцца пераважна на звестках, пакінутых самім Напалеонам Ордам. Першымі згадкамі лічацца энцыклапедычныя публікацыі [334], артыкулы А. Плуга (А. Пяткевіча) [465—467], Ю. Крашэўскага [391—393], Я. Ліўскага [307], брашура, выдадзеная Л. Гадонам, да 50-годдзя гісторыка-літаратурнага таварыства ў Парыжы, якая прысвячалася жыццю палякаў у Францыі [343], і хронікі, змешчаныя ў 1857—1883 гг. у часопісах «Клосы», «Вандровец», «Тыгоднік ілюстраваны», «Бяседа літарацкая» і «Варшаўскі кур'ер» [302—305, 394—400, 403—415, 501—504].

У 1876 г. К. Эстрайхер сабраў бібліяграфію, прысвечаную Орду, і значна дапоўніў яе ў 1881 і 1911 гг. [337—340].

Ю. Крашэўскі высока ацаніў першы альбом архітэктурных пейзажаў мастака [392]. У 1875 г. Ф. Тэгаз, а ў 1883 г. Ю. Бухбіндэр і А. Рагульскі змясцілі ў «Тыгодніку ілюстраваным» партрэты Напалеона Орды [473, 474]. Пасля смерці майстра ягоныя сябры апублікавалі ў папулярных часопісах Польшчы невялікія некралогі, у якіх прадстаўлялі нашага земляка выбітным мастаком, таленавітым кампазітарам, гарачым патрыётам Бацькаўшчыны [466, 467, 493].

З пачатку 1900-х гг. у розных часопісах Познані, Плоцка, Кракава, Варшавы з'явіліся біяграфічныя звесткі пра жыццё і дзейнасць Напалеона Орды. Аўтарамі публікацый былі М. Шукевіч, М. Мацейшына, М. Валіцкі, А. Лявак, Я. Дабрыцкі, З. Васілеўскі, М. Гарноўская, Л. Левенстам, Б. Таўрагінскі і іншыя [315, 352, 417, 419, 424, 479, 509—511]. Многія з іх добра ведалі мастака, часам працавалі разам, што робіць іх сведчанні яшчэ больш каштоўнымі для навукоўцаў [491, 507].

У 1959 г. у Кракаве з-пад пяра А. Банаха выйшла ілюстраваная кніга, якая ўтрымлівала апісанні малюнкаў Напалеона Орды [295]. У 1965 г. К. Альшэўскі напісаў змястоўны матэрыял пра вандроўкі мастака, а М. Мірская і В. Гарадынскі ў брашуры «Шапэн на Бацькаўшчыне» значнае месца прысвяцілі сяброўскім адносінам Н. Орды і Ф. Шапэна [430]. З канца 60-х да сярэдзіны 80-х гг. М. Качаноўская і Я. Яворская, Т. Косімава і Д. Турло, Т. Ярашэўскі і Т. Зялінская, Ю. Дужык і Г. Гаварэцкі ў нарысах значна пашырылі інфармацыю пра мастацкую творчасць Н. Орды [356—362, 367, 514]. У 1975 г. С. Табяшова, Б. Ленарт і іншыя супрацоўнікі Нацыянальнага музея ў Кракаве правялі грунтоўную каталагізацыю і музеефікацыю прац Н. Орды, падрыхтавалі і выпусцілі ў свет «Каталог архітэктурных малюнкаў са збораў Нацыянальнага музея ў Кракаве» [375, 416].

У гэты ж перыяд шэраг змястоўных часопісных артыкулаў, прысвечаных музычнай спадчыне Н. Орды, надрукавалі С. Дзікі, А. Шчавінская, Я. Патрыкоўскі ды іншыя польскія навукоўцы [328, 475, 504].

Выбітны даследчык палаца-паркавай і замкавай архітэктуры Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны Р. Афтаназы ў 1986—1993 гг. ў Варшаве выдаў 11-томны зборнік па

гісторыі і архітэктуры колішніх маёнткаў, палацаў, паркаў і замкаў. На старонках выдання знайшлося месца для звыш 300 фотакопій малюнкаў Напалеона Орды, які пакінуў апісанні кожнага намаляванага аб'екта [293].

Пра ўдзел Напалеона Орды ў дзейнасці забароненых студэнцкіх таварыстваў і жыццё ў эміграцыі распавядаюць у сваіх публікацыях К. Кастэніч, Л. Плашэўскі, Я. Патрыкоўскі [368, 464, 475].

З 1843-га па 1912 г. папулярныя часопісы Францыі і Польшчы змясцілі больш за чатыры дзесяткі артыкулаў пра Н. Орду. Амаль кожная публікацыя падмацоўвалася ягонымі акварэлямі ці літаграфіямі [395—399, 403—415].

Найбольш поўную бібліяграфію склалі польскія даследчыкі Ф. Герман, Я. Паланоўская і М. Даманскі.

Каштоўныя звесткі пра Напалеона Орду ўтрымліваюцца таксама ў шматлікіх польскіх і іншых замежных энцыклапедычна-даведачных выданнях — «Музычным слоўніку», «Кніжнай энцыклапедыі», «Польскай бібліяграфіі мастацтва», «Энцыклапедыі музыкі», «Вялікай ілюстраванай энцыклапедыі», «Энцыклапедыі Польскай», «Біяграфічным слоўніку», «Бібліяграфічным слоўніку Віленскага універсітэта», «Слоўніку польскіх мастакоў». Асаблівую каштоўнасць маюць каталогі «Партрэтаў польскіх асобаў», «Рукапісаў Дзяржаўнай бібліятэкі ў Кракаве», «Рукапісаў польскай бібліятэкі ў Парыжы», «Рукапісаў Музея Адама Міцкевіча ў Парыжы», «Збораў Таварыства імя Ф. Шапэна (1970—1971)», «IX выставы Таварыства апекі над гістарычнымі помнікамі», «Рэтраспектыўнай выставы мастакоў, памерлых да 1966 г.», «Выставы рэліквій часоў ад Стэфана Баторыя да Яна Сабескага», «Валынскай выставы», «Выставы твораў выяўленчага мастацтва ў Маскве», «Архітэктурных малюнкаў Н. Орды са збораў Дзяржаўнага музея ў Кракаве», «Помнікаў іканаграфіі да 1944 г.», «Выставаў твораў польскага рэалізму ў Лондане», «Гравюр Львоўскай дзяржаўнай бібліятэкі» і шэраг іншых [329—336, 371—379, 495—497, 470, 471].

Частка лістоў Напалеона Орды змяшчаецца ў архівах Нацыянальнай бібліятэкі і бібліятэкі Інстытута мастацтва ў Варшаве, Польскай бібліятэкі ў Парыжы, Музея Адама Міцкевіча ў Парыжы.

Значная колькасць лістоў перапіскі Н. Орды знаходзіцца ў аддзеле рукапісаў Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве. Сярод іх — 8 лістоў да Ю. Крашэўскага (1859), па адным лісце да С. Бюгма (1882), С. Казьмяна (1879), В. Гусарскага, Э. Паўловіча (1879—1880), ліст да паўстанцаў у Літве (1832), рукапісныя паперы эміграцыйнай дзейнасці з 1830 г., паперы Эміграцыйнага камітэта ў Парыжы за 1848 г. Значную навуковую каштоўнасць маюць таксама лісты Н. Орды да А. Міцкевіча (1838), А. Тавянскага (1848), І. Дамейкі (1876), у якіх утрымліваюцца аўтабіяграфічныя звесткі, да Аляксандра і Андрэя Смалікоўскіх (1845), О. Шаніцкага (1839), да выдавецтва альманаха «Польская ілюстрацыя» за 1830 г. [62—78].

Паміж 1875 і 1883 гг. Н. Орда выдаў восем серый альбомаў з выявамі архітэктурных помнікаў Беларусі, Літвы, Украіны, Польшчы і іншых краін Еўропы (усяго 260 літаграфій) [449—457]. Ён з'яўляецца аўтарам «Альбома твораў польскіх кампазітараў», «Граматыкі польскай мовы для французаў» (апошняя выдавалася па частках у Парыжы, Берліне і Варшаве) і «Граматыкі музыкі, альбо Аналітычны і практычны выклад мелодыі і гармоніі з кароткім дадаткам пра фугу, кантрапункт, аркестровыя інструменты, арган, фартэпіяна і навуку аб спевах для ўжытку піяністаў», выдадзенай у 1873 г. у Варшаве. Н. Орда напісаў значную колькасць папулярных фартэпіянных твораў, рамансаў і песень на словы С. Вітвіцкага, А. Плуга і іншых паэтаў [458—459].

Першая выстава карцін Н. Орды адбылася ў 1964 г., арганізаваная Нацыянальным музеем у Варшаве [375].

Напалеон Орда нярэдка выступаў у друку, ацэньваючы падзеі і ўчынкі розных гістарычных асоб. У 1830 г., напярэдні паўстання, ён напісаў палымяны верш «Ліцвін да паляка»



**Тытульная старонка «Энцыклапедыі Польскай»**

(арыгінал захоўваецца ў аддзеле старадрукаў бібліятэкі Варшаўскага універсітэта) [461]. У 1871 г. ён надрукаваў даволі ёмісты артыкул пра жыццё і дзейнасць вядомага на Палессі асветніка і блізкага сваяка (мужа роднай сястры) Аляксандра Скірмунта [438].

Беларуская бібліяграфія, прысвечаная Н. Орду, у апошнія гады папаўняецца новымі працамі. У 1954 г. І. Бэлза, у 1969 г. А. Мальдзіс і М. Кацэр аднымі з першых айчынных даследчыкаў засведчылі пра высокі талент майстра [100, 165, 209].

Невялікімі артыкуламі «Напалеон Орда — мастак і збіральнік» у 1971 г. навукоўцы Л. Дробаў і С. Сыраежка пазнаёмілі беларускага чытача з велічнаю постаццю земляка [125, 126, 267]. Звесткі А. Ахвердавай, Л. Дробава, Ю. Якімовіча і польскай даследчыцы М. Качаноўскай ляглі ў аснову артыкула пра Н. Орду ў энцыклапедычным зборніку «Мысліцелі і асветнікі Беларусі X — XIX стагоддзяў» (1995) [84—86, 125, 126, 290].

У 1980-я гг. імя Напалеона Орды час ад часу з'яўляецца на старонках айчынных перыядычных выданняў. Кароткую біяграфію мастака напісаў М. Самуйлік [254, 255]. Два змястоўныя артыкулы пра Н. Орду апублікавала даследчыца музычнай спадчыны Беларусі А. Ахвердава [84, 85], з грунтоўнымі нататкамі пра яго музычную творчасць выступіў С. Астроўцаў [82], а кандыдат архітэктуры Ю. Якімовіч упершыню ў папулярнай форме ёміста прэзентаваў беларускую архітэктуру ў ордаўскіх малюнках [290, 291]. Новыя звесткі пра жыццё і дзейнасць мастака і музыканта з'явіліся ў даследаваннях В. Чантурыі, І. Пірожніка, І. Сацуты, В. Глінніка, Л. Пракопчыка, В. Жушмы і іншых [115, 130—136, 239, 241—245, 256, 257, 281].

Памежжа тысячагоддзяў адрознівалася ростам цікавасці да асобы Напалеона Орды. У 1997 г. адзначалася ягоная 190-я гадавіна. У гэты час артыкулы М. Самуйліка [254], Э. Злобіна [145], Л. Пракопчыка [243, 244], Н. Рыгоравай [252], С. Кушцеля [192—195], Ю. Гадлеўскага [116], В. Ільянкова [150], Я. Калубовіча [157], В. Казловіч [156], І. Крапчука [175], А. Крэйдзіча [176—185], В. Жушмы [130—136], В. Клімчука [169—173], В. Дадзіёмавай [122], А. Дзенісейкі [123], І. Карпук [158—160], А. Бензерука [94—95], А. Марціновіча [216], В. Скарабагатава [261—263], Я. Паплаўскага, З. Бараноўскай [89], С. Пуш [248], Я. Шумейкі [286], В. Левандаўскаса [200, 201], Л. Храмянковай [279] і іншых значна папоўнілі веды пра Н. Орду. У прыватнасці, С. Кушцель прывёў новыя факты пра ўдзел нашага земляка ў паўстанні 1863—1864 гг. [194], Я. Калубовіч расказаў пра гісторыю беларускай эміграцыі [157], І. Крапчук — пра вытокі прозвішча сям'і Ордаў [175].

Пра жыццё і творчасць мастака і музыканта, настаўніка і вучонага, выбітнага ліцвінабеларуса распавядаў В. Клімчук ў кнізе «Напалеон Орда. Творец архитектурного пейзажа» (1998 г., перавыдадзена ў 2007 г.). Гэтае выданне засведчыла шчырае жаданне аўтара ўнесці свой уклад у вяртанне імя Орды на Бацькаўшчыну. Пяру В. Клімчука таксама належыць біяграфічны артыкул пра Н. Орду, змешчаны ў кнізе «Памяць. Іванаўскі раён», шэраг іншых публікацый [169—173].

Значна дапоўніў радавод Ордаў вядомы даследчык палаца-паркавай архітэктуры А. Федарук [275—277], а грунтоўнае даследаванне В. Гарбачовай пашырыла веды пра ўдзел нашага земляка ў паўстанні 1830—1831 гг. [108—110].

З-пад пяра Л. Тарасюк выйшаў верш «Іншасвет Н. Орды» [269], а журналістам А. Крэйдзічам напісана гісторыка-біяграфічная драма «Палескі Напалеон» [183]. У 2001 г. А. Кулагін і У. Герасімовіч выпусцілі фотаальбом літаграфічных малюнкаў Напалеона Орды па Беларусі [188].

Напярэдадні 200-годдзя з дня нараджэння майстра ў Вільнюсе літоўскія даследчыкі В. Левандаўскас і Р. Капяжынская выдалі манаграфію, прысвечаную жыццю і творчасці Н. Орды [418].

Невялікія артыкулы пра Н. Орду змяшчаюцца ў сучасных энцыклапедыях па гісторыі Беларусі [289].

Напярэдадні святкавання 200-й гадавіны з дня нараджэння Н. Орды ў перыядычным друку выйшла значная колькасць змястоўных публікацый, аўтарамі якіх сталі В. Чаропка [282], В. Собаль [265], І. Свірко [258], Ю. Рубашэўскі [250], С. Пуш [248], Б. Паўлоўскі [236—238], А. Мальдзіс [208], С. Ліцкевіч [204], А. Лахманенка [199], А. Лакотка [198], В. Кухарчук [190, 191], А. Крэйдзіч [184, 185], Т. Команава [174], У. Капшай [163], Л. Акаловіч [80], Н. Бунцэвіч [98], А. Бучык [99], Т. Габрусь [105], В. Гарбачова [108, 109], Е. Гермель [111], М. Гаравы [117], М. Гарупа [118], В. Грыцкевіч [120], Н. Дробыш [127], В. Ільянкоў [150], С. Ішчанка [155], У. Шэляговіч і Л. Дрычыц [288] і інш.

Каля 40 навуковых дакладаў, выступленняў, паведамленняў прагучала 15—16 лютага 2007 г. у Мінску на Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай 200-годдзю з дня нараджэння Н. Орды. Яны ўвайшлі ў зборнік матэрыялаў, выдадзеным Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі [223].

На пачатку 2008 г. з друку выйшла ёмістая кніга А. М. Дзенісевіча «Тенденции классицизма и романтизма в архитектурном пейзаже Наполеона Орды», у якой аўтар даволі падрабязна разгледзеў вытокі і прааналізаваў месца архітэктурнага пейзажа ў еўрапейскім выяўленчым мастацтве, уплыву класіцызму і рамантызму на творчасць Орды.

Асноваю для вывучэння жыцця і творчасці Напалеона Орды становяцца архіўныя крыніцы, большасць з якіх утрымліваецца ў архівах Польшчы, Літвы, Расіі, Францыі, Швейцарыі [53—61].

Аўтарам апрацавана каля 350 спраў з фондаў Нацыянальнага музея ў Варшаве і Нацыянальнага музея ў Кракаве, аддзелаў рукапісаў Нацыянальнай і універсітэцкай бібліятэк у Варшаве, Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве, ваяводскіх дзяржаўных бібліятэк Познані, Вроцлава, Люблiна, Беластока, Бялай-Падляскі [51, 52, 62—78, 226—229].

Шэраг каштоўных дакументаў выяўлены ў фондах Нацыянальнага гістарычнага архіва Украіны ў Львове і Львоўскай нацыянальнай бібліятэкі імя В. С. Стафаніка [61].

Каля 20 спраў пра ўдзел Напалеона Орды ў паўстанні 1830—1831 гг. знойдзены ў фондах Расійскага дзяржаўнага ваенна-гістарычнага архіва ў Маскве, Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Санкт-Пецярбургу, Нацыянальных гістарычных архіваў Беларусі ў Гродне і Мінску [1—52]. Цікавыя звесткі пра маёнтак Навашыцы ўтрымліваюцца ў Дзяржаўным архіве Брэсцкай вобласці [34]. На працягу апошняга дзесяцігоддзя намі выканана больш за 360 фотакопій з акварэляў Н. Орды, што знаходзяцца ў аддзелах графікі Кракаўскага і Варшаўскага нацыянальных музеяў Польшчы [51, 52]. Частка іх апублікавана ў кнізе «Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X—XX стагоддзяў», выдадзенай у 2002 г. і перавыдадзенай у 2005 г. [227, 228].

Аўтар лічыць сваім абавязкам выказаць словы ўдзячнасці Касцюшкаўскім Фундацыям ў Варшаве і Кракаве (доктар М. Кшэсняк, доктар Т. Атрэмбскі), Нацыянальнаму музею ў Кракаве (доктар С. Голубеў), Нацыянальнаму музею ў Варшаве (доктар Ф. Рушчыц), фонду і музею Чартарыйскіх у Кракаве (доктар А. Замойскі, доктар І. Лінкевіч) за дапамогу ў росшуку матэрыялаў, патрэбных для выдання кнігі; Генеральнаму консульству Рэспублікі Польшча ў Брэсце за арганізацыю наведвання архіваў, музеяў і бібліятэк у Польшчы; Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь (старшыня У. Р. Шчасны); архівам і бібліятэкам Польшчы; публічнай бібліятэцы ў горадзе Бяла-Падляска (тагачасны дырэктар Г. Міхалоўскі); сябрам брэсцкіх грамадскіх аб'яднанняў імя Н. Орды і Т. Касцюшкі; кіраўніцтву прадпрыемства «Тэхнічны цэнтр-88»; Брэсцкай абласной бібліятэцы імя А. М. Горкага; Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь; краязнаўцам Брэстчыны А. Бензеруку, С. Басаву, В. Ільянкову, К. Гарэйку, супрацоўнікам музейнага комплексу Н. Орды В. Барадзінчык і Л. Дрычыц, а таксама шматлікім сябрам за дапамогу ў падрыхтоўцы рукапісу да выдання.

РАЗДЗЕЛ I

## 1. Нараджэнне будучага майстра

У маёнтку Варацэвічы, які размяшчаўся ва ўрочышчы Чырвоны Двор, недалёка ад мястэчка Янава Пінскага павета, у сям'і Ордаў, Міхала і Юзафіны з Бутрымовічаў, 7 (19) лютага 1807 г. нарадзілася немаўля, якому наканавана было ўнесці ў скарбніцу еўрапейскай культуры вялікую спадчыну [200, 495]. Паводле іншых версій, дзіця з'явілася на свет 11 лютага 1807 г. [289, 367, 375, 471].

Імя для народжанага, магчыма, выбіраў вядомы на Палессі Мацей Бутрымовіч — дзед маленькага Напалеона. Слава французскага імператара Напалеона Банапарта тады настолькі грымела па Еўропе, што імя не толькі не выклікала ў сям'і пярэчанняў, але было сустрэта з пачуццём гонару і з найлепшымі спадзяваннямі.

Стварэнне ў 1805 г. па ініцыятыве ўладара французаў Варшаўскага герцагства ўзняла ў асяродку беларускай шляхты, у тым ліку сярод Ордаў і Бутрымовічаў, вялікія патрыятычныя пачуцці, абудзіла надзеі на адраджэнне былой веліччы і магутнасці Літвы пад пратэктаратам французскага імператара [223, 244, 275].
Напачатку так яно і адбывалася. Адным з першых сваіх загадаў Напалеон выканаў у Вільні ранейшыя абяцанні перад «палымянымі» ліцвінамі, аднавіўшы Вялікае Княства Літоўскае. Імператар прызначыў часовы ўрад ВКЛ, аднак праіснавала новая ўтвораная краіна надзвычай кароткі час.

Праз некалькі дзён 12 (24) лютага 1807 г. дзіця ахрысцілі ў янаўскім касцёле, пра што сведчыць запіс, пакінуты ў метрычнай кнізе. (Дарэчы, гэты каштоўнейшы дакумент быў знойдзены ў архівах загса нястомнай збіральніцай ордаўскіх матэрыялаў, жыхаркаю Іванава Марыяй Курыловіч і яе сынам Аляксандрам [189].) Ёсць сведчанні, што Напалеона Орду пазней хрысцілі ў пінскім касцёле пад трыма імёнамі: Напалеон Мацей Тадэвуш [80].

## 2. Продкі варацэвіцкага Напалеона. Род Ордаў

Сям'я Міхала і Юзафіны Ордаў адносілася да палескай шляхты.

У «Інвентарным вопісе канфіскаванага маёнтка Варацэвічы Напалеона Орды ў Кобрынскім павеце», створаным у 1835 г., следчая камісія пазначыла не толькі сам маёнтак, але і фальварак Міхалін, што за пяць вёрстаў ад сядзібнага дома, ды вёску Гарбахі з аднайменным хутарам. Усё разам складала трохі больш за 50 валок зямлі і каля 800 прыгонных [16, 279]. Аднак гэта было не самае вялікае ўладанне сям'і. У спісах маёнткаў Кобрынскага павета за 1816 г., якія захоўваюцца ў фондах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Гродне маецца згадка, што маці Напалеона валодала на Жабінкаўшчыне маёнткам Вежкі, да якога адносіліся 986 сялян мужчынскага полу.

Як падае Л. Акаловіч, Орды належалі да палескіх старадаўніх родаў, а таму мелі ўласны герб, створаны на падставе герба «Астоя» [80, 346, 355]. На чырвоным полі гербавага шчыта, увенчанага шляхецкай каронай і трыма страусінымі пер'ямі, сіметрычна месціліся дзве зоркі і два паўмесяцы.

Паводле сямейных паданняў, прозвішча Ордаў паходзіла ад слоў «Залатая Арда», а сам род браў пачатак з часоў ваяўнічага стваральніка татара-мангольскай імперыі Чынгісхана [175, 275]. Нездарма многія прадстаўнікі сям'і на працягу больш за 500 гадоў мелі мангольскія рысы твару. Але ўсё ж гэта толькі легенда, бо пра татарскае паходжанне роду Ордаў, іх пераход з мусульманства ў хрысціянства архіўныя крыніцы маўчаць. У радаводзе не сустракаецца ніводнага цюркскага імя [80].

Генеалагічнае дрэва сям'і, складзенае па архіўных крыніцах Л. Акаловічам, налічвае 12 пакаленняў і 85 асоб мужчынскага полу. Ужо ў XV ст. прозвішча Орда сустракаецца ў хроніках. Правы братоў Васкі і Юхно Ордаў на пінскія землі былы замацаваны прывілеем, пацверджаным 3 сакавіка 1524 г. каралевай Бонай.

Да Берасцейскай уніі 1596 г. першыя тры пакаленні Ордаў мелі праваслаўнае веравызнанне, затым перайшлі ў каталіцтва. У XVII ст. род значна распаўсюдзіўся на Палессі і ў іншых землях ВКЛ, набыў вядомасць і пэўнае багацце, дзякуючы найперш працавітасці яго прадстаўнікоў і выгодным шлюбным пагадненням. Вядома, што з Ордамі радніліся заможныя сем'і, у тым ліку Верашчакі, Пузыны, Чацвярцінскія, Тарлецкія, Дастаеўскія, Пратасовічы, Бутрымовічы і Шырмы [275].

Найбольш вядомымі прадстаўнікамі лініі так званых «Чорных» Ордаў, што паходзілі ад Юхно Ордзіча, у XVII ст. былі Павел, Сямён, Самуэль ды Васіль. Іх дзеці, унукі, праўнукі займалі ўплывовае становішча на Палессі, дамагаліся значных пасад у дзяржаўнай і ваеннай службе [223].

Орды XVIII і XIX стст. у шостым, сёмым і восьмым пакаленнях дадалі новыя лініі, валодалі маёнткамі ва Украіне, Літве, Польшчы, выязджалі ў іншыя краіны, пайшлі служыць у хрысціянскія храмы, сталі шчырымі патрыётамі сваёй Бацькаўшчыны, бралі чынны ўдзел у касцюшкаўскім паўстанні 1794 г. Орды адзінаццатага пакалення з'яўляліся апошнімі ўладальнікамі маёнткаў на Палессі. Вядома, што Януш Орда валодаў Біжарэвічамі, Павел — Перкалямі, Станіслаў — Ляхавічамі, Вітольд — Навашыцамі [293].

Напалеон Орда часта бываў у Навашыцах. Пазней каля сядзібнага дома быў пастаўлены памятны валун з мемарыяльнай дошкай аднаму з кіраўнікоў паўстання 1863—1864 гг., нараджэнцу маёнтка Шастакова (цяпер Камянецкі раён) генералу Р. Траўгуту. Менавіта ў Навашыцах знаходзілася адна з паўстанцкіх штаб-кватэр, якая ў 20—30-я гг. XX ст. была перароблена пад музей (у 1943 г. будынак быў спалены і не адноўлены) [227].

Продкі Напалеона Орды, як сцвярджаюць асобныя даследчыкі, паходзяць ад Васкі Ордзіча, і іх лінія называлася «Белымі» Ордамі.

Орды ўсіх галін вылучаліся патрыятызмам, актыўна ўдзельнічалі ў нацыянальна-вызваленчых паўстаннях 1830—1831 гг. і 1863—1864 гг. «Белыя» Орды таксама радніліся з шэрагам заможных родаў: Гедройцамі, Ягмінамі, Багдановічамі, Твардоўскімі, Алешамі, Корсакамі.

Да канца XIX ст. Орды, Корсакі і Скірмунты настолькі распаўсюдзіліся на Палессі, што ў той час з'явілася іранічная прымаўка: «Што ні кусток — то Карсачок, што ні грунцік — то Скірмунцік, што ні морда — то Орда» [275, 282]. «Белыя» Орды валодалі старадаўнім маёнткам, што знаходзіўся непадалёку ад вёскі Варацэвічы.

Бацька Напалеона Міхал у бурлівы час падзелаў Рэчы Паспалітай з'ўляўся маршалкам Кобрынскага павета. На яго плячах ляжаў цяжар праблем уладкавання рэгіёна і адносінаў шляхты з сялянамі. Асобныя даследчыкі сцвярджаюць, што Міхал Орда быў жанаты двойчы: спачатку з Кацярынай Карніцкай (1764—1796), ад якой не меў нашчадкаў, у другі раз — з Юзафінай Бутрымовіч. Яна нарадзіла кобрынскаму маршалку пецярых (па іншых крыніцах — траіх) дзяцей — Напалеона, Гартэнзію (Скірмунт), Юзэфу (па першым няўдалым шлюбе Далгарукую, па другім — Плотніцкую), Эмілію (Куржанецкую — бабулю вядомай пісьменніцы Марыі Радзевіч) і, нарэшце, Анелю [80]. Вяселле Міхала



**Герб «Астоя»**



**Марыя Курыловіч з метрычнай кнігай г. Іванава**

Фота са збораў музейнага комплексу Н. Орды ў в. Варацэвічы

і Юзафіны адбылося 25 лютага 1799 г. Архіўныя крыніцы сведчаць: Юзафіна прынесла Ордам значны пасаг, бо ў «Актах Пінскага павятовага суда» ад 5 сакавіка 1799 г. пазначана, што Міхал Орда займеў «пасаг у суме 50 тысяч, а ў рухомасці — 25 тысяч злотых» [275, 279].

Па адукацыі бацька Напалеона быў інжынерам-фартыфікатарам, увесь час знаходзіўся на будаўніцтве дарог і каналаў. Як лічыць Л. Пракопчык, ён шмат працаваў над чарцяжамі, выдатна маляваў. Гэтыя здольнасці перадаліся сыну, а першы дзіцячы малюнак маленькага Напалеона быў прысвечаны роднаму гнязду — фальварку Варацэвічы. Бясконцыя раз'езды па будоўлях у непагадзь і сцюжу, верагодна, надламалі не надта моцнае здароўе бацькі. Не пражыўшы і сарака гадоў, 29 жніўня 1808 г. (па іншых звестках — 1809 г.) Міхал Орда памёр [80]. Таму хлопчык амаль не памятаў бацьку. Цяжка сказаць, якія якасці ён атрымаў ад Міхала, але вядома, што ўсім сваім жыццём Напалеон паказаў сябе годным прадаўжальнікам старадаўняга шляхецкага роду.



**Мацей Бутрымовіч,**
дзед Н. Орды па мацярынскай лініі [275]

## 3. Продкі Напалеона па лініі маці. Род Бутрымовічаў

Маці Напалеона паходзіла з заможнага, вядомага не толькі на Палессі, але і ва ўсёй Рэчы Паспалітай роду Бутрымовічаў. Бацькам Юзафіны быў «нашчадак рыцара Бутрыма», пінскі суддзя і мечнік Мацей Бутрымовіч.

Абапіраючыся на польскія выданні, В. Ільянкоў і А. Федарук выводзілі карані Бутрымовічаў са старадаўніх часоў, лічылі, што вядомасць сям'я атрымала ў войнах з крыжакамі. Заснавальнік роду легендарны Бутрым (блізкі родзіч Біруты, жонкі вялікага князя Кейстута) за баявыя заслугі на сойме 1413 г. атрымаў герб «Сякера», у якім на чырвоным полі шчыта і паверх кароны змяшчаліся баявыя сякеры [150, 228, 275].

Дзед Напалеона Мацей Бутрымовіч нарадзіўся ў 1745 г., вучыўся ў Пінскім езуіцкім калегіуме, служыў у войску ВКЛ. Маючы падтрымку з боку канцлера Міхала Казіміра Агінскага, прайшоў шматлікія ступені дзяржаўнай кар'еры, быў гродскім суддзёй. Узяўшы шлюб з Крысцінай з роду Лях-Шырмаў, выйграў судовую справу на права валодання ўсім Лапацінскім надзелам пад Пінскам, стала жыў у горадзе над Пінай, дзе займеў славу рэфарматара Палескага краю. Ягонымі намаганнямі літаральна праз некалькі гадоў сярод Лапацінскіх балот паўстала новая рэзідэнцыя, у якой Мацей прымаў у 1784 г. нават караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Бутрымовіч уразіў госця шматлікімі прапановамі па ўладкаванні краю. Таму манарх, закладваючы ў падмурак будучага палаца Бутрымовічаў у Пінску памятную пліту, абяцаў падтрымку пераўтварэнням Палесся.

Варшаўскі даследчык Н. Бутрымовіч (1934—2006), нашчадак роду Бутрымовічаў, падкрэслівае, што падрабязны дзённік з апісаннем візіту караля да Мацея Бутрымовіча ў хроніцы часопіса «Biblioteka Warszawska» за 1860 г. апублікаваў менавіта Напалеон Орда [326].

Палескі рэфарматар быў кавалерам ордэнаў Святога Станіслава і Белага Арла. У 1860 г., праз 46 гадоў пасля смерці, даволі падрабязная біяграфія Мацея Бутрымовіча надрукавана ў папулярнай «Энцыклапедыі Польскай» [334]. Зазначым, што ў гэтае выданне ўвайшло і імя яго ўнука Напалеона Орды, а паспрыяў публікацыі, верагодна, Юзаф Крашэўскі.

Такім быў дзед Напалеона Орды «па кудзелі». Не менш шляхетнай, надзвычай прыгожай, выхаванай у традыцыях еўрапейскай культуры з'яўлялася жонка Мацея Крысціна з роду Лях-Шырмаў. Бутрымовічы радніліся з Шырмамі двойчы: Ян, малодшы брат Мацея, таксама быў жанаты з сястрой Крысціны Анжэлай Лях-Шырмай [228].



**Крысціна Бутрымовіч**
з роду Лях-Шырмаў,
бабуля Н. Орды
па мацярынскай лініі [275]



**Гелена Скірмунт,**
пляменніца Н. Орды

Са збораў музейнага комплексу Н. Орды

Радавое гняздо Шырмаў — Спорава на Бярозаўшчыне. Сядзібны дом існаваў да Другой сусветнай вайны. Крысціна, другая дачка Якуба і Ганны Лях-Шырмаў, узяўшы шлюб з Мацеем, прынесла ў пасаг мужу маёнтак Лапацін з вёскамі Лапацін і Хлябы. Нейкі Марцін, далёкі продак Шырмаў, атрымаў гэтыя надзелы яшчэ ў 1524 г. ад каралевы Боны [333].

Крысціна, бабуля Напалеона, па характары была лагоднай жанчынай. Адносіны паміж мужам і жонкай грунтаваліся на павазе і шчырым каханні, пра што засведчыла памятная шыльда, усталяваная 1 мая 1773 г. Мацеем на дубе-волаце каля фальварка: «Крысцінаў, названы імем Крысціны Бутрымовіч з дому Шырмы» [326].

На працягу ўсяго жыцця жанчына спрыяла поспехам мужа ў дзяржаўных і гаспадарчых справах: і тады, калі ён займаў пасаду гродскага суддзі, дэпутата Трыбунала ВКЛ, пасла на Чатырохгадовым сойме, і тады, калі выступаў у ролі прагрэсіўнага рэфарматара, аднаго з першых будаўнікоў-меліяратараў Палесся [333, 334].

Крысціна, якая перажыла мужа ўсяго на тры гады, нарадзіла адзіную дачку Юзафіну, маці будучага майстра. Юзафіна нарадзіла дзвюх (паводле іншых звестак чатырох дачок). Адна з іх — Гартэнзія пабралася шлюбам з Аляксандрам Скірмунтам. Іх дачка Гелена стала вядомай мастачкай, разьбяркай, стваральніцай шэрагу сямейных партрэтаў ды медальёнаў, рэчаў з выявамі Хрыста, а таксама партрэтаў Я. Чачота, Ю. Крашэўскага, А. Міцкевіча, Т. Касцюшкі і іншых дзеячаў XVIII — XIX стст.

Гелена выйшла замуж за Казіміра Скірмунта. Яшчэ да паўстання 1863 г. у сям'і Гелены і Казіміра, якія жылі ў Калодным, нарадзілася трое дзяцей: Станіслаў, Ірэна і Канстанцыя. Пасля высылкі ў Сібір у іх нарадзілася трэцяя дачка — Казіміра. Значную папулярнасць мела Канстанцыя Скірмунт (1851—1934 гг.), выдатная даследчыца гісторыі Літвы і Беларусі, публіцыстка, грамадскі дзеяч. Менавіта Канстанцыя ў далейшым зрабілася збіральніцай і захавальніцай творчай спадчыны Напалеона Орды: ён даверыў свае ўласныя творы [228].

Усе найлепшыя чалавечыя якасці Юзафіна пераняла ад сваёй маці Крысціны, таму была добра выхаваная, пяшчотная і вытрыманая, стала клапатлівай жанчынай, паважанай у грамадстве.

## 4. Дзяцінства і выхаванне

Як сведчаць даследчыкі жыцця і дзейнасці Напалеона Орды, дзяцінства яго прайшло ў сям'і, дзе заўжды існавалі згода, каханне, павага і патрыятызм, без якіх было немагчыма выхаваць годнага прадаўжальніка сямейных традыцый. Таму да паступлення ў Свіслацкую гімназію Напалеон атрымаў пачатковую адукацыю ў родным доме [63, 325].

Маці Напалеона лічылася таленавітай піяністкай, валодала французскай мовай (на той час шляхецкія дзеці абавязкова вывучалі замежныя мовы), таму менавіта Юзафіна дала хлопчыку пачатковыя веды. Яе музычныя здольнасці яшчэ ў дзяцінстве высока ацаніў нават кароль Станіслаў Аўгуст, калі дзяўчынка іграла яму на клавікордах падчас наведавання ў 1784 г. Крысцінава. Ён раіў Мацею Бутрымовічу накіраваць дачку вучыцца ў Варшаву [326].

Напалеон Орда ў аўтабіяграфічных лістах не згадвае пра гувернёраў, відавочна, яны былі і займаліся выхаваннем яго і сясцёр, але толькі маці на працягу ўсяго жыцця (памерла ў 1859 г., на 84-м годзе) была галоўнай дарадцай сына, нястомнай ахоўніцай ягоных талентаў [63].

З першых крокаў у маленькага Напалеона развівалі пачуцці гонару і патрыятызму, якія ён пранёс праз гады і выпрабаванні. Нягледзячы на перажытае — ганенні, арышты, матэрыяльныя цяжкасці,— ён не здрадзіў Айчыне, не падвёў сваіх продкаў — ваяроў су-

праць крыжакоў ды маскоўцаў. Да канца жыцця Орда застаўся няскораным барацьбітом, называючы сябе з гонарам ліцвінам. Орда ўвесь час марыў пра лепшую долю для ліцвінаў-беларусаў, жыў у творчых пошуках, ствараючы музыку, палотны, самую гісторыю, каб урэшце пакінуць пасля сябе велізарную музычную і мастацкую спадчыну [461].

Вялікае ўражанне на хлопчыка зрабілі расповеды пра ягонага дзеда Мацея. Ён памёр, калі Напалеону было ўсяго сем гадоў. Безумоўна, кіпучая дзяржаўная і гаспадарчая дзейнасць дзеда, усеагульнае прызнанне ягоных заслуг перад Бацькаўшчынай пакінулі глыбокі адбітак у душы хлопчыка, заклалі ў яго сэрцы найлепшыя грамадзянскія якасці: веру ў Бога, любоў да Радзімы і адчуванне чалавечага гонару.

Дзяцінства Напалеона супала з жыццём тых, хто ваяваў пад сцягамі ягонага земляка, героя двух кантынентаў Тадэвуша Касцюшкі, тых простых сялян-касінераў, якія ў жорсткіх сутычках з рэгулярнымі, загартаванымі ў шматлікіх бітвах войскамі Расійскай імперыі, Аўстрыі і Прусіі былі ўшчэнт разбітыя на зямлі сваіх продкаў, тых шляхціцаў, што не шкадавалі ні маёнткаў, ні сродкаў, ні самога жыцця дзеля абароны Бацькаўшчыны. Яго не маглі не ўразіць расказы былых касцюшкаўцаў пра жорсткія расправы царскага ўрада, які ператварыў патрыётаў Рэчы Паспалітай у вязняў і катаржнікаў на далёкай чужыне. У такіх умовах прайшло дзяцінства хлопчыка. Сведчанні пра яго паездкі ў Варшаву, Кракаў ці Вільню пакуль не выяўлены. Але добра вядома, што Напалеон Орда разам з маці часта наведваў Пінск, Навашыцы, Спорава, дзе жылі яго родзічы.

## 5. Радавое гняздо Варацэвічы

Часы дзяцінства і юнацтва Напалеон правёў у спадчынным маёнтку Варацэвічы, у бацькоўскай сядзібе. Як падаюць А. Федарук і Л. Храмянкова, першае ўпамінанне Варацэвічаў датуецца 1497 г., калі пінскі князь Фёдар падараваў гэтую вёску Мацвею Грычыну [227, 275, 279]. Затым Варацэвічамі валодаў ягоны сын Барыс. Пазней род Любельскіх атрымаў ад пінскага князя надзел (дворышча) Галаўчынскае каля Варацэвічаў, з 1528 г. у маёнтку ўладарылі Юр'евічы-Іллінічы, а прыкладна з XVII ст. гаспадарамі сталі Орды [293].

Варацэвічы — адзін з самых старадаўніх маёнткаў «Белых» Ордаў. Пакуль невядома, з якога часу маёнтак пачаў называцца Чырвоным Дваром, але ёсць звесткі, што на пачатку XIX ст. гаспадаром яго з'яўляўся бацька Напалеона Міхал Орда. Пасля смерці Міхала маёнтак перайшоў у пажыццёвае ўладанне сына [223].

За ўдзел Напалеона ў паўстанні маёнтак падлягаў канфіскацыі. Пры вопісе, які зрабіла следчая камісія, зямельны надзел склалі 35 валок і 2 моргі. Некаторы час вялася справа аб прэтэнзіях на спадчынную маёмасць «мяцежніка Напалеона» з боку Багуслава Крашэўскага.

Каб дапамагчы сыну пазбавіцца ад казённай недастачы, Юзафіна пазычыла грошы і накіравала суду закладную на частку маёнтка. Аднак пасля яе смерці ў 1859 г. Варацэвічы ўсё ж былі канфіскаваныя. Напалеон атрымаў у арэнду толькі тры фермы, але пасля паўстання 1863 г. быў пазбаўлены і гэтага права. Яму забаранілі жыць у Варацэвічах. Некалькі гадоў маёнтак арандавалі новыя гаспадары, а неўзабаве яго прыдбаў А. Бушан. Пазней за 12 400 рублёў землі маёнтка (710 дзесяцін) перайшлі ад А. Бушана да новай гаспадыні А. Навіцкай, жонкі тайнага дарадцы. У 1885 г. Варацэвічы набыў міравы суддзя І. Палеалог, затым ягоныя сын Мікалай і ўнук Сяргей.

У 1921 г. Сяргей Мікалаевіч Палеалог выдаў даверчую грамату на Варацэвічы брату Барысу Мікалаевічу, колішняму томскаму губернатару. Апошні ў сталым узросце жыў у суседнім маёнтку Астравок. У гады Першай сусветнай вайны колішняя ордаўская сядзіба была знішчаная пажарам, а неўзабаве зямлю падзялілі паміж іншымі спадчыннікамі.




**Н. Орда. Варацэвічы. Сядзібны дом.** 1875 г.
Літаграфія [450]

Пра архітэктурнае аблічча сядзібы даюць уяўленне тры малюнкі Напалеона Орды, створаныя пасля вяртання ў Варацэвічы з Парыжа. Паводле меркаванняў Р. Афтаназы, Н. Орда пісаў свой радавы маёнтак па памяці, таму што новыя гаспадары значна перабудавалі яго [227].

Жылы драўляны будынак быў у плане прамавугольны, аднапавярховы, пакрыты высокай ламанай чаротавай страхой. У сярэдняй частцы выступаў двухпавярховы порцік на чатырох калонах з мансардай і балконамі. Перад домам размяшчаўся ўнутраны двор з вялікім круглым газонам і кветнікам пасярэдзіне. Насупраць газона, на супрацьлеглым баку ўнутранага двара, размяшчалася ўязная брама. Двор спачатку быў абнесены простым драўляным плотам, пазней агароджай на мураваных слупах. Па баках брамы месціліся стайня і вазоўня, накрытыя чатырохсхільнай чаротавай страхой. Перад адной з гаспадарчых пабудоў расла елка, а за ўнутраным дваром — італьянскія таполі.

Адзін з ордаўскіх малюнкаў дэманструе сядзібу з боку ўязной брамы. На левым баку ўнутранага двара месцілася афіцына, накрытая высокай ламанай страхой. Маёнтак выглядаў даволі прывабна, быў па-гаспадарску прыбраны, у нечым нагадваў маленькі палац.

Надпіс пад гэтым малюнкам гучыць так: «Уласнасць роду Ордаў на працягу 300 гадоў да 1831 г. — незабыўная і дарагая для аўтара радзіма» [227].

Яшчэ ў 1939 г. у старым парку і ва ўязной алеі заставаліся некалькі дрэў, але на сённяшні дзень ад ансамбля практычна нічога не захавалася.

Месца нараджэння Орды, размешчанае ва ўрочышчы Чырвоны Двор, мае мемарыяльнае значэнне, таму ўзята дзяржавай на ўлік і пад ахову. Цяпер рыхтуецца навукова-праектная дакументацыя аднаўлення дома Н. Орды і ўключэнне яго ў склад музейнага комплексу [506].



## 6. Вучоба ў Свіслацкай гімназіі

Пра перыяд навучання Напалеона Орды ў Свіслацкай гімназіі вядома вельмі мала. У сталым узросце ў аўтабіяграфіі пра гэты перыяд ён напісаў вельмі лаканічна: «1818. Быў у школах у Свіслачы» [63, 325]. Энцыклапедычныя выданні Польшчы, Францыі і Беларусі таксама абмяжоўваюцца кароткім радком-згадкаю, сцвярджаючы, што юнак закончыў вучобу паспяхова [333—336].

Шэраг даследчыкаў лічаць, што Напалеон быў залічаны ў гімназію ў 1819 г., дванаццацігадовым падлеткам. Разыходжанне даты з аўтабіяграфіяй, верагодна, хаваецца ў скажэнні даты самім Ордам на следстве [63, 325]. Так ці інакш, але маці адправіла яго ў Свіслацкую гімназію даволі падрыхтаваным. Тагачасны перыяд навучання ў Свіслачы вызначаўся ўздымам у моладзі патрыятычных пачуццяў, з'яўленнем надзей на лепшую будучыню.

З першых дзён у гімназіі Орда выклікаў і зацікаўленасць, і павагу. Само імя Напалеон у спалучэнні з высокай стараннасцю ў вучобе вылучылі юнака ў лідэры сярод аднакурснікаў. Гэтаму спрыяла і навучальная ўстанова, напоўненая вальнадумствам [294].

Свіслацкая гімназія была заснавана ў 1804 г. па прапанове дырэктара вучылішчаў Гродзенскай губерні Ю. Касакоўскага пры фінансавай падтрымцы графа В. Тышкевіча для навучання моладзі з Брэсцкага, Пружанскага, Кобрынскага, Слонімскага, Ваўкавыскага і Гродзенскага паветаў [235, 289].

У час навучання Напалеона Орды тут меліся падрыхтоўчы і шэсць асноўных класаў, працавалі дзесяць выкладчыкаў і займаліся каля 300 вучняў. Выкладаліся польская, грэчаская,



**Н. Орда. Свіслач. Касцёл і вежа з гадзіннікам**

Агульны від плошчы з касцёлам, гадзіннікавай вежай і фрагментам будынка гімназіі. 1868 г.

Датавана: *Свіслач, 7 ліпеня 1868 г.* Надпіс: *Гімназічны пляц.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская [губерня]*
Малюнак алоўкам, падпрацаваны акварэллю. 22,4х28,6

III-r. a. 4419 (Teka Grodzieńska). MNK

нямецкая, французская мовы, латынь, арыфметыка, алгерба, фізіка, геаметрыя, трыганаметрыя, прыродазнаўства, архітэктура, хімія, права, палітэканомія, каліграфія, гісторыя, міфалогія, касмаграфія, садоўніцтва, батаніка, сельская гаспадарка, мінералогія, мараль, логіка, рыторыка, паэзія, эстэтыка, маляванне, музыка, гімнастыка [471, 495, 497].

Пералічаныя прадметы сведчаць пра грунтоўную падрыхтоўку гімназістаў да жыцця і працягу далейшай адукацыі ва універсітэтах Расійскай імперыі. Сучаснікі лічылі Свіслацкую гімназію адной з найлепшых устаноў у Літве [352].

З 1819 г. у гімназіі стварaліся гурткі, удзельнікі якіх увайшлі ў тайную арганізацыю «Таварыства аматараў навук», заснаваную ў 1820 г. пад уплывам былога выпускніка гімназіі, выдаўца газеты «Польская дэкада» Віктара Гельтмана і яго брата, навучэнца гімназіі Юзафа [91, 289].

Дзейнасць таварыства ахоплівала невялікую частку гімназістаў, якія, прытрымліваючыся строгай канспірацыі, тайна арганізоўвалі сходы. Большасць выпускнікоў Свіслацкай гімназіі і пасля заканчэння не адмаўляліся ад сваіх перакананняў, захоўваючы ўсё жыццё адданасць ідэалам свабоды, роўнасці, братэрства. Менавіта да іх ліку належаў Орда. Ён без ваганняў уступіў у тайнае таварыства «Заране», створанае ў Беластоцкай, затым і ў Свіслацкай гімназіях. Арганізацыя была звязаная з рэвалюцыйным «Таварыствам ваенных сяброў», якое, у сваю чаргу, мела стасункі з дзекабрыстамі. Як успамінаў сябра Напалеона Т. Ганкевіч, у 1826 г. аб'яднанне студэнцкай моладзі насіла назву «Згодныя браты», а пазней — «Заране». Назва арганізацыі паходзіла ад формы сходаў гімназістаў, якія патаемна збіраліся надвячоркам, калі ўзыходзілі зоркі [289].

Сябры таварыства атрымлівалі мянушкі ў памяць пра славутых ліцвінаў і палякаў. Напалеон Орда насіў імя Младзяноўскі. Пад гэтым псеўданімам ён браў удзел у штомесячных сходах «Заран», рабіў справаздачу аб працы з моладдзю, выступаў з навуковымі рэфератамі, агітаваў і рэкамендаваў новых сяброў. Пазней Орда згадваў, што «ўжыванне мянушак у тайных таварыствах было ўзята з твора С. Патоцкага «Пахвала палякаў» і дазваляла ў выпадку, калі лісты траплялі ў рукі паліцыі, не выдаць сапраўдныя імёны карэспандэнтаў» [325].

«Заране» марылі пра незалежнасць зямель былой Рэчы Паспалітай, імкнуліся да высокаадукаванага і маральнага грамадства, адкрыта выказвалі свой пратэст супраць палітыкі царскага ўрада, запальвалі рэвалюцыйнымі настроямі не толькі вучняў, але і педагогаў.

Напрыканцы вучобы Напалеона Орды ў гімназіі «Заране» трапілі пад пільную ўвагу паліцыі. Як падае М. Самуйлік, жандары схапілі шэраг выпускнікоў гімназіі, якіх абвінавацілі ў дзяржаўнай здрадзе [254, 255]. Лёсам арыштаваных і падазраваемых заняўся спецыяльны следчы камітэт.

У адносінах да Н. Орды і ягоных сяброў былі прынятыя «меры тлумачальнага характару», якія следчы камітэт палічыў дастатковымі для вынішчэння духу «рэвалюцыйнай заразы», што распаўсюдзілася ў навучальных установах. Гімназістаў вызвалілі ад далейшага следства, але іх справы ўсё ж захоўваліся ў сейфах царскай ахранкі.

Так закончыўся для Напалеона Орды пяцігадовы свіслацкі тэрмін навучання ў гімназіі. Атрымаўшы дыплом з выдатнымі адзнакамі, 17-гадовы юнак прыехаў дамоў да шчаслівай маці Юзафіны і сястры Гартэнзіі. Пачалася падрыхтоўка да паступлення ў Віленскі універсітэт.



**Тамаш Зан,**
адзін з заснавальнікаў таварыства філаматаў, старшыня таварыства філарэтаў
Літаграфія. 1-я палова XIX ст.
Са збораў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве



**Фёдар Малеўскі,**
(1800—1870), арганізатара падрыхтоўкі філамацкіх і філарэцкіх статутаў. 1820-я гг.
Мастак В. Ванькові
Са збораў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве

## 7. Нясконаны універсітэт

Маці вельмі жадала, каб сын не спыняў вучобу, і дзеля гэтага не шкадавала ні часу, ні грошай. Напалеон паспяхова вытрымаў іспыты перад прыёмнай камісіяй і стаў студэнтам Віленскага універсітэта, у якім, між іншым, восем гадоў назад пачаў вучыцца яго зямляк Адам Міцкевіч.

Пра кароткі перыяд навучання ў Вільні Напалеон Орда пазней напіша вельмі каратка: «1823. Паступіў ва універсітэт у Вільні на фізіка-матэматычнае аддзяленне пры рэктару Ю. Твардоўскім. Быў арыштаваны і пасаджаны ў турму на 15 месяцаў у Вільні за ўдзел у таварыстве «Заране». Адначасна 10 маіх калег былі высланы на Каўказ у салдаты, я быў аддадзены пад нагляд» [62, 325].

Аднак гэта здарыцца толькі праз тры гады, а ў 1823 г. поўны радасці і надзей юнак пераступіў парог Віленскага універсітэта — найстарэйшай навучальнай установы Беларусі і Літвы.

Заснаваны ў 1570 г. як езуіцкі калегіум, праз некалькі гадоў ён быў пераўтвораны ў акадэмію. З 1583-га па 1781 г. акадэмія прысвоіла сваім выпускнікам больш за чатыры тысячы вучоных ступеняў. Сярод найбольш вядомых навучэнцаў былі Сімяон Полацкі, Мялецій Смятрыцкі, А. Каяловіч, А. Алізароўскі і іншыя [92, 200].

З 1781 г. Віленская акадэмія была пераўтворана ў Галоўную школу ВКЛ, куратарам якой стаў апошні канцлер ВКЛ Я. Храптовіч, таксама нараджэнец Брэстчыны (цяпер вёска Ясянец Баранавіцкага раёна).



**Віленскі універсітэт**
Гравюра XIX ст.

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай царскі ўрад пераўтварыў вучэльню ў Галоўную Віленскую школу, якая з 1803 г. стала універсітэтам. Акрамя А. Міцкевіча яго закончылі І. Дамейка, Ю. Славацкі, Ю. Крашэўскі, І. Даніловіч і іншыя дзеячы навукі і культуры. Большасць універсітэцкіх прафесараў былі нараджэнцамі Беларусі і Літвы.

Паступіўшы ва універсітэт, Н. Орда апынуўся ў цэнтры перадавой навуковай думкі. У 1816 г. сярод выкладчыкаў узнікла легальнае таварыства «Шубраўцаў», якое выдавала штотыднёвую газету «Вулічныя навіны». З 1817 г. ва універсітэце ўтворана тайнае студэнцкае таварыства філаматаў (сяброў навукі). Сярод арганізатараў таварыства былі А. Міцкевіч, Т. Зан, Я. Чачот, А. Ходзька, Ф. Малеўскі.

Прэзідэнтам таварыства абралі Ю. Яжэўскага. Галоўнай мэтай дзейнасці таварыства стала падрыхтоўка моладзі да творчасці, прапаганда гуманізму, асуджэнне дэспатызму і прыгону [289].

У 1820 г. у складзе таварыства філаматаў узнікла нелегальная арганізацыя філарэтаў (аматараў дабрачыннасці).

Пад уплывам польскага патрыятычнага нацыянальна-вызваленчага руху студэнты пачалі распрацоўваць палітычную праграму, у якую ўключаліся патрабаванні незалежнасці Рэчы Паспалітай і скасавання прыгоннага права. Такім чынам сярод студэнтаў распаўсюджваліся антыфеадальныя, антысамадзяржаўныя лозунгі і патрыятычныя ідэі.

Віленскі універсітэт падчас вучобы ў ім Н. Орды стаў «калыскай» будучых арганізатараў і ўдзельнікаў паўстання 1830—1831 гг., у якім брала ўдзел амаль трэцяя частка студэнтаў.

Напалеон, які пачатковае палітычнае выхаванне атрымаў у тайным таварыстве «Заране» ў Свіслацкай гімназіі, ва універсітэце адразу апынуўся ў гушчы студэнцкага руху. Тры гады старанай вучобы дазволілі юнаку ўвайсці ў лік выдатнікаў. Але актыўная дзейнасць у тайных таварыствах не засталася па-за пільным зрокам паліцэйскіх чыноўнікаў — ён патрапіў у лік «недобранадзейных», над ім пачалося следства.

## 8. Царскі вязень

Сярэдзіна 20-х гг. XIX ст. адзначылася новым уздымам нацыянальна-вызваленчага руху на землях былой Рэчы Паспалітай. Прадвесне рэвалюцыйнай буры асабліва моцна адчувалася ў Вільні.

Міністэрства ўнутраных спраў Расіі атрымоўвала шматлікія данясенні пра нарастанне хваляванняў у студэнцкім асяродку. Былі прыняты тэрміновыя меры для спынення рэвалюцыйнага руху. Да кіраўнікоў вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў накіроўваліся патрабаванні навесці парадак у студэнцкім асяродку.

Рэктар Віленскага універсітэта Вацлаў Пелікан, атрымаўшы падобны загад, учыніў дазнанне над студэнтамі. У рапарце 11 ліпеня 1826 г. рэктар прыводзіў лічбы ўдзельнікаў таварыства «Заране». Затым ён шчыра прызнаваўся, што мэты арганізацыі даволі ясныя: падбухторванне студэнтаў да выступленняў супраць царскага ўрада і ягонай акупацыйнай палітыкі [200].

Ужо ў ліпені 1826 г. Напалеон Орда з дзесяццю сябрамі па вучобе і палітычнай барацьбе былі арыштаваныя і выключаныя з універсітэта. Юнак патрапіў у віленскую турму. Менавіта тут у кастрычніку 1823 г. адбывалася следства над А. Міцкевічам, Т. Занам, Я. Чачотам і іншымі ўдзельнікамі тайных таварыстваў.

У турме Орда знаходзіўся адзін год і тры месяцы. Знаходжанне ў вязніцы, выключэнне з універсітэта не зламалі дух маладога чалавека, а яшчэ больш загартавалі яго, умацавалі ўпэўненасць у правільна выбраным шляху. У гэтыя цяжкія хвіліны Напалеона нязменна падтрымлівалі маці і сястра Гартэнзія, якія зрабілі ўсё магчымае, каб вызваліць яго.

Добрыя паводзіны вязня, неаднаразовыя хадайніцтвы маці перад губернатарам і Міністэрствам унутраных спраў мелі вынік: напрыканцы 1827 г. Орда быў выпушчаны на волю, але надзор за ім не спыняўся ні на хвіліну. Ягоныя калегі па вучобе і палітычнай дзейнасці былі адпраўлены на службу шараговымі вайскоўцамі на Каўказ, дзе для Расійскай імперыі таксама не было спакою.



**Ануфрый Петрашкевіч,** (1793—1863), архівіста філаматаў

Мастак Д. Шалуткоў

Са збораў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве



**Ян Чачот** (1796—1847), сакратар таварыства філаматаў, беларускі паэт, фалькларыст. 1-я палова XIX ст.

Са збораў Нацыянальнага музея ў Варшаве



**Вільня. Гара Гедыміна**
Фота аўтара. 2007 г.



**Гартэнзія,**
сястра Н. Орды

Са збораў музейнага комплексу Н. Орды

## 9. Вяртанне да хатніх спраў

Вярнуўшыся дамоў у родныя Варацэвічы, Напалеон Орда працягваў самаадукацыю. Ён спрабаваў уладкавацца і аднавіць вучобу ва універсітэце, але дзверы вышэйшай школы перад ім зачыніліся назаўсёды.

Маці і сястра Гартэнзія ў гэты час былі для яго самымі блізкімі людзьмі. Сястра ўжо два гады была замужам за «панам на Калодным» — Аляксандрам Скірмунтам, які спачуваў юнаку, падзяляючы ягоныя погляды [227, 275].

Вялікай радасцю для Напалеона з'явілася нараджэнне ў 1827 г. у Гартэнзіі дачкі Гелены. Пляменніца ў далейшым стане вядомай у Еўропе разьбяркай і мастачкай. Яе кіпучае творчае жыццё захапляла Напалеона. Гелена быццам паўтарала шлях свайго дзядзькі. Яе настаўнікамі былі Дмахоўскі і Радыга ў Вільні, Краўзэ і фон Фогельштайн у Берліне і Дрэздэне, Цэзар у Вене, Галі і Аміці ў Рыме [367, 369]. Знаходзячыся ў Берліне разам з маці Гартэнзіяй, яна ў 1844 г. наведала Напалеона Орду, які быў задаволены поспехамі сваёй 17-гадовай пляменніцы. Але гэтая радасная сустрэча будзе далёка наперадзе...

А цяпер выключанаму з універсітэта 20-гадоваму юнаку даводзілася асэнсоўваць перажытае, уносіць змены ў свае планы. Адначасова на яго плечы ляглі клопаты па ўтрыманні спадчыннага маёнтка. Сядзіба на той час размяшчалася на тэрыторыі з 22 моргаў. Гаспадарскі дом, даволі вялікіх памераў (64 на 21 аршын) быў пабудаваны ў другой палове XVIII ст. і патрабаваў неадкладнага рамонту і звонку, і ўнутры [368]. У будынку было 16 пакояў, два калідоры і вялікая зала. Акрамя таго, меліся два пакоі на мансардзе. Двор уключаў шматлікія гаспадарчыя пабудовы. Аднак займацца хатнімі справамі Орду давялося зусім мала. Напрыканцы 1829 г. яго залічылі ў расійскае войска.

# *У віхуры падзей 1830—1831 гг.*

**РАЗДЗЕЛ III**

## 9. На вайсковай службе

Службу Напалеон Орда пачаў шараговым гвардзейскага кавалерыйскага палка Літоўскага корпуса, сфарміраванага ў 1817 г.

На той час галоўнакамандуючым корпуса лічыўся брат імператара Мікалая I Канстанцін Паўлавіч. Агульная колькасць вайскоўцаў Літоўскага корпуса дасягала 40 тысяч чалавек. Штабы дзвюх дывізій Літоўскага корпуса знаходзіліся ў Брэсце і Гродне [289].

У 1825 г. у палках утварылася тайная арганізацыя «Ваенныя сябры», якая падрыхтавала антыўрадавае выступленне Літоўскага піянернага батальёна. Полк, у якім служыў Напалеон Орда, меў шмат рэвалюцыйна настроеных афіцэраў і салдат, таму невыпадкова, што яны прынялі бок паўстанцаў у 1830—1831 гг.

> Грунтоўнае даследаванне В. Гарбачовай дае прыкладную карціну складу паўстанцкіх атрадаў. Сілы інсургентаў складаліся з некалькіх частак. Адной з самых шматлікіх з'яўляліся прадстаўнікі рэгулярнай арміі, аднак яе асабовы склад змяніўся пасля лістапада 1830 г.— афіцэрскі корпус значна абнавіўся [108].

Кіраўнікамі паўстанцкіх войскаў сталі Ю. Хлапіцкі, М. Радзівіл, Я. Скжынецкі, Я. Крукавецкі, Г. Малахоўскі, Д. Хлапоўскі і М. Рыбінскі. Ім было нададзена права ад імя Вайсковай урадавай камісіі надаваць вайсковыя званні [110]. Такое выключнае права мелі таксама кіраўнікі асобных атрадаў, скіраваных на тэрыторыю былога ВКЛ, у тым ліку Ю. Дзвярніцкі, А. Гелгуд, Г. Дэмбінскі, Ф. Роланд, С. Ражыцкі, Д. Рамарын [109].




**Н. Орда. Вільня. Агульны від.** 1875 г.

Від палаца Слушкаў (пазней Сапегаў).
Побач руіны замка Гедыміна і кафедра.

Надпіс: *Кашары Лайкоўскіх, рака Вілія. Палац Слушкаў, затым Сапегаў. Вільня.*
Надпіс на падкладцы: *Вільня. Палац Слушкаў*
Малюнак алоўкам, падмаляваны акварэллю. 20,5x27,7

III-r. a. 4022 (Teka Wileńska). MNK

# LITWIN DO POLAKA.

Żyjemy w wieku kolej
Gdzie naród kajdany zrzuca,
A tyran co nas zasmuca
Nie ujmie lubéj nadziei.

Pęknąć musi silna władza
Przed naszéj jedności ciosem
Trudna walka z ludów losem,
Choć Wszystkie siły zgromadza

Zdepczem jego berlo krwawe
Despotyzmu srogie znamie,
Niechaj tylko zgodne ramie
Wzmocni nasze chęci prawe.

*Karol* niech nam przykład stawia
Czem jest Król zły dla narodu
Wygnańcem wśród obcych rodu.
To wola jedności sprawia.—

Niech zgoda wznosi umysły,
A stałość podwaja siłę
Jedność wróci Polskę miłę
Bracia! to nasze zamysły.

Zachowajmy Polską duszę,
Co nie drży na wzrok tyrana
A ta szabla światu znana
Zrzuci przemocy katusze.

Polak niech się nie zapiera
*Litwina uznać za brata*,
Na tem jest potęga świata
Kiedy ręka rękę wspiera,

Wszakże Zygmunta przymierze
W jeden nas złączyło narod
Niechajże rożności zarod
Nierozdziela nas w téj mierze.

Walczmy wspólnie za Ojczyznę
Niech nam niezawadza Dźwina,
Rozszerzyć naszą puściznę
Co zabrała Katarzyna.

NAPOLEON ORDA,
*Litwin.*

**Н. Орда. Верш «Ліцвін да паляка».** 1830 г.

Са збораў бібліятэкі Варшаўскага універсітэта [461]

Фота аўтара. 2006 г.

Архіўныя крыніцы таго перыяду не дазваляюць цалкам вызначыць перамяшчэнні па службовай лесвіцы афіцэраў, якія мянялі падчас выступлення па некалькі вайсковых падраздзяленняў. Патрабуецца больш глыбокае вывучэнне дакументаў ваенных дзеянняў, што тычацца атрадаў А. Гелгуда, Ф. Роланда і Д. Рамарына. Пад кіраўніцтвам апошняга служыў Напалеон Орда, які меў за плячыма ўсяго 23 гады. Але гэтыя гады былі ўжо напоўнены патрыятычным настроем, надзеямі на лепшую будучыню.

## 10. «Ліцвін да паляка»

Менавіта ў час паўстання Напалеон Орда напісаў палымяны верш «Ліцвін да паляка». У невялікім вершы выказаны думкі маладога ваяра, патрыёта і абаронцы Айчыны [361]. Мастацкі твор распаўсюджваўся ў Літоўскім корпусе, выклікаў моцнае захапленне патрыётаў Літвы і Польшчы, асабліва з вялікім уздымам ён быў успрыняты ў Варшаве.

Напачатку Напалеон Орда нагадваў, што наступіў час скінуць кайданы, у якія тыранія закавала вольналюбівы народ, і што ўлада дэспатаў адступіцца, знікне перад адзінствам палякаў ды ліцвінаў. Аўтар перасцерагаў землякоў, што наперадзе іх чакае цяжкая барацьба, але высакародная мэта вызвалення ўмацуе сілы змагароў.

Верш заканчваецца такімі палымянымі радкамі (пераклад на беларускую мову зроблены аўтарам кнігі-альбома):

*...Няхай паляк не адрачэцца*
*Ліцвіна прызнаваць за брата.*
*Іх рукі разам скінуць краты,*
*Каб волю адчыніць для сэрцаў.*
*Яшчэ нам Жыгімонт казаў*
*Жыць вечна ў міры да суседа,*
*Каб нас не закранаталі беды*
*І недавер не раз'яднаў.*
*А за Айчыну станем біцца —*
*Дзвіна між нас не перашкода.*
*І заблішчыць святло свабоды,*
*Што адняла калісь царыца.*

Верш з уласнаручным подпісам Н. Орды знаходзіцца ў сховішчах бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта. Гэтыя два пажоўклыя ад часу аркушы, укладзеныя ў цвёрдую вокладку, вельмі шануюцца супрацоўнікамі бібліятэкі [461].

## 11. На палях баёў

Паўстанне разгаралася імкліва і за кароткі час ахапіла Польшчу і Беларусь. На падрыхтоўку выступлення паўплывалі рэвалюцыйныя выступленні ў краінах Заходняй Еўропы і Расіі, скіраваныя супраць манархічных рэжымаў.

Паўстанне ў Польшчы, падрыхтаванае тайнымі патрыятычнымі таварыствамі, пачалося ў Варшаве ў ноч на 29 лістапада 1830 г. З таго часу яно носіць найменне «лістападаўскае» [289]. Праз суткі крывавых баёў паўстанцы авалодалі Варшавай, а на пачатку снежня 1830 г. расійскія войскі адышлі на ўсход за Буг.











**Крыжы Віртуці Мілітары** (revers і avers), якімі былі ўганараваны найбольш мужныя ўдзельнікі паўстання 1831 г., у тым ліку Н. Орда пасля бітвы пад Фірлеем і Коцкам

Са збораў Музея Войска Польскага. Варшава

Часовы ўрад перадаў уладу ў вызваленай Польшчы ваеннаму дыктатару Ю. Хлапіцкаму. У Беларусь, Літву і Украіну былі накіраваны эмісары з заклікам аб далучэнні да паўстання [297].

За кароткі тэрмін у беларускіх паветах былі набраны ў паўстанцкія атрады каля 10 тысяч добраахвотнікаў. Пачаліся сутычкі і баі з рэгулярнымі расійскімі войскамі. Галоўнакамандуючым літоўскага войска стаў А. Гелгуд. 19 чэрвеня 1831 г. пад Вільняй паўстанцкія атрады атрымалі паразу ад расійскай арміі фельдмаршала І. Дзібіча-Забалканскага. Літоўскае войска адступіла і перайшло прускую мяжу. Ачагі паўстання яшчэ ўзнікалі ў Пінскім, Мазырскім, Рэчыцкім, Навагрудскім і іншых паветах Гродзенскай і Мінскай губерняў, часткова на Магілёўшчыне і Віцебшчыне.

У канцы ліпеня 1831 г. новы галоўнакамандуючы расійскай арміі ў Польшчы генерал І. Паскевіч пачаў буйнамаштабнае наступленне на паўстанцаў, нанёс ім некалькі паражэнняў, і ў ноч на 8 верасня Варшава капітулявала, але асобныя баі ў шэрагу паветаў працягваліся яшчэ на працягу верасня і кастрычніка 1831 г.

Пазней у аўтабіяграфіі Н. Орда напісаў пра свой удзел у падзеях 1830—1831 гг.: *«...Больш знаходзіўся пры Хлапіцкім, Радзівіле і Скжынецкім. Пасля бітвы пад Іганямі атрымаў афіцэрскі чын (падпаручніка.—* Аўт.*) стральцоў. Але ў маі 1831 г., калі быў сфарміраваны малы 5-тысячны корпус на чале з генералам Хшаноўскім, быў прызначаны ад'ютантам генерала, які накіроўваўся на дапамогу Дзвярніцкаму. Сябраваў з Раманам Сангушкам, Здзіславам Замойскім, Лявонам Сапегам і Гасткоўскім»* [63, 325].

## 12. Узнагарода за мужнасць

У фондах Музея Войска Польскага В. Гарбачова выявіла матэрыялы 4-га егерскага палка, якія тычацца вайсковых дзеянняў у сакавіку — жніўні 1831 г., а ў фондах Галоўнага архіва старажытных актаў Варшавы — паперы генерала Ф. Роланда са спісамі асабова-

га складу афіцэраў паўстанцкіх палкоў, што пасля бітваў адышлі ў Прусію і Галіцыю. Гэтыя дакументы змяшчаюць каштоўную інфармацыю. У зборах Польскай бібліятэкі ў Парыжы захоўваецца рукапісная даведка пра ўзнагароджаных крыжам Віртуці Мілітары. У 1881 г., да 50-й гадавіны паўстання, рукапіс быў надрукаваны ў Львове. Сярод узнагароджаных значыцца прозвішча Напалеона Орды [108, 110, 297, 401].

Ордэнам Віртуці Мілітары ўганараваны 3873 афіцэры, якія ўдзельнічалі ў паўстанні 1830—1831 гг., у тым ліку генерал Я. Скжынецкі — адзін з арганізатараў і кіраўнікоў паўстання (ён атрымаў камандорскі крыж). Для ўзнагароджання паўстанцаў выдзялілі 105 кавалерскіх, 1794 залатых і 1973 сярэбраных крыжоў [341, 401]. У аўтабіяграфіі Н. Орда пазначыў: *«Пасля бітвы пад Фірлеем і Коцкам быў уганараваны залатым крыжам Віртуці Мілітары. Два разы меў гонар быць парламентарыем да генерала Радыгера. Затым накіраваны да генерала Рамарына. Пад Завіхвостам, пасля ўзяцця ў верасні Варшавы, перайшоў з корпусам у Галіцыю»* [63, 298, 325].

Паўстанне было жорстка падаўлена. Галоўнакамандуючы расійскімі войскамі І. Паскевіч дзейнічаў асцярожна і разважліва. Вядомы факт, калі напярэдадні бітвы з паўстанцамі, парушыўшы існуючыя вайсковыя традыцыі, ён загадаў выдаць сваім грэнадзёрам па шклянцы гарэлкі ці рому і па фунту мяса [97]. Як ужо адзначалася, пасля шматдзённай аблогі, Паскевіч патапіў у крыві «выгадаваную Канстанцінам Паўлавічам польскую армію». Адбылося гэта ў 19-ю гадавіну Барадзінскай бітвы. Пасля гэтага ў Царстве Польскім запанавалі «павага» і «панічны жах» перад фельдмаршалам Паскевічам, якому імператар надаў тытул «святлейшага князя Варшаўскага» [97].

**Рапарт аб дзеяннях паўстанцаў-генералаў Радэгіра і Рамарына ад 19 верасня 1831 г.**

Са збораў Музея А. Міцкевіча ў Парыжы

Перададзены музейнаму комплексу Н. Орды ў 2005 г.

Мікалай I, які адчуваў лютую нянавісць да вольналюбівых ліцвінаў і палякаў, 12 студзеня 1832 г. выдаў указ аб скасаванні ордэна Віртуці Мілітары, ператварыўшы яго ў памятны медаль для расійскіх воінаў, што душылі паўстанне. На медалі арол застаўся, а замест літоўскай «Пагоні» быў упісаны дэвіз «Rex et Patria» («Цар і Айчына») і дата 1831 [341].

Акт задушэння паўстання 1830—1831 гг. у Польшчы і Беларусі, як ні дзіўна, падтрымала расійская інтэлігенцыя [116]. Нават былыя дзекабрысты і прагрэсіўныя паэты адобрылі палітыку Мікалая I у дачыненні да Польшчы і Беларусі. У прыватнасці, А. Пушкін у вершы «Барадзінская гадавіна» прадставіў І. Паскевіча героем Расіі, а крывавыя дзеянні яго арміі адлюстраваны наступнымі радкамі:

*Сбылось — и в день Бородина,*
*Вновь наши вторглись знамена*
*В проломы падшей вновь Варшавы;*
*И Польша, как бегущий полк,*
*Во прах бросает стяг кровавый —*
*И бунт раздавленный умолк.*

Як пакажа час, «бунт умолк», але ненадоўга.

РАЗДЗЕЛ IV

## 13. «Мяцежнік другога разраду»

Напрыканцы ваеннай кампаніі 1831 г. Напалеон Орда атрымаў чын капітана, а пасля яе заканчэння ў складзе атрада генерала Д. Рамарына быў раззброены ў Галіцыі. Праз некаторы час ён тайна вярнуўся да роднага гнязда, у Варацэвічы. Знаходжанне на радзіме было нядоўгім і небяспечным. Над былым паўстанцам навісла пагроза арышту, што прымусіла яго шукаць выйсце, каб не апынуцца ў Сібіры ці за турэмнымі кратамі.

У аўтабіяграфіі Напалеон адзначыў, што «ў 1832 г. пражываў у сям'і Эдмунда Краінскага», з якім сябраваў з часоў Віленскага універсітэта. Менавіта тады ён вырашыў эмігрыраваць за мяжу [63, 325].

Як сцвярджаюць С. Кушцель і Ю. Гадлеўскі, Юзафіна Орда рабіла ўсё магчымае, каб аблегчыць лёс сына і выратаваць маёнтак ад секвестру. Яна звярнулася з прашэннем да гродзенскага губернатара аб вызваленні Варацэвічаў ад канфіскацыі за ўдзел сына ў паўстанні. Каб неяк выгарадзіць яго, яна напісала, што Напалеон напярэдадні мяцяжу служыў у Кобрыне межавым суддзёй, а ў лістападзе 1830 г. выехаў на вяселле да свайго сябра ў Польшчу. Юзафіна Орда сцвярджала, што для гэтага 14 лістапада тэрмінам на адзін месяц яе сын атрымаў спецыяльны білет. Менавіта ў гэты час яго быццам і захапіла віхура мяцяжу.

Адначасова маці звярнулася ў Варшаву да графа Вітэ з просьбай, каб ёй даслалі звесткі пра службу яе сына ў атрадах паўстанцаў, ягоныя званні і чыны. У адказе Варшаўскага ваеннага ведамства паведамлялася, што Напалеон Орда раней у войску не служыў, а ў былой Вайсковай камісіі лічыўся падпаручнікам 4-га коннага егерскага палка, з якога быў адкамандзіраваны ў галоўны штаб мяцежнікаў. Далей адзначалася, што ў такім вайсковым чыне яе сын знаходзіўся на працягу ўсяго паўстання, а пасля падаўлення мяцяжу ён не пажадаў прыбыць у спецыяльную следчую камісію для вызначэння спагнання за сваю віну. Следчая камісія вызначыла ступень віны Н. Орды перад расійскім заканадаўствам. У спісах патрыятычнага таварыства Напалеон Орда пазначаўся як прамоўца і пісьменнік [116].

Усіх удзельнікаў паўстання 1830—1831 гг. следчая камісія падзяляла на тры разрады: кіраўнікі мяцяжу, удзельнікі бунту супраць расійскіх войскаў ды ўлады і, нарэшце, асобы, што не бралі непасрэдны ўдзел у баявых дзеяннях, але падпісвалі абуральныя лісты, пракламацыі, акты, падбухторваючы насельніцтва да непадпарадкавання расійскім уладам. Былі вызначаны і меры пакарання. Злачынцам 1-га і 2-га разрадаў прызначалася турэмнае зняволенне, ссылка ў Сібір, іх маёмасць канфіскавалася. Н. Орда быў прызнаны злачынцам 2-га разраду, а таму яго чакала высылка з канфіскацыяй маёнтка Варацэвічы.

Наступіў новы жыццёвы перыяд, былы паўстанец вымушаны стаць выгнаннікам. (Гэты перыяд нечакана для самога Напалеона расцягнуўся амаль на чвэрць стагоддзя.) Ягоная маці прымірылася з рашэннем Гродзенскага губернскага праўлення ад 2 жніўня 1838 г. аб налажэнні забароны на маёнтак Варацэвічы за ўдзел сына ў паўстанні. Яна блаславіла Напалеона, які вырашыў накіравацца ў эміграцыю. Сама Юзафіна адстойвала правы на маёнтак яшчэ і раней, у прыватнасці 2 красавіка 1824 г. У рашэнні суда ад 25 мая 1825 г. адзначалася, што «Юзафіна Ордава не толькі не адраклася... а наадварот, пасля спачыну свайго мужа… валодае дадзеным маёнткам бесперашкодна» [279].

Пасля падаўлення паўстання 1830—1831 гг. пытанне правоў Юзафіны на Варацэвічы ўзнікла зноў. Яна прадставіла ўладам дакументы, якія пацвярджалі яе правы на ўласнасць, згадваючы, што акрамя сына мае яшчэ дачок. Разглядзеўшы яе хадайніцтва, Кобрын-

скі суд 19 снежня 1832 г. зноў «зацвердзіў Юзафіну Ордаву ў пажыццёвым валоданні маёнткам». У сваю чаргу, пагадзіўшыся з такім рашэннем, Гродзенская судовая палата пазначала, што «тая частка, якая належала Напалеону Орду, пасля яе смерці павінна была перайсці ў казну» [19, 279].

У 1834 г. матэрыялы па гэтай справе накіравалі ў сенат. Маёнтак Варацэвічы быў ацэнены ў 125 630 рублёў асігнацыямі. Праз чатыры гады справа канчаткова вырашылася на карысць Юзафіны, якая пачала хадайнічаць, каб перадаць маёнтак дочкам. Скончылася тым, што ўлады адмовілі ёй: «сёстрам мяцежніка… з бацькавага маёнтка выплаціць пасля заканчэння пажыццёвага права маці… частку вызначанай сумы, за выключэннем той колькасці, якая па суразмернасці належыць для аплаты даўгоў» [19].

**Лісты перапіскі Н. Орды ў Парыжы. 1839 г.**

Са збораў Музея А. Міцкевіча ў Парыжы
Перададзены музейнаму комплексу Н. Орды ў 2005 г.

## 14. Блуканні па пакутах

Імператар Мікалай I, бязлітасны да інсургентаў (паўстанцаў), вельмі шчодра паставіўся да ўдзельнікаў задушэння паўстання. Усім радавым і афіцэрам, хто падаўляў «польскі бунт» былі раздадзены медалі, а галоўны іх кіраўнік Іван Паскевіч атрымаў пасаду намесніка Царства Польскага, у якім «царavaў» амаль чвэрць стагоддзя. Ён загарэўся сапраўднай вар'яцкай ідэяй — назаўсёды ліквідаваць памяць пра польска-літоўскую дзяржаўнасць, усталяваўшы агульнае расійскае кіраўніцтва [97].

З пачуццём задавальнення І. Паскевіч сустрэў прапанову царскага двара пра ўладкаванне ў цэнтры Варшавы ягонага манумента (узведзены толькі ў 1870 г., праз 14 гадоў пасля смерці фельдмаршала; разбураны ў 1917 г.) [97].

А ў гэты час у Беларусі, Літве і Польшчы царскі ўрад чыніў агульную расправу над паўстанцамі, якія засталіся жывымі. Тых, што прыйшлі ў вайсковую ўрадавую камісію з пакаяннем, чакалі паблажкі, тых, каго злавілі, чакалі турмы, Сібір і нават вісельні, частка інсургентаў, каб пазбегнуць арышту, рушыла ў эміграцыю.

Царскі ўрад скасаваў Канстытуцыю Царства Польскага і Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г., зачыніў Віленскі універсітэт, увёў забарону польскай мовы ў школах, ліквідаваў уніяцкую царкву, шэраг каталіцкіх кляштараў, касцёлаў і уніяцкіх цэркваў былі перададзены Рускай праваслаўнай царкве [289].

Больш за 10 тысяч паўстанцаў, якія адступілі з-пад Вільні, трапілі ў Прусію ці Аўстрыю. Іх размяшчалі ў спецыяльных лагерах для эмігрантаў, а потым нярэдка накіроўвалі ў Францыю [108]. Французскі ўрад для апекі над эмігрантамі стварыў пад кіраўніцтвам генерала Лафаета спецыяльны Камітэт дапамогі і асігнаваў на гэтыя мэты 3 млн франкаў на год. У Парыжы былі арганізаваны 24 эмігранцкія цэнтры. Пазней шэраг паўстанцаў выехалі ў Жэневу, Цюрых, Брусель, Лондан, Рым, Венецыю ды іншыя гарады і краіны свету.

Беларускія і польскія эмігранты далучыліся да розных агульнаеўрапейскіх арганізацый, найперш да «Маладой Еўропы» і «Інтэрнацыянальнага саюза народаў». Сярод знакамітых асобаў беларускай эміграцыі 1830-х гг. асаблівае месца займае наш зямляк Напалеон Орда [157].

## 15. Па дарогах Еўропы

Шлях у Францыю для маладога чалавека быў няпросты. На дарогу ён меў толькі невялікую суму грошай, што перадала маці, ды торбу за плячыма. Скіраваўся Напалеон у далёкае падарожжа па Еўропе не ў адзіночку. З ім вандраваў зямляк, сябра і паўстанцкі паплечнік Тытус Плонскі, магчыма Адам Тытус Пуслоўскі (1803—1854 гг.), кіраўнік паўстання 1831 г. у Пінскім павеце — родны брат Францішка Пуслоўскага, жонцы якога Юліі пазней Н. Орда прысвеціць паланез «Павольны» [245, 172].

Еўропа ў гэты час перажывала чарговы перыяд пераўтварэнняў. Супраць турэцкага ярма паўстала Грэцыя, выспявала выступленне ў Венгрыі, рэвалюцыйным духам было насычана паветра Італіі, Германіі, Францыі [157, 427].

1833 год стаў апошнім у жыцці вялікага змагара за адраджэнне ВКЛ Міхала Клеафаса Агінскага. Паўсюдна — у салонах, палацах, тэатрах вялікіх і малых гарадоў — яшчэ гучаў ягоны нессмяротны паланез «Развітанне з Радзімай», якім была зачаравана бадай уся Еўропа.

Разам з тым на дарогах, пастаялых дварах, у гатэлях, барах, кавярнях, нярэдка сустракаліся шпегі, што сачылі за ўсімі падазронымі асобамі.

Некаторы час Орда і Плонскі жылі ў Аўстрыі, потым у Італіі, праехаўшы па поўдні Францыі, наведалі Рым і Фларэнцыю, узбярэжжа Міжземнага мора [245].

Два гады вандровак не былі змарнаваныя. У Напалеона Орды адбыліся новыя сустрэчы і знаёмствы з цікавымі людзьмі, якія сустракаліся на ягоным шляху. Ён шмат даведаўся пра традыцыі, звычаі і гісторыю краін Еўропы. Гэта стала выдатнай крыніцай для яго самаадукацыі, пашырэння ведаў і самавыхавання.

У гэтым падарожжы, верагодна, і выявіліся асноўныя рысы характару майстра, ягоная схільнасць да падарожжаў, якія дазволілі дакрануцца да векапомнай мінуўшчыны і са-

праўдных скарбаў сусветнай цывілізацыі. Пачатак такому ладу яго жыцця, безумоўна, быў закладзены яшчэ ў Свіслацкай гімназіі і Віленскім універсітэце. А сталая цяга да ўсяго новага, што адбывалася ў прыродзе і грамадстве, любоў да гісторыі, верагодна, перадалася ад дзеда — кіпучага рэфарматара Палескага краю Мацея Бутрымовіча.

# РАЗДЗЕЛ V

## У эміграцкім асяродку

### 16. Францыя — прытулак польска-беларускай эміграцыі

Як падае польскі даследчык Р. Бялецкі на падставе даследавання матэрыялаў французскіх архіваў, з 1831-га па 1837 г. у Францыю прыбылі 5784 вайскоўцы, якія ўдзельнічалі ў паўстанні 1830—1831 гг. Выгнанцаў было значна больш, бо гэтая лічба грунтуецца на матэрыялах афіцыйнай рэгістрацыі імігрантаў, якія перасякалі межы Францыі. Афіцыйную рэгістрацыю прайшлі і Н. Орда і Т. Плонскі [301].

У дзённіку «Знаходжанне ў Парыжы з 1833 г.» Напалеон Орда пісаў, што ў французскую сталіцу ён прыбыў са Швейцарыі ў верасні 1833 г. Яшчэ ў Швейцарыі ён пазнаёміўся


BOŻE DOPOMÓŻ LUDOWI POLSKIEMU

Kommissya Funduszów Emigracyi Polskiej

Do

Niemcewicza



**Лісты перапіскі Н. Орды ў Парыжы. 1842 г.**

Са збораў Музея А. Міцкевіча ў Парыжы

Перададзены музейнаму комплексу Н. Орды ў 2005 г.


Paris le 12 Août 1848

N. Orda

Administratif

Vu pour attestation de la signature

Orda — 12 août 1848

Le Comm. de Police

**Ліст перапіскі Н. Орды ў Парыжы. 1848 г.**

Са збораў Музея А. Міцкевіча ў Парыжы
Перададзены музейнаму комплексу Н. Орды ў 2005 г.

з земляком Карабцэвічам, а праз яго — з Юлюшам і Віктарам Віславухамі, якія дапамаглі выгнанніку зняць кватэру ў Парыжы. Паколькі Орда прыехаў з расійскім пашпартам на чужое імя (выдаваў сябе за слугу Т. Плонскага), парыжская паліцыя ўзяла яго пад нагляд. Юнак вельмі непакоіўся, каб яго не арыштавалі і не выслалі з Парыжа. Пры дапамозе сяброў Орда пазнаёміўся з Людвікам Плятэрам, які меў добрыя стасункі з міністрам унутраных спраў і парыжскім прэфектам. Такім чынам Напалеон быў унесены ў афіцыйныя спісы імігрантаў [26, 63].

Рэвалюцыйная Францыя прыхільна ставілася да выгнаннікаў з краін, дзе адбываліся нацыянальна-вызваленчыя паўстанні. Як заўважае В. Гарбачова, з моманту прыбыцця першых імігрантаў французскія ўлады прыступілі да ўладкавання іх жыцця. У прыватнасці, спецыяльнай пастановай урада былі створаны імігранцкія асяродкі з дакладна вызначанымі межамі і колькасцю людзей. Пражыванне імігрантаў фінансавалася і строга рэгламентавалася. Не дазвалялася самавольнае перамяшчэнне па краіне. Парушэнне правілаў пагражала стратай субсідый ці нават высылкай з Францыі [383]. Першыя імігранты размясціліся ў Авіньёне і Безансоне. У адным горадзе ўтрымліваліся вайскоўцы, у другім — цывільныя асобы. Але з 5 красавіка 1832 г. выгнаннікаў пачалі прымаць Шалі і Буржэ, шэраг іншых гарадоў.

У 1832 г. французскі ўрад дазволіў былым студэнтам вышэйшых навучальных устаноў, у тым ліку Віленскага універсітэта, працягваць навучанне ў Францыі. Для гэтага неабходна было прадставіць дакументальныя сведчанні пра выключэнне з вучэльні. Студэнты-імігранты аднавілі вучобу пераважна ва універсітэтах Парыжа, Манпелье, Страсбурга і Дзіжона, у школах ветэрынарыі, рамёстваў і мастацтваў [109].

Пазней імігрантам дазволілі свабодна перамяшчацца па краіне, выязджаць па ўласным жаданні ў Іспанію, прыморскія мястэчкі ці на курорты. Ужо вясной 1833 г. французскі ўрад выказаў занепакоенасць ростам імігранцкіх асяродкаў і паставіў пытанне аб іх ліквідацыі ці падзеле на больш дробныя. У прыватнасці, пасяленні імігрантаў у Буржэ налічвалі 1404 чалавекі, у Ле Пюі — 688, у Авіньёне — 475, у Безансоне — 136 [108].

З вясны 1833 г. пачалося прымусовае рассяленне невялікіх груп імігрантаў па 5—10 чалавек у розныя гарады Францыі. Напрыканцы года было завершана ўладкаванне асяродкаў: іх размясцілі ў 100 населеных пунктах з улікам, каб самы буйны налічваў не больш чым 100 чалавек.

Парыж, у якім апынуўся ў сярэдзіне 1833 г. Н. Орда, з'яўляўся сапраўдным цэнтрам польска-беларускай эміграцыі. Тут знайшлі прытулак высокія ваенныя чыны, магнаты, маладыя афіцэры ды іншыя ўдзельнікі паўстання 1830—1831 гг. [157].

Тут працавалі знакамітыя на ўвесь свет навучальныя музычныя ўстановы, бібліятэкі Сарбоны, Інстытут Францыі, Калеж дэ Франсэ, Акадэмія навук, славутыя політэхнічны музей і Луўр, першы ў свеце Заалагічны парк, «Гранд-опера» і шэраг іншых культурна-асветніцкіх устаноў, якія садзейнічалі духоўнаму і творчаму росту асобы [384].

У Парыжы тады жылі ўжо вядомыя землякі Орды — Адам Міцкевіч і Фрэдэрык Шапэн. Былі тут імігранты з іншых краін, якія праславіліся сваімі творамі — шэдэўрамі літаратурнай і музычнай класікі: венгр Ферэнц Ліст, расіянін Іван Тургенеў, італьянцы Джаакіна Расіні і Джузепе Вердзі... [172].

Галоўнай мэтай для Напалеона Орды ў Парыжы стала вучоба. Прага ведаў, неўтаймаваны інтарэс да вяршынь культуры былі, бадай, асновай яго творчай натуры. У Парыжы, дзе мелася шмат спакусаў, Н. Орда выявіў душэўную цвёрдасць, каб прысвяціць сябе высакароднай мэце, якая дазволіла б упісаць імя ў гісторыю, атрымаць прызнанне на Бацькаўшчыне. Мастацкімі і музычнымі творамі Орда здолеў уславіць веліч і хараство сваёй няшчаснай радзімы. Гэтаму спрыяла, як сцвярджаюць даследчыкі яго спадчыны, сяброўства з Міцкевічам, Шапэнам, Лістам, Крашэўскім і іншымі дзеячамі навукі і культуры [84, 158, 200, 218].

## 17. Напалеон Орда і Адам Міцкевіч

Самым блізкім па духу ў Парыжы для Напалеона Орды стаў зямляк-ліцвін Адам Міцкевіч. Нават пачаткі іх біяграфій падобныя. Абодва паходзілі са збяднелых шляхецкіх сям'яў.

Продкі паэта лічылі сябе беларусамі, а сам ён, хоць і пісаў на польскай мове, увесь час называў сябе ліцвінам, а сваёй Айчынай лічыў Вялікае Княства Літоўскае, да якога ўсё жыццё захоўваў патрыятычныя пачуцці [386].

Гэтая акалічнасць парадніла Н. Орду і А. Міцкевіча, зрабіла іх сябрамі. Абодва з'яўляліся студэнтамі Віленскага універсітэта, удзельнікамі тайных таварыстваў, а таму горача адгукнуліся на новы ўздым нацыянальна-вызваленчага руху ў Польшчы і Беларусі. Абодва прайшлі праз турэмнае зняволенне.

У 1824 г. Адам Міцкевіч быў высланы ў Расію, дзе пасябраваў з Аляксандрам Пушкіным. Калі на радзіме разгарэлася паўстанне супраць царызму, А. Міцкевіч знаходзіўся ў Італіі, у 1832 г. праз Дрэздэн пераехаў у Парыж, дзе прыняў удзел у арганізацыі «Дэмакратычнае польскае таварыства», рэдагаваў газету «Польскі пілігрым» [289].



**Адам Міцкевіч на скале Аю-Даг.** 1828 г.

Мастак В. Ванькові

Са збораў Нацыянальнага музея ў Варшаве

Нягледзячы на нязбыўнае каханне і сямейныя складанасці, паэт ствараў несмяротныя вершы, выдаваў зборнікі, вёў публічныя лекцыі, сустрэчы з прадстаўнікамі польска-беларускай іміграцыі, дапамагаў ім уладкавацца. Міцкевіч працаваў выкладчыкам у Лазанскім універсітэце, на кафедры славянскіх літаратур у Калеж дэ Франсэ, падтрымліваў творчыя і сяброўскія адносіны з «Літаратурным таварыствам», моцна перажываў заўчасную смерць жонкі і сам памёр раптоўна ў росквіце творчых сіл падчас эпідэміі халеры ў Канстанцінопалі [375]. Творчасць земляка паўплывала на характар мастацтва Напалеона Орды. Ён вельмі ганарыўся сяброўствам з вялікім паэтам, захапляўся яго лекцыямі і літаратурнымі вечарынамі. У Парыжы Адам Міцкевіч часта выступаў перад землякамі-імігрантамі, а ягоным акампаніятарам неаднаразова быў Орда, нават выконваў музычныя творы разам з жонкаю паэта, выдатнай піяністкай Цэлінай Шыманоўскай [86, 158].

Пры актыўнай дапамозе Напалеона Орды ў французскай сталіцы былі выдадзены лекцыі па славянскіх літаратурах, з якімі выступаў Міцкевіч. Напалеон быў для яго не толькі духоўным, але і матэрыяльным апірышчам, нярэдка падтрымліваў фінансава.

Польскі даследчык Я. Пянёнжэк адшукаў у Парыжы ліст Н. Орды ад 9 кастрычніка 1848 г. да А. Міцкевіча, у якім Напалеон просіць «шаноўнага Адама», каб ён пасадзейнічаў у спагнанні грошай, пазычаных у яго Янукевічам [325].

Сын паэта Уладзіслаў Міцкевіч у грунтоўнай працы «Жыццё Адама Міцкевіча» прыгадаў, як Ю. Славацкі, Л. Міраслаўскі, Ф. Гаўронскі, Л. Набіляк, Ф. Шапэн і Н. Орда 25 снежня


A. MICKIEWICZ.

PAN
TADEUSZ
CZYLI
OSTATNI ZAJAZD NA LITWIE.
Historja szlachecka
z r. 1811 i 1812,
WE DWUNASTU KSIĘGACH, WIERSZEM,
przez
ADAMA MICKIEWICZA.
TOM PIERWSZY.
Wydanie Alexandra Jełowickiego,
Z POPRAWKAMI AUTORA.
PARYŻ.
1834.

**Франтыспіс і тытульны ліст кнігі «Пан Тадэвуш» А. Міцкевіча**

Парыж. 1834 г.




**Тытульны ліст кнігі з назвай «Эцюды для фартэпіяна, прысвечаныя майму сябру Ф. Лісту праз Фрэдэрыка Шапэна».** Уласнасць выдаўца

На тытульным лісце ўласнаручны надпіс: *Напалеону Орду. Шапэн*
Кніга з'яўлялася ўласнасцю Н. Орды, а пасля яго смерці — іншых гаспадароў

У 1962 г. закуплена Музеем Ф. Шапэна ў Ніколаса Канха

Са збораў Музея Ф. Шапэна ў Варшаве
Фота аўтара. 2007 г.

1840 г. падпісалі сумесную заяву наступнага зместу: «Супольна з Адамам Міцкевічам захаваем у сваіх сэрцах дарагую памяць пра сяброўства і прысягаем на адданасць вечнай любові паміж намі» [325, 200].

Пазней Уладзіслаў атрымаў ад сваёй стрыечнай сястры Канстанцыі Скірмунт сведчанні пра тое, што Орда валодаў магнетызмам, аднак «калі Н. Орда расказаў Адаму Міцкевічу пра свае здольнасці, дык пачуў ад яго: "Кінь гэтае! Бо атрымоўваецца, быццам нехта даверыў табе ключык ад камода з таямніцамі душы, а ты гэты ключык забраў"». Пачуўшы гэтыя словы, мастак пакінуў заняткі магнетызмам назаўсёды [325].

Праз год пасля смерці Адама Міцкевіча Напалеон вярнуўся на Бацькаўшчыну, пабываў у радавым гняздзе сябра і пакінуў нашчадкам замалёўку гэтага гістарычнага месца.

## 18. Напалеон Орда і Фрэдэрык Шапэн

У Парыжы Напалеон Орда сістэматычна займаўся музыкай пад кіраўніцтвам Фрэдэрыка Шапэна. Парыжскі перыяд жыцця зблізіў іх. Абодва ігралі на музычных вечарынах у салонах Чартарыйскага, Плятэра, дома ў Шапэна.

Сучаснікі сведчылі, што пад кіраўніцтвам Шапэна Орда дасягнуў у ігры на фартэпіяна такой высокай ступені майстэрства і хутка сам стаў карыстацца вядомасцю ў Парыжы ў якасці выдатнага педагога [84, 282].

Як падаюць энцыклапедычныя выданні, Фрэдэрык шмат твораў прысвяціў Напалеону, а той, у сваю чаргу, найлепшы свой паланез адрасаваў Шапэну. Свае фартэпіянныя п'есы, мазуркі, вальсы Напалеон Орда спачатку выконваў перад Шапэнам, шануючы крытычныя заўвагі сябра, і толькі пазней выносіў на суд публікі [329—336]. Сапраўды, у творах Орды адчуваўся ўплыў паважанага настаўніка, асабліва ў паланезах, што вылучаліся меладычнасцю, драматызмам і ўзнёсласцю [82, 84].

Часам для гасцей салонаў музыканты арганізоўвалі своеасаблівую віктарыну, прычым Орда выконваў нядаўнія творы Шапэна, а апошні — музычныя мініяцюры Напалеона. Слухачам прапаноўвалася вызначыць імя сапраўднага аўтара твора [158, 328, 330].

Славуты Фрэдэрык Шапэн быў на тры гады маладзейшы за сябра (нарадзіўся ў 1810 г. у м. Жалязова Воля пад Варшавай). Ягоны бацька ваяваў пад штандарамі Касцюшкі, паходзіў з Францыі, маці была з Латарынгіі. Бацькі, якія добра валодалі музычнымі інструментамі, перадалі сыну прагу да музыкі [342, 471].

Аднак неўзабаве на сям'ю Шапэнаў пасыпаліся беды: у 1827 г. памерла ад сухотаў чатырнаццацігадовая дачка — малодшая сястра Фрэдэрыка, а ў 1844 г. гэтая хвароба прымусіла развітацца з жыццём і бацьку. Магутны дух юнака таксама ўвесь час змагаўся з хваравітым целам. Гэтая драматычная барацьба ў значнай ступені адбілася на яго імклівай і кіпучай кампазітарскай творчасці. Ужо ў 25 гадоў Фрэдэрык стаў вядомым на ўсю Еўропу кампазітарам [351]. Да спадчыннай хваробы далучаліся і душэўныя драмы. Не паспеў Фрэдэрык выехаць у Парыж, як атрымаў вестку, што ягоная каханая Канстанцыя Гладкоўская выйшла замуж. У Дрэздэне ён сустрэў шаснаццацігадовую Марыю Вадзінскую, якую ведаў яшчэ дзіцем, і закахаўся ў яе. Аднак маці і сваякі дзяўчыны адмовілі музыканту, згадваючы і маладосць Марыі, і кволае здароўе Фрэдэрыка. Ён сапраўды вельмі цяжка перанёс зіму 1835—1836 гг., у Варшаве нават з'явіліся чуткі, што геніяльны музыка памёр [471, 497].



**Фрэдэрык Шапэн**

Са збораў Музея Ф. Шапэна ў Варшаве

Менавіта ў гэты час дарадцам кампазітара стаў Напалеон Орда. Дзякуючы падтрымцы сябра Шапэн пераадольваў душэўныя боль і раны. Памёр Шапэн у страшных пакутах, маючы ўсяго 39 гадоў ад нараджэння. Адбылося гэта ў шыкоўным парыжскім палацы на руках у сястры Людвікі, у прысутнасці Орды і ягонай жонкі Ірэны. Пазней наш зямляк маляваў дарагі сэрцу палац, дзе навекі заплюшчыліся вочы ягонага настаўніка, сябра і калегі. Усё жыццё Напалеон беражліва захоўваў апошнія лісты Фрэдэрыка.

У студзені 1849 г. вялікі кампазітар пісаў Орду: «Маё жыццё! З таго часу, як мы не бачыліся, я зусім захварэў, сёння жадаў быць у вас, але яшчэ не ў стане. Заўтра пайду на італьянцаў. Адшукай для мяне, нягледзячы на ўсе цяжкасці, два месцы — зрабі добрую справу. Твой адданы сябра Ш.» [245, 351]. А праз паўгода, адчуваючы



**Фрэдэрык Шапэн на смяротным ложы**

Копія, выкананая Н. Ордам з арыгінальнага малюнка

Надпіс на польскай мове: *Маляваў з натуры Тэафіл Квяткоўскі,* унізе: *Нарадзіўся* [Ф. Шапэн] *у Жалязовай Волі 1 сакавіка 1810 і памёр у Парыжы 17 кастрычніка 1849.* Подпіс: *Н. Орда*

Са збораў Музея Ф. Шапэна (М/114). Варшава

Фотакопія выканана аўтарам. 2007 г.

фінансавыя цяжкасці, Шапэн прасіў дапамагчы прадаць гадзіннік: «Мой мілы, з нагоды нашага даўняга сяброўства паспяшы. Бог за гэта вынесціць табе выдатнага хлопца-ліцвіна (пяцігадовага сына Вітольда.— *Аўт.*), а пані Ордзе дасць сто гадоў здароўя. Пакуль засведчы ёй, калі ласка, маю павагу. Абдымаю цябе слабей, чым раней, але з той жа сардэчнасцю. Твой Ш.» [245, 325, 342, 385].

Хто ведае, мажліва, Орда першы пасля смерці сябра адчыніў шуфляду камода, у якой ляжаў канверт з лістамі Марыі Вадзінскай і яе маці. Ён быў укладзены ў іншы канверт, на якім Фрэдэрык напісаў: «Мая бяда». Гэтыя канверты Шапэн зберагаў усё жыццё як ўспамін аб няспраўджаным каханні.

На радзіме вялікага кампазітара ў Жалязовай Волі ў аднаўленым доме створаны Музей Ф. Шапэна. Тут захоўваюцца матэрыялы ягонай перапіскі з Н. Ордам. А ў Варшаве існуюць таварыства і Музей Ф. Шапэна, у якім захоўваюцца рэдкія рэліквіі: арыгінал малюнка Н. Орды «Ф. Шапэн на смяротным ложы» і зборнік твораў Ф. Шапэна з ягоным аўтографам для Напалеона Орды [342].



**Ігнат Дамейка**
Гравюра 1-й паловы XIX ст.
Са збораў Варшаўскай нацыянальнай бібліятэкі

## 19. Новыя знаёмствы і творчы рост

Парыжскае жыццё Орды было надзвычай насычаным і плённым. Ён меў магчымасць пазнаёміцца з Ігнатам Дамейкам, таксама нараджэнцам беларускай зямлі, выдатным вучоным-даследчыкам, геолагам, картографам. І. Дамейка таксама вучыўся ў Віленскім універсітэце, сябраваў з А. Міцкевічам і Я. Чачотам, браў чынны ўдзел у таварыстве філаматаў, што мела лозунгам словы: *«Айчына, Навука, Дабрачыннасць».* У 1822 г., маючы за плячыма ўсяго 20 гадоў, Ігнат паспяхова абараніў ступень магістра філасофіі, аднак за ўдзел у дэмакратычным руху быў арыштаваны і сасланы.

Пасля паўстання 1830—1831 гг. І. Дамейка вымушаны эміграваць. У Парыжы ён шмат дапамагаў Адаму Міцкевічу, разам з іншымі ў 1833 г. падпісаў ліст да былых паўстанцаў, у якім перасцерагаў іх ад паспешлівых дзеянняў. Праз чатыры гады І. Дамейка склаў і пракамеціраваў геалагічную, гідраграфічную і гаспадарчую карты зямель Польшчы і Беларусі. У якасці аднаго з найлепшых спецыялістаў, малады вучоны прыняў запрашэнне чылійскага ўрада, падпісаў кантракт і працаваў у Чылі, дзе заняўся горнымі справамі. У далейшым Дамейку не толькі абвясцілі нацыянальным героем Чылі, але і ягоным імем назвалі горад і горны хрыбет у Андах. У чылійскай сталіцы знакамітаму беларусу ўсталяваны помнік, на якім высечаныя словы: «Вялікаму Асветніку» [220].

Менавіта з геаграфічным атласам, выкананым Ігнатам Дамейкам, Напалеон Орда прайшоў па гістарычных мясцінах Беларусі і Польшчы, пакінуўшы нашчадкам мноства непаўторных замалёвак і акварэляў.

У 1834—1835 гг. Напалеон Орда меў ласку сустракацца з маладым, але ўжо вядомым на той час кампазітарам Ферэнцам Лістам. Паміж 1823 і 1835 гг. венгерскі піяніст-віртуоз літаральна паланіў парыжскую публіку. Ужо ў дваццаць гадоў Ліст дасягнуў сусветнай славы, гастралюючы па Еўропе. У Веймарскім тэатры ён паставіў больш за 40 опер, выканаў усе сімфоніі Л. ван Бетховена, творы Г. Берліёза, Р. Шумана, М. Глінкі і іншых кампазітараў [289].

На адным з музычных вечароў у салоне Жорж Санд, арганізаваных Фрэдэрыкам Шапэнам, адбылося знаёмства Н. Орды з Ф. Лістам. Апошні ўважліва праслухаў творы беларускага імігранта, станоўча ацаніў ягонае майстэрства і параіў сур'ёзна займацца музычнай кампазіцыяй, прадракаючы Орду вялікую славу. У хуткасці наш зямляк спраўдзіў спадзяванні сусветна вядомага музыканта і кампазітара [343].







**Тытульныя лісты паланезаў Н. Орды**

Са збораў Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве

Фота аўтара. 2006 г.

## 20. На крылах мастацтва

З часу першай вандроўкі ў Францыю Напалеон Орда пачаў праяўляць асаблівую цікавасць да выяўленчага мастацтва. Па прапанове Шапэна напрыканцы 1830-х гг. ён наведваў студыю вядомага французскага майстра П'ера Жырара. Асабліва блізкімі яму былі пейзажныя карціны гэтага мастака [367].

Ад'язджаючы ў эміграцыю, Напалеон не меў яшчэ завершанай мастацкай адукацыі. Можна меркаваць, што першым штуршком у маляванні стала яго жаданне ствараць вобразы, карысныя для будучых вандровак. Улюбёны ў архітэктурны пейзаж, ён аглядаў помнікі палаца-паркавага і сядзібнага мастацтва, гістарычныя мясціны — векапомныя руіны, што сустракаліся на шляху ў Францыю. Яны абудзілі ў юнаку закладзены прыродай талент, і ён, упэўніўся, што выбраны шлях правільны [375].

Паўстае пытанне, наколькі паўплывалі на мастацкую творчасць Н. Орды французскія майстры жывапісу. Можна сцвярджаць, што існуе падабенства мастацкіх прыёмаў, ужыватых імі. Манера аб'ядноўваць пейзаж з архітэктурным аб'ектам, якой Орда авалодаў у Парыжы, стала характэрнай рысай усіх ягоных пазнейшых твораў.







Тытульныя лісты музычных твораў Н. Орды

Са збораў Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве

Фота аўтара. 2006 г.

## 21. «Альбом твораў польскіх кампазітараў»

Фрэдэрык Шапэн даволі высока цаніў кампазітарскі талент Н. Орды, часта выконваў фартэпіянныя творы сябра. У 1838 г. менавіта Фрэдэрык прапанаваў Напалеону выдаць свае музычныя творы. Так у адным з парыжскіх выдавецтваў пабачыў свет «Альбом твораў польскіх кампазітараў», куды былі ўключаны некалькі фартэпіянных мініяцюр Орды, якія ён сам лічыў найбольш удалымі [449]. Сродкі, атрыманыя ад продажу «Альбома…», былі накіраваны на дапамогу імігрантам з Беларусі [172, 375].

Праз пэўны час Напалеон Орда таксама выдаў свае танцавальныя мініяцюры, якія адразу знайшлі прыхільнасць у слухачоў і разышліся па ўсёй Францыі і карысталіся даволі значнай папулярнасцю.

На словы А. Плуга Н. Орда напісаў надзвычай цікавы твор пад назвай «Старая песенька», прысвечаны Т. Ю. Пякарскаму. «...Песенка» існавала ў двух варыянтах: першы — інструментальны твор у тэмпе жвавай мазуркі, другі — песня для голасу (раманс) больш спакойнага характару ў суправаджэнні фартэпіяна [223].

Перавыданне зборніка мініяцюр у Варшаве адбылося толькі ў 1882 г. У яго ўвайшлі музычныя творы Н. Орды на словы С. Вітвіцкага і А. Плуга [471].







**Тытульны ліст музычнага твора Н. Орды: «Старая песенька»,** прысвечаная Тадэвушу Юстыну Пякарскаму

Са збораў Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве

Фота аўтара. 2006 г.

N. Orda & Cie

Maison de Commission

9 Rue Louis-le-Grand

Paris, le 9. 8bre 1848

Szanowny Panie!

Januszkiewicz przed wyjazdem z Paryża wziął u mnie 300 f na kontę dzieła mówiąc mi że te pieniądze będą mi zapłacone z summy przeznaczonej p. P. X. Branickiego – nie mając szczególnego od niego polecenia, nie mogę się więc o tę Moń u niego też dopominać.

Upraszam więc Szanownego Pana Adama abyś raczył dopomódz mi do odebrania tych pieniędzy, najlepiej byłoby aby to wprost przeszło przez Pańskie ręce.

Życzliwy Sługa

N. Orda



**Ліст перапіскі Н. Орды ў Парыжы. 1848 г.**

Са збораў Музея А. Міцкевіча ў Парыжы
Перададзены музейнаму комплексу Н. Орды ў 2005 г.

На жаль, таленавіты выканаўца-імправізатар, які часцей іграў для сябе і сваёй стомленай душы, не заўсёды запісваў свае творы. Часам за ігрою Напалеон уяўляў постаці маці, сястры, абрысы родных Варацэвічаў — любы сэрцу край. Тады музыкант асабліва адчуваў адзіноту, шчымліва абуджаліся жаданне знайсці сваю палавінку, але ж згадкі пра горкае каханне Шапэна не давала яму спакою.

Цяжка сказаць, што тады мроілася маладзёну, якімі бачыў ён перспектывы сямейнага дабрабыту… Толькі на вочы пакуль не траплялася тая адзіная, што была наканавана яму лёсам. А дні, месяцы, гады беглі імкліва, прыносячы задавальненне толькі ад плённай працы.

## 22. Сярод кіпучай дзейнасці

Значную ролю ў фарміраванні светапогляду імігрантаў адыграла створанае ў сярэдзіне 1830-х гг. Парыжскае гісторыка-літаратурнае таварыства, у якое ўвайшлі прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі французскай сталіцы.

З 1838 г. сябрам таварыства становіцца і Напалеон Орда. Паводле даследаванняў Я. Калубовіча, 21 лістапада 1839 г. па запрашэнні гэтай арганізацыі былы паўстанцкі паручнік і паэт Аляксандр Рыпінскі прачытаў лекцыю пра Беларусь, яе мову, літаратуру і фальклор. У Парыжы ён падтрымліваў сяброўскія адносіны з землякамі, у тым ліку з Міцкевічам і Ордам. Рыпінскі выдаў кнігу, у якой дзяліўся ведамі пра Беларусь, расказваў пра яе паднявольны стан [157, 350].

З вялікай цікавасцю сябры таварыства азнаёміліся з заклікам «Да рускага, польскага і ўсіх славянскіх народаў», напісаным расійскім рэвалюцыянерам М. Бакуніным, блізкім да эмігранцкіх колаў Францыі і Англіі. Словы Бакуніна моцным рэхам адгукнуліся ў сэрцах ліцвінаў-беларусаў. (І сёння расійскія гісторыкі амаль ігнаруюць гэты твор, надрукаваны ў «Колоколе».) Аўтар сцвярджаў: «Палякі, магчыма, будуць патрабаваць надта шмат… не абмяжуюцца Царствам Польскім, а выкажуць гістарычныя прэтэнзіі на Літву, Беларусь… і ўсю Украіну… У такім выпадку яны дапусцяць вялікую памылку. Я думаю, што… Украіна… і Беларусь будуць самастойнымі членамі агульнаславянскага саюза. Я патрабую толькі адзінага, каб кожнаму народу, кожнаму вялікаму і малому племені давалі магчымасць і правы самастойна вырашаць лёс: калі захоча ён зліцца з Расіяй ці Польшчай — няхай зліваецца; хоча быць самастойным — няхай будзе і, нарэшце, узнікне ў яго жаданне зусім аддзяліцца ад усіх і жыць цалкам асобнай дзяржавай… няхай аддзяляецца. Бог з ім, з веліччу пятроўскай, кацярынінскай, мікалаеўскай, што прымусілі расійскі народ выконваць ролю ката… Мы шукалі сілу і славу, а… заслужылі нянавісць і праклянцце ў прыдушаных намі народаў… І воля нам, воля гераічнай Польшчы, воля Беларусі, Літве, Украіне!..» [157].

Імігранты актыўна распаўсюджвалі сярод патрыятычна настроеных людзей бакунінскі заклік, што стала пачаткам падрыхтоўкі да новага ўздыму нацыянальна-вызваленчага руху на іх радзіме.

## 23. У студыі П'ера Жырара

Выбар Напалеонам Ордам Парыжа ў якасці новага месца жыхарства адбыўся невыпадкова. Творчыя людзі тут мелі больш шанцаў рэалізаваць сябе. У аўтабіяграфічных нататках майстра пісаў: «…у Францыі мы былі больш шчаслівыя за іншых, паколькі нас атачалі людзі, што спрыялі нам, а ўлады не адмаўляліся падтрымліваць нас». Яшчэ раней у дзённіку наш зямляк заўважыў: «*Я ведаў, што знайду там* (у Парыжы.— Аўт.) *шмат знаёмых і сяброў, што яны заўсёды дапамогуць альбо акажуць сяброўскую паслугу*» [26, 158, 282].

Як слушна падкрэслівае В. Дадзіёмава, на тое, што Орда спыніўся менавіта ў Парыжы, паўплывала ўсведамленне ім ролі сталіцы Францыі як культурнага цэнтра сусветнага ўзроўню [122]. Тут дзейнічалі цэлыя школы пейзажыстаў, квітнелі плыні выяўленчага мастацтва, ствараліся непаўторныя палотны, на якіх прырода складала галоўны змест. Для выкладання ў Парыж запрашаліся мастакі з Італіі, Іспаніі і Галандыі.

Орда апынуўся сярод таленавітых людзей. Новыя знаёмствы падштурхнулі здольнага, неабыякавага да прыгажосці маладога чалавека, прысвяціць сябе не толькі музыцы, але і выяўленчаму мастацтву.



**Постаць Ісуса Хрыста**

Праца Г. Скірмунт
Крыж выразаны Н. Ордам
Захоўваецца ў касцёле г. Іванава
Фота аўтара. 2007 г.

Яшчэ раней Напалеон рабіў невялічкія замалёўкі мясцін, у якіх бываў. Аднойчы ён паказаў іх Шапэну, і той ацаніў мастацкія здольнасці сябра і параіў працягваць маляванне. Верагодна, таму напрыканцы 1830-х гг. Орда пачаў браць урокі жывапісу і скульптуры ў студыі даволі вядомага французскага мастака-пейзажыста П'ера Жырара (1806—1872). Як сцвярджаюць даследчыкі, той захапляўся архітэктурнымі пейзажамі, на якіх абавязкова прысутнічалі антычныя аб'екты: руіны старажытных збудаванняў, замкі, храмы, змешчаныя на фоне маляўнічых краявідаў [367, 373].

Неўзабаве Напалеон Орда авалодаў майстэрствам рысавальшчыка, заваяваўшы добрымі вынікамі і стараннасцю асаблівы давер настаўніка, з якім пачаў нават сябраваць. На занятках у студыі ў маладога чалавека зарадзілася вострае жаданне стварыць гісторыка-хранікальную мастацкую серыю. Ён яшчэ не ўяўляў да канца, як будзе выглядаць гэтая праца, але ў сэрцы ўжо выспела ідэя [177].

Вядома таксама, што ў аўтабіяграфіі Н. Орда пісаў таксама пра тое што менавіта ў студыі П. Жырара далучыўся да разьбярства. З ордаўскіх прац захавалася адзінае драўлянае ўкрыжаванне, змешчанае раней у пінскім францысканскім касцёле з надпісам

на памятнай шыльдзе: «Фігура Хрыста, выкананая Геленай Скірмунт у 1871 г. Крыж выразаны Напалеонам Ордам. Уласнасць Гартэнзіі Скірмунт. 1878» [369, 381, 495]. Цяпер укрыжаванне захоўваецца ў касцёле г. Іванава.

# Творчыя вандроўкі па Еўропе

## РАЗДЗЕЛ VI

## 24. Па гістарычных мясцінах Францыі і Рэйнскай зямлі

З надыходам ранняй вясны 1840 г. Напалеон Орда пачаў сваё першае творчае падарожжа па гістарычных мясцінах Францыі і Рэйнскай зямлі, дзе ён спрабаваў сябе ў якасці мастака-пейзажыста, мастака-вандроўніка, мастака-гісторыка.

На думку Л. Пракопчыка, Орда надзвычай старанна рыхтаваўся да творчых падарожжаў і потым прытрымліваўся ўсталяванага парадку. Папярэдне ён наймаў альбо купляў каня з невялікай брычкай, што абавязкова — на выпадак дрэннага надвор'я — мела закрыты верх. Пры складанні маршрутаў працаваў у бібліятэках Парыжа, асабліва цікавіўся архівамі, ствараў уласныя мапы як далёкіх, так і блізкіх мясцовасцей [244].

Мастак выдатна валодаў французскай мовай, ведаў італьянскую і нямецкую. Гэта здымала ўсялякія моўныя бар'еры пры сустрэчах з мясцовымі жыхарамі, што ведалі мінулае, чым значна дапаўнялі веды вандроўніка[245].

За паўтара года падарожжаў па Францыі і Рэйнскай даліне Напалеон Орда стварыў першую папку малюнкаў. Ён практычна не карыстаўся алейнымі фарбамі, найчасцей пісаў акварэллю ці алоўкам. Гэтыя малюнкі з цікавасцю ўспрынялі сябры і былыя настаўнікі.

На вялікі жаль, з гэтай папкі захавалася толькі некалькі твораў — пераважна выявы краявідаў і архітэктурных будынкаў, што ўдала спалучаліся паміж сабою.

Як лічыць М. Качаноўская, першы цыкл ордаўскіх малюнкаў уключаў некалькі замкаў над Рэйнам, мястэчкі, невялікія гарады і вёскі, змешчаныя ў перадгор'і. Сярод прац гэтага цыкла неабходна выдзеліць краявіды Кобленцыі і Насау, Картрэ і Фантэнбла [367]. У апошнім горадзе Орда бываў некалькі разоў (1840, 1842 і 1844). Гэтае старадаўняе паселішча заўжды вабіла мастакоў ды гісторыкаў. Яно складала найпрыгажэйшы архітэктурны ансамбль, у цэнтры якога размяшчаўся каралеўскі палац — рэзідэнцыя французскіх каралёў, пабудаваная Францыскам I у 1527 г. [333].

На малюнку Напалеона Орды Фантэнбла — прадмесце з некалькімі будынкамі, уязной дарогай і мемарыяльным знакам-абеліскам. Магчыма, на акварэлі адлюстраваны будынкі колішняй сядзібы Цэлтнераў у прадмесці Бярвіль, дзе пражываў на пачатку XIX ст. генерал Тадэвуш Касцюшка. Аднак гэта толькі здагадка, паколькі нам падаецца, што Орда проста не мог абмінуць гістарычныя мясціны, знітаваныя з імем славутага земляка.

У малюнках першага цыкла пры перадачы хараства краявідаў яшчэ быццам прысутнічаюць простасць і нейкая няўпэўненасць. Аднак рука мастака ўжо здолела бездакорна выканаць небасхіл з вялікай колькасцю аблокаў і хмар. Гэтая манера і пазней застанецца характэрнай рысай ягоных твораў.

## 25. Вандроўкі па паўднёвых землях

Атрымаўшы грашовую дапамогу ад іміграцкіх дабрачынных арганізацый Парыжа, Напалеон Орда на кароткі тэрмін пераехаў у Партугалію. На падставе прац, якія Орда звычайна датаваў, можна з упэўненасцю сцвярджаць, што гэтае падарожжа выпала на 2-ю палову 1842 г. [375].




**Н. Орда. Фантэнбла.** 1844 г.
**Від вуліцы з помнікам у форме абеліска.**

Датавана: *Фантэнбла. 11.10.1844 г.*
Малюнак алоўкам. 14x22

III-r. a. 5024 (Teka Podróże Zagraniczne). MNK




**Н. Орда. Мадрыд. Плошча Святой Кацярыны.** 1842 г.
Надпіс: *Мадрыд. Пьяца Сант-Кацярына (?)*
Малюнак алоўкам, дапоўнены акварэллю. 15,6x22,1
III-г. а. 4957 (Teka Podróże Zagraniczne). MNK

Каб надалей пазбегнуць памылак і мастацкіх недакладнасцей, што прысутнічалі ў ранейшых працах, Напалеон прыслухаўся да заўваг П. Жырара. Таму малюнкі іспанскага ды партугальскага перыядаў маюць ужо большую дакладнасць пры перадачы архітэктурных формаў. З веданнем справы мастак перадаў падрабязнасці абшараў, прытрымліваўся неабходных прапорцый, удала ацэньваў прыгажосць наваколляў, а галоўнае — рабіў гэта дасканала, не толькі падаючы на палатне дакументальныя сведчанні пра аб'ект, але і ствараючы рамантычны настрой [367]. З гэтага часу ўсе акварэлі мастак выконваў у адзіным фармаце, прапрацоўваў літаральна кожную дэталь, паказваў гульню святла і ценю, што ўзмацняла каляровую выразнасць твора.

Напалеон Орда быў добра знаёмы з выдавецтвамі Парыжа, якія выпускалі шматлікія мастацкія альбомы французскіх, італьянскіх і нямецкіх мастакоў. Наш зямляк, на думку М. Качаноўскай, таксама меў жаданне выдаць свой альбом французскіх пейзажаў. Аднак у крыніцах няма ніякіх сведчанняў пра тое, што такі намер знайшоў увасабленне [367].

Захавалася 43 працы французскага цыкла, выкананыя акварэллю, алоўкам і сепіяй (цёмна-бурым фарбавальнікам, які наносіўся ў тэхніцы, набліжанай да акварэлі і пісьма пяром).

Можна зрабіць высновы, што заняткі з П. Жырарам узброілі Орду шматлікімі тэхнічнымі ды мастацкімі прыёмамі, карыснымі не толькі падчас вандровак па Захадзе, але і пазней. Мастак тонка адчуваў навакольную прастору і на малюнках размяшчаў удала архітэктурныя аб'екты. Ён нічога не губляў, амаль дакументальна перадаваў усе рысы натуры і такім чынам ствараў хоць і невялікія, але высокамастацкія кампазіцыі.

Сярод твораў гэтага перыяду (1840—1844) сустракаецца шэраг малюнкаў, на якіх краявід дамінуе над архітэктурнымі і гістарычнымі аб'ектамі. У прыватнасці, у такім стылі выкананы пейзажы паблізу Севільі, Барселоны, Кадзіра — гарадскія ваколіцы, вадаспад з каскадамі ў Іспаніі.

У другім іспана-партугальскім цыкле Н. Орда пашырыў тэматыку, ствараючы панарамы гарадоў: цудоўна выкананы агульныя выявы Мадрыда, Гранады, Картахена, Малагі, Севільі, Барселоны. Панарамнае адлюстраванне гарадоў мастак запазычыў, верагодна, таксама ад французскіх майстроў архітэктурнага пейзажа, працы якіх склалі аснову літаграфічных альбомаў Францыі XIX ст. [495].

Іспанскія малюнкі Напалеона былі выкананы з ачуваннем усіх тонкасцяў межаў колеру (каларыстыкі). Яскравым таму пацвярджэннем з'яўляецца выгляд Лісабона з каралеўскім палацам.

Разам з панарамамі, складанымі ў тэхнічным выкананні, мастак зрабіў шэраг невялікіх кампазіцый і асобных аб'ектаў. Побач са звычайнымі дамамі ён замалёўваў рэзідэнцыі слынных асоб, дзе разгортваліся гістарычныя падзеі і цікавыя з'явы, дзе складваліся лёсы дзеячаў палітыкі і мастацтва.

На акварэлях гэтага перыяду мы бачым палацы і замкі, музеі і плошчы, брамы і масты, падворкі і вуліцы. (Многія з гэтых аб'ектаў ужо не існуюць на сённяшні дзень.) Аналіз мастацкіх твораў Напалеона Орды дазваляе зрабіць выснову, што ён цікавіўся галоўным чынам аб'ектамі, звязанымі з мінулым краін, з выключнымі асобамі і падзеямі (войнамі, рэвалюцыямі, прыроднымі катаклізмамі).

На жаль, захавалася зусім мала малюнкаў і акварэляў, выкананых Ордам у Алжыры, Швейцарыі, Галандыі, Англіі і Італіі, пра што сведчаць успаміны Т. Ролі, прысвечаныя нашаму мастаку [479].

## РАЗДЗЕЛ VII

## 26. Жаніцьба

Пра каханую Напалеона Орды Ірэну (Ірэн) Бугле (Бугль) пакуль што вядома да крыўднага мала. Дзе, калі і пры якіх абставінах майстра закахаўся ў маладую і прывабную францужанку таксама няма дакладных сведчанняў. Вядома толькі, што Ірэна нарадзілася ў 1825 г. у Парыжы.

Верагодна, знаёмства 34-гадовага Напалеона з Ірэнай адбылося на вечарыне ў адным з музычных салонаў Парыжа.

Паўстае пытанне, чаму ён не ажаніўся раней і чаму ўзяў шлюб менавіта з іншаземкай? Сярод імігрантаў Парыжа сустракалася шмат вядомых сем'яў, быў выбар сярод нявест, аднак Напалеон працягнуў руку і аддаў сэрца француджанцы.

Паводле адной з версій, на познюю жаніцьбу мастака паўплывала поўнае драматызму жыццё і няспраўджанае каханне ягонага сябра Шапэна. Орда бачыў пакуты вялікага маэстра, перажываў за яго, быў яму дарадцам ў складаныя моманты жыцця, як мог дапамагаў сябру акрыяць ад хваробы.

У 1843 г. пасля кароткатэрміновага вяртання з творчай вандроўкі па Іспаніі і Партугаліі нарэшце адбыўся шлюб 36-гадовага Напалеона Орды з 18-гадовай Ірэнай Бугль. Такія позднія шлюбы сталых мужчын з юнымі нявестамі былі на той час даволі распаўсюджанымі.

24 красавіка 1844 г. Ірэна падаравала мужу сына Вітольда. Хоць імя дзіцяці выбраў Напалеон ці ягоная маці Юзафіна, але хлопчык выхоўваўся пераважна пад наглядам маці. Ірэна прывіла Вітольду любоў да французскай культуры. У сям'і панавала французская мова. Каб сын не страціў канчаткова сувязі з Польшчай і Беларуссю, бацька пазней стварыў «Граматыку польскай мовы для французаў» [458].

Пра жыццё Вітольда Орды захаваліся ўрывістыя згадкі. У польскіх энцыклапедыях часам памылкова згадваецца, што Вітольд вярнуўся ў Варацэвічы, жыў у маёнтку Навашыцы, які выкупіў для яго бацька, але дакументальна гэты факт нічым не пацверджаны. Дадзеную версію паўтарае вядомая даследчыца гісторыі польскай эміграцыі ў Францыі Барбара Канарская, а за ёй і іншыя аўтары біяграфічных артыкулаў пра Н. Орду [383, 384].

Дакладна вядома, што Вітольд служыў у французскай арміі і прыязджаў на кароткі час у Варацэвічы. Пасля адстаўкі жыў з маці ў Парыжы, быў жанаты з француджанкай Леанцінай, меў дачку Ліку, дачакаўся ўнучкі Анрыет. (Іншых падрабязнасцей з жыцця і дзейнасці сына Напалеона Орды намі пакуль не выяўлена. Патрэбна больш глыбока вывучаць матэрыялы, што захоўваюцца ў архівах Францыі.)

## 27. У Італьянскай оперы Парыжа

Асноўным кірункам палітычнага жыцця тагачаснага Парыжа было актыўнае разгортванне ліберальнага руху, выклікане незадаволенасцю палітыкай Бурбонаў. Гэтая акалічнасць у пэўнай меры спрыяла шырокаму распаўсюджванню вольналюбівых ідэй у асяроддзі творчай інтэлігенцыі.

Палітычная атмасфера французскай сталіцы яднала прадстаўнікоў эміграцыі, у тым ліку выхадцаў з былой Рэчы Паспалітай. Асабліва шчыравалі ў гэтай справе лідэры эміграцыі А. Чартарыйскі, І. Лелявель, М. Махнацкі, Цэзар і Людвік Плятэры. Яны спрабавалі наладзіць сістэму адукацыі на польскай мове, стваралі бібліятэкі і культурныя таварыствы, арганізоўвалі выданне газет, часопісаў і кніг [158].

Nr 4
N. 484

243

Moy Szanowny Jakubowski

Dowiedziałem się wczoray z Wołowskim
który przyrzekł starać się dla nas o
audiencyą u Cavaignaca, i znam[illegible] za
czem przyjdzie podać naszą prośbę
jeśli tego będzie potrzeba

Pani Domańska która ci ten
list odda prosi o [illegible]
jeśli [illegible] się to [illegible] co
się udzieli —

Życzliwy

N. Orda




19. Sierpnia 1848.

**Ліст перапіскі Н. Орды з Якубоўскім. Парыж. 19 жніўня 1848 г.**

Са збораў Музея А. Міцкевіча ў Парыжы
Перададзены музейнаму комплексу Н. Орды ў 2005 г.

138 nr. 1

N. Orda & Cie

Maison de Commission

9, Rue Louis-le-Grand

Paris, le 9 Kwietnia 1848.

Szanowny Jakubowski

Polecam Komitetowi mego dobrego znajomego Pana Dobrowolskiego który potrzebuje pomocy do wyjazdu

Życzliwy Sługa

N. Orda




[illegible]
[illegible] i Litwa
przez Obywatela Ordy - ale [illegible]
[illegible]
[illegible] a zatem [illegible]
[illegible]
[illegible]
Dobrowolski.

**Ліст перапіскі Н. Орды з Якубоўскім. Парыж. 1848 г.**

Са збораў Музея А. Міцкевіча ў Парыжы
Перададзены музейнаму комплексу Н. Орды ў 2005 г.

Паступова імігранцкі Парыж пачаў выконваць функцыю сапраўднай культурнай сталіцы Польшчы.

Напалеон Орда як чалавек шырокага светапогляду не заставаўся ўбаку ад грамадскага жыцця іміграцкага Парыжа. Ён ужо меў шэраг музычных прац і кампазітарскіх твораў, стаў пастаянным госцем музычных вечарын, канцэртных праграм, творчых сустрэч і дыскусій і здолеў заняць прыкметнае становішча ў якасці педагога і кампазітара [158].

Таму невыпадкова, што ў 1847 г. Таварыства акцыянераў Італьянскай оперы ў Парыжы — аднаго з самых вядомых музычных тэатраў Еўропы — прапанавала Н. Орду пасаду дырэктара. Ён згадзіўся, бо прапанова з'явілася вельмі дарэчы: стабільны заробак для сям'і быў вельмі патрэбны. Аднак яго дырэктарства працягвалася толькі адзін сезон. З-за спрэчак, што ўзніклі паміж членамі праўлення, тэатр на наступны год быў зачынены. Пасля гэтага Напалеон Орда вымушаны быў зноў зарабляць на жыццё выкладаннем музыкі і жывапісу [471]. Пэўны час ён таксама займаўся публіцыстыкай. Але вынікі гэтай дзейнасці ацаніць немагчыма, паколькі свае артыкулы кампазітар выдаваў найчасцей ананімна.

## 28. Спроба камерцыйнай дзейнасці

Пасля жаніцьбы і няўдалага дырэктарства ў музычным тэатры фінансавыя праблемы Напалеона Орды ўскладніліся. Каб неяк матэрыяльна забяспечыць сям'ю, ён пачаў спрабаваць сябе ў камерцыйнай дзейнасці.

У 1849 г. разам з сябрам Аляксандрам Макоўскім Н. Орда адкрыў у Парыжы гандлёва-камісійны дом, аб чым у сваім першым нумары паведаміла папулярная парыжская газета «Трыбюн дэ Пёпль». Пачалі збіраць на продаж розныя рэчы, пераважна тыя, што ўжо былі ва ўжытку.

У аддзеле рукапісаў Варшаўскай нацыянальнай бібліятэкі захоўваецца ліст Н. Орды ў Львоў да князёўны А. Панінскай. Змест ліста сведчыць, што А. Панінская была каляжанкай Н. Орды ў гандлі.

Гандлявалі яны чым толькі маглі, у тым ліку «каронкамі» з найлепшых фабрык Парыжа, «рамамі для цяпліц», «бюстам Рымскага Папы», пярсцёнкамі з каштоўнымі камянямі, літаратурай, у тым ліку палітычнай, нават лістамі Прудона і генерала Лафаета,— знакамітага змагара за незалежнасць ЗША, паплечніка Касцюшкі [62, 63].

Алена Панінская знаходзілася пад уздзеяннем поглядаў французскага філосафа Прудона, не хавала да яго сваіх сімпатый. Яна пісала, што «праект Прудона аб крэдытах ідзе ў нагу з прагрэсам, з'яўляецца зернем невядомых дагэтуль элементаў народнага багацця… мае будучыню, а палітычныя ўстановы ўжо сёння павінны ўлічваць гэтую акалічнасць і пастаянна перабудоўвацца па меры сацыяльнага прагрэсу» [325].

Але як ні спрабаваў Напалеон Орда знайсці сябе ў камерцыйнай справе, ён не здолеў у прадпрымальніцтве наладзіць неабходны абарот.

З самага пачатку гандлёвы дом знаходзіўся ў пазыках, і неўзабаве яго чакала канчатковае банкруцтва. Напалеон Орда са шкадаваннем адчуў адсутнасць у сябе камерцыйных схільнасцей і быў вымушаны кінуць пачатую справу, страціўшы пры гэтым шмат часу, энергіі і фінансавых сродкаў.

## 29. Удзел у Камісіі эміграцыйнага фонду

Камісія была створана яшчэ на пачатку 1830-х гг. Яе заснавальнікам і першым старшынёй стаў генерал Ю. Дзвярніцкі (ён браў удзел у паўстанні 1830—1831 гг., а таму быў вымушаны ратавацца ад жандараў за мяжой). Назва камісіі цалкам адпавядала

N. 419

241

№3

Pan Beker prosi mnie abym go przedstawił do Komitetu —

Niewiem na iakim prawie Komitet może przyjść ze wsparciem racz to przedstawić na przyszłej Sessyi —

Życzliwy Sługa

N. Orda

d. 8. Lipca 1848.




**Ліст перапіскі Н. Орды з Якубоўскім. Парыж. 1848 г.**

Са збораў Музея А. Міцкевіча ў Парыжы
Перададзены музейнаму комплексу Н. Орды ў 2005 г.

высакародным мэтам і задачам, узятым на сабе яе заснавальнікамі. Поўная яе назва гучала наступным чынам: «Камісія эміграцыйнага фонду, створаная генералам Дзвярніцкім для падтрымкі бедных суайчыннікаў» [73—78].

Сродкі фонду складалі каля 5 мільёнаў франкаў у год. Гэтую суму выдзяляў урад Францыі і зацвярджала Палата дэпутатаў. Фонд дапамагаў эмігрантам, што прыехалі з розных краін і хаваліся ў Францыі ад праследавання. Большасць выгнаннікаў складалі палякі і ліцвіны. Па падліках Н. Орды, ягоных землякоў у французскай эміграцыі налічвалася каля 6 тысяч, другая іх вялікая частка, што напачатку хавалася ў Прусіі, шукала прытулку ў Англіі і Амерыцы [108].

Хто патрапіў у Францыю, лічыў сябе шчаслівейшым за іншых, бо адчуваў прыхільнасць улад, грамадскасці і эміграцкага асяродка часоў касцюшкаўскага паўстання. У суседняй Англіі, як падкрэсліў Напалеон Орда, быў таксама створаны камітэт для збору міласціны. Кіраваў ім лорд Д. Сцюарт. Але брытанскі ўрад, практычна, не папаўняў эміграцкага фонду, таму дапамога ў Англіі была мізэрнай. Асабліва пакутавалі афіцэры: яны ведалі толькі ваенную справу і з цяжкасцю прыстасоўваліся да замежных абставінаў. Народ у Англіі быў ашчадны, разважлівы і эгаістычны і нічым не паляпшаў стан выгнаннікаў.

У дзённіку Н. Орда згадаў выпадак, пра які яму паведаміў знаёмы. Адзін з імігрантаў папрасіўся да шаўца, каб навучыцца ягонаму рамяству. Майстар быў добрым чалавекам, прыняў яго. Але праз некалькі дзён да яго прыйшлі работнікі майстэрні і заявілі, што калі ён не прагоніць паляка, то яны заўтра пакінуць майстэрню, бо чужаземец аднімае частку іх заробку [26].

З першых дзён эміграцыі Напалеон Орда заваяваў павагу сярод землякоў. Свой першы ганарар ад выдання «Альбома твораў польскіх кампазітараў» ён накіраваў на дапамогу збяднелым эмігрантам. Гэты дух братэрства ён пранёс праз усё жыццё. Менавіта таму яго аднагалосна абралі сябрам Камісіі эміграцкага фонду, які займаўся працаўладкаваннем дарослых і апекай над пажылымі і хворымі, дапамагаў моладзі ў вучобе.

На гэта ў Н. Орды заўжды хапала часу. Да яго ішлі не толькі па фінансавую дапамогу, але і на параду па сямейных і бытавых справах. Ён не абяцаў, а адразу вырашаў пытанні.

## 30. «Граматыка польскай мовы для французаў»

Час бег імкліва, у пастаянных клопатах. У 1849 г. пайшоў з жыцця адзін з найлепшых сяброў Орды Фрэдэрык Шапэн. Яго заўчасная смерць прымусіла мастака яшчэ глыбей задумацца над сэнсам жыцця. Ім апанавала высакародная мэта — адраджэнне зняволенай Айчыны... і дзеля гэтага трэба пісаць яе гісторыю алоўкам і пэндзлем.

А што будзе рабіць яго сын, чым будзе ён займацца, якую карысць прынясе Айчыне? Яму ўжо пяць гадоў, расце і выхоўваецца ў чужым краі. Маці Вітольда, Ірэна Эдуардаўна, польскай мовы не ведала. У сям'і размаўлялі па-французску, гувернантка таксама была француженкай. Як адзначаў сам Орда, сын рос *«на парыжскім бруку»* [63]. У аналагічнай сітуацыі апынуліся дзеці іншых польскіх і беларускіх эмігрантаў, але ж вучыць дзяцей мове іх бацькоў і дзядоў было неабходна.

У Напалеона Орды нарадзілася ідэя стварыць падручнік для свайго сына Вітольда і іншых дзяцей. Ідэя складаная для ажыццяўлення, але пад сілу такім апантаным і мэтанакіраваным асобам, як ён сам. Тым больш што яго падтрымалі сябры з эміграцкага асяродка і абяцалі фінансавую падтрымку.

Каля трох гадоў упартай працы пайшло на ажыццяўленне гэтай арыгінальнай ідэі. Напалеон падбіраў гістарычныя сюжэты, прымальныя для дзяцей, і гэта нарэшце

# GRAMMAIRE

ANALYTIQUE ET PRATIQUE

DE LA

# LANGUE POLONAISE

A L'USAGE DES FRANÇAIS

PAR

N. ORDA

Służmy poczciwéj sprawie, a jako kto może,
Niech ku pożytku dobra spólnego pomoże.
JAN KOCHANOWSKI.

Faire aimer le travail, répandre le savoir,
C'est propager le bien, et remplir son devoir.
D'ESCODECA DE BOISSE.






PARIS

IMPRIMERIE DE L. MARTINET

RUE MIGNON, 2.

1856.

**Н. Орда. Тытульны ліст «Граматыкі польскай мовы для французаў». 1856 г.**

Са збораў універсітэцкай бібліятэкі ў Варшаве

Фота аўтара. 2006 г.

прынесла плён. У 1856 г. у Парыжы выдадзена першая частка «Граматыкі польскай мовы для французаў». Аднак на гэтым Н. Орда не спыніўся: ён карпатліва працаваў над кнігай, дапаўняў яе. Праз два гады ў Берліне выйшла другая частка «Граматыкі...». Нарэшце ў 1874 г. у Варшаве з'явілася трэцяе, значна перапрацаванае, выданне падручніка. Сваю працу аўтар прысвяціў сыну Вітольду [459, 468].

Па «Граматыцы...» Орда навучыў жонку і сына мове, зразумелай не толькі ў Польшчы, але і ў роднай Беларусі. (Сёння некалькі экзэмпляраў кнігі захоўваюцца ў Варшаўскай нацыянальнай бібліятэцы і бібліятэцы Ягелонскага універсітэта ў Кракаве.)

Між іншым, у музычных творах Н. Орды, нараджэнца Беларусі і яе патрыёта, які на маляўнічых палотнах адлюстраваў хараство роднага краю, пакутніка за сацыяльныя інтарэсы свайго народа, быццам не выяўляецца імкненне да стварэння ўласнабеларускіх, нацыянальна характэрных вобразаў. Кампазітар не звяртаўся да беларускай мовы і народнай творчасці і не цытаваў музычны фальклор. На гэта былі свае важкія прычыны: у айчыннай музычнай культуры працэс фарміравання нацыянальнай творчай школы на той час у сілу асаблівай сітуацыі разгарнуцца ў поўную сілу не мог.



**Гелена Скірмунт. Пінск. Каля касцёла**
Гравюра. 2-я палова XIX ст.
Фота са збораў музейнага комплексу Н. Орды

Аднак, як адзначаюць В. Дадзіёмава і І. Карпук, у колах парыжскай музычнай эліты, якая высока ацаніла творчасць Н. Орды і даверыла яму прэстыжны пост дырэктара Італьянскай оперы, ён усё ж застаўся найбольш блізкім сваім польска-ліцвінскім (у тым ліку і нараджэнцам Беларусі) суайчыннікам. Сярод іх — гісторык А. Незабытоўскі, паэт А. Ходзька, мастак В. Ваньковіч, фалькларыст А. Рыпінскі (аўтар кнігі «Беларусь), нарэшце, А. Міцкевіч, якому Н. Орда дапамог выдаць цыкл лекцый па гісторыі славянскіх літаратур, у якіх паэт узрушана выказваецца пра беларускі фальклор і беларускую мову як адну з самых багатых і сталых у славянскім свеце [223].

*Вяртанне на радзіму*

## РАЗДЗЕЛ VIII

### 31. Гаспадарчая дзейнасць у Варацэвічах

На пачатку каравання Аляксандра II на абсягах Расійскай імперыі пачалася лібералізацыя ўнутранага жыцця. Адным з першых актаў лібералізацыі з'явіўся Маніфест 1856 г., згодна з якім былыя ўдзельнікі паўстання 1830—1831 гг. атрымалі амністыю і права вярнуцца дамоў [157].

Напалеон Орда амаль чвэрць стагоддзя быў адарваны ад зямлі і магіл продкаў, ад Варацэвічаў і маці, сваякоў. Позняй восенню 1856 г. ён пераступіў парог бацькоўскага дома. У Варацэвічах яго сустракала 80-гадовая Юзафіна. Шмат цяжкіх часоў перажыла гэтая жанчына.

Яшчэ ў 1835 г. яна дала падпіску губернскім уладам аб тым, што рухомую маёмасць, жывёлу, гаспадарчыя прылады, адзенне і іншыя рэчы не ўтоіць ад паказу. Пасля вопісу маёнтка, зямельны надзел якога складалі 35 валокі і 2 моргі, вялася справа аб прэтэнзіях на апісаную маёмасць з боку суседа па маёнтку Багуслава Крашэўскага. У мэтах вызвален-

ня сына ад казённай недастачы Юзафіна пазычыла 7 тысяч злотых, выдаўшы закладную на частку маёнтка [200, 279]. Пакуль маці была жывая, Н. Орду дазвалялася пражываць і гаспадарыць у Варацэвіцкім маёнтку.

Жонка Ірэна і сын Вітольд засталіся ў Парыжы, а Напалеон ахвотна заняўся гаспадаркай, жадаючы перабудаваць яе на заходнееўрапейскі лад. Яму дазвалялася ўзяць у арэнду ў сваім радавым маёнтку тры казённыя фермы (мызы): Варацэвічы, Міланіна і Воснь. У прашэнні да Кобрынскага паліцэйскага ўпраўлення ён пісаў: *«Жадаючы, каб гэтыя фермы былі мне аддадзены на ўтрыманне на працяглы час і каб павялічыць за іх даход казне, я ўзяўся за паляпшэнне гаспадаркі»* [25]. Н. Орда стварыў фабрыку сельскагаспадарчых машын, закупіў пародзістых кароў, развёў на арэндных фермах 670 галоў жывёлы і 1000 іспанскіх авечак, збудаваў новыя памяшканні, распачаў меліярацыю, выкапаў 4000 сажняў каналаў для асушэння балот і палеткаў, імкнуўся аблегчыць працу сялян, часта наведваў і запрашаў сваякоў, каб падзяліцца практыкай вядзення гаспадаркі і атрымаць маральную падтрымку [282].

Усё разам дазволіла павысіць даходнасць фермаў на 30 %, пра што ён засведчыў далей у вышэйзгаданым прашэнні: *«Гэта ўсё зроблена без дапамогі казны і выдаткавана мною на ўсё здзейсненае 1 796 300 руб. серабром»* [25].

Як падкрэслівае А. Кулагін, па існуючым палажэнні аб казённых маёнтках гэта давала яму права на пераход фермаў з арэнднага стану ва ўласнае ўтрыманне. Таму ён звярнуўся да міністра дзяржаўнай маёмасці з просьбай аб перадачы гэтых фермаў ва ўласнае карыстанне з умовай выплаты ўсталяваных падаткавых збораў. Інакш, як ён пісаў, «...я прадбачу абсалютнае разарэнне майго стану...» [25].

Аднак, нягледзячы на завярэнні ў «...дабранадзейнасці і недатыкальнасці да ніякіх спраў сучаснага палітычнага часу...» , «...на памянёную гаспадарку не паследавала згоды» [223]. Такім чынам, царскі ўрад імкнуўся трымаць Н. Орду ў жорсткіх цуглях не толькі паліцэйскага нагляду, але і матэрыяльна-эканамічнага стрымлівання.

Адначасова мастак не забываўся пра аловак, рабіў замалёўкі родных мясцін. Як лічыць М. Качаноўская, самым раннім яго малюнкам з цыкла падарожжаў па Гродзеншчыне стала выява вострава ў садзе маёнтка Варацэвічы, выкананая праз тры месяцы пасля прыезду дамоў.

## 32. Развітанне з маці

З 1856 г. Орда амаль не пакідаў роднага гнязда. Адной з прычын гэтага стаў узрост маці, здароўе якой выклікала трывогу. Юзафіна дастойна пражыла свой век. Народжаная ў шляхецкай сям'і Мацея Бутрымовіча, актыўнага дзяржаўнага і гаспадарчага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага, некалі яна звязала свой лёс з Міхалам Ордам і падаравала свету таленавітых дзяцей, шчырых патрыётаў Бацькаўшчыны. Рана застаўшыся без мужа, жанчына без ваганняў усклала на сябе цяжар гаспадарчых спраў.

Юзафіна мужна перанесла чарговы ўдар лёсу — выключэнне сына з Віленскага універсітэта. Потым шмат клапацілася, каб вызваліць яго ад зняволення, настойліва раіла яму выехаць за мяжу. Яна ніколі не папракнула сына, што з-за яго палітычнай дзейнасці быў страчаны радавы маёнтак.

Напалеон Орда рабіў усё магчымае, каб апошнія гады жыцця самага блізкага яму чалавека прайшлі ў спакоі і згодзе. Лёс Бацькаўшчыны быў пастаяннай тэмай шматлікіх гутарак. Маці і сын добра разумелі, што пасля яе смерці маёнтак будзе цалкам канфіскаваны.



**Юзафіна — маці Н. Орды**

Барэльеф выканала Гелена Скірмунт, унучка Юзафіны, дачка Гартэнзіі.

199

Zacny J. Józefie Kraszewski!

Dopiero za moim powrotem do Polski potrafiłem poznać całą wartość Twoją, jako zacnego człowieka, obywatela i znakomitego naszego powieściopisarza — Szczycę się że jestem połączony związkiem krwi z Twoją familiją, —

Okoliczności i mnie zrobiły Autorem, napisałem Gramatykę Polską dla mego Syna a znaglony przez moich Kolegów w Paryżu ośmieliłem się ją wydać, bo innej dla biednych dzieci Emigrantów tam urodzonych niebyło.

Pozwól mi ją ofiarować Ci, jako dowód mojego Szacunku — Mam bowiem nadzieję że ta słaba moja praca może dopomóc niejednemu [illegible] cudzoziemcowi nauczenia się naszego bogatego języka a razem podzielenia z Twojemi rodakami tej Czci jaka Ci się słusznie należy

Napoleon Orda

1/13 Marca 1859.
Worocewicze —

**Ліст перапіскі Н. Орды з Ю. І. Крашэўскім. Варацэвічы. 1(13) сакавіка 1859 г.**

Са збораў Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве
Фота аўтара. 2006 г.

Але перад сконам маці паклапацілася, каб у сына з'явілася магчымасць узяць частку сядзібы ў арэнду [368].

Любімымі музычнымі творамі Юзафіны ў апошнія гады жыцця былі паланезы, вальсы, мазуркі, створаныя сынам, яна з вялікай радасцю і гонарам выконвала іх гасцям. На такіх вечарынах часта гучаў паланез Міхала Клеафаса Агінскага «Развітанне з радзімай». Гэты твор стаў сапраўдным увасабленнем яе жыццёвага і душэўнага стану.

Добраю памочніцаю Юзафіны ў часы эміграцыі Напалеона была яе дачка Гартэнзія, якая атрымала ў спадчыну палац, пабудаваны ў Пінску яе дзедам. Дачка часта наведвала любую матулю [228].

Цешыла Юзафіну і ўнучка Гелена, якая выявіла схільнасці да мастацтва. Менавіта Гелена выканала бронзавы барэльеф сваёй бабулі. Дачка Гелены Канстанцыя пазней прадоўжыла сямейныя традыцыі захавання і памнажэння гістарычнай спадчыны роду [471].

Ранняй вясной 1859 г. Юзафіны Орды не стала. Адпявалі яе ў янаўскім касцёле. Паводле сямейных традыцый і завяшчання Юзафіны, яна была пахавана побач з мужам Міхалам на янаўскіх каталіцкіх могілках у радавым склепе Ордаў.

## 33. Творчыя вандроўкі па родных мясцінах

Як падаюць даследчыкі мастацкай спадчыны Напалеона Орды, па кароткіх анатацыях, зробленых рукою самога мастака на палотнах, можна прыблізна вызначыць час яго творчых вандровак і тыя гістарычныя мясціны, дзе ён пабываў [200, 418, 450—457].

Пасля смерці маці Напалеон Орда нейкі час жыў у сястры Гартэнзіі ў пінскім палацы. Мастак бываў на Гродзеншчыне, у самім Гродне і ў Свіслачы, дзе некалі вучыўся. Ён абышоў і аб'ездзіў усю Беларусь, Літву і Польшчу. Заўважана, што Орда ніколі не пісаў зімніх пейзажаў. Узімку ён апрацоўваў свае замалёўкі, дамалёўваў акварэлі, вывучаў карты, складаў маршруты наступных падарожжаў, старанна рыхтаваўся да вандровак [223, 244].

Ужо адзначалася, што першым малюнкам Напалеона Орды стала адлюстраванне вострава ў варацэвіцкім садзе, потым з'явілася выява палаца Тызенгаўза ў Гродне [291]. Часам адбываліся раптоўныя выезды мастака далёка за межы роднага краю. Напрыклад, з Гродна ён хуценька накіраваўся пад Познань, дзе стварыў чатыры панарамы мястэчка Пянінкі [356, 367].

План стварыць сістэматызаваныя серыі гісторыка-архітэктурных пейзажаў Напалеону Орду падказаў пісьменнік і гісторык Юзаф Крашэўскі, да якога ставіўся з вялікай павагай [245, 356]. Патрыятычныя пачуцці і высокая адказнасць перад радзімай абудзіліся ў Н. Орды і Ю. Крашэўскага амаль аднач асова. Абодва былі выхаванцамі Свіслацкай гімназіі, потым студэнтамі Віленскага універсітэта і ўдзельнікамі паўстання 1830—1831 гг. [471]. Атрымаўшы падтрымку Ю. Крашэўскага, Напалеон з падвоенай энергіяй узяўся за аловак. Ён наведаў большасць гарадоў і мястэчак Беларусі, зрабіў эскізы ледзь не ўсіх помнікаў гісторыі і культуры краю, знітаваных з жыццём і дзейнасцю знакамітых суайчыннікаў.

Напалеон Орда амаль з дакументальнай дакладнасцю адлюстроўваў руіны замкаў, палацы і сядзібы аздабляў паркамі ці садамі. Гэта дазваляла перадаваць узвышаны, рамантычны настрой архітэктурных помнікаў.

Але першыя малюнкі, якія былі зроблены алоўкам у 1860-х гг., з пункту гледжання высокага мастацтва яшчэ былі не зусім выразнымі. На думку М. Качаноўскай, іх можна назваць дылетанцкімі, паколькі не пазбеглі пэўных хібаў і памылак [367].

У цыкл, прысвечаны Гродзенскай губерні, акрамя двух малюнкаў Варацэвіцкай сядзібы, увайшлі выявы Свіслачы 1868 г. з відамі Брэсцкай вуліцы і Гімназічнай плошчы.

Выявы Кобрына, акрамя гістарычнага і мастацкага, маюць выключнае спазнавальнае значэнне. Яны адлюстроўваюць даволі цікавую, ніколі не адзначаную біёграфамі старонку жыцця Орды. У прыватнасці, малюнкі з гэтай серыі, датаваныя 1866 г., маюць назвы «Шпіталь, вязніца» і «Мая турэмная камера». На малюнках паказаны памяшканні з невялікай колькасцю мэблі, якая даецца старызнай. На сцяне вісяць верхняя вопратка і шапка. Безумоўна, мастак паказаў пакой, дзе ён утрымліваўся пад следствам [375]. Калі ўлічыць, што сведчанняў пра пэўны перыяд жыцця Напалеона Орды захавалася вельмі мала, то гэтыя творы надзвычай каштоўныя.

## 34. Спадзяванні на адраджэнне Айчыны

Вандруючы па родных мясцінах ў канцы 50 — пачатку 60-х гг. XIX ст., Напалеон Орда адчуваў подых новага патрыятычнага ўздыму. Нацыянальна-вызваленчае паўстанне выспявала імкліва. Яно рыхтавалася польскімі і беларускімі арганізацыямі, што мелі сувязі з расійскімі рэвалюцыянерамі-дэмакратамі. Частку прыхільнікаў узброенага паўстання ў Польшчы, Беларусі і Літве, да якіх адносіўся Орда, называлі «чырвонымі» і яны падзялялі праграму расійскай рэвалюцыйнай арганізацыі «Зямля і воля» [289].

Галоўная роля ў рэалізацыі гэтай ідэі адводзілася шляхце. Праграму палітычных і эканамічных рэформаў распрацаваў створаны летам 1862 г. у Варшаве Цэнтральны нацыянальны камітэт (ЦНК).

Праграма ЦНК прадугледжвала, што памешчыкі захаваюць ранейшыя землеўладанні, а сяляне атрымаюць без выкупу надзелы, выдзеленыя ім пасля рэформы 1861 г. Прадугледжвалася ўраўняць у грамадскіх правах шляхту і сялянства, замяніць падушны падатак на падымны, акрамя таго, аднаўлялася уніяцкая царква і скасоўвалася дваццаціпяцігадовая рэкрутчына.

На перамовах у Лондане восенню 1862 г. выдаўцы часопіса «Колокол» А. Герцэн, А. Агароў і М. Бакунін настойліва папярэджвалі кіраўнікоў ЦНК, што іх праграма не знойдзе падтрымкі ў Расіі, таму раілі прыняць лозунгі рэвалюцыйных дэмакратаў: «Зямля — сялянам, воля — правінцыям». Аднак ЦНК не прыслухаўся да гэтых парад і адразу пасля выбуху паўстання 22 студзеня 1863 г. апублікаваў распрацаваную праграму, абвясціўшы сябе Часовым нацыянальным урадам на ўсёй тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай [91, 92].



**Рэчы паўстанцаў 1863 г.**

Са збораў Кракаўскага нацыянальнага музея

Фота аўтара. 2006 г.

З самага пачатку для многіх расіянаў і палякаў супрацьстаянне стала працягам справы бацькоў і дзядоў. Пасля падзелу Рэчы Паспалітай да пачатку 1860-х гг. на тры пакаленні выпала тры вайны Расіі з палякамі, беларусамі і літоўцамі (у 1794, 1812, 1830—1831 гг.).

Нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1863—1864 гг. выклікала новы ўздым антырасійскіх настрояў у англійскай і французскай прэсе. Паўстанне было не проста «мяцяжом», яно набыло характар татальнага супрацьстаяння Расіі і Еўропы. З усіх куткоў кантынента накіроўваліся ноты пратэсту супраць імперыі. Таму Д. А. Мілюцін пісаў, што вайна з еўрапейскімі краінамі можа стаць для Расіі гібельнай па прычыне слабасці ўзброеных сіл [83].

Ваеннае міністэрства тэрмінова павялічыла колькасць войскаў у еўрапейскай частцы на 167 тысяч чалавек. Улетку 1863 г. яны дасягнулі амаль 690 тысяч чалавек пры 1026 гарматах. Непасрэдна ў заходніх губернях у жніўні 1863 г. колькасць расійскай арміі налічвала 405 тысяч чалавек.

Разам з тым расійскія вайскоўцы неадназначна ставіліся да паўстання. Сярод афіцэраў сустракаліся тыя, што адкрыта заяўлялі пра нежаданне ўдзельнічаць у братазабойнай вайне. Існуе паданне, што калі ў паход была накіравана 2-я гвардзейская пяхотная дывізія, кіраўнік яе штаба палкоўнік М. Обручаў склаў з сябе паўнамоцтвы і пакінуў войска.

Старшынёй Літоўскага правінцыйнага камітэта ў кастрычніку 1862 г. стаў Кастусь Каліноўскі. Ён узяў курс на дасягненне раўнапраўнасці паміж Варшавай і Вільняй, агітаваў за перадачу зямлі сялянам і за разгортванне сялянскай рэвалюцыі, патрабаваў ліквідаваць шляхту («гнілую і разбэшчаную касту») і даць Літве і Беларусі правы на самавызначэнне. Свае погляды К. Каліноўскі выкладаў на старонках газеты «Мужыцкая праўда». Пасля абвяшчэння Варшаўскім ЦНК пачатку паўстання, ён абурыўся гэтым няўзгодненым рашэннем.

На пачатку сакавіка 1863 г. да паўстання далучылася частка буйных памешчыкаў і буржуазіі (так званыя «белыя»), якія дамагаліся аднаўлення польскай дзяржаўнасці мірным шляхам пры дапамозе заходніх краін, найперш Англіі і Францыі. У сакавіку «белыя» фактычна ўзялі ў свае рукі кіраўніцтва ў Польшчы, расфарміравалі часовы ўрад Літвы і Беларусі, замяніўшы яго Аддзелам кіраўніцтва правінцыямі Літвы. Паўсюдна была праведзена структурызацыя кіруючых органаў на губернскім і павятовым узроўнях. Каліноўскі вымушаны быў падпарадкавацца рашэнням «белых» і прыняць прызначэнне на пасаду гродзенскага ваяводскага камісара [289].

Фарміраванне мясцовых атрадаў і іх баявыя дзеянні пачаліся ў сакавіку — красавіку 1863 г. Царскія ўлады жорстка распраўляліся з паўстанцамі. Яшчэ ў лютым ля вёскі Боркі пад Пінскам быў разбіты атрад Р. Рагінскага. Вёскі, дзе паўстанцы праходзілі з абвяшчэннем маніфестаў ды аграрных дэкрэтаў, падвяргаліся рэпрэсіям.

Разрозненасць дзеянняў паўстанцкіх атрадаў на Берасцейшчыне, Гродзеншчыне, Міншчыне, Віцебшчыне і Магілёўшчыне, эканамічныя меры царскага ўрада ў адносінах да малазямельных сялян прадвызначылі трагічны вынік паўстання. У верасні 1863 г. у Беларусі і Літве яно было фактычна падаўлена. Паводле афіцыйных звестак, толькі ў Беларусі і Літве 128 чалавек былі пакараны смерцю, у тым ліку яго кіраўнік Кастусь Каліноўскі, і амаль 12 з паловай тысяч інсургентаў адпраўлены на катаргу ў Сібір.

Паўстанне выклікала небывалы ўздым антыпольскага настрою сярод расійскіх грамадзян (нават з ліберальна-дэмакратычнымі поглядамі). Яму супрацьстаяў толькі часопіс «Колокол». Праз дзяржаўныя ўстановы, друкаваныя выданні, рускую праваслаўную царкву, рускую школу і рускую мову царскі ўрад узняў моцную шавіністычную хвалю, якая ахапіла ўсю Расію.

Спадзяванні паўстанцаў на дапамогу заходніх дзяржаў таксама не спраўдзіліся. Значную ролю ў задушэнні руху адыграла здрада часткі «белых» і вышэйшага каталіцкага ду-

хавенства: яны ў самы разгар выступлення пайшлі на падпісанне прашэння на імя цара, у якім адракліся ад паўстання [83].

Прыхільнікаў узбройнага чыну пазбаўлялі маёнткаў і зямлі, усё гэта перадавалася царскім генералам і чыноўнікам. Большасць мясцовых настаўнікаў, медыкаў, навукоўцаў былі вывезены ў цэнтральныя губерні Расіі, а на іх месца прыбылі расійцы.

Як сведчаць архіўныя і друкаваныя крыніцы, сам Напалеон Орда, які знаходзіўся пад пільным наглядам паліцыі, не ўдзельнічаў у баявых дзеяннях, але пастаянна цікавіўся ходам паўстання і быў не супраць (а магчыма, нават садзейнічаў), каб служачыя ягонай фермы пайшлі ў паўстанцкія атрады [26].

## 35. Гаспадарчая дзейнасць. Новыя ідэі і вандроўкі

Пасля смерці маці Напалеон Орда застаўся без уласнага дома. Ягоны маёнтак Варацэвічы быў канфіскаваны, у ім пачалі гаспадарыць іншыя ўласнікі. Мастак набыў у арэнду толькі тры фермы былой спадчыны.

Орда працягваў займацца сельскагаспадарчымі справамі, вырошчваў гародніну, збожжа, разам са сваімі работнікамі даглядаў жывёлу, эксперыментаваў у вытворчасці сельскагаспадарчых машын і інвентару. Было шмат задум, аднак не ўсё атрымоўвалася. Значныя арэндныя плацяжы, невысокая ўраджайнасць палеткаў, бясконцы паліцэйскі нагляд, жыццёвая неўладкаванасць прымусілі Напалеона шукаць выйсце з такой сітуацыі. Знаходзіцца на ўласнай зямлі чужаком, не з'яўляцца яе гаспадаром для вольналюбівай асобы было надзвычай цяжка. У думках ужо жыла ідэя творчага пераўвасаблення гісторыі краю.

Адразу пасля смерці маці (магчыма, па яе прапанове) майстар пачаў ствараць «Граматыку музыкі» і зноў, як у канцы 1850-х гг., абходзіць і аб'язджаць родныя мясціны, сустракацца з сябрамі і ўплывовымі асобамі [495]. Вандруючы паміж вёскамі і гарадамі, ён знайшоў адметны спосаб адлюстравання помнікаў і гістарычных мясцін. Візуальна ён запамінаў, быццам «фатаграфаваў», аб'екты, каб потым па-мастацку ўзнавіць іх на палатне [375].

Пачынаючы з 1860 г., «Палескі Напалеон» вандраваў па Палессі, Гродзенскай і Мінскай губернях, неаднаразова наведваў Валынь, ствараючы даволі цікавыя тэматычныя цыклы.

Адначасова майстра пастаянна займаўся музычнай творчасцю. Пасля вяртання на радзіму ў Варшаве выдаваліся ягоныя вальсы, серэнады, калыханкі, а таксама песні, якія выйшлі раней у Парыжы.

Дванаццаць ягоных паланезаў выконваліся аркестрам варшаўскага тэатра. Пазней паланезы выпусціла асобным зборнікам выдавецтва Гебетнера і Вольфа (Варшава). На тытульным лісце зборніка змешчаны іх назвы: «Сяброўства», «Павольны (крок)», «Заручальны», «Паланез з заменай партнёра», «Расчараванне», «Шлюбны», «Пан Тадэвуш», «За кратамі», «Пан Войскі», «Паўночная зорка», «На чужыне», «Настальгія».

Шэраг музычных твораў, у першую чаргу паланезаў, Н. Орда прысвяціў сваім родным і сябрам. У прыватнасці, Юліі Марцінкевіч адрасаваў паланез № 1, Казіміру Скірмунту — № 2, Ірэне Альшэўскай са Скірмунтаў — № 3, Тытушу Альшэўскаму — № 4, сястры Эміліі Кужанецкай — № 5, нявестцы Леанціне Ордзе — № 6, Адаму Плугу (А. Пяткевічу) — № 7, жонцы Ірэне — № 8, Канстанціну Парчэўскаму — № 9, Зублікевічу — № 10, Эдмунду Краінскаму — № 11, памяці Ф. Шапэна — № 12, Ю. І. Крашэўскаму — № 13, сястры Гартэнзіі — № 14 [462].

Цяпер большасць твораў Н. Орды сталі спадчынай гісторыі, але лепшыя з іх, як адзначае А. Ахвердава, у наш час могуць упрыгожыць канцэртны і педагагічны рэпертуары піяністаў [223].

14 POLONEZÓW PRZEZ NAPOLEONA ORDĘ

WYDANIE POŚMIERTNE.

GRYWANE W TEATRZE ROZMAITOŚCI I NA KONCERTACH

POLONEZ № 1
ofiarowany Julii Marcinkiewicz.
POLONEZ № 2
ofiarowany Kazimierzowi Skirmuntowi.
POLONEZ № 3
ofiarowany Irenie z Skirmuntów Olszowskiej.
Cena Kop. 80.

POLONEZ № 7
ofiar. memu przyj. Ant. Pietkiewiczowi (Ad. Pług)
POLONEZ № 8
ofiarowany mojej Żonie Irenie Ordzinie.
POLONEZ № 9
ofiar. memu przyjacie. Konst. Parczewskiemu.
Cena Kop. 70.

fragm.

POLONEZ № 4
ofiarowany Tytusowi Olszowskiemu.
POLONEZ № 5
ofiarowany moiej Siostrze Emilii Kurzenieckiej.
POLONEZ № 6
ofiarowany mojej Synowej Leontynie Ordzinie.
Cena Rs. 1.

POLONEZ № 10
ofiarowany Zyblikiewiczowi.
POLONEZ № 11
ofiar. memu przyjaciel. Edmundowi Kraińskiemu.
POLONEZ № 12
ofiarowany pamięci Fryderyka Szopena (Chopin).
Cena Kop. 60.

POLONEZ № 13
ofiarowany J. I. Kraszewskiemu.
POLONEZ № 14
ofiarowany mojej Siostrze Hortensyi Skirmuntowej.
Cena kop. 60.

W WARSZAWIE, SKŁAD GŁÓWNY u GEBETHNERA i WOLFFA

**Тытульны ліст музычнага зборніка Н. Орды «14 паланезаў»**

Са збораў Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве

Фота аўтара. 2006 г.




**Тытульныя лісты музычных твораў Н. Орды: вальсы, паланез, накцюрн**

Са збораў Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве
Фота аўтара. 2006 г.

**Н. Орда. Кобрын. Шпіталь**
Агульны выгляд двухпавярховага будынка шпіталя. 1866 г. Надпіс: *Выгляд маёй вязніцы ў шпіталі*
Надпіс на падкладцы: *Шпіталь у Кобрыне* (вязніца Н. Орды)
Малюнак алоўкам. 19,1х25,7.

III-г. a. 4376 (Teka Grodzieńska). MNK

Уверсе: **Н. Орда. Кобрын. Шпітальная вязніца**
Унутраны выгляд камеры Напалеона Орды ў вязніцы. 1866 г.
Надпіс: *Мая вязніца з 1 сакавіка. Кобрын. З'ехаў 6 мая 1866 г.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня]*
Малюнак алоўкам. 20х25

III-г. a. 4377. (Teka Grodzieńska). MNK

Унізе: **Н. Орда. Кобрын. Шпітальная вязніца**
Унутраны выгляд камеры Напалеона Орды ў вязніцы. 1866 г.
Надпіс на падкладцы: *Вязніца [Н. Орды] у Кобрыне*
Малюнак алоўкам. 20х25

III-г. a. 4378. (Teka Grodzieńska). MNK



## 36. Зноў пад следствам

Пасля задушэння паўстання 1863—1864 гг. амаль тры гады ішлі следствы над ягонымі ўдзельнікамі і ўсімі падазронымі. Дарэчы, да пакарання прыцягвалі не толькі за непасрэдны ўдзел у баявых дзеяннях, але і за «публічныя чытанні і распаўсюджанне абуральных маніфестаў і пракламацый, падбухторванне жыхароў да мяцяжу». Відавочна, Напалеон Орда падпадаў пад апошняе абвінавачанне [368]. Нягледзячы на тое, што ў той бурлівы час ён мірна жыў і займаўся гаспадаркай, адгалосак рэвалюцыйных падзей не абмінуў і яго. 14 сакавіка 1866 г. у Орды быў учынены вобыск. У рабочым кабінеце знайшлі палітычную літаратуру (газеты, лісты і кнігі), у якой былі заклікі да барацьбы супраць царызму, за свабоду і вызваленне з-пад расійскай акупацыі, дзённік, прысвечаны сыну Вітальду. У гістарычным архіве Гродна захоўваецца некалькі старонак з гэтага дзённіка, які мае назву «Знаходжанне ў Парыжы з 1833 г.». У дзённіку зроблены запісы дробным почыркам на польскай мове аб парыжскім перыядзе жыцця і дзейнасці [26, 223].

Да следчай справы дадавалася парахаўніца з порахам, захоўваць якія катэгарычна забаранялася. Данёс на Орду ягоны аднадворац Чарніцкі, які быў у паўстанцкім атрадзе. Як сведчаць матэрыялы з канцыляры гродзенскага губернатара, сутнасць абвінавачання заключалася ў тым, што Орда быццам падбухторваў Чарніцкага вярнуцца назад у «шайку». Аднак следства не выявіла доказаў віны мастака. Тым не менш справа працягвалася. Напалеона Орду таксама абвінавацілі ў тым, што ён адправіў работнікаў фермы ў атрад, а свайго сына Вітольда — на службу ў французскую армію без



**Н. Орда. Горкі**
**Поле бітвы Траўгута**

Агульны від поля бітвы
На пярэднім плане — свежыя магілы паўстанцаў, на другім — месца стаянкі атрада. 1863 г.

Надпіс: *Поле бітвы Траўгута*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю

III-r. a. 4365 (Teka Grodzieńska). MNK

Горкі — вёска на тэрыторыі Любяшоўскага раёна Украіны, на мяжы з Іванаўскім раёнам Беларусі. Наваколле вёскі звязана з дзейнасцю атрада Рамуальда Траўгута ў час паўстання 1863—1864 гг., кіраўніка Кобрынскага атрада. Перспектывы паўстання ён ацэньваў даволі песімістычна, але як патрыёт уступіў у шэрагі паўстанцаў без ваганняў. У глухіх лясах паблізу Антопаля ён арганізаваў лагер, узначаліў Кобрынскі атрад, наладзіў узмоцненую яго падрыхтоўку.

Праз два тыдні пасля стварэння атрада царскія войскі пачалі ціснуць паўстанцаў. Тройчы ў маі 1863 г. яны вытрымалі аблогу з баямі каля Горак і фальварка Града (цяпер Іванаўскі раён). Царскае камандаванне кінула супраць Р. Траўгута значныя сілы: чатыры роты пяхоты, дзве сотні казакоў пры дзвюх гарматах на чале з генералам Эгерам. Трэці бой, які адбыўся 25 мая, быў самы напружаны. Кобрынскі атрад, які налічваў 160 чалавек, з цяжкімі стратамі рушыў у глыб Палесся. Паспяховая сутычка з расійскімі войскамі адбылася 23 чэрвеня 1863 г. каля Століна, затым пад Калодным, пасля чаго Р. Траўгут распусціў свой атрад, а сам накіраваўся патаемным шляхам у Варшаву. У красавіку 1864 г. ён быў схоплены расійскімі жандарамі і павешаны каля сцен варшаўскай цытадэлі.

дазволу расійскіх дзяржаўных органаў [24, 26]. Абвінавачанні былі даволі сур'ёзныя, і, паводле распараджэння генерал-лейтэнанта Манюціна, матэрыялы па Ордавай справе накіравалі на разгляд вайсковага трыбунала. Мастак быў арыштаваны і пасаджаны ў кобрынскую вязніцу.

У судовых дакументах адзначалася, што селянін Малафей Ліпскі з фермы Варацэвічы прызнаваўся, як у адзін з красавіцкіх вечароў 1863 г. яго запрасіў слуга Орды Філіп Гілевіч у буфет, дзе ўжо знаходзіліся іншыя работнікі: Раўчук, Казлюк і памочнік пісара Манчук. Яны падгаворвалі Ліпскага пайсці ў «шайку» мяцежнікаў. Калі селянін сказаў, што не ўмее страляць, то Орда, які знаходзіўся паблізу, быццам запэўніў, што ў атрадзе яго страляць навучаць. Затым работнікі фермы на фурманцы накіраваліся ў лес, але Ліпскі адстаў ад сваіх паплечнікаў. Следчыя заслухалі таксама паказанні Дзімідзюка, вазніцы Орды, і той таксама засведчыў, што работнікі сапраўды загадалі яму ехаць у лес, пра што ён і паведаміў раніцай гаспадару [26].

Напалеон Орда патлумачыў, што ў згаданы дзень Ліпскага не бачыў, таму нічога яму не казаў, а даведаўся пра гэты выпадак толькі наступнай раніцай. Ён лічыў, што Ліпскі, падбухтораны нядобразычліўцамі, паклёпнічаў на яго. Наконт захавання шкодных матэрыялаў Орда адказаў, што невялікую колькасць пораху трымае для лячэння жывёлы, а забароненую літаратуру, паперу ды пракламацыі пакінуў у яго шляхціц Дмахоўскі на паліцы паміж старымі кнігамі задоўга да мяцяжу.

Далейшы разгляд справы адбываўся наступным чынам. Малафей Ліпскі перад трыбуналам прызнаўся, што дадзеныя 23 лютага 1866 г. у прысутнасці начальніка Кобрынскага жандарскага ўпраўлення штабс-капітана Сямёнава паказанні ён зрабіў ад страху. А ў сапраўднасці па запрашэнні Філіпа Гілевіча ён зайшоў са стайні ў буфет, дзе яму прапанавалі выпіць. Між тым работнікі фермы пачалі яго ўгаворваць накіравацца ў лес, а Напалеон Орда ў буфет не заглядваў, нічога Ліпскаму не гаварыў. Яны нават у той вечар не бачыліся. Пасля вяртання з лесу, селянін да Орды не заходзіў, а накіраваўся проста да станавога прыстава. Не застаўшы таго дома, пайшоў у валаснос праўленне да пісара Урбана, якому ўсё і расказаў.

Следства над Напалеонам Ордам і яго судовая справа цягнуліся з 22 студзеня 1866 г. да 7 красавіка 1867 г. Прысуд быў наступны: за захаванне пораху і папер абуральнага характару, накіраванне сына на вайсковую службу ў французскую армію і слабы кантроль над прыслугай, якая збегла ў «шайку», вайсковы суд палічыў Орду крымінальным злачынцам чацвёртага разраду, пазначанага ў правілах аб парадку налажэння спагнання на ўдзельнікаў паўстання. Мастаку было вызначана доўгатэрміновае ўтрыманне пад арыштам у аддаленых месцах Сібіры.

Асобы, што мелі дачыненне да гэтай справы, таксама атрымалі прадпісанні. Былы прыстаў Кобрынскага павета падпаручнік Баржаў, які дапусціў падробку матэрыялаў дазнання, Ірэна Орда, якая дазволіла пайсці сыну Вітольду ў французскае войска, і Маеўскі, які не ажыццявіў належнага нагляду за работнікамі, паводле 398-га і 402-га артыкулаў ваенна-крымінальнага статута Расійскай імперыі, павінны былі адказваць за свае парушэнні перад мясцовымі органамі кіравання.

Аднак Напалеону Орду на гэты раз моцна пашанцавала. Аўдытар ваенна-судовай камісіі Мікрукоў і прапаршчык Грыгаровіч не падпісалі вышэйзгаданы прыгавор.

Справа ў тым, што Мікалай Барысаў, падпаручнік 101-га Пермскага пяхотнага палка, удзельнік падаўлення паўстання, быў падчас следства станавым прыставам у Кобрыне і вёў допыты Орды і іншых асоб. Як сведчаць матэрыялы вайсковага суда, Барысаў перапісваў матэрыялы дазнання па-новаму, бо яны мелі шмат памылак і былі залітыя чарніламі. Перапісаць сведчанні Напалеона Орды ён перадаручыў пісару Бузіловічу, у выніку



**Н. Орда. Пінск з паўднёвага боку.** 1863 г.
Гравюра, змешчаная ў часопісе «Tygodnik Ilustrowany» за 4 ліпеня 1863 г.

з тэксту заключнага прыгавору знікла згадка пра 348-ы артыкул ваенна-крымінальнага статута. Так ці інакш, але падпаручнік зрабіў добрую паслугу падсуднаму. Гэтак Орда ўратаваўся ад высылкі на катаргу ў Сібір. Канчатковы прыгавор быў ужо не такі жорсткі. Напалеон Орда аддаваўся на парукі, з яго быў спагнаны штраф на карысць асоб, што папакутавалі ад мяцяжу, у памеры 200 рублёў [26].

## 37. Прыезд Ірэны

Згодна з архіўнымі крыніцамі, жонка Напалеона Орды Ірэна Бугль наведвала Беларусь не менш як тры разы. У гэтыя вандроўкі яна брала з сабою сына Вітольда Эдуарда Генрыха (Анры).

Першы прыезд Ірэны адбыўся ў 1857 г., праз год пасля вяртання Орды ў Варацэвічы. Тады яшчэ жыла маці Напалеона, якая ветліва прыняла нявестку з унукам у Варацэвіцкім маёнтку. Магчыма, тады сям'я наведала Пінск. Калі ўлічыць, што Вітольд нарадзіўся ў 1844 г., яму было на той час 13 гадоў [26].

Хутчэй за ўсё першая паездка Ірэны на радзіму мужа была спазнавальнай. Ірэну і Вітольда цікавіла тут усё: вёска і побыт вяскоўцаў і іх традыцыі. Канешне ж, іх хваляваў лёс маёмасці на Беларусі. У тым жа годзе яны паехалі ў Парыж.

Ірэна вярталася яшчэ двойчы, але гэта былі не столькі візіты да мужа, колькі адказ на выклікі следчай камісіі, што разглядала судовую справу. У 1859 г. Ірэна з сынам прыехала ў Варацэвічы на пахаванне Юзафіны Орды. Хоць Вітольд і не быў моцна прывязаны да бабулі, аднак яе смерць перажываў моцна. Праз год ён выехаў у Гданьск, дзе пачаў вучыцца ў камерцыйным вучылішчы.

POLONEZ ODBIJANY
na
FORTEPIAN
napisany i ofiarowany
J. W.nej Hrabinie Maryi z Xiążąt
SAPIEHÓW
WŁADYSŁAWOWEJ BRANICKIEJ
PRZEZ
NAPOLEONA ORDĘ.

Cena 37½ kop.

W WARSZAWIE
u G. Sennewalda.
w KIJOWIE u A. Kocipińskiego (Turkułł). — w WILNIE u J. Zawadzkiego.
w St PETERSBURGU u A. Büttner.
w lit. Mękarskiego № 411 Krak. Przedm.



**Тытульныя лісты музычных твораў Н. Орды: паланез, мазурка, вальс**

Са збораў Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве

Фота аўтара. 2006 г.



**Н. Орда. Чуднаў. Сядзіба Жавускіх**

Малюнак алоўкам. 17,8х27,5

Rys. Pol. 13958. MNW

Калі ўзбудзілі судовую справу, звязаную з дачыненнем мастака да паўстання 1863—1864 гг., Напалеона і Ірэну абвінавацілі ў незаконным накіраванні сына ў французскую армію. Следчыя даказвалі, што Вітольд павінен быў служыць у расійскім войску. Каб даць паказанні ў судзе, Ірэна яшчэ раз прыехала (1867) у Пінск і Кобрын. Напалеон Орда тады знаходзіўся ў шпіталі кобрынскай турмы. Ён засведчыў, што ў 1863 г., каб сын па прыкладу іншых маладых людзей не ўступіў у паўстанцкі атрад, дазволіў Вітольду пайсці на вайсковую службу ў французскую армію. Гэтае тлумачэнне было пацверджана нотай французскага пасла ў Санкт-Пецярбургу і словамі Ірэны Орды (Бугль), занатаванымі 10 жніўнем 1867 г. [26].

## 38. Заканчэнне следства. Гувернёр у доме Жавускага

Напалеон Орда адбываў, як падае Ю. Дужык, зняволенне ў Гродне і Астрогу [325]. Але гэта памылковае меркаванне. Больш грунтоўныя даследаванні супярэчаць выказванню Ю. Дужыка. Тры ордаўскія малюнкі, пад якімі ён уласнаручна напісаў: «Бальніца, турма» і «Мая турэмная камера. 1866», сведчаць, што яго трымалі пад следствам у адным з пакояў кобрынскага шпіталю.

Падпісаўшы 30 мая 1867 г. заяву на імя гродзенскага губернатара, Напалеон выйшаў на волю. Ён цудам ўратаваўся ад катаргі ці пажыццёвай высылкі ў далёкія расійскія губерні. Магчыма, за яго хадайнічалі знаёмыя і сваякі. Майстра вызвалілі, але спагналі штраф, пазбавілі права арэнды і, забараніўшы жыць у Варацэвічах, усталявалі пільны нагляд. Хутка ён атрымаў запрашэнне ад Гартэнзіі, якая клікала брата пасяліцца ў Пінску ці ў іншых яе палескіх маёнтках.

У аўтабіяграфіі мастак занатаваў: *«Дамогшыся вызвалення, вярнуўся да мастацтва. Не маючы ніякай схільнасці да гаспадарчых спраў, пачаў пісаць, ствараць, займацца разьбой і маляваннем»* [63]. За кароткі час ён склаў новы план творчых вандровак, узяўся за кнігі, энцыклапедыі, карты, наведваў бібліятэкі багатых маёнткаў. Яго не пакінула жаданне завяршыць «Граматыку музыкі», распачатую яшчэ да арышту. Майстра старанна збіраў матэрыялы і амаль штодзённа пісаў гэтае даследаванне. Ён быў ужо даволі папулярнай асобай на Палессі, Валыні, Польшчы, атрымоўваў пісьмы ад вядомых грамадскіх і палітычных дзеячаў ды магнатаў з запрашэннем пагасцяваць у іх сядзібах [346].

Вялікую цікавасць выклікала ў Напалеона Орды Валынская губерня: тут ён выканаў 177 прац. Каля дзевяці гадоў (з 1862 г.) цягнуліся ягоныя вандроўкі. У выніку з'явіліся цудоўныя акварэлі шматлікіх рэзідэнцый і шляхецкіх сядзіб, арганічна злітных з навакольнымі краявідамі [375].

Да ліку мясцін, якія пісаў Орда на Валыні, адносяцца Антаніны графоў Патоцкіх, Берастэчка — горад з багатай гісторыяй, Любар і Луцк з замкам і рэшткамі касцёла, Млынаў — рэзідэнцыя магнатаў Хадкевічаў, Астрог — ахутанае легендамі і таямніцамі радавое гняздо князёў Астрожскіх, Славута з рэзідэнцыямі Жавускіх ды Патоцкіх. Ад вока мастака не схаваліся прыкметы новага жыцця — прамысловыя і будаўнічыя аб'екты. У прыватнасці, да нас дайшлі выявы сукнавальні і завода металічных вырабаў графоў Патоцкіх.

Прыгожа выглядаюць мястэчкі Сцяпань з руінамі замка і сінагогі XVII ст., Шапятоўка — сядзіба Рамана Сангушкі з заводам па выпуску мінеральных вод, Заслаўль з замкам і касцёлам, Жытомір з кафедральным саборам і домам губернатара. Як падае М. Качаноўская, усе гэтыя працы падмаляваны акварэллю і сепіяй, але дзе-нідзе бачная лёгкая прарысоўка алоўкам. Творы выкананы з тонкім адчуваннем колеру. Асабліва вылучаецца

пейзаж з палацам у Підымках, напісаны далікатна з дамінуючай светла-жоўтай фарбай. Такія працы пераклікаюцца з акварэлямі вядомага мастака Хрысціяна Браслаўэра.

На пачатку 1870-х гг. Напалеона Орду запрасіў да сябе вядомы генерал Адам Жавускі, пецярбургскі ваенны губернатар, які валодаў шэрагам рэзідэнцый на Валыні, у тым ліку маёнткам Верхаўня, размешчаным на рацэ Верхавянцы. Жонка генерала Ядвіга (псеўданім Леліва) была вядомай польскай пісьменніцай. Амаль 14 месяцаў мастак з'яўляўся гувернёрам і настаўнікам музыкі і малявання старэйшага сына Жавускіх Станіслава (1864— каля 1912), жыў у маёнтках Чуднаў, Славута, Парабішчыцы, Баршчаёвіцы, Верхаўня, але не знаходзіў асалоды ад такога занятку, хоць Жавускія і былі вядомымі ў краі мецэнатамі.

Раней у іх доме жыў пісьменнік Ян Баршчэўскі, аўтар кнігі «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях». Пляменніца Адама Жавускага Эвеліна Ганская стала жонкаю славутага французскага пісьменніка Анарэ дэ Бальзака, другая пляменніца Караліна Сабанская была каханкаю Аляксандра Пушкіна. Побач з Чуднавым жыў іх брат, вядомы польскі пісьменнік Генрык Жавускі. Відавочна, гэта спачатку прыцягвала Орду ў сям'ю, дзе шанавалі мастацтва і творцаў [282]. Акрамя таго, мастак адчуў, што ў ім абудзілася сапраўднае захапленне маляўнічымі краявідамі Валыні і Кіеўскай губерні, іх помнікамі старажытнасці. Спакваля ён пачаў збіраць матэрыялы для цыкла прац, прысвечаных гэтай зямлі. Калі ў 1-й палове 1873 г. Адам Жавускі разам з сям'ёй выехаў з маёнтка Верхаўня ў Францыю, Напалеон атрымаў магчымасць пакінуць працу гувернёра. Пра гэты перыяд яго жыцця сведчаць дзесяць акварэляў з гістарычнымі пейзажамі маёнтка і вёскі Верхаўня, датаваныя 1870—1872 гг.



**Станіслаў Манюшка**

Літаграфія. 2-я палова XIX ст.

Са збораў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве

## 39. Выданне «Граматыкі музыкі...»

Семнаццаць гадоў на радзіме для Напалеона Орды былі напоўнены бурлівай творчай дзейнасцю. Айчына быццам падаравала крылы ягонаму таленту. Менавіта на зямлі прадкаў Орда стварыў лепшыя свае музычныя і мастацкія творы. Узорам ягонай творчасці стала праца «Граматыка музыкі, альбо Аналітычны і практычны выклад мелодыі і гармоніі з кароткім дадаткам пра фугу, кантрапункт, аркестровыя інструменты, арган, фартэпіяна і навуку аб спевах для ўжытку піяністаў» [459]. Зборы матэрыялаў для напісання «Граматыкі музыкі...» былі распачаты яшчэ ў 1860-я гг. Гэтая праца па вядомых прычынах, у першую чаргу з-за драматычных жыццёвых падзей, расцягнулася ажно на дзесяць гадоў. Толькі ў 1870 г. рукапіс быў завершаны. На тытульным лісце аўтар напісаў: «Шаноўнаму земляку і нашаму кампазітару Станіславу Манюшку з павагай да ягоных музычных заслуг прысвячаю сваю працу».

З радасцю і хваляваннем паехаў Напалеон Орда ў 1870 г. у Варшаву, каб паказаць працу праслаўленаму мэтру. На той час ён лічыўся адным з буйнейшых дырыжораў і кампазітараў у Еўропе.

Станіслаў Манюшка нарадзіўся на Беларусі, у фальварку Убель каля Чэрвеня і ніколі не забываў пра сваю Айчыну. Вакальныя творы Манюшкі, напісаныя на вершы і тэксты нашых славутых землякоў А. Міцкевіча, Я. Чачота, І. Ходзькі, Т. Зана, Э. Адынца, У. Сыракомлі, В. Дуніна-Марцінкевіча, з'яўляюцца шэдэўрамі беларускай музычнай класікі.

Калі Орда наведаў Станіслава Манюшку, той цяжка хварэў. Хваробу значна ўзмацнялі халодныя адносіны варшаўскай публікі да асобных твораў вялікага кампазітара. Магчыма, яго складаны душэўны стан у нейкай меры і адбіўся на характары той сустрэчы, аднак на рукапісе Орды слынны кампазітар усё ж пакінуў аўтограф: «З асалодаю чытаў працу пра гармонію Напалеона Орды. Яна падаецца мне найбольш поўнай і даступнай

GRAMATYKA MUZYKI

CZYLI

WYKŁAD ROZBIOROWY i PRAKTYCZNY

MELODYI i HARMONII

z dodatkiem w krótkości

o fudze, kontrapunkcie, instrumentach orkiestrowych, o organie, fortepianie i o nauce śpiewu,

DLA UŻYTKU PIANISTÓW

NAPISANA PRZEZ

NAPOLEONA ORDĘ.

Część I.

WARSZAWA.

W DRUKARNI JANA JAWORSKIEGO,

PRZY ULICY KRAKOWSKIE-PRZEDMIEŚCIE NR. 415.

1873.

**Н. Орда. Тытульны ліст «Граматыкі музыкі...».** 1873 г.

Са збораў Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве

Фота аўтара. 2006 г.

для разумення. Толькі тое крыўдна, што сапраўдных аматараў музыкі, для чыёй карысці створана гэтая праца, ёсць у нас вельмі мала, і што яшчэ горш — хутка змяншаецца. Пра пошук выдаўца нават думаць немагчыма...» Напрыканцы кампазітар дадаў: «...збянтэжаны дабрынёй спадара Орды, які прысвяціў мне такую годную кнігу» [240].

Аднак Орда не паддаўся роспачы і ўпарта рыхтаваў кнігу да выдання. Ужо 11 снежня 1872 г. ён атрымаў у Варшаве дазвол цэнзара. Неўзабаве знайшоўся і выдавец. У 1873 г. «Граматыка музыкі...» была надрукавана выдавецтвам Яна Яворскага. На вялікі жаль, галоўны рэцэнзент і вялікі музыкант Станіслаў Манюшка, якому прысвячалася кніга, роўна год не дажыў да гэтай прыемнай падзеі [289].

Асноўная мэта працы акрэслена Ордам наступным чынам: *«Прапаноўваю гэты дапаможнік для піяністаў, якія самастойна <...> змогуць прайсці гэты курс <...> пасля чаго будуць лёгка чытаць трактаты па гармоніі, раней незразумелыя для іх»*. Майстар імкнуўся далучыць пачынаючых музыкантаў *«да навукі гармоніі, якая паважаецца за вялікую працу і мазалі»* [458, 459]. З гэтага вынікае, што аўтар Орда прызначаў свой падручнік для карыстання ў першую чаргу музыкантам-аматарам і бачыў у ім своеасаблівы водгук на патрабаванні тагачаснага музычнага мастацтва.

Нельга сказаць, што ў Заходняй Еўропе не існавалі навуковыя даследаванні і спецыяльныя падручнікі для практычнага вывучэння тэорыі музыкі. Наадварот, было шмат грунтоўных прац. Сярод іх неабходна адзначыць «Асновы вывучэння аб мелодыі» (1737) І. Матэзона, «Трактат пра гармонію» (1722) Ж. Ф. Рамо, «Мелодыя як сутнасць і асаблівасць» (1755) К. Нікельмана, «Пачатак музычнай кампазіцыі» (1747) Г. Зорге, «Трактат пра мелодыю» (1814) А. Рэйха, «Сістэма музычных ведаў і музычнай кампазіцыі» (1827) Даж'е, чатырохтомнае выданне А. Маркса «Вучэнне пра кампазіцыю» (1837—1847) [158—160].

Зусім іншая справа склалася з падручнікамі для музыкантаў-аматараў. Такіх выданняў не хапала. Таму «Граматыка музыкі...», створаная Ордам для выхавання аматараў хатняй ігры, у пэўнай меры запоўніла існуючую лакуну, тым самым паспрыяла развіццю творчых здольнасцей вучняў.

Кніга складалася з дзвюх частак (320 старонак), падзялялася на 22 лекцыі і 129 параграфаў. Яна мела зладжаную сістэма, што адпавядала спецыфіцы навучання гармоніі, элементарнай тэорыі музыкі, паліфаніі і інструментоўкі [458]. Даследчыкі музычнай спадчыны Напалеона Орды асабліва адзначаюць раздзелы «Пра мелодыю і гармонію», «Пра музычны рытм», «Пра такт і яго часткі», «Пра перыяд», «Пра мадуляцыю», «Пра кантрапункт».

Грунтуючыся на працах некаторых папярэднікаў, аўтар выбіраў у якасці музычных узораў шырокае кола твораў розных эпох і стыляў, што выявіла ўзаемасувязь «Граматыкі музыкі...» з дапаможнікамі і трактатамі У. Даўбэ, А. Рэйха, Д. Цюрка, К. Курпінскага, якія ствараліся ў канцы XVIII — першай чвэрці XIX ст. Неабходна адзначыць, што ў працы Напалеон Орда не пайшоў шляхам простай кампіляцыі ранейшых падручнікаў. У вывучэнні гармоніі, каб глыбей раскрыць тэму, ён імкнуўся спалучаць розныя традыцыі [158]. Тэарэтычныя выклады падаваў такім чынам, каб не адштурхнуць ад музыкі вучняў, для якіх найбольш спрыяльным элементам музычнай мовы была менавіта мелодыя, а гармонія лічылася толькі сродкам яе раскрыцця і падтрымкі.

Даследчыца спадчыны кампазітара В. Дадзіёмава адзначае, што «Граматыка музыкі...» стала пэўным водгукам на працэс дэмакратызацыі музычнага мастацтва, які разгарнуўся ў Еўропе ў 2-й палове XIX ст. Адначасова гэтая праца была адным з першых падручнікаў па музычнай граматыцы ў Беларусі, Польшчы і Літве [122]. Яна нягледзячы на тое, прызначалася для аматараў, атрымала высокую адзнаку з боку прафесійных педагогаў-піяністаў. У часопісе «Плюшч» за 1878 г. надрукаваны водгукі, што прыходзілі з розных мясцін, у якіх адзначалася: «...праца Н. Орды надзвычай карысная для вучняў, з яе дапамогай не адзін з іх выйдзе ў людзі» [85].



**Н. Орда. Туганавічы. Сядзіба Верашчакаў.** 1876 г.
Сядзібны дом-мураванка і іншыя збудаванні маёнтка Верашчакаў.
Малюнак падрыхтаваны Н. Ордам для літаграфавання. 16,1x22,8
Rys. Pol. 161833. MNW

## 40. Мінскі і гродзенскі цыклы малюнкаў

На працягу 60—70-х гг. XIX ст. Напалеон Орда шмат падарожнічаў па літоўскіх і беларускіх губернях. Гэты перыяд ягонай мастацкай творчасці грунтоўна асветлены Ю. Якімовічам, які падкрэсліў, што майстра шчыра заняўся тэмай архітэктурнага пейзажу, калі «моцная плынь рамантызму захапіла беларускае мастацтва, а прадстаўнікі гэтага мастацкага кірунку цікавіліся нацыянальнай культурай, гісторыяй свайго народа, помнікамі архітэктуры і выяўленчага мастацтва» [291].

Сапраўды, ордаўскія падарожжы і замалёўкі ў Беларусі для сённяшняга і будучых пакаленняў маюць не толькі мастацкае, але і навукова-практычнае значэнне, бо дапамагаюць канкрэтна ўявіць помнікі, якія не зберагліся ці былі значна перабудаваныя. Каштоўнасць малюнкаў Н. Орды ўзмацняецца іх дакументальнай дакладнасцю, арганічнай сувяззю з навакольным асяроддзем.

Шмат твораў мастак прысвяціў беларускім мястэчкам і гарадскім сядзібам і саборам, старажытным замкам і сучасным палацам.

Творчыя вандроўкі Н. Орды па Беларусі чаргаваліся з падарожжамі на Валынь і Кіеўшчыну. Адны з першых нараджаліся акварэлі, прысвечаныя Мінскай губерні. На іх адлюстраваны Бярэзіна, сядзіба Юзафа і Тадэвуша Рэйтанаў у Грушаўцы, палацы ў Мінску і Нясвіжы, сядзіба Міцкевічаў у Навагрудку, радавое гняздо Верашчакаў у Туганавічах, палац у Прылуках і шмат іншых аб'ектаў, цікавых як з пункту гледжання мастацтва, так і гісторыі. Ажно сем прац Напалеон Орда прысвяціў старажытнаму Нясвіжу, некалькі — Навагрудку ды Пінску. Як падкрэслівае М. Качаноўская, у калекцыі малюнкаў і акварэляў Мінскай губерні значнае месца займаюць «чыстыя» пейзажы [367].

Найбольшая колькасць ордаўскіх прац звязана з Гродзенскай губерняй (144 з іх захаваліся і знаходзяцца ў добрым стане). Сярод гэтай багатай калекцыі на 34 акварэлях адлюстравана Гродна. Яны адрозніваюцца ад папярэдніх прац інтэнсіўнымі фарбамі чырвонага і зялёнага колераў.

Гродзенскі цыкл пачынаецца выявай вялікай панарамы горада; да яе далучаюцца старанна напісаныя малюнкі Старога і Новага каралеўскіх замкаў, старадаўнія вуліцы, завулкі і плошчы, грамадскія дамы, прадмесці, чыгуначны вакзал і мост. З мастацкага пункту гледжання гродзенскі цыкл носіць ілюстрацыйны характар, але ён вельмі важны як дакументальная крыніца. Разам з тым разнастайнасць тэм малюнкаў сведчыць пра тое, што Напалеон меў планы выдаць асобны альбом, прысвечаны выключна гораду Гродна і яго гістарычным аб'ектам. На жаль, гэтае жаданне не было ім рэалізавана.

Шматлікія малюнкі Н. Орды з'яўляюцца выдатнымі ілюстрацыямі па этнаграфіі беларускіх вёсак і фальваркаў XIX ст. У прыватнасці, акварэлі «Брашэвічы», «Равіны», «Завоссе», «Варацэвічы», «Магільна» перадаюць выгляд тыповых вёсак, што месціліся на раўніне,— драўляныя хаціны, накрытыя саломаю ці чаротам. Часам на малюнках узносяць у неба свае крыжы сціплыя вясковыя цэрквы, касцёлы, манастырскія збудаванні, каплічкі, надмагільныя помнікі, нярэдка на пярэднім плане ўзнікаюць млын ці калодзеж з журавом. Усё гэта перададзена мастаком з замілаваннем і захаваннем традыцыйнага нацыянальнага каларыту.

## 41. Беларускія палацы, замкі і хрысціянскія святыні

Творчыя вандроўкі па Беларусі мастак выкарыстоўваў для вывучэння яе мінулага і лёсу гістарычных асоб. Перавагу ён аддаваў мясцінам, знітаваных з дзейнасцю славутых суайчыннікаў і прадстаўнікоў заможных родаў.

На Берасцейшчыне ўбачылі свет акварэлі, на якіх адлюстраваны палац Нямцэвічаў у Скоках, фальварак Міцкевічаў у Завоссі, Касцюшкаўская сядзіба ва ўрочышчы Мерачоўшчына. Мастак пакінуў нашчадкам выявы палацаў Радзівілаў у Паланечцы, Швыкоўскіх у Пружанах, Верашчакаў у Туганавічах, Пуслоўскіх у Косаве і Старых Песках, Ажэшкаў у Беліне і Заказелі, Жукоў у Бронным, Дзяконскіх у Пятровічах, Ордаў у Навашыцах, Скірмунтаў у Моладаве, Патоцкіх у Высока-Літоўску, Рэйтанаў у Грушаўцы, Чапскіх у Сваятычах, Красіцкіх у Жабчыцах, Друцкіх-Любецкіх у Пясэчне, Сапегаў у Ружанах, Кужанецкіх у Дубае [375].

Яшчэ больш малюнкаў старасвецкіх гнёздаў мастак выканаў на Гродзеншчыне: палацы Пуслоўскіх у Альбярціне, Сапегаў у Дзярэчыне, Слізняў у Дзявяткавічах, Астрамецкіх у Івашкевічах, Гліндзічаў у Кватэрах, Кашыцаў у Абрыне, Давыдаў у Пянюзе, Патоцкіх у Росі, Корсакаў у Страле, Тышкевічаў у Свіслачы, Несялоўскіх у Варончы, Солтанаў у Здзянцёле (Дзятлаве), Агінскіх у Залессі і г. д.

На Міншчыне, Віцебшчыне і Магілёўшчыне таксама былі замаляваны шэраг палацаў і сядзіб, што належалі знакамітым асобам (С. Манюшку ў фальварку Убель, Радзівілам у Нясвіжы, Брахоцкім у Гарадзеі і інш.).

Паводле Ю. Якімовіча, значнае месца сярод ордаўскіх твораў займаюць выявы абарончай архітэктуры Беларусі. У старажытных замках захоўваецца дух патаемнасці, рамантыкі, што, безумоўна, вабіла мастака [291].

У выявах замкаў занатаваны амаль усе архітэктурныя стылі: готыка, рэнесанс, барока, ракако, ампір, класіцызм. Да таго ж магнацкія рэзідэнцыі зберагалі унікальныя сховішчы архіўных дакументаў, музейныя каштоўнасці, кніжныя фонды і археалагічныя калекцыі.

З пачуццём гонару Напалеон Орда маляваў, быццам даваў другое жыццё векапомным замкам, якія былі разбураныя,— у Крэве, Навагрудку, Міры, Смалянах, Пінску, Гальшанах і іншых мясцінах.

Велічна выглядае на дзвюх акварэлях старажытная Камянецкая вежа — помнік абарончай архітэктуры XIII ст. Прынамсі, вежа пададзена быццам у першапачатковым выглядзе. Здаецца, што ёй нічога не пагражае. Але гэта толькі на першы погляд. Пройдзе зусім няшмат часу, літаральна 30 гадоў, і яе давядзецца ратаваць ад разбурэння. З гэтай прычыны расійскія вучоныя з 1897 г. распачалі вакол помніка археалагічныя даследаванні, акадэмік У. В. Суслаў правёў яго абмеры, а ў 1903—1905 гг. пад кіраўніцтвам архітэктара П. П. Пакрышкіна (на той час галоўнага інспектара па ахове помнікаў Расійскай імперыі) на падставе малюнкаў Н. Орды была праведзена прафесійная рэстаўрацыя вежы. У гэты час адбылося і ачышчэнне яе першага яруса ад трохметровага землянога напластавання [226].

На шэрагу малюнкаў увасобіліся Гальшанскі замак, дом-крэпасць у Гайцюнішках, замкавы палаца-паркавы ансамбль у Нясвіжы. Старадаўнюю радзівілаўскую рэзідэнцыю мастак пісаў шмат разоў. (Гэтыя акварэлі выкарыстоўваюцца цяпер пры правядзенні рэстаўрацыйных работ у Нясвіжы.)

Малюнкі Н. Орды, прысвечаныя палаца-паркавай і сядзібнай архітэктуры, Ю. Якімовіч умоўна падзяліў на дзве групы [291]. Першую з іх прадстаўляюць творы, дзе архітэктурныя помнікі быццам дапаўняюцца навакольным пейзажам: ракой, сажалкамі, паркам, пад'язной дарогай ці алеяй. Пры гэтым палац, сядзіба, афіцына (летняя рэзідэнцыя), флігель ці млын знаходзяцца ў цэнтры кампазіцыі (Дзятлава, Альбярцін, Дзярэчын, Высока-Літоўск, Гарадзея, Раманава, Дашкоўцы). Другую групу складаюць малюнкі, на якіх архітэктурныя аб'екты адразу прыцягваюць да сябе ўвагу, а навакольны краявід толькі дапаўняе кампазіцыю палаца-паркавага ансамбля (Бурдыкаўшчына, Завоссе, Туганавічы, Скокі, Пружаны).



**Н. Орда. Пянюга. Двор і гаспадарчая забудова.** 1861 г.

Від з боку пад'езда. Палац аднапавярховы з ганкам

Датавана: *Пянюга. 1 чэрвеня 1861 г.*
Надпіс на падкладцы: *Пянюга, двор*

Малюнак алоўкам. 14,6x23,7

III-r. a. 4565 (Teka Grodzieńska). MNK

Не мінаў мастак і помнікаў культавай архітэктуры Беларусі. Асаблівую цікавасць выклікаюць помнікі драўлянага дойлідства, якія цяпер альбо не існуюць увогуле, альбо перароблены падчас рэлігійна-сацыяльных катаклізмаў (Брашэвічы, Моладава, Бярэзніца і інш.).

Значную колькасць малюнкаў складаюць выявы помнікаў мураванай культавай архітэктуры (Ружаны, Бяроза-Картузская, Гродна, Полацк, Навагрудак, Ішкальдзь, Гнезна, Койданава (Дзяржынск), Жыровічы, Смілавічы, Нясвіж, Вараняны, Кобрын, Іванава, Жалудок, Малая Бераставіца, прадмесце Слуцка, Язвіны і г. д.).

Усе аб'екты беларускага дойлідства (ад руін старажытных замкаў да архітэктурных аб'ектаў 2-й паловы XIX ст.), намаляваныя Напалеонам Ордам, з'яўляюцца не толькі для даследчыкаў, але і для кожнага з нас найбагацейшай неацэннай гістарычна-мастацкай каштоўнасцю.

У адпаведнасці з патрабаваннямі часу мяняліся і роля палацаў, замкаў і паркаў, іх аблічча. Як сведчаць Ордавы малюнкі, стваральнікамі гэтых унікальных асяродкаў беларускай гісторыі і культуры былі таленавітыя дойліды, а фундатарамі і гаспадарамі з'яўляліся заможныя інтэлігентныя людзі, выхаваныя ў лепшых традыцыях еўрапейскай культуры, грамадзянскай свядомасці і шляхецкага менталітэту.

*Новыя вандроўкі па гістарычных мясцінах*

## РАЗДЗЕЛ IX

## 42. Ад Беластока да Інфлянтаў

Пра вынікі творчай вандроўкі Орды ў Беласток пісаў часопіс «Ілюстраваны тыднік». У артыкуле «З нявыданых малюнкаў Н. Орды» адзначалася, што ў першым літаграфічным альбоме не былі змешчаны малюнкі палацаў Браніцкіх у Беластоку і Нямцэвічаў у Скоках, а таксама гістарычнай вежы ў Камянец-Літоўску [367]. Выявы палаца Браніцкіх, сапраўды, не былі літаграфаваны, але літаграфіі палаца ў Скоках і Камянецкай вежы з'явіліся ў IV серыі «Альбома відаў Польшчы».

У Беластоку Напалеон Орда выканаў чатыры малюнкі. На адным з іх адлюстраваны  парафіяльны касцёл (з боку ўвахода). Храм размешчаны на могілках, мае мураваную агароджу, браму і капліцу. На супрацьлеглым баку на акварэлях бачны фасад двухпавярховага шпіталя. Праца выканана 30 чэрвеня 1876 г. (дата пастаўлена рукою самога мастака).

Відавочна, што Орда наведваў Беласток неаднойчы. Двума месяцамі раней, 28 красавіка 1876 г., тут ён зрабіў малюнак царквы і тры замалёўкі палаца Браніцкіх (з боку пад'езда, парку і ўяздной брамы). Пад відарысам мастак пазначыў, што Беласток некалі належаў роду Весялоўскіх, затым кароль Ян Казімір сваім прывілеем у 1661 г. перадаў горад Стэфану Чарнецкаму. Дачка Стэфана Аляксандра мела шлюб з прадстаўніком роду Браніцкіх, таму Беласток перайшоў ва ўласнасць магнатаў. Палац збудаваў кракаўскі ваявода К. Браніцкі, які ажаніўся з Ізабэлай, сястрой караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

Наступныя вандроўкі Н. Орды папоўніліся новымі цыкламі малюнкаў. У Друскенінкаі ён пабываў 2 мая 1868 г. і выканаў чатыры малюнкі (панарама мястэчка, царква, купальня і адна з вуліц). На акварэлі, што перадае выгляд купальні, зрабіў прыпіску: «Тут штогод збіраецца значная колькасць хворых, шукаючых паратунак, каб паправіць здароўе».



**Н. Орда. Геранімаў.**

Від з боку пад'езда
Датавана: *Геранімаў. 2 ліпеня 1868 г.*
Надпіс на падкладцы:
*Геранімаў. Гродзенская [ губерня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю і гуашшу. 22,5x29,5

III-г. а. 4361 (Teka Grodzieńska). MNK



**Н. Орда. Чарнобыль**

Агульны від з боку ракі Прыпяць. На высокім беразе забудова мястэчка з манастыром і касцёлам. 1870—1874 гг.

Надпіс: *Чарнобыль.* Надпіс на падкладцы: *Кіеўская г[уберня]. Чарнобыль над Прыпяццю.* Надпіс на картцы, падклеенай да падкладкі: *Чарнобыль над Прыпяццю. Кіеўская губ[ерня]. Пры ўпадзенні ракі Ушы да Прыпяці. 1565 г. Гаспадаром быў Філон Кміта, потым мястэчка перайшло да роду князёў Сапегаў, затым Хадкевічаў.*

Апошні надпіс паўтораны на французскай мове

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 22,4x29,5

III-г. а. 2852 (Teka Ukraina). MNK

У 1875 г. майстар маляваў гістарычныя мясціны Інфлянтаў. На той час ён быў ужо даволі папулярным мастаком, бо выконваў выдавецкія заказы. Аднак выпусціць асобны альбом гэтага цыкла ў яго не было магчымасці, таму, як заўважыла М. Качаноўская, гэтыя працы былі ўключаны ў калекцыю каштоўных збораў Рыжскай бібліятэкі і, магчыма, захоўваюцца ў аддзеле графікі Яна Крыстофера Бротца пад назвай «Калекцыя знакамітых латвійскіх помнікаў архітэктуры».

Менавіта па просьбе Я. Бротца мастак рабіў малюнкі. Пра гэта сцвярджае публікацыя латвійскага даследчыка Густава Мантэфла «Аб польска-інфлянцкіх замках», у якой змешчана рэпрадукцыя прадмесця Фалькенберг [367].

## 43. Праз Кіеўшчыну і Падолле

На пачатку 1870-х гг. Напалеон Орда наведаў Кіеўшчыну і Падолле. У гэтых мясцінах ён неаднойчы працаваў на працягу амаль чатырох гадоў.

Вельмі плённымі для мастака сталі вандроўкі па Кіеўшчыне, з якіх прывёз 106 замалёвак і акварэляў. Такая вялікая колькасць твораў сведчыла пра багацце гістарычнай і прыроднай спадчыны гэтых зямель [358].

Найбольш цікавыя з твораў — панарамы Чарнобыля над ракой Прыпяць і Александрыі пад Белай Царквой, выявы радзівілаўскага палаца і яўрэйскага шпіталю ў Бярдычаве, храмаў, замкаў і палацаў у Белай Царкве, касцёла і цэнтральнай рыначнай плошчы ў Хумані, два малюнкі Кіева з відамі каталіцкага касцёла і царквы Святога Андрэя, замалёўкі маёнткаў Жавускіх у Парабішчыцах і Верхаўне [375].

Калі Напалеон Орда працаваў гувернёрам у сям'і Жэвускіх, ён жыў у Чуднаве і Верхаўне. Захавалася 10 выяў з Верхаўні: палац, адлюстраваны з розных бакоў, дом доктара Адольфа Кнотэ, гаспадарчыя пабудовы, капліца, палацавая аранжарэя. Большасць твораў гэтага цыкла належаць да пейзажных і характарызуюцца высокім узроўнем выканання з ужываннем пастэльных тонаў. (Дадзеная акалічнасць сведчыць, што Напалеон меў у Верхаўне шмат часу і магчымасць дасканала выканаць малюнкі.)

З Кіеўшчыны Орда часта пераязджаў на Падолле, дзе стварыў серыю пейзажных прац, якія адлюстроўвалі таксама гістарычныя збудаванні. На 120 акварэлях можна ўбачыць багатую архітэктурную і садова-паркавую спадчыну Падолля, у тым ліку рэзідэнцыю Патоцкага ў Паніёўцах, разнастайныя замкі, навакольныя пейзажы Левады Карабчыеўскай.

Збор гэтых акварэляў сведчыць пра непасрэдны кантакт мастака са знакамітымі асобамі, характарызуе ягоны творчы і душэўны настрой, свежасць уражанняў і лёгкасць выканання. Не ўсе малюнкі былі поўнасцю завершаны, але гэты цыкл пераканальна паказаў значны рост мастацкага прафесіяналізму Орды.

## 44. На Віцебшчыне і Ковеншчыне

Амаль два гады Напалеон Орда працаваў у Віцебскай і Ковенскай губернях. Даты, пастаўленыя на акварэлях, засведчылі, што ён знаходзіўся там у 1875—1876 гг.

На той час Віцебшчына мела значную колькасць помнікаў старажытнасці. Напалеон з задавальненнем пісаў замкі крыжацкага ды інфлянцкага перыядаў: Крайсбург, Люцын, Прэлі, Шлосберг і Фалькенберг. (На думку Т. Качаноўскай, у дадзеным выпадку гаворка ідзе не пра той ордаўскі малюнак Фалькенберга, што захоўваецца цяпер у Рызе, а пра іншую




**Н. Орда. Александрыя. Рэзідэнцыя Браніцкіх.** 1872 г.

Выгляд часткі павільёна з бальнай залай, галоўнага палаца
і «Манаршага» двухпавярховага павільёна з порцікам на калонах і балконам.

Надпіс: *Александрыя. Бальная зала і два павільёны ў парку. Александрыя*
Надпіс на падкладцы: *Кіеўская г[уберня], Александрыя пад Белай Царквой*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,7x28,4

III-r. a. 2828 (Teka Ukraina). MNK




**Н. Орда. Краслаў. Ратуша.** 1875—1876 гг.

Від з боку плошчы. Двухпавярховы будынак ратушы з рызалітам і вежай.

Датавана: *18 чэрвеня.* Надпіс: *Краслаў. Старая ратуша.* Надпіс на падкладцы: *Віцебская г[уберня]. Беларусь. Краслаў. Старая ратуша.*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,3x27,5

III-r. a. 4105 (Teka Witebska). MNK




**Н. Орда. Вільня. Вуліца Каралеўская.** 1875 г.

На першым плане з правага боку намаляваны дом, у якім памёр Уладзіслаў Сыракомля.

Надпіс: *Дом, у якім памёр Сыракомля ў жніўні 1862 г.*
Надпіс на падкладцы: *Вільня*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,5x27,7

III-r. a. 4017 (Teka Wileńska). MNK

версію гэтага твора. Справа ў тым, што мастак часам занатоўваў адны і тыя ж аб'екты некалькі разоў.) [367].

У віцебскую серыю таксама ўваходзяць малюнкі Старой ратушы Краслава, фабрыкі палатна ў Вялёнах, палаца Шадурскіх у Асвеі. Мастак разлічваў, што ўся серыя таксама будзе літаграфавана, але ў «Альбоме відаў» змясціў толькі 4 творы, хоць напісаў ажно 39 акварэляў.

Тэма гістарычных каштоўнасцей Ковеншчыны таксама вабіла майстра. На тэрыторыі губерні існавала мноства ўладанняў, якія належалі Агінскім, Пуслоўскім, Плятэрам, Гелгудам, Рэмерам, Тышкевічам.

Вельмі прыгожа выглядае Паланга на дзвюх акварэлях. Адзін з краявідаў — узбярэжжа заліва Балтыйскага мора — замаляваны з боку саду графа Тышкевіча. На акварэлях мастак таксама ўвасобіў руіны Ковенскага замка, гарадскую ратушу і агульны выгляд горада з боку ракі. Шмат увагі Н. Орда ўдзяліў Кяйданам, Вайткушкам і Крэтынзе. У Кяйданах ён вылучыў кальвінскі збор і пахавальны склеп Радзівілаў. Наведваючы Крэтынгу, майстар намаляваў касцёл ордэна бернардзінцаў, пабудаваны некалі пры фінансавай падтрымцы Караля Хадкевіча, а таксама палац-рэзідэнцыю магната. Мястэчка Вайткушкі, звязанае з родам Касакоўскіх, прадстаўлена шыкоўным палацам і сярэднявечным касцёлам. Ковенская серыя малюнкаў складаецца з 60 акварэляў, на якіх увасоблены гістарычныя і архітэктурныя аб'екты 47 мясцовасцей [375].

## 45. Шлях на Віленшчыну і Магілёўшчыну

З глыбокімі патрыятычнымі пачуццямі, светлымі ўспамінамі пра далёкія студэнцкія гады Напалеон Орда наведаў Вільню, дзе плённа працаваў з алоўкам і пэндзлем на працягу двух гадоў (паміж 1875 і 1877 гг.) [291]. Вынікам віленскага перыяду ягонай творчасці стаў чарговы цыкл акварэляў, на якіх адлюстраваны шматлікія мясціны любай старадаўняй сталіцы Вялікага Княства Літоўскага. Маляўнічае размяшчэнне горада абудзіла творчую фантазію мастака, падштурхнула яго на стварэнне высокамастацкіх палотнаў.

Значную колькасць акварэляў, выкананых у Віленскай губерні, Орда прысвяціў сваім студэнцкім гадам. Сярод 8 вядомых твораў — выявы Новага і Верхняга замкаў, выпісаных з вялікай любоўю і густам, жылога будынка на Каралеўскай вуліцы, дзе 15 верасня 1862 г. памёр Уладзіслаў Сыракомля, касцёлаў Святых Ганны і Кацярыны і кляштараў босых кармялітак, баніфратараў (добрых братоў), бернардзінцаў, епіскапскага палаца і рэзідэнцыі Слушкаў. Да серыі таксама належаць малюнкі Трокаў і Веркаў, палаца Пацаў у Езным і ратушы з руінамі ў Мярэчы.

З Вільні Напалеон Орда некалькі разоў выязджаў на Магілёўшчыну, якая нагадвала яму пра ранейшых паплечнікаў па палітычнай барацьбе. Вядомы 15 акварэляў, прысвечаных Магілёўскай губерні. З гэтай невялікай калекцыі найбольш цікавымі з'яўляюцца малюнкі палаца графа Паскевіча ў Гомелі, Агранамічнага інстытута ў Горках, склеп-пахавальня сябра і паплечніка Н. Орды Тамаша Зана. Гэты беларускі паэт-рамантык надломлены ссылкамі, арыштамі, пераследам за вальнадумства і ўдзел у рэвалюцыйнай барацьбе, барацьбіт за нацыянальнае вызваленне рана пайшоў з жыцця [375].

Што тычыцца Агранамічнага інстытута, які быў заснаваны ў Горках у 1864 г., то падчас прыезду туды мастака гэтая ўстанова ўжо славілася сваімі навуковымі лабараторыямі, даследаваннямі і выпускнікамі. Таму ён з задавальненнем увасобіў на палатне адзін з найлепшых навуковых цэнтраў Беларусі XIX ст.

## 46. Па землях познаньскіх, галіцкіх і прускіх

Даты, пакінутыя рукою Напалеона Орды пад акварэлямі, сведчаць, што ў 1878 г. ён наведваў Познаньшчыну, Заходнюю Прусію і Галіцыю (гэта пацвярджае таксама інфармацыя з «Нядзельнай хронікі», надрукаваная на старонках «Тыгодніка ілюстраванага»). Між іншым, на старонках часопіса паведамлялася: «Напалеон Орда гэтым летам выконваў малюнкі ў княстве Познаньскім і ў Заходняй Прусіі для V і VI серый... першакласнай мастацкай якасці» [367].

Твораў, прысвечаных заходнім абласцям Польшчы, няшмат. На акварэлях з выявамі Познані і наваколіц гэтага горада адлюстраваны руіны касцёла ў Інаўроцлаве, палацы Ланчынскай у Касцельцы, Патворскага ў Косуве, Дэнгофа ў Крушыне, Мяльжынскіх у Ланьцу і Паўлавіцах, Астрарогаў у Смяхове, замак Ланскога ў Пасадаве, Браніцкіх у Самастралах, палацы ў Хачышаве, Хжанстове, Бянзлеве, Цяжэні, Галі і Вінагоры, плошча перад касцёлам у Гасаве, рынкавая плошча і вежа ратушы ў Жніне, касцёл Божага Цела ў Познані, касцёл у Шаматулах і помнік у Чымяшні. Толькі дзве апошнія акварэлі ўвайшлі ў V серыю «Альбома відаў...».

Усяго літаграфавана 30 акварэляў з відамі познаньскіх краявідаў, а значыцца, як заўважае М. Качаноўская, павінна быць столькі ж арыгіналаў [367]. Але ў польскіх музеях яны прадстаўлены не ў поўнай меры. Гэтыя акварэлі ці бясследна згубіліся, ці былі знішчаныя, хоць і нельга адкідаць версію, што творы дасюль існуюць, але знаходзяцца ў прыватных калекцыях. Такі лёс напаткаў мноства прац Напалеона Орды [455].

Што тычыцца наведвання мастаком Заходняй Прусіі, то там ён зрабіў шэраг акварэляў, з іх захаваліся наступныя: палац Агінскіх у Ябланове, замак крыжакоў (з 1232 г.) у Радзыне, палац Чартарыйскіх у Ракосаве, касцёл у Пілях, чатыры віды Таруні, у тым ліку брама замка крыжакоў (з датай малявання 1878 г.), дом Фрэдэрыка Скарбка, дом Мікалая Каперніка і старая брама ў Таруні, палац у Ваплёве і палац Стаблеўскіх у Залессі. Увогуле, замалёвак з Прусіі было значна больш, але які напаткаў іх лёс, сказаць цяжка, нават немагчыма.

У Галіцыі і часткова на кракаўскіх землях Н. Орда працаваў паміж 1878 і 1890 гг. Налічваецца 43 акварэлі з помнікамі і архітэктурнымі пейзажамі Галіцыі. Сярод іх сваёй маляўнічасцю вылучаюцца касцёл у Броніцы, руіны замка ў Барыслаўцы, замак Сяняўскіх (насіў рамантычную назву «Залатая Ліпа») у Брыжанах, вежа старога замка ў Чхове, касцёл і надмагільная пліта Аляксандра Бляндоўскага ў Чарнях, рэшткі замка ў Чарткове пад Сярэтам, касцёл і старыя сцены ў Данкове, палац Станіслава Таркоўскага ў Дзікаве, руіны замка і касцёл у Халічы, палац у Мядзіцах, рэшткі замкаў у Масыні і Асвенціме, замак Стадніцкіх у Наваёве і шмат іншых гістарычных мясцін краю. Усяго ў Галіцыі Орда намаляваў 17 замкаў, аднак у альбом VI серыі ўвайшлі толькі чатыры [299, 375].

**Ліст перапіскі Н. Орды ў 1878 г.**
Са збораў Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве
Фота аўтара. 2006 г.

## 47. Заключны этап творчых падарожжаў



**Напалеон Орда.** Каля 1880 г.
Фотаздымак К. Брандэла.
Варшаўская фотастудыя.
Са збораў Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве. IF 6003. [418]

На тэрыторыі Кракаўскага ваяводства Напалеон Орда бываў некалькі разоў і выканаў там шмат работ. Але сёння можна з упэўненасцю сказаць, што значная частка іх страчана. Нам вядома толькі 10 акварэляў. Сярод тых, што збераглся, неабходна адзначыць малюнкі кляштара Забжыдоўскай кальварыі, палаца Патоцкіх у Крыжовіцах, рэшткаў замкаў Ланцкароне і Рацёнжку, замкаў у Ліпаўцы, Волі Юстоўскай і Ляску, касцёла ў Прашовіцах, салявой шахты ў Вялічцы, мястэчка Клабуцк [380].

Другі раз мастак наведаў гэтыя землі ў 1880 г., пра што паведаміла «Нядзельная Хроніка» часопіса «Тыгоднік ілюстраваны»: «У сталым узросце Орда наведаў Куявы і Каліш, а затым кракаўскія землі…» Тым не менш малюнкаў гэтых мясцовасцей не захавалася [399].

Наступным і апошнім этапам творчых вандровак Напалеона Орды сталі, паводле М. Качаноўскай, землі Варшаўскай, Люблінскай, Пётркаўскай, Плоцкай, Кельцкай і Сувалкскай губерняў. Невялікая колькасць акварэляў з гэтай серыі захоўваецца ў зборах Нацыянальнага музея ў Варшаве [367].

З цыкла малюнкаў Варшаўскай губерні маюцца акварэлі з выглядамі замка ў Чэрску, касцёл у Влацлаўку, панарама прадмесця Варшавы, відамі Гастыні і Вілянова з боку ўязной брамы, Уяздоўскай алеі, дома Сулкоўскага ды эскіз вілы «Фраскаці». Сам па сабе будынак вілы не раскошны, але ўвагу мастака хутчэй за ўсё прыцягнула яго гісторыя, паколькі на віле размяшчалася масонская ложа вольных муляроў, заснаваная ў Варшаве ў 1738 г. князем К. Ябланоўскім, а сябрам гэтай ложы быў у свой час сваяк Напалеона — Пётр Орда [375]. У 1821 г. масонскія арганізацыі былі забаронены, але засталіся іх падпольныя групы пад назвай «Браты», а таксама палацы і сядзібы, дзе яны збіраліся. Верагодна, Напалеон Орда не заставаўся абыякавы да масонскага руху, бо меў кантакты з шэрагам вядомых асоб, якія былі масонамі. Таму няма нічога дзіўнага, што мастак часам маляваў будынкі месцаў, дзе збіраліся сябры «Свабоднай думкі», у тым ліку вілы «Фраскаці» ў Варшаве, выгляд якой перанёс з натуры на паперу [367].

Люблінская губерня прадстаўлена наступнымі ордаўскімі акварэлямі: двор Люблінскага замка, руіны замкаў у Сталпцах і Казімежы над Віслай, выгляд Фірляеўшчыны і фрагменты Пётравіна, палац у Пулавах, віды Хародла ды Калегіятаў. Амаль усе акварэлі люблінскага цыкла, акрамя замкавай вежы ў Бялавіне, захоўваюцца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве [300].

Таксама зберагліся акварэлі з выявамі руінаў замкаў у Ілзе і ў Бaброўніках, капліцы ў Чарналессі, замка ў Даноўцы, панарамы Плоцка, відаў Белай-Шляхецкай, Яндрэева,




**Н. Орда**
**Чанстахова**
Літаграфія

Надпіс: *Чанстахова (Польшча, Пётркаўская губерня). Старажытны замак, які з 1382 г. ахоўваецца цудатворным абразам Маці Божай, прывезеным з Белза Уладзіславам, князем апольскім. Гэты князь запрасіў манахаў ордэна паўлінаў з Венгрыі. У 1655 г. Чанстахова абараніў ад шведаў ксёндз Аўгусцін Кардэцкі на чале 160 воінаў і 70 манахаў супраць 1200 шведаў. Цяперашні касцёл узведзены ў 1693 г.*

Надпіс паўтораны на французскай мове [450].

Арыгінал акварэлі не выяўлены, магчыма, знішчаны ці знаходзіцца ў прыватнай калекцыі.



**Н. Орда. Чэрск.**
**Руіны замка**

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,5x27,7

Rys. Pol. 13951. MNW

Бяндзіна. Амаль усе гэтыя акварэлі былі літаграфаваны і знайшлі сваё месца ў VIII серыі «Альбома...» Н. Орды [457].

З Кельцкай губерні захавалася толькі адна акварэль, а з зямель Сувалак і Сілезіі прац мастака не выяўлена. Магчыма, ён не змог наведаць Сувалкі, хоць гістарычных аб'ектаў, падзей і постацей на гэтай зямлі было шмат.

## 48. Мастак-гісторык

Вярнуўшыся з эміграцыі на Бацькаўшчыну, Напалеон Орда з задавальненнем адзначаў, што айчыннае мастацтва развіваецца надзвычай актыўна. Дзякуючы сваім творчым дасягненням і высокай грамадзянскай пазіцыі майстар без ваганняў далучыўся да агульнай плыні, якая была характэрнай для творчай інтэлігенцыі 2-й паловы XIX ст. Ён стаў не толькі прадаўжальнікам мастацкіх традыцый канца XVIII і першай паловы XIX ст., але апантана далучыўся да вядомых мастакоў, сярод якіх вылучаліся М. Залескі, А. Лесер, В. Герсон, А. Шоўпэ [301, 333].

У творчасці мастака пасля вяртання на радзіму можна вылучыць, паводле В. Левандаўскаса, два перыяды: ранні — з 1860-га па 1870 г. і сталы — з 1871-га па 1880 г. Для першага перыяду характэрны рознабаковасць тэхнікі выканання, праявдзенне эксперыментаў у галіне мастацкай выразнасці, выкарыстанне не толькі акварэлі, алоўка, але гуашы і сепіі. У прыватнасці, малюнкі з відамі Гродна ў шэрагу выпадкаў адрозніваюцца інтэнсіўнасцю зялёнага, сіняга, жоўтага і чырвонага колераў.

У сталы перыяд сфарміравалася характэрная для мастака каляровая гама пейзажаў: адмова ад ярка-зялёнага і сіняга колераў, выкарыстанне мяккага жоўтага і карычневага колераў. Мастак навучыўся ствараць перспектыву прасторы не толькі лініямі , але і фарбамі [200, 418].

Ствараючы архітэктурныя пейзажы, Н. Орда фактычна абмяжоўваўся толькі вонкавым выглядам гістарычных архітэктурных аб'ектаў і не маляваў іх інтэр'еры. Выключэннем з'яўляліся толькі дзве працы — унутраны выгляд камеры вязніцы ў шпіталі Кобрына.

Дзякуючы ўнутранай самаарганізацыі, мэтанакіраванасці, сціпламу ладу жыцця «Напалеон Орда» здолеў рэалізаваць многія са сваіх ідэй, ператварыўся ў слыннага папулярызатара матэрыяльнай і духоўнай спадчыны. Ён годна выканаў сваю творчую місію, перадаўшы нашчадкам дакументальныя сведчанні мастацкай культуры, калі занатоўваў шэдэўры замкавага, палаца-паркавага мастацтва і архітэктуры X—XIX стст. [306]. Амаль усе працы мастак выканаў дасканала, з эсэтычным густам. Да ўсіх акварэляў і замалёвак склаў кароткія анатацыі, у якіх распавядаў пра гісторыю аб'ектаў, пераказаў паданні ды легенды, звязаныя з мясцінамі, згадваў уласнікаў і значныя падзеі мінуўшчыны.

Калі пачытаць тагачасную прэсу, можна прыйсці да высновы, што мастак меў не толькі фінансавыя, але і палітычныя праблемы. Творчасці перашкаджалі цэнзура, пільны нагляд паліцыі, што неадчэпна сачыла за дзейнасцю нашага земляка. Без афіцыйнага дазволу цэнзараў ніводнае выданне не магло ў тагачаснай Расійскай імперыі пабачыць свет. Нават непасрэдна на акварэлях часам можна знайсці подпіс і дату, пакінутую рукою пільнага цэнзара. Сустракаюцца працы, на якіх няма ні подпісу, ні дазволу, і гэтыя акварэлі не знаходзілі свайго месца ў літаграфічных альбомах. Што тычыцца фінансавых праблем, то яны былі пастаяннымі спадарожнікамі Орды. Ён быў пазбаўлены грошай, якія некалі атрымоўваў з Варацэвічаў. М. Качаноўская сцвярджае, што ў мастака былі нейкія сродкі, але гэта былі нязначныя грошы [367].

**Аўтабіяграфія Н. Орды.** 1872 г.

Са збораў Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве

Фота аўтара. 2006 г.

**Рэдакцыя часопіса «Kłosy»**
Варшава. 1879 г. Кола аўтараў, журналістаў, мастакоў і сяброў, якія сабраліся на спатканне з прыехаўшым у Варшаву чэшскім пісьменнікам Эдвардам Жэлінэкам.
Стаяць (злева направа): Антоні Залескі, Жуліян Ляантоўскі, Дзіянісій Хенкель, Тадэвуш Чапельскі, Марцін Альшынскі, мастак Гейман
Сядзяць (злева направа): Зыгмунт Сарнецкі, Антоні Пяткевіч (Адам Плуг), Напалеон Орда, Эдвард Жэлінэк, Антоні Эдвард Адынец, Вацлаў Шыманоўскі, Уладзіслаў Жэлінскі

Са збораў Музея гісторыі старога горада ў Варшаве, № 57451 (Номер каталога 16663)

Фота з архіва аўтара. 2007 г.

→

Аднак нішто не магло стрымаць руку мастака, якая прагнула працы. Ён шчыра працягваў і развіваў традыцыі вядомых беларускіх мастакоў па стварэнні цудоўных архітэктурных пейзажаў: Ю. Пешкі («Руіны замка ў Смалянах», «Панарама Віцебска…», «Богаяўленская царква…» і інш.), М. Кулешы («Стары і Новы замкі ў Гродне», «Сядзіба ў Туганавічах», «Мерачоўшчына», «Замак у Крэве», «Царква на Каложы ў Гродне» і інш.), І. Хруцкага («Віленскае прадмесце», «Кальварыя» і інш.), І. Герасімовіча («Старая мінская ратуша» і інш.), В. Садоўнікава («Веркі» і інш.), В. Дмахоўскага («Кафедральны сабор у Вільні»і інш.) і г. д.

Напалеон Орда неаднаразова бываў у мясцінах, у якіх ужо працавалі ягоныя папярэднікі, і паўтарыў дзівосныя гістарычныя краявіды і маляўнічыя куткі, звязаныя з жыццём і дзейнасцю знакамітых суайчыннікаў.





**Партрэты Канстанцыі Суцістроўскай і Аляксандра Скірмунта**

Са збораў музейнага комплексу Н. Орды.

## 49. Мастацкая спадчына Напалеона Орды

Сёння дакладна вядома, што калекцыя арыгінальных малюнкаў Н. Орды, якія дайшлі да нас, складаецца з 1060 адзінак, у тым ліку 989 захоўваецца ў Кракаўскім нацыянальным музеі (пейзажы з большасці краін Еўропы), у 1886 г. падараваныя вядомым гісторыкам і публіцыстам, захавальніцай мастацкай спадчыны Н. Орды Канстанцыяй Скірмунт (1851—1934), дваюраднай унучкай мастака [367]; 30 — у Нацыянальным музеі Варшавы (пейзажы Кіеўскай, Люблінскай, Пётркаўскай, Віленскай, Мінскай губерняў), перададзеных Севярынам Смалікоўскім, вядомым збіральнікам мастацкай спадчыны нашага земляка [349]; 3 — у Нацыянальным музеі Вільнюса (пейзажы Вільні, Слуцка і Пінска); 2 — у аддзеле графікі бібліятэкі Асалінскіх у Вроцлаве; 6 — у Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве (пейзажы Кіеўскай губерні, Падолля і мястэчка Янава Мінскай губерні); 30 — у бібліятэцы імя В. Стафаніка Нацыянальнай акадэміі навук Украіны ( пейзажы з розных месцаў Галіцыі, Польшчы, Украіны) [418]. Безумоўна, гэта далёка не ўсё, што стварыў мастак. Калі прааналізаваць усе серыі літаграфічнага «Альбома…», у якіх знайшлося месца для 260 малюнкаў, выяўляецца, што толькі 124 літаграфіі супадаюць з вядомымі нам акварэлямі, а 136 не маюць арыгіналаў (хутчэй за ўсё не захаваліся) [450—457].

Тэхніка выканання акварэляў і замалёвак Н. Орды грунтавалася на маляванні з натуры. Працы ў большасці ўяўляюць з сябе завершаныя акварэлі, аднак сустракаюцца і няскончаныя малюнкі (нейкіх асобных частак і элементаў на іх мастак не зрабіў).

Ёсць і некалькі прац, якія выкананы не з натуры, а з гравюр і малюнкаў іншых мастакоў. У прыватнасці, выгляд Лісабона, як тлумачыў сам мастак, «пасля землятрусу ў 1755 г. маляваў са старой гравюры» [375]. Пад другім творам ён занатаваў: «Палац Барбары Радзівіл, разбураны ў 1828 г., змаляваў з натуры архітэктар Ю. С. Рос». Менавіта з гэтага малюнка і зроблена копія.

Ёсць яшчэ два малюнкі, якія выклікаюць спрэчку сярод даследчыкаў, — выявы палаца ў Пулавах і Вілянова. На першай акварэлі мастаком зроблены надпіс: «Пулавы, 1829 г.» Аднак у гэты час Н. Орда не мог быць у Пулавах і пісаць карціну з натуры. Верагодна, тады ён яшчэ нават не марыў стаць мастаком.

Акварэль з відам Пулаў, на думку М. Качаноўскай, ён скапіраваў з малюнка Юзафа Рыхтэра. Што тычыцца акварэлі «Вілянова», то і яе мастак выканаў з літаграфічнай працы іншага аўтара [367].

Працуючы над творамі, Напалеон Орда прытрымліваўся правіла адлюстроўваць аб'екты ў строгай сіметрыі. Таму галоўнымі рысамі яго малявання стала выкарыстанне алоўка, каб падкрэсліць архітэктурную вартасць рэчы і мастацкі падыход да пейзажу, які разглядаўся на падставе так званага прынцыпу перспектывы.

# 50. Ордаўскі абраз

У 1872 г. у Варацэвічах асвяцілі Крыжаўзвіжанскую праваслаўную царкву. Сведкам гэтай падзеі, верагодна, быў Н. Орда, якому забаранілі жыць у Варацэвічах. Але ён ніколі не губляў сувязі з родным кутам і землякамі. Сведчанне таму — «імянны» варацэвіцкі абраз (асабістая мастацкая работа), які мастак падараваў пабудаванай царкве ад свайго роду Ордаў. Гэтая унікальная каштоўнасць выяўлена, як падае Л. Пракопчык, у канцы 1980-х гг.

Ордаўскі абраз мае сваю гісторыю. У 1960-я гг., падчас масавага скасавання царкоўных прыходаў, Варацэвіцкая царква была зачынена, і прыхаджане патаемна захавалі абразы і іншыя царкоўныя рэчы.

Адзін з маладых вернікаў (староста прыхода) заўважыў на адваротным баку часткова сцёрты надпіс, які сведчыў, што праваслаўным вернікам сяла Варацэвічы ў дзень адкрыцця і асвячэння Крыжаўзвіжанскай царквы падаравалі гэтую ікону «владетели им[ения] Вороцевичи фамилии Ордов». Далей допіс: «Обновлена сия икона… в 1907 году, 12 декабря» [243]. Прайшлі дзесяцігоддзі… Пасля вяртання царквы вернікам, «імянны» і неацэнны абраз Н. Орды зноў заняў сваё пачэснае месца ў ёй, спачатку ў прытворы, цяпер — на адваротным баку іканастаса.



**Напалеон Орда.** Каля 1880 г.

Фотаздымак К. Брандэла. Варшаўская фотастудыя.

Са збораў Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве. IF 5936. [418]



**Варацэвічы. Свята-Крыжаўзвіжанская царква**

Фота аўтара. 2006 г.

## РАЗДЗЕЛ X 51. Непаўторная калекцыя літаграфічных пейзажаў

Напалеон Орда стаў вядомым мастаком дзякуючы нястомнай творчай энергіі. Вялікую папулярнасць ён набыў пасля выпуску «Альбомаў відаў...» [245].

Майстар свядома не хацеў, каб ягоныя творы агулам разышліся па прыватных калекцыях. У такім выпадку, лічыў ён, знаёмства з ягонымі мастацкімі працамі было б абмежавана для шырокай публікі. Ён вырашыў, што паказаць свае палотны для вялікай колькасці людзей зможа толькі праз іх серыйнае выданне.

Ідэя выдаць свае мастацкія творы нарадзілася ў Н. Орды яшчэ на чужыне, але канчаткова выспела пасля вяртання на радзіму. Пераадольваючы фізічныя, палітычныя і фінансавыя цяжкасці ды перашкоды, ён няспынна падарожнічаў па Еўропе, маляваў штодня, упарта і мэтанакіравана. Ягоная дваюрадная ўнучка (дачка пляменніцы Гелены) Канстанцыя Скірмунт — адзіная, каму мастак давярыў свае творы. Менавіта ёй Орда перадаў на часовае захаванне акварэлі.

Паводле меркаванняў большасці даследчыкаў, «ідэйным натхняльнікам Н. Орды на стварэнне сістэматызаваных серый архітэктурна-гістарычных пейзажаў, што сталі сведчаннем былой славы, велічы і культуры беларускага, літоўскага, польскага і ўкраінскага народаў, прыгажосці роднай зямлі, быў вядомы пісьменнік і гісторык Юзаф Крашэўскі» [245]. Ён, як ніхто іншы, разумеў і ацэньваў па заслугах створаныя Ордам мастацкія багацці. Гэтаму спрыялі некаторыя агульныя моманты ў біяграфіях абодвух таленавітых людзей: яны былі землякамі, выхаванцамі Свіслацкай гімназіі, студэнтамі Віленскага універсітэта, удзельнікамі паўстання 1830—1831 гг. Акрамя таго, Ю. Крашэўскі таксама добра валодаў алоўкам. Ён чым мог аказваў дапамогу земляку, спрыяючы ў пошуках выдаўца і сродкаў, шмат пісаў пра дзейнасць сябра, пра ягоныя творчыя вандроўкі і мастацкія працы [295].

На пачатку 1870-х гг. асноўнай справай для мастака зрабілася выданне серыі «Альбома відаў…». Творы пераводзіліся на камень (літаграфаваліся) у друкарні Максіміліяна Фаянса ў Варшаве. Пры гэтым Н. Орда супрацоўнічаў з маладым і перспектыўным мастаком Алоізам Місурэвічам. Кансультацыйную працу пры літаграфічнай апрацоўцы акварэляў здзяйсняў сам майстра. Аднак «Альбомы відаў...» не маглі ахапіць усе палотны, створаныя ім, таму, натуральна, па літаграфічных альбомах нельга цалкам судзіць пра творчасць Орды [367].

Грамадскасць Варшавы ўжо ведала пра падрыхтоўку выдання і з нецярплівасцю чакала яго выхаду ў свет. З'яўленне першай серыі пераўзышло самыя смелыя спадзяванні прыхільнікаў мастацкай творчасці Напалеона Орды. Праца была надзвычай прыхільна сустрэта прэсай.

За дзесяцігоддзе (1873—1883) былі выдадзены 8 буйна-фарматных серый-альбомаў, якія ўтрымлівалі 260 літаграфічных малюнкаў. Альбомы выходзілі даволі вялікім на той час накладам, набываліся не толькі прыватнымі асобамі, але і буйнейшымі бібліятэкамі Варшавы, Кракава, Вільні, Кіева. У кожнай інтэлігентнай сям'і Польшчы, Беларусі, Украіны лічылася за гонар мець чарговы выпуск серыі «Альбома відаў...» Н. Орды [450].

Прыгожа афармленае, ціснёнае золатам, у цвёрдай вокладцы выданне, памерам прыкладна 20х30 см, мела малінавы і салатавы колеры. Непасрэдна літаграфічныя аркушы адрозніваліся жоўта-карычневым адценнем. Назвы серый розніліся: яны кан-

ALBUM WIDOKÓW HISTORYCZNYCH POLSKI
POSWIĘCONY RODAKOM.
Zrysowany z natury
przez
NAPOLEONA ORDĘ.

PRZEDSTAWIAJĄCY MIEJSCA HISTORYCZNE OD POCZĄTKU CHRZEŚCIJAŃSTWA W POLSCE (R. 966), RUINY ZAMKÓW OBRONNYCH Z CZASÓW WOJEN TURECKICH, TATARSKICH, KRZYŻACKICH, KOZACKICH I SZWEDZKICH. — PIĘKNE REZYDENCYE, ŚWIADCZĄCE O PRZESZŁOŚCI I CYWILIZACYI W TYM KRAJU, ORAZ MIEJSCA URODZENIA LUDZI WSŁAWIONYCH ORĘŻEM, PIÓREM LUB NAUKĄ.

WOROCEWICZE
GUB. GRODZIEŃSKA

WŁASNOŚĆ RODOWA ORDÓW PRZEZ LAT 300 AŻ DO 1831 ROKU — MIEJSCOWOŚĆ PAMIĘTNA I DROGA AUTOROWI.

Kto garstkę ziemię nosi, góry się doczeka:
Pomnąc, że czas ucieka,
Czyń każdy w swojem kółku, co każe Duch Boży,
A całość sama się złoży.
Kazimierz z Królówki Brodziński.



WARSZAWA
LITOGRAFIA MAXYMILJANA FAJANSA.
Wykonanie na Kamieniu przez ALOIZEGO MISYROWICZA
1873 do 1883.
Skład główny u Autora w Pińsku G. Mińskiej i w Księgarni Gebethnera i Wolffa w Warszawie.

**Н. Орда. Тытульны ліст «Альбома відаў...».** 1875 г.
Фота з архіва аўтара. 2006 г.

крэтызавалі тыя рэгіёны колішняй Рэчы Паспалітай, якія пададзены на графічных аркушах. Першая серыя з 50 літаграфій выйшла ў свет у 1875 г. пад назовам «Альбом гістарычных відаў Польшчы, прысвечана суайчыннікам. Намаляваны з натуры Напалеонам Ордам». На супервокладцы мастак падрабязна тлумачыў: «Альбом відаў Гродзенскай, Віленскай, Мінскай, Ковенскай, Валынскай, Падольскай і Кіеўскай губерняў. Прадстаўлены гістарычныя мясціны ад пачатку хрысціянства ў Польшчы (966), руіны абарончых замкаў з турэцкіх, татарскіх, крыжацкіх, казацкіх і шведскіх часоў; прыгожыя рэзідэнцыі — сведчанні пра мінуўшчыну і цывілізацыю краю, а таксама месцы нараджэння славутых людзей, якія зброяй, пяром ці навукай здабылі славу. Варшава. Літаграфія Максімільяна Фаянса. Выканана на камені Алоізам Місурэвічам. 1873—1883. Пінск — Варшава» [450].

На вокладцы першай серыі быў змешчаны малюнак Варацэвічаў, пад якім стаяў подпіс: «Варацэвічы (Гродзенская губерня), уласнасць роду Ордаў на працягу 300 гадоў да 1831 г. Памятнае і дарагое аўтару месца» [450].

146

Czci najgodniejszy Ziomku!

Przed kilku dniami wysłałem Album widoków. Niegdyś otrzymałeś Pan moją Gramatykę Polską, teraz przyjmij w ofierze Gramatykę Muzyczną przez ś.p. Moniuszkę, (zwracam uwagę na list jego Autografowany) –

Ucieszyłem się gdy mi Teodozy czytał wyjątek z listu otrzymanego, że mój Album się Wam podobał – Jest tam Świsłocz droga zawsze dla nas, bośmy oba Litwini i tam byliśmy uczniami – Kościół drewniany przypomina nam chwile gdzie młodociane modły zanosiliśmy do Boga –

Skończywszy Podole, Ukrainę i Wołyń, zwalczywszy trudności z Cenzurą, niezatrzymuję się w pracy, jadę tej wiosny do Inflant, Litwy i Białorusi szukać pamiątek narodowej Sławy z czasów Krzyżackich i ~~[illegible]~~ –

Zazdroszczę Teodozowemu fotografii – którą on otrzymał od Czcigodnego Pana, i prosząc też mnie obdarzyć podobizną pamiątką. Jeżeli nie zasłużyłem na ten dar jako osobiście nieznany, ale zasługuję jako współ Litwin i od bardzo dawna czciciel Jego prac i obywatelskiego poświęcenia –

Łączę się z Głębokim Szacunkiem

Najniższy Sługa

N. Orda

Warszawa

1875 Kwietnia 2.

14 Nowy Świat w mieszkaniu Teodozego Piekarskiego

**Лісты Н. Орды да Т. Ю. Пекарскага**

Варшава. 1875 г.

Са збораў Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве

Фота з архіва аўтара. 2006 г.

Пад гэтым надпісам прыведзены словы паэта Казіміра Брадзінскага: «Хто жменю зямлі нясе, дачакаецца гары. Памятай, што час бяжыць імгненна. Па заслугах ўчынкі кожнага, так гаворыць Божы Дух, а адзінства само зложыцца» [450]. У другім паўгоддзі 1875 г. выйшла II серыя «Альбома відаў...», у 1876 г. — III, у 1877 г. — чарговая серыя. Першыя чатыры серыі мелі аднолькавыя назвы [452, 453]. У 1880 г. убачылі свет V і VI серыі, якія называліся: «Альбом відаў, якія прадстаўляюць гістарычныя мясціны Пазнаньскага княства і Заходняй Прусіі» і «Альбом відаў, якія прадстаўляюць гістарычныя мясціны каралеўства Галіцыі і кракаўскіх земляў» [454, 455]. У 1881—1882 гг. з'явілася VII серыя: «Альбом відаў Польшчы, якія прадстаўляюць гістарычныя мясціны ў Варшаўскай, Калішскай, Пётркаўскай і Келецкай губернях», а ў 1882 — 1883 гг. — VIII серыя: «Альбом відаў Польшчы, якія прадстаўляюць гістарычныя мясціны з Варшаўскай, Калішскай, Пётркаўскай, Келецкай,

PROSPEKT

na

ALBUM WIDOKÓW

NAPOLEONA ORDY.

Serya szósta przedstawiająca widoki Królestwa Galicyi i Ziem Krakowskich skończoną została Zawiera trzydzieści rysunków litografowanych, zdjętych z natury. — Cena rubli dziesięć.

Jeżeli łaskawi Rodacy zechcą nabyć całe dzieło, składające się dotychczas z 200 widoków, lub Serye pojedyncze, raczą w załączonej na końcu karteczce zapisać swoje imię i nazwisko, adres miejscowości i poczty, oraz ilość przesyłanych pieniędzy. Odciąwszy tę kartkę od niniejszego prospektu, zechcą przysłać takową w kopercie do Autora Albumu **Napoleona Ordy w Pińsku, Gubernia Mińska**, a żądana Serya najakuratniej wysłaną zostanie.

Możność kupowania Seryami ułatwia nabycie tego dzieła, które następnie będzie wzbogacone widokami Królestwa Polskiego. Skład w Pińsku u Autora, w Warszawie u PP. Gebethnera i Wolffa.

**Dzieła znajdujące się w handlu księgarskim tegoż Autora:**

Pierwsza Serya Albumu z 50 rysunków kosztuje Rs. 15.

Druga, trzecia, czwarta i następne Serye z 30 rysunków, każda po Rs. 10.

Gramatyka Polska po francuzku dla cudzoziemców, cena Rs. 2 kop. 40.

Gramatyka Muzyki czyli Wykład melodyi i harmonii, cena Rs. 3.

Kompozycye na fortepian lub orkiestrę.

**Н. Орда. Тытульны ліст праспекта «Альбома відаў...» з надпісам рэдактара.** 1875 г.

Са збораў Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве

Фота з архіва аўтара. 2006 г.

**Ліст перапіскі Н. Орды з І. Дамейкам**
Пінск. Альбрэхтаў. 28 сакавіка 1876 г.

Са збораў Музея А. Міцкевіча ў Парыжы. № 1018

Перададзены музейнаму комплексу Н. Орды ў 2006 г.

Люблінскай, Радамскай, Сувалкаўскай і Ламжынскай губерняў». Акрамя першай, усе астатнія сем серый мелі па 30 літаграфічных малюнкаў [456, 457].

Кожны літаграфічны аркуш Напалеон Орда дапаўняў кароткімі, але ёмістымі подпісамі. Напрыклад, да літаграфіі «Лешч пад Пінскам» быў зроблены прыпіс: *«Даўні кляштар, у якім хаваўся Войшалк, сын Міндоўга, Вялікага князя Літоўскага, пераследуемы дзядзькам Транятам»; да літаграфіі «Тураў» ён прыпісаў: «Сталіца Турава-Пінскага княства. Горад заснаваны ў IX стагоддзі легендарным Турам у час нападаў нарманаў-варагаў. Колішняя рэзідэнцыя ўладыкі, ці тураўскага і пінскага біскупа»; а пад літаграфіяй «Навагрудак» прыпісаў наступнае: «Горад і замчышча маюць багатую гісторыю. Пасля вядомага нападу татараў у 1240 г. Эрдзівіл, Вялікі князь Літоўскі, адбудаваў гэты горад і далучыў да Літвы. Тут, паводле меркавання асобных гісторыкаў, адбыліся хрышчэнне Міндоўга і ягоная каранацыя ў 1252 годзе, а ў 1422 годзе — вянчанне Уладзіслава Ягайлы з Соф'яй, кіеўскай князёўнай»* [450] і г. д.

Выпускаючы «Альбомы відаў...» у надзвычай сціслыя тэрміны, Н. Орда вельмі спяшаўся, нібы прадчуваючы блізкасць смерці. Аднак усё ж не паспеў завяршыць задума-

нае: ужо выхад VIII серыі мастак не пабачыў. Ён рыхтаваў да літаграфавання яшчэ дзве серыі. Пра гэта можна даведацца з артыкула часопіса «Вандровец» за 1883 г.: «Аркушы, з якіх будуць складацца IX і X серыі, не выконваюцца з-за адсутнасці ў аўтара фінансавых сродкаў» [316, 367]. Якія творы рыхтаваў Напалеон Орда да літаграфій гэтых серый, цяпер сказаць немагчыма.

## 52. Сэрцам маляваў прыгажосць свайго краю

Пасля знаёмства з ордаўскімі акварэлямі, што рыхтаваліся да літаграфавання, Юзаф Крашэўскі напісаў: «Гэтыя пейзажы ёсць адзіная калекцыя. Не ведаю, ці зрабіў калі-небудзь нешта падобнае хоць адзін іншы чалавек. Мы тут атрымалі велізарнае задавальненне, калі разглядалі іх, згадваючы родныя мясціны. Дзякуем Вам за унікальную працу. Калі гэта будзе альбом, як Вы абяцаеце, то Вы здзейсніце вялікую справу, за якую шмат хто браўся, але нікому дагэтуль не пашчасціла давесці яе да канца» [325, 389].

Вандруючы па гістарычных мясцінах Еўропы, мастак засяроджваў свой позірк на памятных месцах, быццам прыпыняючы час. Сваімі акварэлямі ён спрабаваў перадаць нашчадкам хараство і непаўторнасць іх зямлі. Ён ехаў у Жалязову Волю, каб павітацца з радзімай Ф. Шапэна, у Мерачоўшчыну, Скокі і Грушаўку — да ўспамінаў пра Т. Касцюшку, Ю. Нямцэвіча ды Т. Рэйтана, у Тугановічы, звязаныя з маладосцю А. Міцкевіча, у Вінную Гору, што атрымаў Я. Дамброўскі за заслугі ад Напалеона Банапарта, у Рагожну, дзе быў забіты Пшамыслаў II, у Пілу, дзе нарадзіліся Ян і Андрэй Снядзецкія. Ён аб'ездзіў Украіну, Беларусь, Літву, польскае Памор'е, кракаўскія ды познаньскія землі. Як падлічыла М. Качаноўская, Н. Орда прайшоў адлегласць каля 8 тысяч міль [367].

Мастак не гандляваў сваімі акварэлямі, выдаваў альбомы за ўласны кошт. Часам, калі не мог тэрмінова разлічыцца з выдаўцамі, звяртаўся па дапамогу да блізкіх сяброў і сваякоў. У лісце да Станіслава Казьмяна ад 6 красавіка 1879 г. ён скардзіўся: «Цяжка ідзе мая выдавецкая дзейнасць, бо патрабуе вялікіх фінансавых сродкаў. Пераканальна прашу дапамогі ў продажы білетаў папярэдняй аплаты...» [367].

Сваю працу Н. Орда даводзіў да канца, хоць было і цяжка вандраваць немаладому ўжо чалавеку. У «Нядзельнай хроніцы» часопіса «Тыгоднік ілюстраваны» за 1876 г. змешчана: «Орда — чалавек ужо сталага ўзросту — прыступае да выдання III серыі... Нягледзячы на 70-гадовы ўзрост вандруе, часам пешшу, знаходзячы мясцовасці, якія заслугоўваюць увагі з гістарычнага ці мастацкага пункту гледжання» [396].

Пра свае дасягненні майстра заўжды паведамляў сябрам. У сакавіку 1875 г. пісаў Ю. Крашэўскаму: «...цяпер еду ў Літву — шукаць і маляваць сляды нашай бліскучай мінуўшчыны, якія вось-вось знішчаць нялітасцівы час ці людская злосць. Ах, каб толькі Бог даў мне сілы і здароўе ажыццявіць мае планы!»[325]. У лісце Баляславу Ліўскаму ён падкрэсліваў, што «завяршыў вандраваць па 9 самых блізкіх да нас губернях і выканаў каля 800 малюнкаў, але, на жаль, не ўсе яны будуць апублікаваныя, паколькі гэта вельмі дорага... Зараз накіраваўся ў Галіцыю і Познаньшчыну» [317, 367]. Ю. Крашэўскаму, які знаходзіўся тады ў Дрэздэне, Орда паведамляў: «Пакуль яшчэ зіма не наступіла, але лісце з дрэваў ужо апала. Мушу стрымаць сваё слова і замаляваў домік на Нордштрасэ, 27. Гэта будзе для мяне вельмі дарагі падарунак. На днях пабываў у <...> Багдана Залеўскага, намаляваў дом, дзе ён жыве з унучкай. Пасля вяртання апублікую ў «Клосах». Ехаць буду праз Дрэздэн, каб яшчэ раз паціснуць руку паважанаму спадару Юзафу» [66, 318, 325].

**Ліст перапіскі Н.Орды з Ю. І. Крашэўскім, у якім ён паведамляе пра выпуск «Альбома відаў...» і намер ехаць у Вільню праз мяст. Свянцяны.**

Варшава. 1875 г.

Са збораў Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве

Фота з архіва аўтара. 2006 г.

**Ліст перапіскі Н. Орды з Ю. І. Крашэўскім**

Пінск. 1881—1882 гг.

Са збораў Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве

Фота з архіва аўтара. 2006 г.

## 53. Апошнія гады жыцця

Напрыканцы 1870-га — на пачатку 1880-х гг. Напалеон Орда нікому не скардзіўся на стан здароўя. З пачуццём гонару мастак пераадольваў жыццёвыя цяжкасці. Здавалася, нішто не прадвяшчала блізкую смерць.

У лісце, накіраваным з Пінска да Уладзіслава Завадскага, Напалеон Орда пісаў: *«Дзякуй Богу, здароўе ў мяне як быццам у парадку, і я здолеў занатаваць яшчэ каля сотні гістарычных аб'ектаў, але сумняваюся, што змагу ўсё гэта выдаць. Галіцкая серыя пойдзе ўслед за познаньскай. Вельмі шмат*

*праблем з варшаўскай цэнзурай. Паеду ў Пецярбург. Магчыма, там больш пашанцуе»* [72].

Да друку часам не дапускаліся малюнкі, на якіх паказваліся аб'екты, звязаныя з удзельнікамі паўстанняў супраць царскага рэжыму. Асобныя акварэлі цэнзура магла нават не вярнуць аўтару. У прыватнасці, бясследна зніклі арыгіналы «Мерачоўшчыны» і «Седлішча» — мясцін, знітаваных з імёнамі Тадэвуша Касцюшкі ды Тамаша Зана, кляштара камядулаў у Пажайцы, магілы Мохарта ў Бранішкаве, замка ў Рэчыцы і інш. [375]. Толькі дзякуючы таму, што гэтыя малюнкі былі надрукаваны ў 1880 г. у «Тыгодніку ілюстраваным», яны захаваліся да нашага часу ў выглядзе рэпрадукцый.

Калі выходзіла чарговая серыя літаграфаваных малюнкаў, Напалеон Орда спяшаўся падзяліцца радасцю з Юзафам Крашэўскім: *«Тое, што ты жадаў, каб я аб'ехаў і замаляваў наш край,— завяршаецца маім "Альбомам"»* [62].

Пра вартасць Ордавых прац у 1878 г. пісаў Карл Эстрайхер: «Наша глеба з паўнатою атрымоўвае падпітак... Сведчаннем таму нястомны Напалеон Орда, які і ў старасці вандруе з алоўкам, дорачы нам такія багацці» [367].

Майстар працаваў да апошніх імгненняў жыцця, цікавіўся тэатрам, музыкай, выстаўкамі, знаходзіўся то ў Варшаве, то ў Пінску.

Восенню 1882 г. «Палескі Напалеон», адчуўшы набліжэнне хваробы, рушыў у Варшаву, каб падлячыцца ў шпіталі. Па дарозе хацеў завітаць у мястэчка Жалязова Воля і пакланіцца мурам радавога гнязда Ф. Шапэна, але мусіў адмовіцца ад сваёй задумы [325]. Лячэнне палёгкі не давала. Адчуваючы, што страчвае сілы, Орда склаў тастамент, у якім прасіў, каб сабраныя ім грошы — 2 тысячы рублёў — былі перададзены на стыпендыі найменш забяспечаным вучням Пінскага рэальнага вучылішча. Акрамя таго, выказаў, каб ягоныя астанкі былі пахаваны на радзіме, у Янаве, дзе спрадвеку жылі і спачывалі продкі.



**Напалеон Орда.** Каля 1880 г.
Варшаўская фотастудыя «Ю. Костка і Мюлерт»
Са збораў Нацыянальнай бібліятэкі Літвы. Вільнюс. (418)

Памёр Напалеон Орда 26 красавіка 1883 г. у Варшаве, быў перавезены на бацькаўшчыну, тут і пахаваны ў сямейным склепе.

Газеты разнеслі жалобную вестку. Баляслаў Прус у развітальным слове, якое змясціў у «Варшаўскім кур'еры», вылучыў вялікую значнасць ягонай справы: «Орда з'яўляецца бацькам малюнкаў, што ілюструюць прыгажосць роднага краю, бацькам мастакоў, якія яшчэ не нарадзіліся» [325]. У газетных матэрыялах ставілася далёка не рытарычнае пытанне: «А ці шмат знойдзецца сярод маладога пакалення літаратараў і мастакоў настолькі энергічных і моцных духам, як 76-гадовы Напалеон Орда, астанкі якога некалькі дзён назад былі перавезены на месца вечнага спачыну» [325].

Хавала Н. Орду ўся янаўская акруга. Невядома, ці былі на пахаванні ягоныя жонка Ірэна і сын Вітольд. Вядома, што род нашага земляка працягваўся.



**Н. Орда. Дрэздэн (NRD)**
**Дом Юзафа Ігнацы Крашэўскага.** 1878 г.

Двухпавярховы будынак з балконам і вежай у сярэдняй частцы.

Датавана: *18 ліпеня 1878 [г.].* Надпіс на падкладцы: *Дрэзна (Дрэздэн), дом Ю. І. Крашэўскага,* ... (нечытэльна)

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 22,7x28,5

III-г.а. 4529 (Teka Ruznych Krajow) (MNK)

106

Warszawa Maja 15 - 1875.

J.W.P.

Łaskawe przyjęcie mego Wydawnictwa ośmiela mnie przesłać JWu exemplarz Albumu widoków Seryi II-ej, składającą się z 30 rysunków.
W razie przyjęcia Albumu, poważam się upraszać najuprzejmiej o łaskawe przesłanie mi należności Rubli 10 za exemplarz, pod adresem P. Maxymiliana Fajansa, Krak. Przedm. w Warszawie n° 52. — Gdyby zaś JWP. nie raczył przyjąć Albumu, w takim razie zechce łaskawie zwrócić mi takowy Exemplarz w ciągu jednego miesiąca pod wyżej wskazanym adresem.
Polecam się łaskawym Względom JWP.
i pozostaję z głębokim Uszanowaniem
JWP.
Najniższym Sługą
N. Orda

PS. Pierwsza serya podzielona została na 2 części po 25 rysunków cena każdej części zmniejszona wynosi rubli 8. —

**Ліст перапіскі Н. Орды з Ю. І. Крашэўскім**

Варшава. 1875 г.

Са збораў Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве

Фота з архіва аўтара. 2006 г.

## 54. Нашчадкі Напалеона Орды

У 1992 г. Піншчыну наведала адна з прадстаўніц роду Ордаў жыхарка Вялікабрытаніі Тарэза Савіцкая. Яна прыязджала разам з пілігрымамі на майскае каталіцкае свята ўшанавання продкаў. Тарэза шчыра цікавілася звесткамі, звязанымі са сваім родам, і з непадробным хваляваннем знаёмілася з мілымі сэрцу мясцінамі, дзялілася сваімі ўспамінамі пра нашчадкаў Н. Орды [149].

Паводле аўтабіяграфічных запісаў і аўтографаў самога Н. Орды, успамінаў Т. Савіцкай, а таксама паводле вынікаў нястомнай даследніцкай працы пінскага краязнаўца В. Ільянкова і запісаў работнікаў аддзела культуры Іванаўскага райвыканкама, на падставе дасланага ў фонды будучага музея Н. Орды генеалагічнага дрэва, які зрабілі ў Парыжы па просьбе прапраўнучкі Беатрыс Дэнармандзі, паспрабуем скласці наступны радавод, што пачынаўся ад Матэвуша Бутрымовіча і Юзафіны з роду Шырмаў.




**Аляксандр Рагульскі**
**Гравюра партрэта Н. Орды з некралогам, змешчаныя ў часопісе «Tygodnik Ilustrowany»** (1883, № 18)




**Надмагільная пліта Н. Орды**

Са збораў Музея гісторыі Беларускага Палесся ў г. Пінску

Фота аўтара. 2007 г.

Пасля шлюбу 36-гадовага Напалеона Орды з 18-гадовай францужанкай Ірэн Дагжэ Бугль у іх 24 красавіка 1844 г. нарадзіўся сын Вітольд Эдуард Анры (Генрых).

У 1879 г. трыццаціпяцігадовы Вітольд ажаніўся з семнаццацігадовай Леанцінай, якая ў тым самым годзе нарадзіла яму дачку Ліку (унучку Н. Орды). Леанціна пражыла вельмі кароткае жыццё. Яна памерла ад цяжкай хваробы і была пахавана ў Парыжы (1886).

Ліку выхоўвала бабуля Ірэна Бугль. У 1900 г. яна выйшла замуж за француза Анры Бурса, 1872 года нараджэння.

Неўзабаве, 11 лютага 1903 г., не стала Ірэны Бугль, а праз год пасля яе смерці Ліка нарадзіла дачку, якую назвалі Анрыет.

У 1911 г. ва ўзросце 67 гадоў пайшоў з жыцця сын Н. Орды Вітольд (пахаваны ў Парыжы).

У 1927 г. праўнучка Н. Орды — Анрыет Бурс — выйшла замуж за француза Ражэ Дэнармандзі (1902 года нараджэння). Прыкладна праз два гады Анрыет нарадзіла дачку (прапраўнучку Н. Орды), якую ахрысцілі імем Беатрыс. У 1944 г., падчас нямецкай акупацыі Францыі, памёр (магчыма, загінуў) яе бацька Ражэ Дэнармандзі. У 1956 г. памерла Анрыет Бурс, праз тры гады не стала і Лікі.

Паколькі ў генеалагічным дрэве не згадваецца пра дзяцей Беатрыс, можна меркаваць, што менавіта на Беатрыс Дэнармандзі заканчваецца радавод нашага славутага земляка Напалеона Орды.

## 55. Каталог і выставы работ Н. Орды

Упершыню экспанаваліся малюнкі Н. Орды на выстаўцы «Архітэктурныя пейзажы ў польскім мастацтве 1870—1880 гг.», арганізаванай Нацыянальным музеем Варшавы ў 1964 г. На экспазіцыю выставілі шэраг ягоных прац са збораў Кракаўскага і Варшаўскага нацыянальных музеяў, а таксама 8 серый «Альбома гістарычных пейзажаў» [367]. На гэты час імя Напалеона Орды, папулярнае пры жыцці, было ўжо амаль забытае. Пра яго творчасць зрэдку згадвалі асобныя даследчыкі, але паслядоўнага вывучэння твораў ніхто не праводзіў.

У прадмове да «Каталога малюнкаў архітэктурных аб'ектаў са збораў Нацыянальнага музея ў Кракаве» С. Табяшова адзначыла, што, дзякуючы выставе 1964 г. і публікацыі М. Качаноўскай, за Ордам замацавалася слава стваральніка архітэктурных пейзажаў. Пасля правядзення першай інвентарызацыі Ордавых прац у 1967 г. (па рэкамендацыі прафесара Т. С. Ярашэўскага) было вырашана іх апублікаваць асобным выданнем [375].

Як ужо адзначалася, у 1886 г. Нацыянальны музей Кракава атрымаў ад Канстанцыі Скірмунт (1851—1934) асноўны збор архітэктурных аб'ектаў, намаляваных яе дваюрадным дзедам. Калекцыя ўключала ў сябе 977 прац, выкананых алоўкам, падмаляваных акварэллю і сепіяй на паперы, якая, у сваю чаргу, падклейвалася на больш цвёрдую аснову аднаго фармату. Уся мастацкая спадчына Напалеона Орды, якая яшчэ пры жыцці аўтара была раскладзена па папках, ахоплівала працоўны перыяд з 1840-га па 1880 г.

Мастацкія аркушы былі выкананы майстрам падчас вандровак па Францыі і Рэйнскай даліне (1840—1844), дзе ён зрабіў 45 акварэляў, па Іспаніі і Партугаліі (1842) — 44 працы, па Гродзеншчыне (1860—1877) — 144 і Валыні (1862—1876) — 177, па Мінскай (1864—1876) — 64, Кіеўскай (папка «Украіна», 1870—1874) — 106, Падольскай (1871—1873) — 129, Ковенскай (папка «Жмудзь», 1875—1876) — 64, Віцебскай (1875—1876) — 35, Віленскай (1875—1877) — 50 і Магілёўскай губернях (1877) — 15, па Познаньскім княстве, Заходняй Прусіі ды Галіцыі (папка замежных краін, 1878—1880) — 100 акварэляў і замалёвак. Апошняя папка ўтрымлівае некалькі малюнкаў, выкананых мастаком у больш ранні перыяд, не звязаны з цыклам творчых вандровак 1878—1880 гг. [367].

Творы Н. Орды ў Кракаўскім нацыянальным музеі склалі аснову III раздзела музейных каштоўнасцей і былі ўпісаны ў так званы «Стары інвентар» В. Лушчкевіча, першага арганізатара інвентарызацыі каштоўнасцей, распачатай у 1900 г. Кожная папка акварэляў атрымала тады інвентарны нумар з пазначэннем колькасці размешчаных у ёй прац.

Складзены і выдадзены ў 1975 г. у друкарні імя Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Варшаве «Каталог...» быццам ажыццявіў намеры мастака, якія ён не паспеў здзейсніць. Выявы страчаных ці моцна пашкоджаных гістарычных аб'ектаў з'яўляюцца цяпер вельмі каштоўнымі для гісторыкаў і рэстаўратараў. Створаны групай навуковых супрацоўнікаў дадзены каталог стаў X томам польскай бібліяграфіі музейнай справы. Ягонымі рэдактарамі былі Барбара Ленард і Аляксандра Камарніцкая, індэксы палотнаў апрацавала Сафія Куцельская, а фатаграфаванне акварэляў выканаў З. Маліноўскі.

У тлумачальнай нататцы Барбара Ленард адзначыла, што складанне «Каталога...» на першы погляд здавалася лёгкай справай, калі ўлічыць значную ёмістасць прыпісак самога Напалеона Орды. Але падрыхтоўка «Каталога...» да друку стала даволі складаным працэсам [375].

Пры непасрэдным даследаванні высветлілася мноства памылак мастака ў падачы інфармацыі пра аб'екты і іх назвы, працу ўскладніла і адсутнасць дастатковай колькасці

крыніц, якія дазволілі б у асобных выпадках ідэнтыфікаваць гістарычны аб'ект альбо мясцовасць. Дадатковымі перашкодамі былі шматлікія закрэсліванні, пакінутыя Ордам, часам невыразнае напісанне і карэкціроўка тэкстаў.

Асноўнымі крыніцамі інфармацыі пры складанні «Каталога...» з'явіўся «Геаграфічны слоўнік Польскага каралеўства», невялікія артыкулы пра гарады і мястэчкі, мемуарныя і эпісталярныя матэрыялы. З іх дапамогай часам надаралася выправіць інфармацыйныя хібы мастака. Так, была ўдакладнена назва маёнтка Пянюгі (у мастака — «Пянінка»), які месціўся не ў Познаньскім княстве, а ў Гродзенскай губерні. Такім чынам, малюнкі былі перанесены ў адпаведную папку [375].

«Каталог...» складаецца з асноўнай часткі, якая ахоплівае 989 твораў Н. Орды ( 907 малюнкаў плюс дадатак з 82 акварэлямі, што створаныя ў замежных вандроўках). Розніцу паміж лічбамі 989 і 977 малюнкаў, паводле падліку М. Шукевіча, складаюць пейзажы, выкананыя на адвароце, «чыстыя» і нечытальныя пейзажы (пашкоджаныя ці згубленыя надпісы).

Малюнкі ў «Каталогу...» размешчаны ў алфавітным парадку, згодна з назвай мясцовасці, перапраўверанай па геаграфічным слоўніку. Спачатку прыводзіцца афіцыйная гістарычная дата, побач — імя, занатаванае Ордам. У асобных выпадках, калі назва мясцовасці не падавалася ідэнтыфікацыі, тапонімы пакідаліся без зменаў.

Датаванне малюнкаў, калі гады не былі прастаўлены самім мастаком, ажыццяўлялія на падставе даты на папцы, у якой знаходзіўся твор. Надпісы, якія рабіў сам мастак, таксама падаваліся без скажэнняў. Трэба адзначыць, што выключна ўсе надпісы некалі прайшлі цэнзуру. Частка палотнаў утрымлівае подпісы, якія дазвалялі друкаваць малюнкі, іншыя ўтрымліваюць толькі адбіткі цэнзарскай пячаткі.

Дадатак пра замежныя творчыя вандроўкі Напалеона Орды ў 1840—1844 гг. распрацаваны значна менш, паколькі надзвычай цяжка вызначыць канкрэтную назву намаляванай мясцовасці.

Ілюстрацыйныя матэрыялы займаюць большую частку каталога. Вельмі каштоўна, што сярод твораў можна знайсці выявы як не апублікаваных раней акварэляў, так і неідэнтыфікаваныя працы.

На жаль, спіс малюнкаў збораў Нацыянальнага музея ў Варшаве, пакуль не выдадзены, аднак усе 30 акварэляў мастака ўнесены ў электронны каталог. Аналагічная электронная версія выканана і ў Кракаўскім нацыянальным музеі.

Прыкметнымі з'явамі ў культурным жыцці сталі выставы твораў Напалеона Орды, што адбыліся ў Кракаве (1983) і ў Беларусі, падчас святкавання 200-й гадавіны з дня нараджэння мастака.

У лютым і сакавіку 2007 г. Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Брэсцкая абласная бібліятэка імя М. Горкага, Музей выратаваных мастацкіх каштоўнасцей у Брэсце і Музей гісторыі Беларускага Палесся ў Пінску арганізавалі выставы рэпрадукцый літаграфічных аркушаў Н. Орды і друкаваных прац, прысвечаных юбілею мастака.

Восенню, 5 лістапада 2007 г., у выставачнай зале абласнога грамадска-культурнага цэнтра ў Брэсце была адкрыта выстава фотарэпрадукцый акварэляў (30 прац) і літаграфій (больш за 50 прац) Н. Орды з фондаў Нацыянальнага музея Варшавы, прысвечаная юбілею знакамітага мастака, арганізаваная Генеральным консульствам Польшчы ў Брэсце.

На цырымоніі адкрыцця выставы быў прэзентаваны ілюстраваны каталог «Напалеон Орда і яго "Альбом гістарычных краявідаў Польшчы"», падрыхтаваны Генеральным консульствам Польшчы ў Брэсце, Міністэрствам культуры і нацыянальнай спадчыны Рэспублікі Польшча, адміністрацыяй Люბліна, Нацыянальным музеем у Варшаве, Польскім інстытутам у Мінску, Нацыянальнай бібліятэкай Рэспублікі Беларусь і Польскім клубам у Брэсце.

Падчас урачыстасці Генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Брэсце Яраслаў Ксёнжэк уручыў службовым асобам Брэстчыны, актывістам і прыхільнікам адраджэння матэрыяльнай і духоўнай спадчыны Н. Орды Беларусі і Польшчы юбілейны медаль, на якім з аднаго боку ў метале ўшанавана постаць мастака, з другога боку адлюстраваны гістарычны пейзаж ягонай літаграфіі «Мерачоўшчына — месца нараджэння Т. Касцюшкі».

Заключным мерапрыемствам юбілейнага года стала правядзенне абласнога мастацкага конкурсу навучэнцаў мастацкіх школ і мастацкіх аддзяленняў школ мастацтваў, прысвечанага юбілею Н. Орды.

## 56. Ля вытокаў вяртання імя Н. Орды

Шлях вяртання паўзабытага імя на радзіму быў складаны, але запатрабаваны часам і здзейснены руплівцамі, прыхільнікамі і прадаўжальнікамі аднаўлення матэрыяльнай і духоўнай спадчыны Н. Орды.

У 1968 г. у часопісе «Рочнік народнага музея ў Варшаве» з’явілася навуковае даследаванне М. Качаноўскай «Напалеон Орда — творца архітэктурных пейзажаў. Нарыс жыцця і творчасці». Матэрыял грунтаваўся на шматлікіх архіўных крыніцах і тагачасных публікацыях у польскім друку. Акрамя гэтага, ён змяшчаў 42 фотакопіі ордаўскіх акварэляў [367].

Публікацыя зацікавіла ўжо вядомых даследчыкаў беларускай культуры Адама Мальдзіса, Міхаіла Кацэра і Леаніда Дробава. У 1969 г. А. Мальдзіс і М. Кацэр першыя ў беларускай гістарыяграфіі загаварылі пра невядомага творцу. Адзначалася, што «Напалеон Орда вядомы не толькі як мастак-акварэліст, але як музыкант і літаратар... пейзажы Н. Орды маюць вялікае спазнавальнае значэнне. Створаныя ў 2-й палове XIX ст., яны і ў сучасны перыяд служаць добрым матэрыялам для вывучэння беларускай архітэктуры» [165, 209].

На той час А. Мальдзіс, ужо знаёмы з «Альбомамі гістарычных пейзажаў» Напалеона Орды, наведаў у Варшаве выбітнага польскага празаіка, нашчадка слыннага мастака Валенція Ваньковіча — Мельхіёра Ваньковіча, які меў вялікі збор Ордавых літаграфічных малюнкаў.

Адначасова кандыдат мастацтвазнаўства Л. Дробаў распачаў даследчыцкую працу, вынікам якой стаў грунтоўны артыкул «Напалеон Орда — мастак і збіральнік», надрукаваны ў часопісе «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі» за 1971 г. Упершыню былі змешчаны партрэт самога Напалеона Орды і 7 архітэктурных пейзажаў, а таксама даволі змястоўная біяграфія мастака [126]. Менавіта артыкул Л. Дробава даў штуршок для пошукаў мясцовых краязнаўцаў. 18 верасня 1971 г. пад аналагічнай назвай у іванаўскай раённай газеце «Чырвоная звязда» з’явілася нататка С. П. Сыраежкі, тагачаснага дырэктара Варацэвіцкай сярэдняй школы. Аўтар упершыню падаў для шырокай грамадскасці Іванаўшчыны звесткі пра вялікага чалавека і выказаў намер стварыць у школе «музей, прысвечаны жыццю і дзейнасці славутага земляка». Пачалася карпатлівая дзейнасць па зборы матэрыялаў, рассылаліся лісты ў музеі Польшчы [267]. Гэта было актуальна і надзвычай смела, бо якраз у той час пад будаўнічую пляцоўку для сярэдняй школы № 3 Іванава руйнаваліся і расчышчаліся каталіцкія магілкі з радавым склепам Ордаў. Тады да імя Напалеона Орды ніхто з кіраўніцтва раёна, архітэктараў і будаўнікоў не прыслухаўся... І адбылося непапраўнае і недаравальнае — магілу вялікага чалавека знішчылі…

Мінае час. Зрэдку з’яўляюцца артыкулы, якія шырока асвятляюць асобу мастака. У 1973 г. Л. Дробаў змясціў біяграфію Напалеона Орды ў «Беларускай савецкай энцыклапедыі». З гэтага часу імя таленавітага сына Палесся было назаўсёды вернута роднаму краю.

З канца 1970-х гг. творчыя работнікі раённай бібліятэкі пад кіраўніцтвам Н. Раманюк пачалі паглыбленае вывучэнне архіўных і друкаваных крыніц, мэтанакіравана збіраць

матэрыялы, прысвечаныя жыццю земляка. У бібліятэчным будынку стварылі мемарыяльны пакой мастака, дзе змяшчалася вялікая колькасць інфармацыйных, архіўных матэрыялаў, а чытальную залу афармілі рэпрадукцыямі Орды.

Прадаўжаў папулярызацыю імя мастака і С. Сыраежка, гісторык па спецыяльнасці, паважаны чалавек у раёне і вобласці. З калектывам настаўнікаў і вучняў школы ён фарміраваў грамадскую думку, выклікаючы цікавасць да ідэі ўшанавання імя Орды належным чынам. З яго ўдзелам абласное тэлебачанне падрыхтавала некалькі тэлеперадач, якія дэманстраваліся не толькі ў Беларусі, але і ў Польшчы.

З вялікай зацікаўленасцю ўключыўся ў пошукавую працу карэнны жыхар Варацэвічаў Р. Сыраватка. Шчыры прыхільнік нацыянальна-культурнага адраджэння, намеснік дырэктара Варацэвіцкай школы, пазней загадчык аддзела прапаганды і агітацыі райкама партыі, ён актыўна падтрымліваў працэс вяртання імя Напалеона Орды на бацькаўшчыну. Менавіта Р. Сыраватка накіроўваў запыты ў разнастайныя навуковыя і архіўныя ўстановы краіны [171, 288].

Супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук С. Цярохін таксама атрымаў цікавыя матэрыялы з Польшчы. Шмат каштоўных дакументаў выяўлена і ў архівах Нацыянальнай бібліятэкі ў Мінску.

Шэраг звестак, якія тычыліся Напалеона Орды, адшукаў і выкарыстаў для напісання артыкулаў гісторык па прафесіі, на той час першы сакратар райкама камсамола С. Кушцель [192—195]. Не прыпыняюць пошукавую работу супрацоўнікі раённай бібліятэкі Н. Куліч і Н. Дробыш. Цяпер яны здольныя весці экскурсіі па ордаўскіх мясцінах Іванаўшчыны.

Сваю цікавасць да жыцця і творчасці Напалеона Орды праявілі іншыя дасведчаныя ды зацікаўленыя іванаўцы: былы пракурор раёна А. Дзенісейка, былы архітэктар (цяпер выкладчык гарадской школы бандарства) В. Касяк. Апошні ўдзельнічаў у апрацоўцы архіўных матэрыялаў, што ўтрымлівалі апісанне збудаванняў ордаўскага маёнтка, зрабіў схемы і эскізы сядзібы ва ўрочышчы Чырвоны Двор [123].

Неацэнны ўчынак па ўвекавечванні імя Напалеона Орды зрабіла жыхарка Іванава Марыя Курыловіч. Яна ведала пра земляка вельмі шмат, памятала месца яго пахавання на іванаўскіх каталіцкіх могілках, разам з сынам Аляксандрам адшукала надмагільную пліту мастака (цяпер яна дэманструецца ў Музеі гісторыі Беларускага Палесся ў Пінску) [189]. Працуючы ў аддзеле загса Іванаўскага райвыканкама, гэтая жанчына знайшла ў архівах запіс пра нараджэнне Напалеона Орды ў вёсцы Варацэвічы, пераклала матэрыялы з польскай мовы на рускую.

Цікавыя звесткі пра знакамітага земляка паведамілі старажылы — мясцовыя жыхары С. І. Самасюк, Е. Р. Пуцыковіч і Р. В. Бандзюк: яны памяталі месца, дзе некалі знаходзілася сядзіба Ордаў [288].

Шмат пісаў для раённай газеты мясцовы журналіст А. Крэйдзіч. Ягоныя драматычны распавед «Палескі Напалеон» і кніга «Параненыя мары», пераклад нарыса Орды пра Аляксандра Скірмунта, шэраг іншых публікацый таксама спрыялі вяртанню імя майстра ў духоўную прастору радзімы [180—185]. У 2000 г. у Мінску выдадзена кніга «Памяць», прысвечаная Іванаўскаму раёну з артыкулам В. Клімчука «Н. Орда» (пасляслоўе А. Павяльчук) [171].

Пад кіраўніцтвам начальніка аддзела культуры Іванаўскага райвыканкама Уладзіміра Шэляговіча значную працу па зборы і сістэматызацыі ордаўскіх матэрыялаў праводзяць Ларыса Дрычыц, першы дырэктар музейнага комплексу Валянціна Барадзінчык, іншыя работнікі аддзела.

Безумоўна, самай вялікай удзячнасці заслугоўваюць людзі, што дапамагаюць гэтай справе матэрыяльнымі і фінансавымі сродкамі: старшыня кааператыва «Снітава-Агра» А. Гліннік, прадпрымальнік С. Шыкалай з Моталя, чалавек драматычнага лёсу, польскі грамадзянін Рамуальд Свёнтак, які мае палескія карані [288].

## 57. Пленэры памяці майстра

Ужо не адно дзесяцігоддзе шчодрая зямля Іванаўшчыны гасцінна склікае на пленэры творчых нашчадкаў і прадаўжальнікаў справы палескага майстра пэндзля і алоўка.

Мэта пленэраў — прыцягнуць увагу сённяшняга пакалення мастакоў да творчай спадчыны майстра, актывізаваць яе дзейнасць і тым самым папоўніць мастацкімі творамі бібліятэкі, музеі і іншыя ўстановы культуры Іванаўшчыны.

Першы пленэр мастакі Брэстчыны правялі ў жніўні 1995 г., наступныя два адбываліся ў ліпені 1996-га і ліпені 1998 г. Самым насычаным і плённым стаў Міжнародны пленэр, прысвечаны 190-й гадавіне з дня нараджэння знакамітага мастака (1996). Як падае В. Жушма, «творчая кухня» на ім беларускіх і польскіх мастакоў адрознівалася дасканаласцю і адметнасцю формы адлюстравання прыгажосці гістарычных аб'ектаў і краявідаў радзімы Напалеона Орды [134].

Пяты па ліку пленэр рэспубліканскага ўзроўню, што адбыўся на Іванаўшчыне 4—13 верасня 2006 г., напярэдадні 200-годдзя Н. Орды, вылучаўся тэматычнай шматпланавасцю. На выніковую выставу былі прадстаўлены каля 60 карцін, у якіх кожны мастак засведчыў свой патрыятызм і індывідуальнасць [118].

Адна з арганізатарак мерапрыемства — Марына Князева з Брэста — намалявала «Ордаўскія далягляды», берасцеец Ігар Раманчук выканаў палатно «Адлюстраванне», маталянін Іван Раманчук — малюнак «Хутар». Мастакі з абласнога цэнтра — Галіна Рабава, Анатоль Сакалоў, Леанід Салаў'ёў, Аксана Гайдуковіч, Аляксандр Фалей з Баранавічаў, Сяргей Харашаўцаў і Яўген Шатохін з Пінска, нарэшце, мінчанін Уладзімір Капшай стварылі палотны з непаўторнымі краявідамі Палесся. Ордаўскую музейную калекцыю таксама папоўнілі мастацкія альбомы Уладзіміра Кіркевіча — самабытнага паслядоўніка справы слаўтага земляка, працы прымеркаваны да юбілею мастака [118]. Мастацкую скарбніцу Іванаўшчыны папоўнілі навучэнцы Іванаўскай школы мастацтваў імя Н. Орды.



**І. Голубеў. Бюст Н. Орды**

## 58. Майстра, увасоблены ў бронзе, камені і метале

Падрыхтоўка да юбілею Напалеона Орды (1997) выклікала жывы інтарэс да спадчыны майстра не толькі навуковай і творчай інтэлігенцыі, але і мясцовай улады. Патрабавалася годна ўшанаваць яго імя. Па ініцыятыве аддзела культуры Іванаўскага райвыканкама і абласнога фонду Н. Орды пачалася праца па стварэнні мемарыяльных знакаў на гістарычных мясцінах Іванаўшчыны, звязаных з жыццём і дзейнасцю Орды. У яе ўключыліся кіраўнікі гаспадарак, прадпрыемстваў і іншых устаноў раёна.

Першай ластаўкай стала адкрыццё памятнага знака на скрыжаванні дарог Брэст — Іванава — Снітава. Камень для гэтага знайшоў у Камянецкім раёне і прывёз для апрацоўкі ў Брэст Віталь Клімчук, тагачасны начальнік упраўлення культуры аблвыканкама і старшыня абласнога фонду Н. Орды. Апрацаваны ў творчай майстэрні брэсцкага мастака Аляксандра Пашкевіча, сябра ордаўскага фонду, валун ператварыўся ў памятны знак «Родныя мясціны Напалеона Орды».

Адначасова вялася праца па стварэнні манументальнага помніка земляку. Права на выкананне помніка атрымаў малады, але таленавіты сталічны скульптар Ігар Голубеў — аўтар скульптурных кампазіцый Георгію Перамоганосцу і Язэпу Драздовічу ў Мінску, Уладзіміру Караткевічу ў Оршы [288].

31 жніўня 1997 г. у Іванаве адбылося ўсенароднае свята адкрыцця першага ў Еўропе бронзавага помніка Напалеону Орду.

Бронзавая скульптура майстра на гранітным пастаменце паўстала перад гараджанамі Іванава і шматлікімі гасцямі ўрачыстасці на цэнтральным гарадскім скрыжаванні каля Дома культуры (цяпер Цэнтр творчасці і народных традыцый).

У 2000 г. па ініцыятыве моладзі, падтрыманай сельсаветам, у вёсцы Гарбаха, што знаходзіцца за 3 кіламетры ад Варацэвічаў, закладзены сквер імя Н. Орды. У верасні 2002 г. на былых каталіцкіх могілках устаноўлены памятны знак, а ў студзені 2007 г., напярэдадні 200-й гадавіны, ва ўрочышчы Чырвоны Двор паўстаў гранітны камень з надпісам «Месца размяшчэння сядзібы славутага мастака Н. Орды».



**Іванава. Н. Орда ў бронзе**
Фота аўтара. 2007 г.

## 59. З імем Напалеона Орды

На пачатку 1990-х гг., калі ў працу па адраджэнні ордаўскай спадчыны ўключылася даволі шырокае кола грамадскіх арганізацый, дзяржаўных устаноў, журналістаў, даследчыкаў і аматараў Іванаўшчыны, спатрэбілася стварыць каардынацыйны грамадскі орган, які ўзяў бы на сябе функцыі на абласным узроўні змагацца за вяртанне імя Орды.

У канцы 1993 г. невялікая група энтузіястаў з Брэста і Іванава вырашыла стварыць абласны фонд Напалеона Орды. Ініцыятыўную групу ўзначалілі Віталь Клімчук, на той час начальнік упраўлення культуры аблвыканкама, і Уладзімір Шэляговіч.

22 лютага 1994 г. у Брэсце адбыўся ўстаноўчы сход прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі Брэста, Іванава, Пінска, Мінска і Пружанаў — ініцыятыўнай групы па стварэнні абласнога фонду Н. Орды, якая складалася з 16 чалавек.

Рашэннем Брэсцкага аблвыканкама ад 1 жніўня 1994 г. № 241 ад быў зарэгістраваны статут фонду, а 10 жніўня 1994 г. упраўленне юстыцыі аблвыканкама паставіла на ўлік грамадскае аб'яднанне і выдала пасведчанне з правам юрыдычнай асобы за № 18.

З часу стварэння аб'яднанне правяло вялікую работу па папулярызацыі і ўшанаванні імя Напалеона Орды (арганізацыя выставы твораў мастака, міжнародных пленэраў, навуковых канферэнцый, круглых сталоў, творчых сустрэч, радыё- і тэлеперадач, публікацый у рэспубліканскім і мясцовым друку). Асабліва плённай стала праца старшыні аб'яднання Віталя Клімчука, які літаральна па крупінках збіраў матэрыялы пра мастака, каб стварыць першае ў Беларусі біяграфічнае выданне «Наполеон Орда. Творец архитектурного пейзажа».

З 1992 г. імя Напалеона Орды ўганаравана ў назве адной з вуліц Іванава, а ў 1996 г. яно прысвоена Іванаўскай дзіцячай школе мастацтваў.

## 60. Мемарыяльны комплекс Н. Орды

Да пачатку 1990-х гг. аддзел культуры Іванаўскага райвыканкама сабраў шмат матэрыялаў пра знакамітага земляка. У асяродку мясцовых краязнаўцаў, журналістаў, гісторыкаў, прыхільнікаў адраджэння матэрыяльнай і духоўнай спадчыны Напалеона Орды.

Спачатку ў будынку Іванаўскай цэнтральнай бібліятэкі быў аформлены мемарыяльны пакой Н. Орды, у якім экспанавалася вялікая колькасць архіўных і друкаваных матэрыялаў, асобных рэпрадукцый акварэляў і літаграфічных малюнкаў мастака.

На Варацэвіцкай сядзібе пачаліся ў жніўні 2004 г. археалагічныя даследаванні пад кіраўніцтвам кандыдата гістарычных навук В. Собаля.

Паводле ўспамінаў мясцовых жыхарак Е. Пуцыковіч і Р. Бандзюк, вызначылі дакладнае месца, дзе размяшчаўся дом Ордаў [265]. Ён налічваў 16 пакояў на першым паверсе і два на другім, мансардным, і быў пабудаваны з дрэва ў форме выцягнутага прамавугольніка даўжынёю 32,8 метраў і шырынёю — 14,5. Галоўны фасад з порцікам арыентаваўся на поўдзень. Такі самы чатырохкалонны порцік знаходзіўся з боку паркавага фасада. Атынкаваныя калоны былі выкладзены з чырвонай цэглы. З гэтага матэрыялу таксама будаваліся падмуркі, печы, ганкі, скляпенні, перагародкі, а таксама шэраг іншых пабудоў фальварка. На думку археолага, цэгла выраблялася паблізу сядзібы, хутчэй за ўсё ў вёсцы Гарбаха, дзе яшчэ на памяці старажылаў працавала цагельня. Знойдзеная вялікая колькасць рэчаў дазваляе ўявіць жыццё гаспадароў фальварка, розныя гаспадарчыя прылады, кухонны посуд (керамічныя чарапкі, гаршкі, міскі, талеркі, збаны, фрагменты шкляных бутэлек, квартаў, слоікаў XVIII — пачатку XX ст.).

У гэты час Іванаўскім аддзелам культуры ўжо апанавала ідэя стварыць на базе зачыненай Варацэвіцкай школы раённы Цэнтр народнага мастацтва, які ўключаў бы мастацкую галерэю, музей Напалеона Орды, шэраг аб'ектаў для аказання паслуг турыстам і гасцям.

Спатрэбіўся творчы чалавек, які змог бы «ажыццявіць» гэтую ідэю. Ім стаў Уладзімір Капшай, выдатны мастак, удзельнік ордаўскіх пленэраў, стваральнік шэрагу арыгінальных музеяў. У сціслыя тэрміны ён сумесна з творчай майстэрняй архітэктара П. Мельніка выканаў будаўнічы макет і праект першай чаргі рэканструкцыі былой школы.

Восенню 2006 г. у Варацэвічах была створана карцінная галерэя.



**Вёска Варацэвічы. Урочышча Чырвоны Двор**

Мемарыяльны знак каля муроў сядзібы Н. Орды

Фота аўтара. 2007 г.



**Вёска Варацэвічы. Урочышча Чырвоны Двор**

Агульны від археалагічнага раскопу сядзібнага дома Н. Орды. 2004 г.

Фота са збораў музейнага комплексу Н. Орды





**Залы Карціннай галерэі Напалеона Орды**

## 61. Юбілей праведзены годна

Восенню 2005 г. у Парыжы адбывалася XXXIII сесія Генеральнай асамблеі ЮНЕСКА, на якой 200-гадовы юбілей мастака і кампазітара Напалеона Орды быў унесены ў спіс 63-х памятных дат планеты 2007 года.

Юбілей Напалеона Орды Беларусь адзначыла ўрачыста. У падрыхтоўку святочных мерапрыемстваў, уключыліся міністэрствы культуры, замежных спраў і інфармацыі, Нацыянальная акадэмія навук, Беларускі саюз мастакоў, Нацыянальны мастацкі музей, Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Нацыянальная камісія Беларусі па справах ЮНЕСКА, Брэсцкі абласны выканаўчы камітэт, Іванаўскі райвыканкам, шматлікія грамадскія аб'яднанні.

Юбілейны, 2007 год адкрывалі рэспубліканскія, абласныя і раённыя мерапрыемствы. На Іванаўшчыне ў студзені і лютым наладзілі конкурс літаратурных работ «Вялікі грамадзянін Еўропы», у якім удзельнічалі больш за 80 старшакласнікаў раёна. 9 лютага адкрылася выстава ў музеі «Выратаваныя мастацкія каштоўнасці». Праз чатыры дні эстафету памяці падхапілі работнікі абласной бібліятэкі імя Максіма Горкага, а 22 лютага ўжо жыхары старажытнага Пінска наведалі залы Музея гісторыі Беларускага Палесся. Тут экспанаваліся неацэнныя рэліквіі: надмагільная пліта майстра, рэчы і мэбля XIX ст., шэраг дагэтуль невядомых лістоў, фотакартак з альбома роду Скірмунтаў. У Брэсце і Пінску на выставах гучалі ордаўскія мелодыі, што спрыяла папулярызацыі спадчыны цудоўнага кампазітара і педагога.

12 лютага 2007 г. у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбылася прэзентацыя альбома «Напалеон Орда», складзенага мастаком З. Герасімовічам і пісьменнікам В. Чаропкам. Удзельнікаў мерапрыемства пазнаёмілі з электроннай версіяй «Спадчына Напалеона Орды», куды ўвайшлі «Граматыка польскай мовы» і копіі літаграфій [168].

Адначасова ў Нацыянальным мастацкім музеі, Нацыянальнай бібліятэцы, Навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук і Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрыліся выставы, прысвечаныя юбіляру. Паўсюдна перад наведвальнікамі былі прадстаўлены рэчы шляхецкага побыту XIX ст., кнігі, альбомы, музычныя творы "Палескага Напалеона".

Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі сумесна з Нацыянальнай камісіяй Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА і Міністэрствам культуры краіны правёў Міжнародную навуковую Ордаўскую канферэнцыю ў Мінску. У яе рабоце






**Праект сядзібнага дома Н. Орды.**

Аўтар і кіраўнік праекта У. Казакоў. 2008 г.

**Макет мемарыяльнага комплексу Н. Орды ў в. Варацэвічы**

Фота аўтара. 2007 г.

бралі ўдзел амаль 40 вучоных з многіх куткоў Беларусі, прадстаўнікі Польшчы, Літвы, Украіны. 5 лістапада Генеральнае консульства Рэспублікі Польшча ў Брэсце сумесна з Брэсцкім дзяржаўным універсітэтам імя А. С. Пушкіна правялі Міжнародную навукова-практычную канферэнцыю, на якой выступілі з дакладамі навукоўцы з Беларусі, Украіны і Польшчы.

Значны ўклад у папулярызацыю музычнай спадчыны Орды ўнеслі Нацыянальны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, ансамбль салістаў «Класік — Авангард», народны артыст Беларусі Ігар Алоўнікаў. Звыш дзесятка фартэпіянных твораў Напалеона Орды, апрацаваных для камерных калектываў, прагучалі ў студзені і лютым на VII фестывалі беларускай музыкі «Заслаўе-2007», на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі ў Мінску і ў іншых гарадах і мястэчках [98].

**Паштовы блок і памятная манета, падрыхтаваныя да юбілею Н. Орды**







Адметным падарункам для калекцыянераў сталі памятная манета «Напалеон Орда 1807—1883», выпушчаная ў лютым 2007 г. Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь, і паштовыя блокі (канверты і маркі) з партрэтам Орды, падрыхтаваныя Белпоштай.

Урачыстасці, што з гонарам распачаліся ў Беларусі, перанесліся ў Францыю. Падрыхтоўчую працу па святкаванні юбілею ў Парыжы правялі пасольства і пастаяннае прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь пры ЮНЕСКА ў Парыжы.

У рамках запланаваных мерапрыемстваў у штаб-кватэры ЮНЕСКА вясною 2007 г. пастаянным прадстаўніцтвам сумесна з Нацыянальнай камісіяй Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА была разгорнута выстаўка, прысвечаная жыццю і творчасці Н. Орды. На адкрыцці 27 сакавіка адзначалася, што Н. Орда ўнёс у мастацкую скарбонку Еўропы больш за тысячу пейзажаў Беларусі, Украіны, Літвы, Польшчы, Германіі, Францыі, Іспаніі, Партугаліі, што «ён не толькі раскрыў сусветнай цывілізацыі талент беларускага народа, яго шматвекавую культуру і традыцыі, але і захаваў у сваёй творчасці для будучых

пакаленняў своеасаблівасць і прыгажосць гістарычнай і архітэктурнай спадчыны цэлага шэрагу еўрапейскіх краін». На вернісажы прысутнічалі прадстаўнікі Балгарыі, Літвы, Расіі, Румыніі, Сербіі, Узбекістана і Украіны, Сакратарыята ЮНЕСКА, Польскай бібліятэкі ў Парыжы, беларускай дыяспары.

На наступны дзень, 28 сакавіка, у цэнтры Парыжа, непадалёку ад будынка «Опера Гарнье», на доме № 9 па вуліцы Луі ле Гран была адкрыта першая ў Францыі памятная дошка ў гонар нараджэнца Беларусі. На базальтавай пліце высечана імя майстра, гады яго жыцця, праведзеныя ў гэтым будынку, словы ўдзячнасці слыннаму мастаку і кампазітару [224].




**Парыж. Мемарыяльная дошка Н. Орды**
Фота з архіва аўтара. 27 сакавіка 2007 г.

## 62. Вобраз Н. Орды ў беларускім кіно

З сярэдзіны 1990-х гг. вобраз Н. Орды пачынае з'яўляцца на беларускіх тэле- і кінаэкранах. Паводле В. Нячай і А. Шаройкі, у дакументалістыцы знята некалькі карцін. Сярод іх — тэлефільм «Напалеон Орда» (1990) Л. Гедравічуса і кінафільм-эсэ «За брамай забытых мелодый» (1994) С. Гайдука, тэлефільм «Нёман» (2000) В. Жыгалкі, відэафільм «Нарадзіўся я ліцвінам» (2006) Я. Сяцько [223].

Першым, хто спрычыніўся да ўвасаблення Н. Орды на экране,— таленавіты рэжысёр Людгардас Гедравічус. У сукупнасці яго карціны складаюць экранную энцыклапедыю Беларусі. Таму невыпадкова, што ён звярнуўся да стварэння партрэта майстра. На студыі «Тэлефільм» Беларускага тэлебачання ён зняў фільм «Напалеон Орда» (1990 г., сцэнарыст Л. Пракопчык, аператар В. Гур'ян). Гэты фільм просты і даступны для ўспрымання. Яго мэтай была хутчэй папулярызацыя звестак пра тады яшчэ малавядомага шырокай аўдыторыі мастака і кампазітара, які валодаў моцнай творчай энергетыкай і так шмат зрабіў у сваім жыцці для нашчадкаў. Аўтары фільма распавядаюць пра малую радзіму мастака і здымаюць гэтыя мясціны на Палессі — Варацэвічы, Пінск, Іванава, адлюстроўваюць яго ўдзел у паўстанні 1831 г., вымушаную эміграцыю, парыжскі перыяд жыцця, сяброўства з А. Міцкевічам, Ф. Шапэнам, вяртанне ў родныя мясціны, творчыя вандроўкі па краіне і за яе межамі. У фільме гучаць мелодыі з твораў Ф. Шапэна, самога Н. Орды, адначасова падаюцца суцэльнай стужкай малюнкі з выявамі гістарычных мясцін Беларусі. Фільм Л. Гедравічуса па праву можна аднесці да разраду манаграфічных тэлепартрэтаў.

Наступны фільм пра Н. Орду «За брамай забытых мелодый» зняты творчым аб'яднаннем «Летапіс» Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» (1994 г., сцэнарыст У. Мароз, рэжысёр С. Гайдук, аператар Л. Слобін). Танальнасць карціны паэтычная і элегічна-напеўная. Аўтары ствараюць у кадры такую атмасферу, што глядач нібыта праз стагоддзі, мінаючы «браму» — заслону, трапляе ў часы Напалеона Орды. У карціне абраз з выяваю Хрыста, які быў падараваны самім мастаком праваслаўнай царкве в. Варацэвічы, яго радавое гняздо, Свіслацкая гімназія, палацы, паркі, замкі, руіны, маёнткі, фальваркі, знітаваныя з імёнамі знакамітых суайчыннікаў, мясціны, якія асабліва ўшанаваны на акварэлях.

Сучаснікам Н. Орды, яго землякам прысвечаны шэраг неігравых фільмаў беларускай вытворчасці. Разам з Т. Касцюшкам, А. Міцкевічам, І. Дамейкам Н. Орда стаў адным з герояў відэафільма «Нарадзіўся я ліцвінам» (2006 г., рэжысёр Я. Сяцько, аператар А. Уласаў).

Напалеон Орда, яго сучаснікі, іх жыццё і творчасць з'яўляюцца пастаяннай крыніцай натхнення для многіх рэжысёраў-дакументалістаў: В. Кавалёва, М. Жданоўскага, А. Рудэмана, В. Сукманава, Р. Ясінскага [223].

* * *

Паспрабуем адказаць на простыя і адначасова складаныя пытанні: кім быў і кім застаецца Напалеон Орда для беларусаў?

Дзякуючы нястомнай рознабаковай дзейнасці Напалеон Орда стаў сапраўдным тытанам беларускай культуры. Яго творчы геній фарміраваўся паступова. Усе лепшыя чалавечыя якасці ён узяў ад бацькоў. Маці была таленавітай піяністкай, бацька — прафесіянальным інжынерам-землеўпарадчыкам.

Гучнае імя хлопчык атрымаў у гонар імператара Францыі. З патаемнай надзеяй беларуская шляхта разлічвала на дапамогу Банапарта ў справе адраджэння Вялікага Княства Літоўскага. Гэтыя спадзяванні цалкам падзяляў хлопчык. З імі, стаўшы ўжо дарослым, «Палескі Напалеон» жыў, тварыў, змагаўся, цярпеў і не развітваўся ўсё жыццё. У Свіслацкай гімназіі ён далучыўся да многіх юнакоў-патрыётаў, якія не толькі не ўспрымалі царызм, але і выступалі супраць яго.

Рамантычны і высакародны Напалеон Орда заўжды быў гатовы ахвяраваць сабою дзеля свабоды Бацькаўшчыны. Не вагаючыся, ён уступіў у тайнае студэнцкае таварыства «Заране», за што быў выключаны з Віленскага універсітэта, увязнены ў турму і заклеймаваны як «палітычна-недабранадзейная» асоба.

Юнак горача падтрымаў нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1830—1831 гг., пачуццём гонару ён напісаў і прылюдна агучыў палымяны верш «Ліцвін да паляка», прысвечаны паўстанню. Гэтая акалічнасць сведчыла, што Н. Орда, як і большасць беларускай шляхты, лічыў сябе ліцвінам.

Пасля падаўлення паўстання Н. Орда быў вымушаны жыць удалечыні ад родных мясцін, бо расійскія ўлады аднеслі яго да ліку «злачынцаў другога разраду», пазбавілі маёмасці і вынеслі прысуд: адправіць на катаргу.

Лёс эмігранта заўсёды цяжкі, але «Палескі Напалеон» знайшоў выйсце са складаных жыццёвых абставінаў, сфарміраваў сябе як творцу. Ён акунуўся ў багемнае жыццё, з поспехам займаўся музыкай і выяўленчым мастацтвам, чым заваяваў сімпатыю не толькі сваіх землякоў-эмігрантаў, але і французскай інтэлігенцыі.

Пасля вяртання на Бацькаўшчыну, жывучы ідэяй яе нацыянальнага вызвалення, Н. Орда быў зняволены, але не адрокся ад Радзімы, нават тады, калі застаўся без сродкаў для існавання.

Улада адабрала ў яго маёмасць, але была бяссільнай перад божым дарам майстра. Ён шмат маляваў, задумаў стварыць мастацкую энцыклапедыю гістарычных мясцін Еўропы. Ягоныя акварэлі і літаграфіі даюць нам магчымасць убачыць і прыгажосць роднага краю, і вялікія страты, што панесла Беларусь. Праз свае мастацкія творы Н. Орда выказаў павагу сябрам і гістарычным асобам, якія праславілі Айчыну на вякі. Праз жывапіснае слова наш зямляк звяртаўся да нашчадкаў і нарэшце быў пачуты на Радзіме.

Другая частка кнігі прысвечана малюнкам Н. Орды, якія мастак выканаў, вандруючы па тэрыторыі Беларусі.

Фотакопіі акварэляў друкуюцца ўпершыню. Ілюстрацыі размяшчаюцца ў алфавітным парадку па абласцях і раёнах, пададзены назвы мясцовасці ці гістарычнага аб'екта (горада, мястэчка, маёнтка, сядзібы, фальварка, палаца ці замка).

Кожнай фотаілюстрацыі папярэднічае кароткае апісанне гісторыі населеных пунктаў, дзе пабываў Напалеон Орда, робяцца спасылкі на выкарыстаную літаратуру, друкаваныя і архіўныя крыніцы. Анатацыі да акварэляў прыводзяцца на падставе «Каталога архітэктурных малюнкаў са збораў Нацыянальнага музея ў Кракаве» [375].

Усяго змешчана 238 ордаўскіх выяў беларускіх гістарычных аб'ектаў і пейзажаў, у тым ліку па Брэсцкай вобласці — 59, Віцебскай — 24, Гомельскай — 7, Гродзенскай — 105, Магілёўскай — 9 і Мінскай — 34.

Фотакопіі акварэляў Н. Орды выкананы, сістэматызаваны і апрацаваны аўтарам за пятнаццаць апошніх гадоў навуковых пошукаў. На іх публікацыю атрыманы адпаведны дазвол ад кіраўніцтва Нацыянальных музеяў Кракава і Варшавы.

Выкладанню матэрыялу папярэднічаюць карты-схемы абласцей Беларусі з нанесенымі на іх назвамі населеных пунктаў і ўрочышчаў, у якіх знаходзіліся гістарычныя аб'екты, замаляваныя Напалеонам Ордам.

Усе ілюстрацыі пранумараваныя. Іх апісанне вядзецца наступным чынам: спачатку прыводзіцца назва мясцовасці, потым назва гістарычнага аб'екта, кароткае апісанне яго выгляду і, нарэшце, надпісы пад малюнкамі (пакінутыя самім Н. Ордам падаюцца курсівам). Скарочаныя словы расшыфроўваюцца і акрэсліваюцца квадратнымі дужкамі.

Пад ілюстрацыямі пазначаюцца год, месяц і дзень, датаваныя мастаком. Ордаўскія надпісы, у тым ліку змешчаныя на падкладках і картках, прыводзяцца ў перакладзе з польскай і французскай моў на беларускую.

Падаюцца спосабы выкананання малюнкаў (аловак, гуаш, акварэль ці сепія), памеры твораў, нумары, пад якімі яны занатаваны ў аддзелах графікі Нацыянальных музеяў у Кракаве і Варшаве, дзе яны знаходзяцца, таксама пералічваюцца папкі, размеркаваныя па губернях.

Два малюнкі з беларускімі гістарычнымі пейзажамі «Сядзіба Верашчакаў у Туганавічах» і «Францысканскі касцёл у Пінску» выяўлены ў Нацыянальных музеях Варшавы і Вільнюса. Яны друкуюцца пад заанатаванымі нумарамі вышэйназваных музеяў. У тым выпадку, калі акварэль Напалеона Орды не выяўлена, друкуюцца фотакопіі яго літаграфічных аркушаў (іх усяго толькі 11).

У раздзеле «Гродзеншчына» таксама ўпершыню надрукаваны шэраг фотаілюстрацый ордаўскіх акварэляў, якія на сённяшні дзень яшчэ дасканала не вызначаны і не акрэслены.

Даследчыкі архітэктурнай спадчыны Беларусі з цікавасцю пазнаёмяцца з гэтымі гістарычнымі пейзажамі, і, магчыма, камусьці ўдасца вызначыць іх месцазнаходжанне і ўбачыць аблічча сваёй радзімы ў XIX ст.

# Берасцейшчына

Брэст | Баранавіцкі раён | Брэсцкі раён

Бярозаўскі раён | Драгічынскі раён | Жабінкаўскі раён

Іванаўскі раён | Івацэвіцкі раён | Камянецкі раён | Кобрынскі раён

Ляхавіцкі раён | Пінскі раён | Пружанскі раён





**Брэст-Літоўск. Сімяонаўская царква.** 1869 г.

Агульны выгляд бакавога фасада царквы з боку плошчы. Галоўны будынак цэнтрычнай кампазіцыі. Дамінуюць шматгранёвы барабан у цэнтры і чатыры вуглавыя вежы з шатровымі завяршэннямі. Тэрыторыя прыцаркоўных могілак абнесена мураванай агароджай. На другім плане размешчаны гарадскія асабнякі.

Датавана: *30 чэр[веня] 1869 г.*
Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня]*

Малюнак алоўкам. 22,5х29,6

III — r. a. 4324 (Teka Grodzieńska). MNK

## БРЭСТ-ЛІТОЎСК

### *Брэст-Літоўск*

Летапісная назва — *Берестье.* З канца XVIII ст. называўся Брэст-Літоўскам, у 1921—1939 гг.— Брэст-над-Бугам, з верасня 1939 г. носіць сучасную назву Брэст.

У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1019 г. У XII ст. на месцы дзядзінца пабудаваны драўляны замак, у XIII ст. узведзены мураваная вежа-данжон і царква Святога Пятра [138]. У 1836—1842 гг. на месцы Брэст-Літоўска была пабудавана Брэсцкая крэпасць, а горад быў перанесены за 2 кіламетры на ўсход.

Менавіта ў той час, калі горад разбудоўваўся, у ім пабываў Н. Орда і выканаў алоўкам малюнак Сімяонаўскай царквы.

## БАРАНАВІЦКІ РАЁН

### *Буйновічы (Бурдыкаўшчына)*

Палац размяшчаўся ў фальварку паміж вёскамі Застарынне і Пачапава ва ўрочышчы Бурдыкаўшчына. Сядзіба вядома з 1624 г. як уласнасць езуітаў, затым Абуховічаў.

У 1826 г. Бурдыкаўшчына стала ўласнасцю Ганны Валадковіч. Муж наступнай уласніцы маёнтка Рэгіны Абуховіч паходзіў з роду Эйсмонтаў, таму да пачатку XX ст. двор належаў Эйсмонтам.

**Буйновічы. Палац Эйсмонтаў у фальварку Бурдыкаўшчына.** 1876 г.

Від з боку парку. Палац двухпавярховы, з балконам і аднапавярховымі крыламі.

Датавана: *24 верасня 1876 г.* Надпіс: *Бурдыкаўшчына (!) генеральшы Рэгіны Эйсмонтавай з дому Абуховічаў.* Надпіс на падкладцы: *Мінская г[уберня], Бурдыкаўшчына*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,8х28,6

III-r. a. 4454 (Teka Mińska). MNK



Дакладная дата пабудовы палаца невядома, але калі меркаваць па архітэктурным абліччы і стылі, ён, магчыма, узведзены ў канцы XVIII ст. Палац разбураны ў пасляваенны час [229].

У 1876 г. тут пабываў Н. Орда і замаляваў рэзідэнцыю Абуховічаў—Эйсмонтаў.

## *Завоссе*

Колішні фальварак, радавое гняздо Адама Міцкевіча. У 1799 г. бацькі Адама праз суд атрымалі частку Завосся і некалькі гадоў жылі тут. У дзяцінстве ў бацькавай хаце Адам правёў два гады, а пасля, ужо ў сталым узросце, даволі часта наведваў родныя мясціны.

Каля вытокаў роду Міцкевічаў стаяў Валенцій, які валодаў дваром Міцкаўцы ў Лідскім павеце. Яго сын Крыштаф, жанаты з Крысцінай Закрэўскай, перасяліўся ў канцы XVII ст. на Навагрудчыну. Сын Крыштафа Базыль атрымаў у валоданне фальварак Завоссе. Другі сын Якуб ажаніўся з заможнай Тэадорай Пякальскай, а іх сын Мікалай стаў бацькам будучага вялікага паэта [275, 293].

## *Ішкальдзь*

Старадаўняя сядзіба, вядомая паводле інвентароў XVI—XVII стст., калі ўключала ў сябе двор, дворык і гумнішча.



**Завоссе. Сядзіба Міцкевічаў.**
Літаграфія

Надпіс: *Тут 24 снежня 1798 г. нарадзіўся Адам, калі яго бацька Мікалай кіраваў гаспадаркай свайго брата.* Тэкст паўтораны на французскай мове [450].

Арыгінал акварэлі не выяўлены. Магчыма, ён знішчаны ці знаходзіцца ў прыватнай калекцыі.



**Ішкальдзь.Троіцкі касцёл.**
1876 г.

Выгляд галоўнага і бакавога фасадаў.

Датавана: *28 жніў[ня] 1876 г.* Надпіс: *Ішкальдзь. Колішні арыянскі касцёл.* Надпіс на падкладцы: *Мінская г[уберня], (Навагрудскае [ваяводства])*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20х28,5

III-г. а. 4463 (Teka Mińska). MNK

У XVII ст. двор Ішкальдзь меў тыповую фальваркавую структуру з паступовым вылучэннем панскага двара, прыкметамі фарміравання паркавай гаспадаркі.

У 1472 г. на ўсходняй ускраіне вёскі быў пабудаваны мураваны Троіцкі касцёл [229], выгляд якога замаляваў Н. Орда. Касцёл дзейнічае да сённяшняга часу.

## *Паланэчка*

Адзін з унікальных палаца-паркавых ансамбляў. Размяшчаецца над невялікай ракой Дзвеяй (Змейкай), прытокам Ушы. Землі маёнтка належалі ў 1428 г. Ульяне Гальшанскай, жонцы вялікага князя Вітаўта, затым — роду Рудамінаў—Дусяцкіх, а з 2-й паловы XVIII ст. да 1939 г.— ва ўласнасці Радзівілаў [293].

Першым з Радзівілаў, што прыдбаў Паланэчку, быў князь Мацей (1749—1800), віленскі кашталян, знакаміты паэт, публіцыст, грамадскі дзеяч, гарачы патрыёт ВКЛ, павенчаны з Альжбетай Хадкевіч. Затым маёнткам валодалі іх сын Канстанцый, унук Мацей і праўнук Альберт Станіслаў (1858—1927). Апошні выехаў у Амерыку, перапісаўшы сядзібу брату Уладзіславу Радзівілу (у 1909 г.), павенчанаму з князёўнай Ганнай Марыяй Чартарыйскай. Яны сталі апошнімі гаспадарамі Паланэчкі [229].

У бібліятэцы палаца змяшчалася каля 4000 тамоў унікальнага кнігазбору. У капліцы меўся абразок Божай Маці, падараваны каралём Янам III, і драўляны крыжык, прывезены з Ерусаліма ў 1584 г. У палацы віселі партрэт маладога Мікалая Каперніка і 38 партрэтаў прадстаўнікоў роду Радзівілаў, шмат твораў вядомых мастакоў — Бацарэлі, Лампегі, Пешкі, Рустэма — і шэраг габеленаў. Палац захаваўся. Знаходзіцца ў стадыі рэстаўрацыі.



**Паланэчка. Палац Радзівілаў.** 1876 г.

Від з боку пад'езда. Палац двухпавярховы. Па баках размешчаны афіцыны, злучаныя з асноўным будынкам галерэямі. З левага боку — аранжарэя.

Датавана: *Паланэчка, 18 ліпеня.* Надпіс: *К[нязь] Мікалай Радзівіл.* Надпіс на падкладцы: *Мінская г[уберня], Паланэчка*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,2

III-г. a. 4491 (Teka Mińska). MNK



**Сваротва. Палац Незабытоўскіх.** 1876 г.

Агульны від з боку пад'езда. Палац двухпавярховы, з нізкім бельведэрам, побач размешчана аранжарэя.

Датавана: *24 жніў[ня] 1876 г.* Надпіс: *Сваротва, Стэфан Незабытоўскі, жонка Біспінг.* Надпіс на падкладцы: *Сваротва, Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,7х28,5

ІІІ-г.а. 4507 (Teka Grodzieńska). MNK

## *Сваротва*

Паводле крыніц, сядзіба ў XVIII ст. належала Юдзіцкім. У 1765 г. Антоній Юдзіцкі, сын Міхала, кашталяна мінскага, які не меў уласных нашчадкаў, запісаў Сваротву сваёй сястры Барбары, жонцы Казіміра Тызенгаўза. Аднак другая сястра, што была замужам за Крыштафам Пузынай, выказала нязгоду. Пасля сваркі маёнтак быў распрададзены. На пачатку XIX ст. уладальнікамі Сваротвы сталі Незабытоўскія: Якуб, жанаты з Францішкай Кунцэвіч, і яго сын гарадзенскі маршалак Стэфан. Ад апошняга двор адышоў да дачкі Марыі (у замустве графіня Патоцкая). Тая адпісала сядзібу свайму ўнуку Уладзіславу Патоцкаму, які і стаў апошнім уласнікам Сваротвы да прыходу савецкай улады [293].

У свой час Якуб Незабытоўскі ўзвёў у Сваротве надзвычай прыгожую рэзідэнцыю. Палац быў спалены і з таго часу не адбудоўваўся.

## *Туганавічы*

Мемарыяльны палаца-паркавы ансамбль. Размяшчаўся каля вёскі Карчова на Сэрвачы. Некалі быў радавым гняздом легендарнага князя Тугана. Назва маёнтка, безумоўна, мае татарскае паходжанне. На карысць гэтага сведчаць пазначаныя ў дакументах 1566 і 1570 гг. урочышчы Ардынка (Ардынцоўшчына), Татараўшчына, а таксама «гай альховы за татарамі», што размяшчаліся ў наваколлі Туганавічаў.

У пісьмовых крыніцах паселішча ўпершыню згадваецца падчас праўлення вялікага князя ВКЛ Казіміра (1440—1492). Пры Жыгімонце І туганавіцкі двор быў уласнасцю

Масальскіх. У XVI ст. сядзіба належала некалькім гаспадарам, у тым ліку Касцянецкім, ТугаНоўскім, Трызнам, Азарычам. Апошняй уладальніцай стала Юзэфа ТугаНоўская.

У 1815—1820 гг. туганавіцкімі гасцямі часта былі Адам Міцкевіч, Тамаш Зан, Ян Чачот, Ігнат Дамейка. Летам 1818 г. уся прастора тут была асветлена рамантычным і палымяным каханнем дачкі гаспадыні маёнтка — Марылі Верашчакі і маладога Адама Міцкевіча. Трагічная гісторыя гэтага кахання наклала глыбокі адбітак на творчасць славутага паэта. Пройдзе час, Міцкевіч раскіне свае магутныя паэтычныя крылы, але ніколі не забудзе гэтага беларускага куточка, а пазней напіша: «...і вечна сняцца мне Наваградак і Туганавічы». Як сцвярджаюць даследчыкі, апісанне ў паэме «Пан Тадэвуш» мястэчка Сапліцова цалкам адпавядае выгляду туганавіцкай сядзібы. Паводле малюнкаў У. Дмахоўскага (1861), Н. Орды (1876), а таксама фотаздымкаў Я. Булгака, Т. Барэці і К. Карповіча (пачатак XX ст.) вядома, што ў парадной частцы парку размяшчаўся невялікі палац, а ў паўднёва-заходнім кутку парку на ўзгорку — капліца-пахавальня (разбурана ў 1914 г.), абсаджаная па перыметры дубамі. Палац быў знішчаны ў Першую сусветную вайну [229].

Туганавіцкі парк мае мемарыяльнае значэнне. Плануецца яго аднаўленне.

**Туганавічы. Камень і бяроза Міцкевіча.** 1876 г.

Від з боку дарогі і касцёла.

Датавана: *23 ліпеня 1876 г.* Надпіс: *Камень і любімая бяроза. Туганавічы, памятныя побытам Міцкевіча. П[ані] Зофія ТугаНоўская, Канстанцыя, Юзэфа, Ядвіга.* Надпіс на падкладцы: *Туганавічы, Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x29,8

III-r. a. 4510 (Teka Mińska). MNK





**Туганавічы. Альтанка.** 1876 г.

Выгляд паркавай альтанкі.

Надпіс: *Туганавічы (Мінская г[уберня]), Навагрудскі п[авет]. Бяроза, пасаджаная рукой Міцкевіча, і камень, на якім ён сядзеў. Ул[аснасць] Марылі з Верашчакаў Путкамер.* Надпіс на падкладцы: *Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,2x28,1

III-r. a. 4509 (Teka Mińska). MNK



**Туганавічы. Сядзіба Верашчакаў.** 1876 г.

Від з боку пад'езда. Палац аднапавярховы, з порцікам і тэрасай на калонах. У глыбіні — аднапавярховая афіцына з ганкам.

Датавана: *Туганавічы, 24 ліпеня 1876 г.* Надпіс: *Тут жыў Міцкевіч, калі пісаў да Марылі.* Надпіс на падкладцы: *Туганавічы. Мінская г[уберня]. Некалі ўласнасць сям'і Верашчакаў. Тут у маладосці Міцкевіч услаўляў Марылю. Цяпер належаць роду Тугаоўскіх.*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,2

III-r. a. 4508 (Teka Mińska). MNK

Радавое гняздо паплечніка Т. Касцюшкі Юльяна Урсын-Нямцэвіча.

Першая інфармацыя пра скокаўскую сядзібу адносіцца да XVI ст. (у сувязі з падзелам каралеўскіх маёнткаў на валокі). У XVII ст. Скокі перайшлі ва ўласнасць роду Нямцэвічаў.

Новы мураваны палац быў пабудаваны Марцэліем Нямцэвічам і ягонай жонкай Ядвігай Сухадольскай у 1770-я гг. па праекце невядомага архітэктара паблізу ад колішняй сядзібы. На жаль, нельга з упэўненасцю сцвярджаць, што сённяшні выгляд палаца адпавядае першапачатковаму. Можам толькі параўнаць яго з палацам на акварэлі Н. Орды 1860-х гг. [138, 228, 275, 293, 493].

Палац захаваўся. Праводзяцца рэстаўрацыйныя работы.

У 1999 г. адноўлена вежа — гістарычны помнік XVIII ст., што размяшчаецца за 2 кіламетры на поўнач ад вёскі. Паводле даследаванняў А. Гладышчука, вежа ўзведзена Марцэліем Урсын-Нямцэвічам у гонар архангела Рафаіла.



**Скокі. Палац.** 1861—1877 гг.

Від з боку пад'езда. Палац двухпавярховы, з тэрасай на калонах, накрыты ламаным дахам.

Датавана: *Скокі. 16 крас[авіка]*. Надпіс: *Ян Нямцэвіч...* (не чытаецца.— *Аўт.*) *нарodж[аны] Юльян Урсын-Нямцэвіч*. Надпіс на падкладцы: *Скокі. Гродзенская г[уберня]*. Надпіс на карце, прыклеенай да падкладкі: *Скокі. Гродзенская губерня. Недалёка ад Брэста, месца нараджэння Юльяна Урсын-Нямцэвіча, ваяра, пісьменніка і паэта. Нарадзіўся 16 лютага 1757 г., памёр у Парыжы 21 мая 1841 г.* Апошні надпіс паўтораны на французскай мове.

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,3х28,1

III-r.a.4414 (Teka Grodzieńska). MNK

## БЯРОЗАЎСКІ РАЁН

Бяроза ў пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1477 г. Належала заможным прадстаўнікам беларускай шляхты: Гамшэям, Вештартовічам, Гастоўскім, Рудзінскім [275].

У 1477 г. Ян Гамшэй з жонкай Барбарай заснаваў у Бярозе касцёл Святой Тройцы. У 1611 г. Бярозу прыдбаў канцлер ВКЛ Леў Сапега. У 1629 г. яна стала мястэчкам [293].

З 1648 г. пачалося ўзвядзенне будынкаў кляштара ордэна картузіянцаў (картузаў). Ад гэтага і пайшла назва Картуз-Бяроза ці Бяроза-Картузская. Будаўніцтва завершана ў 1689 г. Фундатарам выступіў Казімір Леў Сапега, за што Папа Аляксандр VII дараваў яму тытул князя. У часы Паўночнай вайны (1706) кляштар стаў месцам сустрэчы расійскага цара Пятра І з каралём Рэчы Паспалітай Аўгустам II [138].

Юльян Нямцэвіч апісаў Бярозу ў «Падарожжах у Літву» (1819). Пасля падаўлення паўстання 1830—1831 гг. кляштар канфіскаваны па прычыне актыўнага ўдзелу манахаў у вызваленчым руху. Тут размясціліся вайскоўцы. У 1866 г. значная частка кляштарных пабудоў разабраная, цэгла выкарыстоўвалася для будаўніцтва казармаў.

У сучасны перыяд вядзецца праектна-рэстаўрацыйная праца на былых казармах, уязной браме і кансервацыя руін кляштара.



**Бяроза-Картузская. Кляштар картузіянцаў.** 1861—1877 гг.

Агульны від ансамбля з мураванай агароджай, уязной брамай і вежкамі.

Надпіс: *Кляштар картузаў у Бярозе*
Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня], кляштар картузаў у Бярозе*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x24

III-r. a. 4314 (Teka Grodzieńska). MNK

## *Старыя Пескі*

Паводле пісьмовых крыніц, гісторыя Пескаў вядома з часоў Аляксандра Ягелончыка, які ў 1503 г. падараваў вёску Дзмітрыю Кіяніну, аднаму са сваіх адданых ваяроў. Яго нашчадак Пётр перадаў Пескі дачцэ (у замустве Сухадольскай), якая, у сваю чаргу, падзяліла сядзібу паміж трыма дачкамі. Унучка Сухадольскай Барбара была замужам за Якубам Пуслоўскім, які выкупіў частку Пескаў ад Рагінскіх, а бяздзетны Альшэўскі таксама запісаў сваю частку Барбары. Такім чынам праз пакаленне Пескі зноў апынуліся ў аднаго гаспадара [275].

Францішак Пуслоўскі лічыцца фундатарам цікавага палаца і прыгожага парку, фрагменты якога захаваліся да нашых дзён.

**Старыя Пескі. Сядзіба.** 1865 г.

Від з боку рэчкі. Палац аднапавярховы, з ганкам на калонах. З правага боку — афіцына і аранжарэя, злева — млын.

Датавана: *Пескі, 8 сакавіка 1865 г.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня]. Пескі, двор*

Малюнак алоўкам, падпраўлены сепіяй і акварэллю. 20x24,9

III-r. a. 4397 (Teka Grodzieńska). MNK



*Антопаль*

# ДРАГІЧЫНСКІ РАЁН

Антопальская сядзіба ў XVIII—XIX стст. належала заможным гаспадарам родаў баронаў Бравернаў, Быстрых і князёў Гедройцаў. Адзін з нашчадкаў з роду Бравернаў Хрысціян Абрам у 1757 г. займаў пасаду каралеўскага публічнага пісара. У 2-й палове XIX ст. дачка барона Тэадора Барбара фон Браверн была ў шлюбе з князем Рамуальдам Гедройцам. Сядзібай некаторы час валодалі Гедройцы, а пасля 1900 г. Антопаль перайшоў да Бравернаў.

У 1718 г. тут існаваў базыльянскі кляштар, фундатарам якога з'яўлялася Антаніна Замойская, параднёная з сям'ёй Загароўскіх.

Апошнім гаспадаром антапальскай сядзібы перад 1939 г. быў Лявон Руст [275].

Паводле пісьмовых крыніц і малюнка Н. Орды, Антопальскі палац быў узведзены ў канцы XVIII ст. з дрэва. Будынак знішчаны ў 1960-я гг. пры будаўніцтве майстэрні па рамонце будаўнічай тэхнікі. Ад ансамбля засталіся рэшткі склепа і гаспадарчай пабудовы (свірна), частка саду, парку і галоўнай алеі.



**Антопаль. Сядзіба.**
1861—1877 гг.

Від з боку пад'езда. Палац аднапавярховы, з ганкам на калонах і шырокімі сходамі.

Надпіс: *Антопаль.* Надпіс на падкладцы: *Антопаль. Гродзенская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю і гуашшу. 20,8x23,7

III-r. a. 4312 (Teka Grodzieńska). MNK

## *Белін*

Колішняя сядзіба знакамітага роду Ажэшкаў. Вёска ўпершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах пад 1495 г. Галоўнай рэзідэнцыяй сям'і была закозельская сядзіба. Пётр Ажэшка быў жанаты з Элізай Паўлоўскай і жыў у маёнтку Людвінава. У адным са сваіх фальваркаў, размешчаным над каралеўскім каналам каля вёскі Белін, Ажэшкі адбудавалі арыгінальны палац у выглядзе невялікага замка з рысамі неаготыкі [227, 275]. Але яны не паспелі перасяліцца ў новую рэзідэнцыю. За ўдзел у нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1863—1864 гг. Пётр быў арыштаваны і сасланы ў Пермскую губерню, а маёнткі Людвінава і Белін канфіскаваны. У Першую сусветную вайну палац быў моцна пашкоджаны і не аднаўляўся.

У 1864 г. у Белін прыязджаў Н. Орда і зрабіў малюнак палаца.



**Белін. Палац.** 1864 г.

Від з боку парку. Палац двухпавярховы. Асаблівую прыгажосць яму надавала круглая вежа.

Датавана: *Белін, 11 ліпеня 1864 г.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены сепіяй. 20,1x24,9

III-r. a. 4320 (Teka Grodzieńska). MNK

## *Брашэвічы*

Колішняя сядзіба. Належала заможнаму роду Кяжгайлаў. Каля вёскі ёсць два курганы эпохі Кіеўскай Русі. У 1723 і 1747 гг. у пісьмовых крыніцах упамінаецца Брашэвіцкі ключ, у 1783 г.— царква, касцёл. Гаспадарамі маёнтка пазней былі Радзівілы, езуіцкі кляштар, Пратасевічы. У 1861 г. адкрыта народнае вучылішча, на пачатку XX ст. пабудавана мураваная праваслаўная царква. Захаваліся рэшткі пейзажнага парку [228].



**Брашэвічы. Касцёл.** 1863 г.

Від з боку галоўнага ўвахода. Будынак драўляны, з левага боку месціцца драўляная чатырохбаковая званіца.

Датавана: *Брашэвічы, 13 сакавіка 1863 г.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x24

III-г. a. 4321 (Teka Grodzieńska). MNK



**Броннае. Сядзіба.** 1863 г.

Від з боку пад'езда. Палац аднапавярховы, з ганкам на чатырох калонах, накрыты высокім чатырохсхільным дахам. Да ганка вялі злёгку выгнутыя сходы. Палац знаходзіўся ў вялікім пейзажным парку, закладзеным, верагодна, у 1-й палове XIX ст.

Датавана: *Броннае (!), 13 сакавіка 1863 г.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня]*

Малюнак алоўкам. 20,8x24

III-г. a. 4323 (Teka Grodzieńska). MNK

*Броннае*

Колішняя сядзіба. Землі, на якіх размяшчаўся Броннаўскі палац, цяпер уваходзяць у межы горада Драгічына. Першыя звесткі пра ўрочышча Броннае ўпамінаюцца ў дакументах 1623 г.

У 1860-я гг. сядзіба была ва ўласнасці Баляслава Жука. У тыя часы ў госці да гаспадара маёнтка прыязджаў Н. Орда і замаляваў тут сядзібны дом.

Пасля Другой сусветнай вайны на месцы палаца-паркавага ансамбля месцілася Драгічынская МТС, затым РТС. Палац не захаваўся. У пасляваенны час на тэрыторыі сядзібы быў знойдзены скарб, схаваны тут у 1648 г. [227].




**Закозель. Двор Ажэшкаў.** 1863 г.

Від з боку пад'езда. Палац аднапавярховы, з порцікам на калонах.

Датавана: *24 лютага 1863 г.* Надпіс: *Закозель.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня], маё[нтак] Ажэшкаў*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю і гуашшу. 29,7x23,4

III-r. a. 4428 (Teka Grodzieńska). MNK

## *Закозель*

Радавое гняздо вядомага на Беларусі роду Ажэшкаў. Іх прозвішча паходзіць ад назвы вёскі Ажэшкі (Арэшкі), што на Палессі. Адна з ліній Ажэшкаў у XVII ст. асела на Піншчыне.

Закозельскую сядзібу часта наведвала вядомая пісьменніца, актыўная ўдзельніца нацыянальна-вызваленчага руху Эліза Ажэшка (1841—1910), якая на той час пражывала ў суседнім маёнтку Людвінава [275].

На пачатку XIX ст. у Закозелі быў узведзены арыгінальны палац, вядомы цяпер па акварэлі Н. Орды. У 1839 г. тут была пабудавана манументальная капліца-пахавальня. Палац захаваўся часткова. Капліца ў паўразбураным стане. Вядзецца праектаванне на рэстаўрацыю.



**Равіны. Двор.** 1865 г.

Від з боку дарогі. Дом аднапавярховы, з ганкам на калонах. Побач гаспадарчыя будынкі.

Датавана: *Равіны, 19 кастр[ычніка] 1865 г.* Надпіс на падкладцы: *Равіны. Гродзенская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20x24,8

III-r. a. 4409 (Teka Grodzieńska). MNK

## *Равіны*

У далёкім мінулым вёска Равіны ўваходзіла ў склад Драгічынскага графства. Першыя звесткі пра маёнтак і вёску сустракаюцца ў дакументах за 1776, 1778 і 1779 гг. [227].

У 1860-я гг. маёнткам валодалі Юрэвічы. Менавіта ў гэты час у гасцях у гаспадара пабываў Напалеон Орда і выканаў унікальныя акварэлі з відам двара. У склад сядзібна-паркавага

**Равіны. Двор.** 1865 г.

Фрагмент гаспадарчых збудаванняў

Датавана: *Равіны, 20 кастрычніка 1865 г.* Надпіс на падкладцы: *Равіны. Гродзенская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20x24,8

III-г. а. 4408 (Teka Grodzieńska). MNK



ансамбля ўваходзілі панскі дом канца XVIII ст., парк і шэраг гаспадарчых пабудоў. Галоўны ўезд у сядзібу ішоў цераз масток. Злева, на беразе сажалкі, стаяла невялікая капліца. Сядзібу ахінаў пейзажны парк, што складаўся пераважна з дрэў мясцовых лісцевых парод.

Пасля паўстання 1863—1864 гг. маёнтак Равіны быў секвестраваны і перададзены расійскім землеўладальнікам. Яго набыў правадзейны стацкі саветнік Андрэй Спірыдонаў, які ў 1893 г. прадаў сядзібу і мястэчка Драгічын стацкаму саветніку Фёдару Мінкову [293].

Затым маёнткам па спадчыне валодалі Надзея Гросман і Вольга Красоўская. Апошняй уладальніцай Равінскага двара да Другой сусветнай вайны была Ксенія Мінкова-Валасевіч.

У пасляваенны перыяд сядзіба знішчана.

## *Язвіны*

Паводле пісьмовых крыніц, старадаўняя вёска Язвіны вядома з XVI ст. У 1563 г. значная частка вясковых зямель належала Грушаўскай царкве. У мінулым яна адносілася да Осаўскай воласці, затым гміны, уваходзіла ў склад маёнткаў Станіслава Гаўрылкевіча, затым Вінча Даноўскага. У 1750 г. тут, ва ўрочышчы Дзяды, быў пабудаваны Свята-Духаўскі касцёл у стылі барока [375].

Пасля падаўлення паўстання 1863 г. касцёл перабудавалі пад праваслаўную царкву. У 1861 г. у Язвінах пабываў Н. Орда і намаляваў гістарычны будынак Свята-Духаўскага касцёла.



**Язвіны. Свята-Духаўскі касцёл.** 1861 г.

Від галоўнага і бакавога фасадаў. Касцёл аднанефавы, абнесены нізкай драўлянай агароджай на мураваных слупах.

Датавана: *8 чэрвеня 1861 [г]*. Надпіс: *Дзяды 1772 [г]*. Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[убернія]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 14,6x23,7

III-r. a. 4439 (Teka Grodzieńska). MNK



**Пятровічы. Сядзіба.** 1870 г.

Від з боку ракі Мухавец. Дом аднапавярховы, з ганкам на калонах і мансардай. З левага боку месцяцца аднапавярховая афіцына і гаспадарчыя будынкі.

Датавана: *Пятровічы, 11 лютага 1870 г.* Надпіс: *Рака Мухавец*
Надпіс на падкладцы: *Гродзенская (губерня). Пятровічы, двор*

Малюнак алоўкам, падпраўлены сепіяй і акварэллю. 22,4x29,7

III-r. a. 4398 (Teka Grodzieńska). MNK

# ЖАБІНКАЎСКІ РАЁН

## *Пятровічы*

З XVI ст. сядзіба належала Багушэвічам, якія часам зваліся Федзькавічамі—Пятровічамі. У 1830-я гг. сям'я Дзяконскіх адбудавала на правым беразе Мухаўца палац, які праіснаваў да 1945 г.

Паводле акварэляў Напалеона Орды (1870), які гасцяваў у Пятровічах, палац Дзяконскіх быў пабудаваны з дрэва, у плане меў форму прамавугольніка. У сярэдняй частцы месціўся двухпавярховы порцік на 4 калонах з верандай. На франтоне трохкутнага шчытка знаходзіўся сямейны герб Дзяконскіх «Карабель». Уваход у палац быў з тэрасы, прыбудаванай пазней на левым баку ад порціка. Па баках месціліся невялікія ганкі на дзвюх белых калонах кожны, на іх абапіраліся трохкутныя шчыткі. На адным шчытку быў лацінскі надпіс: «Спяшайся штосьці зрабіць!», на другім — «Выбірай залатую сярэдзіну» [293].



**Пятровічы. Сядзіба.** 1870 г.

Агульны від.

Датавана: *Пятровічы. 11 лютага 1870 г.* Надпіс на падкладцы: *Пятровічы. Гродзенская [губерня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены гуашшу і сепіяй. 22,4x29,6

III-r. a. 4399 (Teka Grodzieńska). MNK

# ІВАНАЎСКІ РАЁН



**Варацэвічы. Сядзіба Ордаў.**
1860 г.

Від з боку пад'езда. Дом аднапавярховы, з ганкам і мансардай, накрытымі ламаным гонтавым дахам.

Датавана: *Варацэвічы, 14 жніў[ня] 1860 г.* Надпіс на падкладцы: *Варацэвічы, месца нараджэння Напалеона Орды*

Малюнак алоўкам, падпраўлены гуашшу (малюнак пашкоджаны.— Аўт.). 14,7x23,5

III-r. a. 4425. (Teka Grodzieńska). MNK



**Варацэвічы. Сядзіба Ордаў.**
1860 г.

Выгляд аднапавярховых гаспадарчых пабудоў.

Датавана: *Варацэвічы, 15 жніўня 1860.* Надпіс на падкладцы: *Варацэвічы. Месца нараджэння Напалеона Орды*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю і гуашшу. 14,7x22,5

III-r. a. 4424. (Teka Grodzieńska). MNK

## *Гнеўчыцы (Града)*

Поле бітвы Траўгута знаходзілася каля фальварка Града, паблізу вёскі Гнеўчыцы. У красавіку 1863 г. на канспірацыйнай сустрэчы арганізатараў вызваленчага руху, што адбылася ў маёнтку Божы Дар пад Кобрынам, Рамуальд Траўгут (нараджэнец в. Шастакова, цяпер у Камянецкім раёне; адстаўны падпалкоўнік царскай арміі, пазней генерал; гаспадар маёнтка Астроўе, цяпер у Маларыцкім раёне) прыняў прысягу і даў згоду ўзначаліць Кобрынскі паўстанцкі атрад. Ён правёў шэраг баёў з расійскімі карнымі войскамі на Палессі, у тым ліку на тэрыторыі фальварка Града на Іванаўшчыне і паблізу вёскі Горкі (цяпер на тэрыторыі Любяшоўскага раёна Украіны), пра што сведчаць малюнкі Н. Орды. Мастак выканаў іх пры наведванні гэтых мясцін адразу ж пасля паўстанцкіх падзей.



**Града. Поле бітвы Траўгута.**
1863 г.

Агульны від поля бою.

Надпіс: *Града. Гродзенская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю

III-г. а. 4367 (Teka Grodzieńska). MN

## *Іванава*

Мястэчка вядома з XIV ст. Шэраг сучасных энцыклапедычных выданняў Беларусі ўтрымліваюць недакладную інфармацыю аб гісторыі мястэчка Янава Палескага, памылкова прыпісаўшы яму падзеі і асобы, узятыя з гісторыі польскага горада Янава Падляскага.

Мястэчка доўгі час знаходзілася ў руках князёў Шуйскіх, затым перайшло па чарзе да роду Ажэшкаў, Дмухоўскіх і Кружэцкіх.

У 1657 г. у Янаве казакамі быў схоплены і забіты езуіцкі прапаведнік Андрэй Баболя. (У 1853 г. Папа Рымскі Пій IX залічыў яго да ліку святых.) У гонар А. Баболі на цэнтральнай плошчы Янава ўзвялі капліцу, а ў 1848 г. побач з ёю пабудавалі касцёл. Яго заснавальнікам з'явіўся Францішак Павел, сябар цара Мікалая I, які падараваў касцёлу абраз святой Кацярыны. Праваслаўная драўляная царква існавала ў Янаве з 1667 г.

У маі 1861 г. у мястэчку пабываў Н. Орда і замаляваў гістарычныя будынкі касцёла і капліцы.



**Іванава. Парафіяльны касцёл.** 1861 г.

Выгляд фасада касцёла са шчытком і надпісам. З левага боку драўляная званіца. На першым плане — чатырохбаковая каплічка Святога Андрэя Баболі.

Датавана: *Янаў, 26 мая 1861 г.* Надпіс: *Помнік С[вятога] Баболі.* Надпіс на падкладцы: *Янаў. Гродзенская [губерня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены гуашшу. 14,8x23,6

III-г.а. 4370 (Teka Grodzieńska). MNK

**Іванава. Парафіяльны касцёл.** 1869 г.

Выгляд фасада касцёла са шчытком і надпісам. З левага боку драўляная званіца. На першым плане — чатырохбаковая капліч-ка святога Андрэя Баболі.

Надпіс: *Янаў.*

Малюнак алоўкам, падпраўлены гуашшу. 22,5x29,8

KJB, 1-282 (418)



**Магільна. Двор.** 1863 г.

Від з боку пад'езда. Будынак сядзібы аднапавярховы, з ганкам. З правага боку аднапавярховае збудаванне.

Датавана: *21 ліпеня 1863 г.* Надпіс: *Магільна.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня]. Магільна. Двор*

Малюнак алоўкам, падпраўлены гуашшу. 20x25

III-r. a. 4386 (Teka Grodzieńska). MNK



*Магільна*

На пачатку XVII ст. маёнтак належаў Яну Пратасовічу, сыну князёўны Марыны Палубінскай. Невядома, хто быў гаспадаром Магільны ў XVIII ст. У 1-й палове XIX ст. двор перайшоў да баронаў фон Цешаў. Каля 1859 г. прадстаўніца гэтага роду Іда выйшла замуж за капітана інжынерна-будаўнічых войскаў Людвіка Канткоўскага (1834—1912) і прынесла маёнтак у якасці пасагу ў род мужа [293].

Да 1915 г. у Магільне існаваў даволі вялікі і прыгожы аднапавярховы дом, накрыты на ўзор іншых маёнткаў на Палессі чаротам. Такое накрыццё найлепшым чынам утрымлівала ў зімовы час цяпло. З правага боку стаяла невялікая афіцына, таксама з чаротавай страхой. У 1863 г. у Магільне пабываў Напалеон Орда і намаляваў будынак школы пры двары Канткоўскіх.



**Магільна. Вясковая школа.** 1863 г.

Агульны выгляд аднапавярховага будынка школы з саламянай страхой.

Дата: *21 красавіка 1863 г.* Надпіс: *Гродзенская г[уберня], школа бакалаўраў у Магільне.* Надпіс на падкладцы: *Магільна. Гродзенская г[уберня], школа бакалаўраў*

Малюнак алоўкам. 20,8x23,7

III-r. a. 4387 (Teka Grodzieńska). MNK

## *Моладава*

Колішні палаца-паркавы ансамбль. З XVI ст. ці нават раней Моладава з'яўлялася радавым гняздом Войнаў герба «Тромбы». Паводле гістарычнага надпісу на старадаўнім звоне (1583), першым гаспадаром маёнтка і фундатарам Моладаўскай царквы быў Барыс Мацвеевіч Война (1440—1527), мсціслаўскі кашталян і пінскі падкаморы. Яго сын Сямён Война загадаў адліць звон у гонар бацькі. Пасля Сямёна маёнткам валодаў яго сын Станіслаў, затым нашчадак Барыса Уладзіслаў Война. Пазней у Моладаве пачалі гаспадарыць Скірмунты.

На той час, калі Шыман Скірмунт набыў Моладава, там існаваў старадаўні палац Агінскіх (згарэў у 1840 г.). Будаўніцтва новага палаца распачалі яшчэ ў 1895 г. і завяршылі па праекце знакамітага архітэктара Гроса.

У 1905—1908 гг. паміж уязной брамай і афіцынай пабудавалі сямейную капліцу (архітэктар Тадэвуш Растварόўскі).

У 1864 г. Моладава наведаў Н. Орда і зрабіў акварэль з выявай рэзідэнцыі Скірмунтаў.



**Моладава. Уніяцкая царква.** 1864 г.

Выгляд галоўнага і бакавога фасадаў. Царква драўляная, з дзвюма вежкамі і званіцай.

Надпіс: *Уніяцкая царква ў Моладаве.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня], Моладава. Уніяцкая царква*

Малюнак алоўкам, падпраўлены сепіяй. 20х24,8

III-r.a.4389 (Teka Grodzieńska). MNK



**Моладава. Палац Скірмунтаў.** 1864 г.

Агульны від з боку парку. Палац аднапавярховы, з высокім ганкам на калонах.

Датавана: *Моладава, 11 чэрвеня 1864 г.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня], Моладава. Палац*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20x25

III-r. a. 4388 (Teka Grodzieńska). MNK



**Навашыцы. Двор.** 1863 г.

Від з боку парку. Палац аднапавярховы. Па баках размешчаны дзве афіцыны. Палац і афіцыны накрыты саламянай страхой.

Датавана: *Навошын (!). 19 верасня 1863 г.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня], Навошын, двор*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю і сепіяй. 20x24,8

III-r. a. 4392 (Teka Grodzieńska). MNK

## *Навашыцы*

Навашыцкая сядзіба, якая раней часам называлася Навашынам, належала заможнаму і моцна разгалінаванаму роду князёў Гедройцаў. У канцы XVIII ст., калі прадстаўніца гэтай сям'і Генавефа Гедройц выйшла замуж за Дамініка Орду, пінскага каморнага, навашыцкая сядзіба перайшла ва ўласнасць Ордаў.

Апошнім гаспадаром Навашыцаў быў Вітольд Орда (1901—1945), удзельнік барацьбы з нямецка-фашысцкімі акупантамі ў Другую сусветную вайну.

У 1860-я гг. навашыцкую сядзібу наведаў Н. Орда і зрабіў яе замалёўку. Апісанне фальварка на пачатку XX ст. пакінуў Зыгмунд Глогер [293].

# ІВАЦЭВІЦКІ РАЁН

## *Косава (Мерачоўшчына)*

У комплекс косаўскіх маёнткаў некалі ўваходзіў фальварак Мерачоўшчына. Самыя старадаўнія крыніцы сведчаць, што ў 1494 г. вялікі князь ВКЛ Аляксандр Ягайлавіч падараваў Косава літоўскаму маршалку Яну Літавор-Храптовічу, а ў 1510 г. Жыгімонт І Стары пацвердзіў яго правы на Косава. З таго часу на працягу звыш 400 гадоў Косава заставалася прыватнаўласніцкім мястэчкам.

У 1-й палове XVIII ст. землі ў фальварку Мерачоўшчына ўзяў у арэнду бацька Тадэвуша Касцюшкі — Людвік Касцюшка-Сяхновіцкі (каля 1700—1758), мечнік Берасцейскага ваяводства, палкоўнік польнай булавы войска ВКЛ [228, 275, 293].

На момант набыцця Войцехам Пуслоўскім косаўскіх маёнткаў былы сядзібны дом Касцюшкаў знаходзіўся ў вельмі занядбаным стане. Дзякуючы дабрачыннасці, патрыя-



**Мерачоўшчына.** Літаграфія

Надпіс: *Мерачоўшчына. Гродзенская г[уберня]. Палац Вандаліна Пуслоўскага і дом, у якім 12 лютага 1746 г. нарадзіўся Тадэвуш Касцюшка* (дата памылковая, пададзены дзень яго хрышчэння замест дакладна невядомага дня нараджэння Т. Касцюшкі.— *Аўт.*). Надпіс паўтораны па-французску. 0161 [450].

Арыгінал акварэлі не выяўлены, магчыма, знішчаны ці знаходзіцца ў прыватнай калекцыі.

тычным пачуццям і павазе да асобы Тадэвуша Касцюшкі сын Войцеха Вандалін Пусловскі распачаў аднаўленне сядзібы, фактычна пабудаваўшы наноў. Менавіта пасля яе рэстаўрацыі, праз чвэрць стагоддзя пасля мастака Міхала Кулешы, у Мерачоўшчыне ў 1871 г. пабываў Напалеон Орда і выканаў малюнак адноўленай сядзібы на фоне ўзведзенага прадстаўнічага Косаўскага палаца.

Сядзіба мае мемарыяльнае значэнне. Пасля вайны рабіліся захады па яе рэканструкцыі. У 1980—1990-я гг. архітэктарамі дзяржаўнага прадпрыемства «Брэстрэстаўрацыяпраект» выкананы генеральны план рэканструкцыі дома і аднаўлення косаўскага палацавапаркавага ансамбля. У 1999 г. каля падмуркаў колішняй сядзібы Касцюшкаў удзячнымі нашчадкамі пастаўлены памятны знак слыннаму ваяру за волю і дэмакратыю. У 2004 г. за кошт бюджэтных асігнаванняў, пры фінансавай падтрымцы Злучаных Штатаў Амерыкі адноўлены дом-сядзіба Тадэвуша Касцюшкі, у якой працуе мемарыяльны музей. Цяпер праектуецца аднаўленне Косаўскага палаца.

## КАМЯНЕЦКІ РАЁН

### *Высокае (Высока-Літоўск)*

Першае ўпамінанне пра горад Высокае ўтрымліваюць дакументы XIV ст., калі вялікі князь Гедымін затрымаўся ў Высокім Горадзе, які прывабіў сваім маляўнічым выглядам. У 1494 г. гаспадар ВКЛ Аляксандр Ягайлавіч надаў гораду магдэбургскае права. У 1511 г. вялікі князь Жыгімонт I Стары пацвердзіў права на валоданне Высокім літоўскаму маршалку Івану Літавор-Храптовічу, які пабраўся шлюбам з князёўнай Ядвігай Гальшанскай [227].

Затым уладары горада змяняліся досыць часта. У 1647 г. Высокае з шэрагам фальваркаў (Лумна, Свіцічы, Расна, Зубачы, Вайнаўка) выкупіў віцебскі ваявода і гетман ВКЛ



**Высока-Літоўск. Замкавая брама.** 1876 г.

Від з боку ракі Пульвы. З правага боку — двухпавярховая замкавая брама. З левага боку ў глыбіні — касцёл Святой Тройцы з дзвюма вежамі.

Надпіс: *Замкавая брама. Высока-Літоўск.* Надпіс на падкладцы: *Высока-Літоўск, Гродзенская г[убернія]. Старажытнае гняздо кн[язёў] Сапегаў. К[нязь] Аляксандр Сапега, канцлер в[ялікі] літоўскі, заклаў у 1785 г. кляштар кс[яндзоў] баніфратараў са шпіталем для хворых. Цяпер уласнасць графіні Марыі Патоцкай.* Апошні надпіс паўтораны па-польску і па-французску на карце, прыклеенай да падкладкі.

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,3х29

III-r. a. 4426 (Teka Grodzieńska). MNK

**Высока-Літоўск. Палац Патоцкіх.** 1876 г.

Від з боку ракі Пульвы. Палац аднапавярховы, з высокім ганкам. Па баках размешчаны афіцыны. З правага боку — бакавы фасад парафіяльнага касцёла.

Датавана: *23 крас[авіка]. Высока-Літоўск. 1876 г. Высока-Літ[оўск], рака Пульва. Гр[афіня] Марыя Патоцкая.* Надпіс на падкладцы: *Высока-Літоўск. Гродзенская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,3x29

III-г.а.4427 (Teka Grodzieńska). MNK



Павел Ян Сапега (1609—1665), уладальнік Ружанаў. Высокае належала Сапегам каля 200 гадоў [293]. У 1678 г. яны ўзвялі магутны замак, які стаў узорам бастыённых умацаванняў. У часы Паўночнай вайны ён неаднаразова гарэў і разбураўся. На сённяшні дзень захаваліся руіны замкавай брамы. Пасля пажару 1748 г. Сапегі перанеслі сваю рэзідэнцыю ў Слонім [138].

На паўднёвы захад ад замка ў мясцовасці, якую называлі Марыямполь, у 1785 г. Аляксандр Сапега пабудаваў кляштар ордэна баніфратараў (добрых братоў). Аўтарам праектаў кляштара, касцёла і шпіталя з'яўляўся знакаміты архітэктар Я. С. Бекер, які пакінуў пасля сябе шэраг шэдэўраў палаца-паркавай архітэктуры на Берасцейшчыне, у тым ліку Ружанскі палац [228].

Мураваны палац у Высока-Літоўску быў закладзены Пелагеяй Патоцкай у 1815 г. Цяпер ён знаходзіцца ў стадыі рэстаўрацыі.

## *Камянец*

Заснаваў Камянец, паводле старажытных летапісаў, уладзіміра-валынскі князь Уладзімір Васількавіч, які ў 1276 г. паслаў дойліда Алексу будаваць умацаванне на рацэ Лясной.

Летапісная назва — *Столп камен.* Вежа з'яўляецца унікальным помнікам абарончага дойлідства 2-й паловы XIII ст., размешчана ў цэнтры горада Камянца.

Збудаванні тыпу Камянецкай вежы маюць назву «данжон» — так завецца галоўная вежа феадальнага замка, якая служыла сховішчам для людзей падчас варожай аблогі.

Паводле Іпацьеўскага летапісу, пабудавана паміж 1271 і 1289 гг. таленавітым Алексам на месцы невялікага паселішча X—XI стст.

Гісторыя вежы цесна звязана з Камянцом, які ўзнік як горад-крэпасць для абароны паўночных межаў Уладзіміра-Валынскага княства. Больш за 700 гадоў вежа вытрымлівала аблогі і напады ворагаў, прыродныя катаклізмы. Тут часта спыняліся на адпачынак гаспадары Вялікага Княства і польскія каралі [370].

У 1899 г. па заданні расійскай археалагічнай экспедыцыі вежа была абследавана і абмерана акадэмікам У. В. Суславым. Рэстаўрацыя праводзілася ў 1903—1905 гг. пад кіраўніцтвам галоўнага інспектара па ахове помнікаў Расіі архітэктара П. П. Пакрышкіна [228]. У 1970 г. каля вежы праводзіліся археалагічныя даследаванні пад кіраўніцтвам беларускага вучонага М. А. Ткачова. Камянецкая вежа абвешчана гісторыка-культурнай каштоўнасцю міжнацыянальнай катэгорыі. З 1960 г. тут працуе філіял Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея.

**Камянец-Літоўскі. Вежа.** 1876 г.

Агульны выгляд цыліндрычнай вежы.

Датавана: *Камянец-Літоўскі, 20 крас[авіка] 1876 г.* Надпіс на падкладцы: *Камянец-Літоўскі. Гродзенская г[убернbackup].* *Надпіс на картцы, падклеенай да падкладкі: Камянец-Літоўскі. Гродзенская губерня. Мястэчка, размешчанае на граніцы Белавежскай пушчы, недалёка ад Брэст-Літоўска. Захавалася вежа замка, пабудаваная супраць яцвягаў каля 1276 г. Алексам па загаду валынскага князя Уладзіміра.* Апошні надпіс прадубляваны па-французску.

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,4x29

III-r. a. 4372 (Teka Grodzieńska). MNK






**Камянец-Літоўскі. Вежа.** 1876 г.

Агульны від вежы даўняга замка, сінагогі, накрытай ламаным дахам.

Датавана: *Камянец-Літоўскі. 20 кра-с[авіка]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,4x29

III-r. a. 4372 — на адвароце. (Teka Grodzieńska). MNK

# КОБРЫНСКІ РАЁН

## *Кобрын*

Шэраг даследчыкаў XIX ст. (М. Балінскі, Ц. Ліпінскі, П. Бацюшкаў, К. Зданьскі) сцвярджалі, што Кобрын належаў да найстаражытных славянскіх паселішчаў, а ягоныя замкі ўзведзены князямі, якія паходзілі ад валынскіх гаспадароў. Вядома, што кобрынскія князі пабудавалі ў Кобрыне царкву Святых Пятра і Паўла, Спаскі манастыр (абодва да 1465 г.), пазней узведзены касцёл Святога Гераніма [293].

Кобрынскія замкі існавалі ў XIV—XVIII стст. на месцы дзядзінца і пасада, неаднойчы руйнаваліся падчас войнаў, часткова аднаўляліся і, як сведчыць акт рэвізіі 1597 г., прыйшлі ў заняпад, а ў XVIII ст. былі канчаткова разбураныя.

Паводле сцвярджэнняў П. Шпілеўскага, В. Анціпава і М. Ткачова, у канцы XVIII ст. Аляксандр Суворaў загадаў разабраць рэшткі кобрынскага замкавага ансамбля, а замкавыя валы былі зруйнаваны ў 1840-я гг. пры стварэнні Маскоўска-Варшаўскай шашы [228]. Да сённяшняга часу захаваліся толькі невялікія рэшткі замкавага рова.



**Кобрын. Панарама горада.** 1864 г.

Агульны від забудовы горада на абодвух баках ракі Мухавец. З правага боку ўзвышаюцца двухвежавы касцёл і асобна званіца.

Датавана: *Кобрын, 1863, 7 красав[іка]*. Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня], Кобрын*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,1x24,8

III-г. а. 4374 — на адвароце. (Teka Grodzieńska). MNK



**Кобрын. Парафіяльны касцёл.**
1864 г.

Выгляд галоўнага і бакавога фасадаў.

Датавана: *7 крас[авіка] 1864 г.* Надпіс: *Кобрын.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня], Кобрын. Параф[іяльны] касцёл*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,1x25

III-г. а. 4375 (Teka Grodzieńska). MNK



**Грушаўка. Двор Рэйтанаў.**
1864—1876 гг.

Від з боку галоўнага ўвахода. Дом аднапавярховы, з порцікам на чатырох калонах.

Датавана: *Грушаўка 1 верасня.* Надпіс: *Уласнік Юзаф Рэйтан. Тут 20 жніў[ня] 1742 г. нарадзіўся Тадэвуш Рэйтан.* Надпіс на падкладцы: *Грушаўка. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20x28,5

III-г. а. 4462 (Teka Mińska). MNK

## ЛЯХАВІЦКІ РАЁН

### *Грушаўка*

Мемарыяльны палаца-паркавы ансамбль, радавое гняздо Рэйтанаў.

Вёска Грушаўка ўпамінаецца ў гістарычных дакументах з XVI ст. Да 1551 г. належала князёўне Барбары Радзівіл, якая падаравала маёнтак Мікалаю Залескаму [293].

Вядома, што ў канцы XVII ст. кароль Рэчы Паспалітай і вялікі князь ВКЛ Ян III Сабескі падарыў грушаўскі маёнтак кракаўскаму рыцару Рэйтану, які праславіўся ў бітве з туркамі пад Венай. Рэйтаны — род нямецкага паходжання, вядомы ў Рэчы Паспалітай з 1600 г. У Грушаўцы нарадзіўся вядомы патрыёт Рэчы Паспалітай Тадэвуш Рэйтан (1741—1780). Дамінік Рэйтан заклаў на месцы фальварка грушаўскі двор у формах класіцызму, а ў канцы XIX ст. Юзаф Рэйтан на мурах старога палаца пабудаваў шыкоўны драўляны палац [275]. У сучасны момант ён знаходзіцца ў аварыйным стане. Захаваліся гаспадарчыя пабудовы. Капліца ў стадыі рэстаўрацыі.

### *Святычы*

Мястэчка Святычы ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах з 1506 г. як цэнтр маёнтка і шляхецкая ўласнасць, калі кароль Польшчы і вялікі князь ВКЛ Аляксандр дазволіў яго тагачасным гаспадарам Пяткевічам праводзіць кірмашы. Пасля Пяткевічаў Святыцкім маёнткам валодалі Давойны, Карыцкія, Казаноўскія, Фурсы, Пясецкія, Хадкевічы, Пузыны ды інш.

У XVIII ст. Святычы перайшлі да Абуховічаў. З гэтага роду паходзіў мінскі кашталян Міхал Абуховіч (1760—1844), які даволі плённа займаўся жывёлагадоўляй. Яго



**Святычы. Палац Чапскіх.** 1876 г.

Агульны выгляд двухпавярховага палаца і капліцы з боку ўязной дарогі

Надпіс: *Святыч[ы] ад дзядзінца гр[афа] Эдварда Чапскага.* Надпіс на падкладцы: *Мінская г[уберня], Святычы*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,8x28,5

III-г. а. 4505 (Teka Mińska). MNK



**Сваятычы. Палац Чапскіх.** 1876 г.

Від з боку ракі Ведзьмы.

Датавана: *Сваятычы, 28 жніўня 1876 г.* Надпіс на падкладцы: *Сваятычы, Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,7х28,7

III-г. а. 4506 (Teka Mińska). MNK

дачка Соф'я выйшла замуж за палкоўніка Станіслава Чапскага (1779—1844) і свой пасаг далучыла да ўласнасці мужа. Потым па спадчыне маёнткам валодалі сын Соф'і і Станіслава Эдвард Чапскі (1819—1880), затым адна з яго дачок Вераніка (1854—1920). Апошнім гаспадаром Сваятычаў стаў яе сын Генрык Чапскі (1879—1948), які быў у шлюбе з Лізаветай Плятэр. Перад прыходам савецкай улады ў 1939 г. Генрык эміграваў. Памёр у Рыо-дэ-Жанейра [293].

У 1876 г. у Сваятыцкім маёнтку пабываў Напалеон Орда, які стварыў дзве акварэлі з відамі палаца-паркавага ансамбля. Асновай кампазіцыі стаў цудоўна аздоблены палац-рэзідэнцыя, пабудаваны ў першай чвэрці XIX ст. Міхалам Абуховічам. Іншыя крыніцы сцвярджаюць, што будынак быў узведзены бацькам Міхала ў 1772 г.

Як прызнаваліся тагачасныя шматлікія госці, Сваятыцкі палац і парк у той перыяд былі самымі прыгожымі сярод тых, што існавалі ў Навагрудскім ваяводстве. Цяпер ад палаца-паркавага ансамбля засталіся толькі невялікія рэшткі парку.

## ПІНСКІ РАЁН

### *Пінск*

Адзін са старажытных гарадоў Беларусі. У пісьмовых крыніцах ён упершыню згадваецца пад 1097 г. у «Аповесці мінулых гадоў».

На пачатку XIV ст. горад увайшоў у склад ВКЛ, з XV ст. у Трокскім ваяводстве, з XVI ст.— цэнтр Пінскага староства, затым аднайменнага павета ў складзе Берасцейскага ваяводства. У 1581 г. горад атрымаў магдэбургскае права і герб [138]. Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Пінск уключаны ў Расійскую імперыю, стаў цэнтрам Пінскага павета Мінскай губерні.

Горад багаты на помнікі гісторыі і культуры XVI—XIX стст. У 1912—1915 гг. тут працаваў выкладчыкам прыходскага вучылішча Якуб Колас. З Пінска паходзяць беларускі праваслаўны дзеяч XVII ст. Л. Карповіч, выдатны архітэктар І. Жалтоўскі і іншыя асобы.

У канцы XVI ст. ва ўсходняй частцы пінскага прадмесця ўзнікла мястэчка Каралін, забудаванае паводле рэгулярнага плана. У яго цэнтры маршалак Вялікага Княства Літоўскага Ян Дольскі ўзвёў бастыённы замак. Крыху пазней яго ўладальнікам сталі князі Вішнявецкія, якія значна палепшылі ўмацаванні, мадэрнізавалі замак. Ён быў пабудаваны ў лепшых традыцыях італьянскай фартыфікацыйнай архітэктуры. У плане быў падобны на чатырохкутнік памерамі 75,6x37, 8x46, 2x75,6 метраў, па вуглах меў бастыёны, узмоцненыя валунамі. За валамі існаваў падземны ход, што цягнуўся па перыметры замка, праз кожныя 4 метры ў ім меліся невялікія адтуліны (да 20 сантыметраў), праз якія праходзілі святло і паветра. Падземны ход меў выйсце на бастыёны [228].

Да замка вяла ўязная брама-вежа, меўся роў шырынёй каля 9 метраў з перакінутым цераз яго пад'ёмным мостам. Бастыёны з супрацьлеглага боку ад ракі Піны былі больш магутныя, чым паўднёвыя, прыкрытыя высокім берагам і водамі ракі.

Каралінскі замак пінскага прадмесця неаднаразова разбураўся. Значныя пашкоджанні ён атрымаў у час аблогі Пінска рускімі войскамі (ліпень 1660 г.) і штурму горада шведскім каралём Карлам XII (1704). На пачатку XIX ст. тут заставаліся два бастыёны і адна курціна.



**Пінск. Панарама горада.** 1868 г.

Агульны від горада з боку ракі Піны. На малюнку двухвежавы парафіяльны касцёл са званіцай. Злева размешчаны трохпавярховы палац.

Датавана: *Пінск, 18 кастр[ычніка]. 1868 г.* Надпіс: *Касцёл францыска-[нцаў] (?)...* (тэкст пашкоджаны.— *Аўт.*). Надпіс на падкладцы: *Мінская г[уберня], Пінск*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 22,3x29,6

III-г. а. 4488 (Teka Mińska). MNK



**Каралін пад Пінскам. Руіны замка Вішнявецкіх.** 1868 г.

Агульны від.

Датавана: *15 лістап[ада] 1868 г.* Надпіс: *Рэшткі замка кн[язёў] Вішнявецкіх у Пінску.* Надпіс на картцы, падклеенай да падкладкі: *Каралін пад Пінскам. Руіны замка князёў Вішнявецкіх. Знішчаны ў 1709 г. падчас вайны Пятра В[ялікага] супраць Карла XII.* Апошні надпіс паўтораны на французскай мове.

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю, гуашшу і крэйдай. 21,7x29

III-r. a. 4464. (Teka Mińska). MNK



**Каралін пад Пінскам. Руіны замка Вішнявецкіх.** 1868 г.

Агульны від.

Надпіс: *Руіны замка кн[язёў] Вішнявецкіх у Пінску.* Надпіс на падкладцы: *Мінская [губерня]. Пінск, руіны замка кн[язёў] Вішнявецкіх*

Малюнак алоўкам. 22,4x29,5

III-r. a. 4489. (Teka Mińska). MNK

**Каралін пад Пінскам. Руіны замка Вішнявецкіх, раней Дольскіх.** 1868 г.

Від руінаў замка. Надпіс: (пачатак не чытаецца.— *Аўт.*) *Муры замка кн[язёў] Вішнявецкіх у Пінску*

Надпіс на падкладцы: *Мінская [губерня], Пінск. Руіны замка кн[язёў] Вішнявецкіх*

Малюнак алоўкам, падпраўлены гуашшу. 21,6х28,3

ІІІ-г. а. 4490 (Teka Mińska). MNK



**Лешч пад Пінскам. Базыльянскі касцёл.** 1868 г.

Напалеон Орда ўвекавечыў на малюнку колішняе пінскае прадмесце Лешч. Цяпер пад такой назвай у Пінску вядомы парк культуры і адпачынку, закладзены яшчэ пры князях Вішнявецкіх. У прадмесці Лешч з XIII ст. існаваў старажытны праваслаўны манастыр. Ягоны будынак (першапачаткова драўляны) уключаў шэраг жылых і гаспадарчых памяшканняў, Свята-Духаўскую і Успенскую цэрквы і званіцу. У 1262 г. сын заснавальніка ВКЛ Міндоўга Войшалк, прыняўшы хрысціянства, хаваўся ў Ляшчынскім манастыры ад забойцаў, пасланых яго дзядзькам [228]. На малюнку Н. Орды «Лешч пад Пінскам» (1868) добра бачны фрагмент Ляшчынскага парку, што ахінаў манастыр, і старажытны (паводле падання) капец Міндоўга, на якім узвышаўся крыж — сімвал прынящця хрысціянства на паганскай Літве.

У цэнтры Ордавага малюнка з боку ракі Піны бачны двухвежавы касцёл уніяцкага ордэна базыльянаў.

Надпіс: *Лешч пад Пінскам.* Надпіс на картцы, падклеенай да карткі: *Лешч пад Пінскам. Стары кляштар, у якім хаваўся сын вялікага князя літоўскага Міндоўга Войшалк, якога праследаваў ягоны дзядзька Трайната.*

Малюнак алоўкам, падпраўлены гуашшу. 22,4х28,3

ІІІ-г. а. 4469 (Teka Mińska). MNK



Яшчэ ў 1960-я гг. добра праглядаліся рэшткі муроў, валоў і равоў Каралінскага замка, але пры будаўніцтве жылога квартала і гаспадарчых аб'ектаў яны былі поўнасцю знішчаныя.

Руіны Каралінскага замка ў свой час прыцягвалі ўвагу мастакоў і пісьменнікаў, гісторыкаў і архітэктараў. Тут неаднаразова бываў Н. Орда, які пакінуў у мастацкай спадчыне некалькі замалёвак руін замка сярэдзіны XIX ст. Арыгіналы іх захоўваюцца ў Кракаўскім нацыянальным музеі, а замак, на жаль, знік назаўсёды.



**Пінск. Францысканскі касцёл.** 1871 г.
Агульны выгляд касцёла. На пярэднім плане сакральная статуя.
Малюнак алоўкам. 18,5x24,3
LNM. T — 651[200]

**Гарадзішча. Агульны від кляштара бенедыкцінцаў.**
Літаграфія

Надпіс: *Кляштар бенедыкцінцаў пад Пінскам, які быў закладзены ў 1662 г[о-дзе] Ю. К. Копцем [450].*

III-гус.-028502#001 MNK

Арыгінал акварэлі знішчаны ці знаходзіцца ў прыватнай калекцыі.



## *Гарадзішча*

Упершыню Гарадзішча ў пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1501 г. Каля 1620 г. манахі ордэна бенедыкцінцаў заснавалі тут кляштар. У 1668 г. яны ўзвялі касцёл Святой Ганны, у якім над фрэскамі на біблейскія тэмы працаваў мастак К. Хюбель. У XVIII ст. быў поўнасцю сфарміраваны ўвесь архітэктурны ансамбль кляштара, тэрыторыю якога абкружала крапасная сцяна. За падтрымку манахамі паўстання 1863 г. кляштар быў зачынены ў 1864 г., а маёнткі, што належалі манахам, канфіскаваны.

У 1910 г. касцёл быў вернуты каталіцкай парафіі праз судовы працэс. Грошы на выкуп касцёла ахвяравалі пісьменніца М. Радзевіч і гісторык К. Скірмунт, памешчыцы Ю. Кужанецкая і М. Селюжыцкая, графіня Брэйль-Плятэр і іншыя вернікі.

У 1944 г. касцёл быў узарваны пры адступленні нямецка-фашысцкіх войск. Да гэтага часу захаваўся адзін з будынкаў кляштара.

## *Дубай*

Упершыню згадваецца ў дакументах пад 1498 г., калі канюшы Сенька Дзмітравіч атрымаў ад Марыі, жонкі князя Сямёна Пінскага, чатыры дворышчы ў Дубаі. Доўгі час быў маёнткам Кужанецкіх. Спачатку землямі валодалі заможныя Полазавы і Агінскія. У 1-й палове XVII ст. Дубай перайшоў ва ўласнасць пінскага старосты князя Альбрэхта Радзівіла, які ў 1635 г. падарыў маёнтак ордэну езуітаў. (Паводле іншых крыніц, езуіты

атрымалі Дубай у 1634 г.) У гэты час тут існаваў праваслаўны манастыр, у якім служыў у 1633—1636 гг. знакаміты змагар за праваслаўную веру ігумен брэсцкі Афанасій Філіповіч (1597—1648), кананізаваны ў якасці святога пакутніка [227, 293]. У 1636 г. манастыр перайшоў да уніятаў, а праз некаторы час быў зачынены езуітамі.

Праз Дубай пралёг жыццёвы шлях таксама вялікага хрысціянскага асветніка, езуіцкага прапаведніка Андрэя Баболі (1591—1657), які, у сваю чаргу, быў кананізаваны каталіцкай царквой [228].

У Дубаі прайшлі дзіцячыя гады гісторыка, паэта, асветніка і грамадскага дзеяча ВКЛ Адама Нарушэвіча (1733—1796) [293].

## *Жабчыцы*

Колішні палаца-паркавы ансамбль, радавое гняздо Красіцкіх. Першая згадка пра вёску Жабчыцы сустракаецца ў пісьмовых крыніцах пад 1524 г.

Спачатку ў маёнтку гаспадарылі Анцукевічы, якія атрымалі Жабчыцкае дворышча і Гогалеў палац ад караля і вялікага князя Жыгімонта I Старога за добрую службу. Дачка Юрыя Анцукевіча Марына была замужам за Ф. П. Шчэпам, радцам пінскага князя Фёдара, і маёнтак Жабчыцы перайшоў ва ўладанне Шчэпаў, што і пацвердзіла ў 1524 г. каралева Бона [293]. З 1534 г. Жабчыцы па чарзе належалі Алізарам, Журавіцкім, Фядковічам, Валадкевічам, Завадскім і, нарэшце, Красіцкім [228].

Тут у 1870-я гг. пабываў Н. Орда і замаляваў фальварак. На сёння палаца і парку ўжо не існуе.



**Дубай.** Літаграфія

Надпіс: *Дубай. Гродзенская г[уберня]. Багацце* (манастыра.— *Аўт.*) *перададзена ў 1635 г. Альбрэхтам Радзівілам пінскім езуітам. Пазней* (маёнтак.— *Аўт.*) *стаў уласнасцю роду Кужанецкіх.*

03-rус.-028505#001. MNK

Надпіс паўтораны па-французску [450].

Арыгінал акварэлі знішчаны ці знаходзіцца ў прыватнай калекцыі.



**Жабчыцы.** 1869 г.

Агульны від вёскі з дваром Красіцкіх. Дом аднапавярховы, з ганкам на калонах. Побач гаспадарчыя пабудовы.

Датавана: *Жабчыцы. 12 чэрвеня 1869 г.* Надпіс на падкладцы: *Мінская г[уберня], Жабчыцы*

Малюнак алоўкам. 20,7x24

III-r. a. 4513 (Teka Mińska). MNK

## *Парэчча*

Старадаўні палаца-паркавы ансамбль, радавое гняздо Скірмунтаў. Першая згадка ў гістарычных крыніцах пра Парэчча датуецца 1495 г., калі пінская князёўна Марыя перадала два дворышчы ў Парэччы Мацвею Грычыну [293].

Акрамя роду Войнаў-Грычыновічаў у маёнтку гаспадарылі Полазавы, Цярлецкія, Агінскія. Спачатку ім валодаў сын Казіміра Агінскага Юзаф, жанаты на князёўне Ганне Вішнявецкай, потым іх сын князь Міхал Казімір Агінскі, гетман ВКЛ. Абцяжараны даўгамі, ён перадаў свае маёнткі ў 1791 г. пляменніку Міхалу Клеафасу Агінскаму (1765—1833), вядомаму кампазітару, аўтару славутага паланеза «Развітанне з радзімай».

Князь Міхал Клеафас Агінскі таксама не змог утрымаць усіх уладанняў і частку з іх — Моладава і Парэчча — у 1792 г. прадаў Шыману Скірмунту (1747—1835), які пазней стаў берасцейскім і пінскім маршалкам, паслом на Варшаўскі сойм. Шыман Скірмунт з'явіўся заснавальнікам моладава-парэцкай лініі роду. Сваю асноўную рэзідэнцыю ён заснаваў у Моладаве. Яго сын Аляксандр (1798—1870), жанаты на Канстанцыі Сулістроўскай, заклаў у Парэччы цукарню, якая неўзабаве згарэла, і на яе месцы ў 1835 г. была пабудавана новая. Праз два гады тут была таксама створана суконная фабрыка, таму Парэчча стала адным з буйных прамысловых цэнтраў Палесся.

Апошнім яго гаспадаром быў вядомы прадстаўнік беларускай інтэлігенцыі Раман Скірмунт (1808—1939). Яго абралі дэпутатам у Дзяржаўную Думу Расіі, у 1918 г. ён увайшоў ва ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі. Загінуў у 1939 г.



**Парэчча. Суконная фабрыка.** 1864—1876 гг.

Агульны від мястэчка з фабрычнымі будынкамі.

Датавана: *6 лістап[ада]. Парэчча.* Надпіс на падкладцы: *Мінская г[уберня]. Парэчча*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 22,4x29,5

III-г. а. 4492 (Teka Mińska). MNK

*Пясэчна*

У XVIII ст. гаспадарамі буйнога маёнтка на Палессі былі князі Друцкія-Любецкія. Потым пасля іх ці Ёдкаў маёнтак Пясэчна з фальваркам Заполле перайшоў па жаночай лініі да графаў Пуслоўскіх.

Дачка Вандаліна Пуслоўскага і Ядвігі Язерскай Генавефа (1852—1928) у 1872 г. выйшла замуж за графа Адама Бройль-Плятэра і прынесла Пясэчна і Заполле ў якасці пасагу ў спадчыну мужа. З гэтага часу і да 1939 г. сядзіба належала Плятэрам. Да Першай сусветнай вайны тут існаваў двухпавярховы палац, пабудаваны, верагодна, Ёдкамі. У 1864 г. Напалеон Орда гасцяваў у графа Пуслоўскага і намаляваў палац. Там, дзе ён стаяў, сёння чыстае поле. Толькі адзіная сведка нагадвае пра веліч і прыгажосць былой рэзідэнцыі Друцкіх-Любецкіх, Пуслоўскіх і Плятэраў — высокая круглая мураваная калона, пабудаваная імі, верагодна, пры ўзвядзенні палаца [227]. Яна мае гістарычную, архітэктурную і мастацкую вартасць. У свой час на ёй размяшчалася сакральная скульптура.

**Пясэчна. Палац Ёдкаў.** 1864 г.

Від з боку пад'езда. Палац аднапавярховы з балконам і порцікам на калонах.

Датавана: *Пясэчна, 22 жніў[ня] 1864 г.*
Надпіс на падкладцы: *Мінская г[уберня], Пясэчна*

Малюнак алоўкам, падпраўлены сепіяй. 20х24,7

III-г. а. 4487 (Teka Mińska). MNK



## ПРУЖАНСКІ РАЁН

### *Пружаны*

Радавое гняздо Швыкоўскіх. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 г. расійская імператрыца Кацярына II падаравала пружанскія землі актыўнаму ўдзельніку задушэння нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі фельдмаршалу П. А. Румянцаву, які хутка іх распрадаў мясцовым заможным гаспадарам: Трэмбіцкім, Булгарыным, Влодкам, Ягмінам і інш. [293].

Мястэчка перайшло ва ўласнасць роду Швыкоўскіх. Новыя гаспадары Валенцій і Германія былі гасцінныя. Іх дом часта наведвалі славутыя Юзаф Ігнацы Крашэўскі і Напалеон Орда, нястомны даследчык этнаграфіі і фальклору Беларусі Міхал Федароўскі.

З-за таго, што бацькоўскі дом не адпавядаў новым патрабаванням, Валенцій Швыкоўскі ў сярэдзіне XIX ст. пабудаваў паблізу цэнтра Пружанаў арыгінальную рэзідэнцыю.

Пасля вайны ў будынку размяшчаліся дзіцячы сад, затым стаматалагічная паліклініка (таму палац уратаваўся ад знішчэння). Цяпер ён адноўлены на сродкі дзяржавы. У ім створаны раённы музей «Пружанскі палацык», дзе экспануюцца матэрыялы па гісторыі і сацыяльна-культурным жыцці Пружаншчыны.

### *Ласасін*

Пад вёскай Ласасін 25 мая 1863 г. адбылася жорсткая бітва паўстанцаў з царскім войскам. Каля 100 баёў і сутычак на Брэстчыне правялі паўстанцкія атрады з карнымі войскамі, з іх найбольш буйныя былі ў Брэсцкім, Баранавіцкім, Бярозаўскім, Івацэвіцкім,



**Пружаны. Палац Швыкоўскіх.** 1861—1877 гг.

Від з боку пад'езда.

Датавана: *Пружаны, 28 мая.* Надпіс: *Валенты Швыкоўскі.* Надпіс на падкладцы: *Пружаны. Гродзенская г[уберня]. Уласнасць Валенты Швыкоўскага*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30

III-r. a. 4401 (Teka Grodzieńska). MNK



**Ласасін. Касцёл.** 1863 г.

Агульны выгляд драўлянага касцёла і званіцы.

Датавана: *Ласасін і Шчытна. 23 лютага 1863 г. Гродзенская г[уберня.]* Дата хутчэй за ўсё памылковая. Найбольш верагодны час напісання — кастрычнік 1863 г., калі Н. Орда аб'язджаў месцы нядаўніх баёў.

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8х24

III-r. a. 4314 (Teka Grodzieńska). MNK



**Лыскава. Фрагмент касцельнага двара.** 1877 г.

На пярэднім плане — магіла Ф. Карпінскага (1741—1825), вядомага паэта і драматурга.

Датавана: *31 мая 1877 г.* Надпіс: *Вось мой дом убогі, + 1825, 4 верасня. Жыў 84 гады. Пахаванне Фр[анцішка] Карпінскага. Лыскаў.* Надпіс на падкладцы: *Лыскаў. Гродзенская г[уберня]. Пахаванне Францішка Карпінскага. Вось мой дом убогі. Фр[анцішак] Карпінскі, памёр у 1825 г., 4 верасня, жыў 84 гады.*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю і гуашшу. 20,8х30,2

III-r. a. 4383 (Teka Grodzieńska). MNK

Іванаўскім, Столінскім, Маларыцкім раёнах, а таксама ў Любяшоўскім раёне Украіны, на мяжы з Іванаўшчынай. У 1989 г. на месцы пахавання паўстанцаў каля Ласасіна пабудавалі помнік (моцна пашкоджаны ў 1990-я гг.). У 2000 г. ён адноўлены па ініцыятыве мясцовых краязнаўцаў — актывістаў нацыянальна-культурнага адраджэння.

## *Лыскава*

Старажытны феадальны замак XV—XVIII стст. размяшчаўся на правым балоцістым беразе невялікай рэчкі Шчыбы (Мухі), за паўкіламетра ад вёскі Лыскава, ва ўрочышчы Гарадзішча. Некалі зямля, дзе цяпер месцяцца рэшткі замка, уваходзіла ў склад царкоўных надзелаў, потым маёнтка Адамкава. Лыскаўскі замак ужо ў XIX ст. знаходзіўся ў разбураным стане. Яго рэшткі абследаваў Ф. В. Пакроўскі (ён аднёс замак да былых каралеўскіх уладанняў) [138].

У 1763—1785 гг. тут быў пабудаваны Троіцкі касцёл, фрагмент якога разам з надмагіллем Францішка Карпінскага замаляваў з натуры Н. Орда [423].

## *Ружаны*

Колішняя галоўная рэзідэнцыя магнацкага роду Сапегаў. Ружаны вядомы з 1552 г. Спачатку іх гаспадарамі былі Тышкевічы, затым Бруханскія. У 1598 г. канцлер Леў Сапега выкупіў Ружаны ў Барташа Бруханскага разам з фальваркамі Бялевічы, Сідраўшчына і маёнткам Ласасін. Францішак і Пелагея з Патоцкіх Сапегі перавялі сваю рэзідэнцыю з Ружанаў у Дзярэчын. Пасля смерці Францішка ў 1829 г. Ружаны і Дзярэчын перайшлі да яго адзінага сына Яўстафія (1797—1866), гарачага патрыёта Бацькаўшчыны. За ўдзел у паўстанні 1830—1831 гг. ягоныя велізарныя ўладанні былі цалкам канфіскаваны.

Багацейшую рэзідэнцыю ў Ружанах стваралі некалькі пакаленняў Сапегаў. На пачатку XVII ст. Леў Сапега ўзвёў тут шыкоўны палац, які стаў адным з найвыбітнейшых помнікаў палаца-паркавай архітэктуры Беларусі. Верагодна, палац быў пабудаваны на месцы старажытнага замка Тышкевічаў, што існаваў тут раней. Рэзідэнцыя Сапегаў славілася не толькі сваёй вабнай веліччу, але і гасціннасцю гаспадароў. Тут у свой час пабывалі кароль Уладзіслаў IV з каралевай Цэцыліяй Рэнатай, пра што сведчыла мемарыяльная пліта, уладкаваная ў адной з залаў палаца з надпісам на лацінскай мове. У гэты час тут гасцяваў папскі пасланнік, езуіцкі візітатар Фабрыцый Рамфус. У 1784 г. канцлер ВКЛ Аляксандр Сапега прымаў у адноўленай рэзідэнцыі апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага, які ехаў на Гродзенскі сойм [228].

Двойчы (1780-я гг. і 1819 г.) ружанскую рэзідэнцыю наведаў пісьменнік, ад'ютант і асабісты сябар Т. Касцюшкі Юльян Урсын-Нямцэвіч, які пакінуў пасля сябе унікальныя ўспаміны. У 1863 г. жаданым госцем Сапегаў стаў Н. Орда, пра што сведчаць дзве ягоныя акварэлі [484].



**Ружаны. Палац Сапегаў.** 1863 г.

Від з боку ўязной брамы

Надпіс: *Ружаны, даўні палац к[нязёў] Сапегаў, цяпер суконная фабрыка. Апошнім гаспадаром да 1831 г. быў к[нязь] Яўстафій Сапега* (апошні сказ закрэслены.— *Аўт.*). Надпіс на падкладцы: *Ружаны.* Надпіс на картцы, падклеенай да падкладкі: *Ружаны. Гродзенская г[убернія]. Рэзідэнцыя роду к[нязёў] Сапегаў. У гэтым палацы к[нязь] Ян Сапега прымаў Жыгімонта І. Уладзіслаў IV тут хлебасольна быў прыняты к[нязем] Львом Сапегам у 1617 і 1644 гг.* (апошнія два сказы закрэслены Н. Ордам.— *Аўт.*). *У капліцы каля палаца некалькі гадоў знаходзілася цела Св[ятога] Казіміра, вывезенае з Віленскай катэдры ў часы вайны (1655 г.). Апошнім гаспадаром Ружанаў быў к[нязь] Яўстафій Сапега.* Гэты надпіс паўтораны па-французску.

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,2x28

III-r. a. 4410 (Teka Grodzieńska). MNK



**Ружаны. Парафіяльны касцёл Святой Тройцы.** 1863 г.

Выгляд фасада касцёла з капліцамі. Навакол — каталіцкія могілкі і брама з дзвюма званіцамі. Датавана: *1863 г. Ружаны, 27 сакавіка.* Надпіс на падкладцы: *Ружаны, Гродзенская г[убернія]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x23,8

III-r. a. 4411 (Teka Grodzieńska). MNK

# Віцебшчына

Віцебск | Аршанскі раён | Бешанковіцкі раён
Браслаўскі раён | Верхнядзвінскі раён | Полацкі раён
Сенненскі раён | Чашніцкі раён




N
Анінск
Асвея
Юсцінаў
Валынцы
Бяльмонты
Полацк
Ула
ВІЦЕБСК
Бешанковічы
Чашнікі
Сянно
Гародня
Смаляны
Берасценаў

# ВІЦЕБСК

Як паселішча крывічоў Віцебск існаваў з IX ст. Назву атрымаў ад ракі Віцьбы. У летапісах згадваецца пад 1021 г. як уладанне полацкага князя Брачыслава Ізяславіча. Пасля 1101 г. стаў цэнтрам удзельнага княства. У сярэдзіне XII ст. тут валадарылі полацкія князі Васількавічы, у 1160—1170-я гг.— смаленскі князь Давыд Расціславіч. З 1180 г. віцебскім князем стаў Брачыслаў Васількавіч. Горад неаднаразова наведваў Аляксандр Неўскі, тут вянчаўся з віцебскай князёўнай [139].

Умацаваны цэнтр Віцебска (гарадзішча ці Замкавая гара) пазней разросся, заняў усё ўзвышша і атрымаў назву Верхні замак. Суседнія паселішчы ператварыліся ў пасад — Ніжні замак.

На пачатку XIV ст. у Віцебску княжыў Яраслаў Васільевіч, з 1320 г. князь Альгерд, які ажаніўся з Марыяй, дачкой Яраслава. З гэтага часу горад увайшоў у склад Вялікага княства Літоўскага, але карыстаўся пэўнай аўтаноміяй. У Віцебску княжылі сыны Альгерда — Андрэй, Ягайла, Свідрыгайла. Дружыннікі з Віцебска 15 ліпеня 1410 г. бралі ўдзел у Грунвальдскай бітве.

З 1506 г. Віцебск — цэнтр ваяводства, гербам якога была «Пагоня»: на чырвоным фоне выява конніка са шчытом і ўзнятым над галавой мячом. У 1597 г. Віцебск атрымаў магдэбургскае права.

Пасля Брэсцкай уніі 1596 г. у Віцебску часта адбываліся паўстанні. За ўдзел насельніцтва ў паўстанні 1623 г., калі быў забіты уніяцкі архіепіскап Іасафат Кунцэвіч, горад




**Віцебск . Царква старавераў.** 1875—1876 гг.

Від з боку Дзвіны. З правага боку — царква з купаламі і вежай-званіцай, з левага — царква з трыма купаламі.

Датавана: *21 чэрвеня.* Надпіс: *Старое Замчышча. Віцебск, найдаўнейшая царква стараверау, рака Дзвіна.* Надпіс на падкладцы: *Віцебск, Беларусь*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,4x27,5

ІІІ-г. а. 4126 (Teka Witebska). MNK

**Віцебск. Ратуша і былы бернардзінскі касцёл Святога Антонія.** 1875—1876 гг.

З левага боку дзвюхвежавы касцёл з купалам. У глыбіні — ратуша з квадратнай вежай і гадзіннікам. З правага боку — бернардзінскі касцёл з дзвюма вежамі, каля яго двухпавярховы кляштар.

Надпіс: *Віцебск. Каталіцкі касцёл.* Надпіс на падкладцы: *Віцебск. Каталіцкі касцёл.* Надпіс на картцы, падклеенай да падкладкі: *Віцебск над Дзвіной. (Віцебская г[уберня]). Старажытны горад, вядомы ў гісторыі з 1021 года.* Апошні надпіс паўтораны па-французску.

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,4x27,7

III-r. a. 4125 (Teka Witebska). MNK






**Віцебск. Касцёл і былы езуіцкі кляштар.** 1875—1876 гг.

Выгляд кляштара і касцёла з дзвюма вежамі і купалам. Будынкі кляштара двухпавярховыя (эскіз).

Надпіс: *Колішні езуіцкі касцёл. Віцебск.* Надпіс на падкладцы: *Віцебск, Беларусь*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,4x27,7

ІІІ-г. а. 4127 (Teka Witebska). MNK




**Віцебск. Руіны замка.** 1875—1876 гг.

Агульны від Верхняга замка (мясцовая назва *Горкі*). Замчышча месціцца на дзяцінцы старажытнага Віцебска — на левым беразе Віцьбы пры ўпадзенні яе ў Заходнюю Дзвіну. Замкавая гара (Ламіха), на якой засталіся рэшткі замка, мела вышыню 15 метраў. Злева і справа ад руінаў — жылыя дамы гараджан. Гара разам з руінамі замка ў канцы XIX ст. была амаль уся перарыта. Верагодна, тады былі знішчаны падмуркі старажытнай царквы арханёла Міхаіла.

Надпіс: *Віцебск: руіны замка.* Надпіс на падкладцы: *Віцебск. Руіны замка. Віцебская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,4x27,7

ІІІ-г. а. 4131 (Teka Mińska). MNK



пазбаўлены права на самакіраванне. У час вайны 1654—1667 гг. Віцебск захапілі рускія войскі (1654). Паводле Андрусаўскага перамір'я 1667 г. горад вернуты Рэчы Паспалітай.

У 1-й палове XVIII ст. у выніку Паўночнай вайны 1700—1721 гг. Віцебск заняпаў. Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай (1772) стаў павятовым горадам Пскоўскай, з 1776 г. Полацкай губерняў. У 1781 г. гораду зацверджаны новы герб: на чырвоным з сярэбранымі палосамі фоне — выява «Пагоні». У 1796 г. Віцебск абвешчаны цэнтрам Беларускай, а з 1802 г. Віцебскай губерняў. У 2-й палове XVIII ст. Віцебск стаў другім па велічыні (пасля Магілёва) горадам Беларусі.

З 16 ліпеня да 26 кастрычніка 1812 г. горад займалі французскія войскі. Гарадская гаспадарка была разрабавана, насельніцтва скарацілася больш як напалову. Толькі ў канцы першай чвэрці XIX ст. колькасць жыхароў дасягнула даваеннага ўзроўню [139].

У гэты час Віцебск наведаў Н. Орда, стварыў чатыры акварэлі.

## АРШАНСКІ РАЁН

### *Барысценава (Кацішын)*

Колішні фальварак, у якім Любамірскія ўзвялі замак, насіў назвы *Юрцава* і *Кацішын*. У час, калі Н. Орда наведаў фальварак Кацішын, гэта была ўласнасць Грабоўскіх.



**Кацішын. Замак Грабоўскіх, раней Любамірскіх.** 1877 г.

Від з боку сажалкі. Замак двухпавярховы, з дзвюма абарончымі вежамі. Па баках месцяцца два аднапавярховыя жылыя будынкі.

Датавана: *3 ліпеня 1877 г.* Надпіс: *Юрцава (Кацішын) к[няя] Канст[анціна] Любамірскага, цяпер Ядвігі Грабоўскай.* Надпіс на падкладцы: *Катышын (!). Магілёўская г[уберня], уласнасць кн[язя] Канстанціна Любамірскага, цяпер Ядвігі Грабоўскай*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30

III-г. а. 4942 (Teka Witebska). MNK

**Гародня. Палац Васілеўскіх.**
1877 г.

Від з боку пад'езда. Палац аднапавярховы, з порцікам на калонах. Побач праглядаецца фрагмент афіцыны. З левага боку ў глыбіні — аднапавярховы жылы будынак з ганкам на калонах.

Надпіс: *Гародня. Ігнацій Васілеўскі, жонка Цюдзювіцкая.* Надпіс на падкладцы: *Гародня. Магілёўская г[уберня], уласнасць Ігнація Васілеўскага*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,7х30,2

III-г. а. 4940 (Teka Mohilewska). MNK



## *Гародня*

У XIX ст. сядзіба належала роду Храстоўскіх, пазней Васілеўскім. Ігнацій Васілеўскі адбудаваў тут цудоўную рэзідэнцыю, у якой пабываў некалі Н. Орда і выканаў акварэль гісторыка-архітэктурнага пейзажу.

## *Смаляны*

Вёска ўпершыню згадваецца ў 1487 г. як уласнасць С. Бельскага. З 1522 г. належала князям Астрожскім, потым Курбскім і, нарэшце, Сангушкам. У першай чвэрці XVI ст. на левым беразе Дзярноўкі князь С. Сангушка-Ковельскі пабудаваў мураваны замак — «Белы (ці Малы) Ковель». У 1678 г. Смалянам быў нададзены статус мястэчка. У 1680 г. пры дамініканскім манастыры ўзведзены мураваны касцёл Святой Марыі. У час Паўночнай вайны (у 1708 г.) у Смалянах і наваколлі адбыліся баі. Рускія войскі захапілі ў палон ад'ютанта шведскага караля Карла XII генерала Каніфера. У выніку ваенных дзеянняў замак быў пашкоджаны. У 1772 г. у мястэчку пабудавалі ратушу, а ў 2-й палове XVIII ст.— Спаса-Праабражэнскую царкву. Падчас вайны 1812 г. Смаляны захапілі французскія войскі. У сярэдзіне XIX ст. мястэчка належала калежскаму асэсару Васілю Сямёнаву, з 1847 г.— ягонаму сыну, сенатару і тайнаму саветніку Аляксею Сямёнаву. У 1864 г. пабудавалі цагляную Аляксееўскую царкву, у 1870-я гг.— тры скураныя фабрыкі і цагельню. У 1879 г. пачалі працаваць земскае народнае вучылішча і фельчарскі пакой [139].

У гэты перыяд мястэчка Смаляны наведаў Н. Орда і замалёўваў ягоныя гістарычныя пейзажы.



**Смаляны. Руіны замка каралевы Боны.** 1877 г.

Від з боку рэчкі Дзярноўкі. З правага боку — руіны замкавага бастыёна, у глыбіні — дзвюхвежавы касцёл і будынак кляштара.

Датавана: *Смаляны, 31 ліпеня 1877 г.* Надпіс на падкладцы: *Смаляны. Магілёўская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8х29,8

III-r. a. 4948 (Teka Mohilewska). MNK



**Смаляны. Надмагільны помнік Тамашу Зану.** 1877 г.

Фрагмент могілак з надмагільным помнікам і крыжам на прамавугольным пастаменце

Датавана: *31 ліпеня 1877 г.* Надпіс: *Пахаванне Тамаша Зана.* Надпіс на падкладцы: *Смаляны. Магілёўская г[уберня]. Мілы Богу і людзям Тамаш Зан, памяць якога ўшанавана ў благаславенні Экл[ізіяста] (?) XLV.* (Відаць, Н. Орда згадвае тэкст, змешчаны на магіле.— *Аўт.*). *Жыў 60 гадоў. Памёр 7 ліпеня 1855 г. у Кахачыне. Тамаш Зан нар[адзіўся] у 1795 г. у Сулішчах.* (Сучасныя даследчыкі лічаць, што Тамаш Зан нарадзіўся 21 снежня 1796 г. у Мясаце.— *Аўт.*). *Выхоўваў у віленскай моладзі прагу да навук і грамадзянскай годнасці.*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8х30,2

III-r. a. 4949 (Teka Mohilewska). MNK

# БЕШАНКОВІЦКІ РАЁН



**Бешанковічы. Палац Храптовічаў.** 1876 г.

Від з боку пад'езда. Палац двухпавярховы, з высокім рызалітам у сярэдняй частцы. З левага боку — аднапавярховая афіцына, з правага — вежа парафіяльнага касцёла.

Датавана: *20 чэрвеня 1876 г.* Надпіс: *Бешанковічы гр[афіні] Ірэны Храптовіч.* Надпіс на падкладцы: *Віцебская г[уберня], Бешанковічы*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,5x28,8

III-г. а. 4096 (Teka Witebska). MNK

## *Бешанковічы*

Сядзіба і мястэчка размяшчаліся на тракце з Лепеля на Віцебск. Упершыню ўпамінаюцца пад 1460 г. як паселішча Вялікага Княства Літоўскага. З 1490 г. належала князям Друцкім-Сакалінскім, з 1605 г.— Язерскім, з 1615 г.— аршанскаму маршалку М. Адравонжу, з 1630 г.— Сапегам, з 1656 г.— Нарушэвічам, з канца XVII ст.— Агінскім, з 1783 г.— Храптовічам. У 1634 г. мястэчка атрымала магдэбургскае права [139].

Палац у Бешанковічах адбудаваў сярэдні сын апошняга канцлера ВКЛ Яўхіма Храптовіча — Ірэніюш Храптовіч. Пасля яго ў маёнтку гаспадарыў Міхал Храптовіч, у якога гасцяваў Н. Орда.

## *Ула*

Мястэчка на беразе рэчкі Уланкі. Вядома ў пісьмовых крыніцах з XVI ст. Меўся замак. Належала Рутам, Сухадольскім.

Мястэчкам зацікавіўся Н. Орда. Ён старанна вывучыў ягоную гісторыю і пакінуў пад акварэллю цікавыя гістарычныя надпісы.



**Ула. Парафіяльны касцёл.**
1875—1876 гг.

Выгляд асноўнага і бакавога фасадаў з боку ракі Уланкі. Двухвежавы будынак касцёла.

Надпіс: *1775 г. Тарэза з Сухадольскіх Кашыц. Ула. Упадзенне Уланкі ў Дзвіну. Касцёл на Старым замчышчы і могілках...* (неразборліва.— *Аўт.*). Надпіс на падкладцы: *Віцебская г[уберня]. Ула пры ўпадзенні Уланкі ў Дзвіну. Абарончы замак, узведзены Іванам Грозным. У 1568 г. захоплены і разбураны літоўскім поль[ным]гетманам к[нязем] Раманам Сангушкам. Аднoўлены і ўмацаваны Стэфанам Баторыем, у 1579 г. узведзены парафіяльны касцёл, уфундаваны Ігнаціем Рэутам, стаіць на месцы, абкружаным валамі, дзе некалі знаходзіўся замак.*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,4х29

III-г. а. 4120 (Teka Witebska). MNK

## БРАСЛАЎСКІ РАЁН

*Бяльмонты*

Сядзіба размяшчалася на высокай тэрасе на беразе маляўнічага возера Дрывяты. Некалькі стагоддзяў таму Бяльмонты называўся Альгердаўшчынай (Альгердавым дваром), пазней — Ахрэмаўцамі, ад прозвішча ягоных гаспадароў. Чарговым уладальнікам маёнтка быў харунжы Дамінік Салмановіч, які ў 1748 г. прадаў землі з фальваркам мінскаму ваяводу Яну Аўгусту Гільзену (1702—1767), жанатаму з Канстанцыяй Бройль-Плятэр. Яны мелі сыноў Юзафа і Юсцініяна. Бяльмонты з наваколлем дасталіся Юзафу, мсціслаўскаму ваяводу, мужу Тарэсы Патоцкай. У 1783 г. ён выдаў тастамент, згодна з якім прыгонныя мелі права па ўласным жаданні атрымаць вольную і весці самастойна гаспадарку. Паколькі адзіны сын Юзафа памёр у дзіцячым узросце, маёнтак быў завешчаны пляменніку Ідзю Гільзену. У 1798 г. ён прадаў Бяльмонты Мікалаю Манузі. Пасля Мікалая маёнтак перайшоў да яго сына Станіслава Манузі (1773—1823), жанатага з Канстанцыяй Плятэр (1782—1874). У іх не было дзяцей, таму маёнтак быў запісаны брату Канстанцыі Ігнацію Вільгельму Бройль-Плятэру. Пасля Ігнація Бяльмонты і шэраг іншых сядзібаў атрымаў у спадчыну наймалодшы з яго чатырох сыноў — Фелікс Вітальд Бройль-Плятэр [293].

Першую рэзідэнцыю ў Бяльмонтах залажыў Юзаф Ежы Гільзен, але напрыканцы XVIII ст. палац ператварыўся ў руіны. Набыўшы маёнтак, Мікалай Манузі адбудаваў у 1818 г. раскошны палац, у якім у 1876 г. гасцяваў Н. Орда, пакінуўшы ў спадчыну тры акварэлі.







**Бяльмонты. Руіны палаца Бройль-Плятэраў, некалі Гільзенаў і капліца Збавіцеля.** 1876 г.

Від з боку пад'езда. Палац двухпавярховы, з рызалітамі. З правага боку да палаца прылягае двухпавярховая капліца з шырокімі сходамі і надпісам на лацінскай мове.

Датавана: *30 чэрвеня.* Надпіс: *Бяльмонты, руіны палаца Гільзена.* Надпіс на падкладцы: *Бяльмонты. Ковенская губ[ерня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,5x27,5

III-г. а. 4031 (Teka Żmudź). MNK



**Бяльмонты. Руіны палаца Гільзена.** 1876 г.

Агульны выгляд палаца і руінаў.

Датавана: *Бяльмонт[ы], 12 чэрвеня 1876 г.* Надпіс на падкладцы: *Бяльмонт[ы], Ковенская г[уберня].* Надпіс на картцы, падклеенай да падкладкі: *Бяльмонт[ы], Ковенская губерня. Руіны палаца мсціслаўскага ваяводы Гільзена. Цяпер уласнасць гр[афа] Фелікса дэ Бройль-Плятэра.*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,5x28,5

III-г. а. 4130 (Teka Żmudź). MNK

**Бяльмонты. Руіны палаца Гільзенаў.** 1876 г.

Від з боку парку. Палац узведзены на высокай тэрасе з рызалітам у сярэдняй частцы. Да палаца прымыкае капліца.

Датавана: *1 ліпеня.* Надпіс: *Бяльмонты, руіны палаца Гільзенаў.* Надпіс на падкладцы: *Ковенская г[уберня], Бяльмонт[ы].*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,5x27,5

III-г. а. 4032 (Teka Żmudź). MNK

# ВЕРХНЯДЗВІНСКІ РАЁН

Мястэчка Асвея, якому некалі падпарадкоўваліся шэраг фальваркаў, маёнткаў і сядзіб, размяшчалася каля вялікага аднайменнага возера. У 1505 г. кароль і вялікі князь Аляксандр Ягелончык перадаў Асвею полацкаму ваяводу Глябовічу, сыны якога Пётр і Мікалай падзялілі бацькаву спадчыну паміж сабой. Далей у Асвеі гаспадарыў род Кішкаў. У 1600 г. ад віцебскага ваяводы Станіслава Кішкі Асвею набыў Леў Сапега. У 1749 г. Юзаф Сапега прадаў Асвею за мільён злотых мінскаму ваяводу Яну Аўгусту з роду Елькаў. Сын Яна і Канстанцыі з Плятэраў Юзаф, мсціслаўскі ваявода, які стаў гаспадаром Асвеі, вёў дбайна гаспадарку, быў гарачым патрыётам ВКЛ, вызваліў сваіх сялян ад прыгонніцтва, славіўся як мецэнат. Памёр у Рыме бяздзетным, завяшчаўшы Асвею швагру (брату жонкі) графу Плятэру, пасля якога гаспадаром маёнтка стаў Ян Шадурскі. Беспатомны сын Яна віцебскі маршалак Ігнацій Шадурскі адпісаў Асвею сястры Казіміры, якая перадала маёнтак стрыечнаму брату Уладзіславу. Той давёў гаспадарку да разарэння і распрадажы [293].

Шадурскія ўзвялі ў Асвеі шыкоўную рэзідэнцыю, у якой пабываў Н. Орда і выканаў тут акварэлі.



**Асвея. Палац Шадурскіх і парафіяльны касцёл.** 1875—1876 гг.

Выгляд бакавых фасадаў касцёла і званіцы. З левага боку паказаны палац.

Датавана: *1 чэрвеня.* Надпіс: *Асвея. Касцёл піяраў, возера мае да 8000 моргаў 5000 дзесяцін.* Надпіс на падкладцы: *Асвея. Віцебская г[губерня].* Надпіс на картцы, падклеенай да падкладкі: *Асвея. Віцебская губерня. Асвея належала мсціслаўскаму ваяводу гр[афу] Юзафу Гільзену, пасля якога ў 1781 г. сядзіба перайшла да Шадурскіх. Былі тут школы, пансіянат для дзяўчат і шпіталь. Клопатам гаспадароў, згодна з тастаментам Ю. Гільзена, некалькі тысяч юнакоў і дзяўчат атрымалі школьнае выхаванне.*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,4x27,6

III-r. a. 4111 (Teka Witebska). MNK

**Асвея. Палац Шадурскіх.**
1875—1876 гг.

Выгляд палаца з боку ракі. Палац двухпавярховы, з рызалітамі і афіцынамі.

Датавана: *Асвея, 30 мая.* Надпіс: *Уладзіслаў Шадурскі, ж[онка] Стафанія Борх.* Надпіс на падкладцы: *Віцебская г[уберня]. Беларусь. Асвея. Палац закладзены Гільзенам.*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,4x27,8

III-г. а. 4112 (Teka Witebska). MNK



## *Валынцы*

Некалі фальварак належаў Забелам. У 1786—1811 гг. пры дамініканскім кляштары існавалі калегіум і школьны тэатр, росквіт якога прыпадае на 1787—1791 гг. Сюжэты для п'ес бралі з антычнай гісторыі і сучаснага жыцця. З калегіумам звязана дзейнасць беларускіх асветнікаў XVIII ст. Фелікса і Фаўсціна Цяцерскіх [139]. У 1870-я гг. у Валынцах пабываў Н. Орда.

## *Сар'я*

Мястэчка вядома касцёлам унікальнай архітэктуры ў стылі рэтраготыкі. Храм пабудаваны ў 1852—1857 гг. дрысенскім маршалкам І. Лапацінскім па праекце архітэктара Г. Шахта як родавая пахавальня. З 1865 г. належаў праваслаўным, у 1989 г. перададзены каталікам.




**Валынцы. Былыя дамініканскія кляштар і касцёл.** 1875—1876 гг.

Агульны від з боку ракі Дрыса. Касцёл двухвежавы, абнесены разам з касцельнымі могілкамі мураванай агароджай з брамай. З левага боку бачны будынак кляштара.

Датавана: *25 чэрвеня.* Надпіс: *Валынцы. Касцёл кс[яндзоў] дамініканаў фундацыі Рыгора Шчыта, р[ака] Дрыса.* Надпіс на падкладцы: *Валынцы. Віцебская г[уберня].*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,4x27,5

ІІІ-г. а. 4129 (Teka Witebska). MNK



**Сар'я. Касцёл.** Літаграфія

Надпіс: *Сар'я. Віцебская губерня. Агульны выгляд касцёла. На другім плане пейзажны парк панскай сядзібы.*

Надпіс паўтораны па-французску.

ІІІ-RYC.-028596. MNK

Арыгінал акварэлі не выяўлены, магчыма, знішчаны ці знаходзіцца ў прыватнай калекцыі.

**Юсцініянава. Палац Шчытоў.** 1875—1876 г.

Агульны від з боку Дзвіны. Палац двухпавярховы, з тэрасай на калонах. З правага боку — капліца, з левага — вежа Троіцкага касцёла.

Датавана: *24 чэрвеня. Надпіс: Юсцініянаў. Юсцініян Шчыт, ж[анаты] з Станіславай Шадзерскай з р[оду] Багамольцаў.* Надпіс на падкладцы: *Віцебская г[уберня]. Юсцініянаў*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,4x27,6

III-r. a. 4100 (Teka Witebska). MNK



## Юсцініянава

Колішняя сядзіба. Была размешчана за 4 км ад мястэчка Дрыса, на правым беразе Дзвіны. У XVII—XIX стст. тут гаспадарылі Агінскія, Корсакі, Свірскія і Шчыты. У 1811 г. у вёсцы пражывалі 1734 чалавекі. Першапачаткова фальварак з сядзібай называўся Узнёны. Ад Юрыя Свірскага двор перайшоў да Канстанціна Шчыт-Неміровіча. Пазней тут уладарылі ягоныя сын Антоній і ўнук Ян. У Яна Шчыта (1705—1787) быў адзіны сын Юсцініян (1740—1824). Ад ягонага імя пайшла назва маёнтка Юсцініянава. Сын Юсцініяна Ян быў бяздзетны, таму маёнтак апынуўся ў руках дрысенскага маршалка Юсцініяна, сына Тадэвуша Шчыта, жанатага на Станіславе Шадурскай.

Менавіта ў Юсцініяна і Станіславы Шадурскіх гасцяваў Н. Орда і намаляваў рэзідэнцыю, якую адбудаваў на мяжы XVIII—XIX стст. іх продак Юсцініян Шчыт (па праекце Карла Спампані).

# ПОЛАЦКІ РАЁН

## Полацк

Адзін з самых старажытных гарадоў Беларусі. У пісьмовых крыніцах упершыню згадваецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 862 г. Заснаваны крывічамі. Размешчаны на правым беразе Палаты (адсюль назва) на гарадзішчы плошчай каля 1 гектара. З канца IX ст. увайшоў у склад Кіеўскай Русі. У X—XIII стст. — цэнтр буйнога Полацкага княства, якое




**Полацк. Царква Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра.**
1875—1876 гг.

Выгляд галоўнага і бакавога фасадаў царквы Спаскага манастыра. З правага боку месціцца драўляная званіца, у глыбіні бачны фрагмент царквы з купалам.

Надпіс: *Рака Палотва* (Палата.— *Аўт.*). *Спас[кі] дом уніяцкай С[вятой] Ефрасінні.* Надпіс на падкладцы: *Полацк. Беларусь*

Малюнак алоўкам. 20,4x27,5

III-r. a. 4119 (Teka Witebska). MNK




**Полацк. Былы базыльянскі манастыр на Верхнім замку і даўні Сафійскі сабор.**
1875—1876 гг.

Від з боку Заходняй Дзвіны. На высокім беразе — трохпавярховыя будынкі манастыра і двзюхвежавага касцёла.

Надпіс: *Палотва* (Палата.— *Аўт.*) *і Дзвіна. Царква Св[ятой] Сафіі. Полацк на Старым замку. Касцёл базыльянаў* (надпіс часткова закрэслены.— *Аўт.*). Надпіс на картцы, падклеенай да падкладкі: *Полацк над Дзвіной пры ўпадзенні ў яе Палаты (Віцебская г[уберня]). Касцёл некалі базыльянаў* (два апошнія словы закрэслены.— *Аўт.*) *на Старым замчышчы. Гэты старажытны горад з XII ст. прызнаваў уладу Літвы* (насамрэч Полацк увайшоў у склад ВКЛ на пачатку XIV ст.— *Аўт.*).

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,4x27,3

III-r. a. 4113 (Teka Witebska). MNK




**Полацк. Былы езуіцкі касцёл і кляштар.** 1875—1876 гг.

Выгляд галоўнага і бакавога фасадаў. Касцёл двюхвежавы, з купалам. З левага боку ў глыбіні захаваўся фрагмент трохпавярховага кляштара, з правага — двухпавярховы будынак з рызалітам.

Датавана: *23 чэрвеня.* Надпіс: *Полацк*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,3x27,2

III-r. a. 4114 — rewers (Teka Witebska). MNK




**Полацк. Дамініканскі касцёл.**
1875—1876 гг.

Выгляд галоўнага і бакавога фасадаў мураванага касцёла. З левага боку — трохпавярховы кляштар, з правага — яшчэ тры кляштарныя збудаванні. На пярэднім плане месціцца драўляная агароджа.

Датавана: *23 чэрвеня.* Надпіс: *Полацк. Дамініканскі касцёл. Тут ляжыць цела Св[ятога] Баболі (1591—1657). Мошчы перавезены ў Полацк у 1827 г.*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,3x27,2

ІІІ-г. а. 4129 — awers (Teka Witebska). MNK

мела самастойную княжацкую дынастыю. Княства размяшчалася ў басейнах Заходняй Дзвіны, Бярэзіны, Нёмана, займала землі сучаснай Віцебскай, паўночную частку Мінскай і Магілёўскай абласцей [139].

Каля 980 г. у Полацку княжыў Рагвалод, забіты кіеўскім князем Уладзімірам Святаславічам, які згвалціў і сілай узяў у жонкі дачку Рагвалода Рагнеду.

У XII ст. у Полацку працавалі майстар-ювелір Лазар Богша і дойлід Іаан. Па просьбе ігуменні Еўфрасінні Лазар Богша зрабіў крыж (арыгінал знік падчас Вялікай Айчыннай вайны). У 2000—2007 гг. копіі крыжа, стаўратэкі і ра́кі Еўфрасінні Полацкай былі ўзноўлены таленавітым майстрам-мастаком з Брэста Мікалаем Кузьмічом, асвечаны мітрапалітам Філарэтам і перададзены полацкаму манастыру.

У сярэдзіне XI ст. на правым беразе Заходняй Дзвіны быў пабудаваны адзін з самых старажытных храмаў Беларусі — Сафійскі сабор. Дзяцінец горада зваўся Верхнім замкам. Тут прымалі паслоў, абвяшчалі важнейшыя акты і падзеі, захоўваліся дзяржаўная казна, бібліятэка, архіў.

У XII ст. на правым беразе Палаты Еўфрасіння заснавала манастыр (цяпер Спаса-Еўфрасіннеўскі), які неаднаразова разбураўся, аднаўляўся, перабудоўваўся. У ягоны ансамбль уваходзілі два мураваныя храмы XII ст. (зберагласся толькі Спаса-Еўфрасіннеўская царква), мураваная ўязная брама XVI ст. (захавалася цэнтральная частка), жылы манастырскі корпус пачатку XVIII ст. [139].

У 1875—1876 гг. у Полацку пабываў Н. Орда, выканаў тры акварэлі і адзін малюнак алоўкам. На іх знайшлі адлюстраванне галоўныя архітэктурныя каштоўнасці Полацка.

**Сянно. Троіцкі касцёл і царква.** 1877 г.

Агульны від Сянно з боку возера з касцёлам і царквой. Касцёл з трансэптам, царква з трыма купаламі.

Датавана: *30 ліпеня 1877 г.* Надпіс: *Сенна (!).* Надпіс на падкладцы: *Сенна. Магілёўская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,2

III-r. a. 4947 (Teka Mohilewska). MNK



## СЕННЕНСКІ РАЁН

*Сянно*

Сянно ўпершыню ўпамінаецца ў 1-й палове XVI ст. як мястэчка Віцебскага павета. Спачатку належала магнатам Сапегам, а з 2-й паловы XVII ст.— Агінскім. За возерам, на ўзвышшы, на месцы старажытнага капішча, быў замак (існаваў да XVIII ст.). З 1773 г. горад стаў цэнтрам павета Магілёўскай губерні. У 1781 г. Сянно атрымала герб: на зялёным полі дзве залатыя касы. У 1-й палове XIX ст. належала графу Серакоўскаму [139].

Пасля пажару 1860 г., які знішчыў амаль усе драўляныя будынкі, былі пабудаваны з каменю Мікалаеўская саборная царква (1867 г., не зберагласся), гандлёвыя рады і млын. У гэты час Сянно наведаў Н. Орда, каб занатаваць тутэйшы архітэктурны пейзаж.

## ЧАШНІЦКІ РАЁН

*Чашнікі*

У XVI ст. Чашнікі належалі князям Лукомскім, пазней Кішкам, Сапегам, Патоцкім, Валадковічам. У Інфлянцкую вайну 1558—1583 гг. па загаду Івана Грознага на правым беразе Улы ўзведзены ўмацаваны замак (спалены ў 1708 г.). У 1791—1793 гг. Чашнікі сталі фактычна цэнтрам Полацкага ваяводства, з 1793 — мястэчкам Лепельскага павета. У XVIII ст. пабудаваны прыстань, майстэрні па вырабе гандлёвых стругаў [139].

У 1876 г. у Чашніках пабываў Н. Орда, намаляваў панараму мястэчка.



**Чашнікі. Агульны від мястэчка.** 1876 г.

Выгляд касцёла і кляштара з боку ракі Уланкі. У акружэнні аднапавярховай жыллёвай забудовы паказаны дзвюхвежавы касцёл і кляштар. З правага боку — царква з купаламі і вежа-званіца.

Датавана: *20 чэрвеня 1876 г.* Надпіс: *Чашнікі. Дамініканскі касцёл. Рака Уланка. Старое замчышча. Вінцэнт Валадковіч, жонка Сафія Гарцінг.* Надпіс на падкладцы: *Віцебская г[уберня], Чашнікі. Тут месціўся замак князёў Патоцкіх на зямлі...* (не чытаецца.— *Аўт.*). *Рушыўшы з замка, гетман літ[оўскі] кн[язь] Мікалай Крыштаф Радзівіл з ваярамі ў 1564 г. разбіў пад Іванскам маскоўскае войска на чале з кн[язем] Шуйскім, які 23 студзеня загінуў у бітве. Тут у 1570 г. таксама атрымаў перамогу кн[язь] Раман Сангушка, гет[ман] пол[ьны], узяўшы ў палон Пятра Галавіна. Стэфан Баторый, ідучы на Вялікія Лукі, прымаў тут маскоўскіх паслоў у 1580 г. На замчышчы стаяць касцёл і кляштар кс[яндзоў] дамініканцаў, узведзеныя літ[оўскім] харунжым Жыгімонтам Слушкам у 1674 г. [139].*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,5x28,8

III-r. a. 4097 (Teka Witebska). MNK

# Гомельшчына

Гомель | Веткаўскі раён | Мазырскі раён

Жыткавіцкі раён | Рагачоўскі раён





**Гомель. Палац Паскевічаў.** 1877 г.

Від з боку парку. Палац двухпавярховы, з порцікам на калонах, у сярэдняй частцы трохпавярховы. З правага боку быў павільён з вежай і калонай, перад якой на тэрасе стаяў помнік князю Юзафу Панятоўскаму. З левага боку — двухпавярховы павільён з капліцай. Абодва павільёны злучаны з корпусам галерэямі.

Надпіс: *Гомель ад...* (не чытаецца.— *Аўт.*). Надпіс на падкладцы: *Гомель. Магілёўская г[уберня]. Тут перад палацам стаіць помнік к[нязю] Юзафу Панятоўскаму работы Торвальдсена, прызначаны для Варшавы і выкананы за кошт збораў вайскоўцамі па пяць грошаў. Уласнасць к[нязя] Паскевіча.*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,6х30

III-r. a. 4939 (Teka Mohilewska). MNK

# ГОМЕЛЬ

*Гомель*

Старажытны Гомель узнік у 1-й палове XII ст. з паселішча на правым высокім беразе ракі Сож пры ўпадзенні ў яго рэчкі Гамеюкі. У летапісах упершыню ўпамінаецца з 1142 г. У XII ст. аснову горада складаў драўляны замак, пабудаваны на месцы дзядзінца. Гомель спачатку належаў чарнігаўскаму князю Ігару Ольгавічу. Каля 1335 г. горад увайшоў у склад ВКЛ. Ім валодалі Радзівілы, Чартарыйскія, якія ў сярэдзіне XVIII ст. пабудавалі тут драўляны замак. У канцы XVIII ст. пачалася перапланіроўка горада і на месцы драўлянага замка ўзвялі палац П. А. Румянцава-Задунайскага з вялікай карціннай галерэяй, побач — Петра-Паўлаўскі сабор, а на тэрасе Спасавай слабады — Ільінскую царкву [140]. Пасля Румянцавых горад перайшоў ва ўласнасць Паскевічаў. У 1877 г. Гомель наведаў Н. Орда.

**Хальч. Палац Сенажэцкіх, раней Халецкіх.** 1877 г.

Агульны від з боку ракі Сож. Палац двухпавярховы, з тэрасай і балконам.

Датавана: *31 жніўня 1877 г.* Надпіс: *Хальч, рака Сож. Алякс[андр] Сенажэцкі, ж[онка] Тарэса Ціханавецкая.* Надпіс на падкладцы: *Хальч над ракой Сож. Магілёўская г[уберня]. Уласнасць Аляксандра Сенажэцкага*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,6x30,2

III-г. а. 4936 (Teka Mohilewska). MNK

Старажытнае мястэчка. Першым яго гаспадаром з'яўляўся Павел Мішковіч, які выменяў Хальч у князя Свідрыгайлы на Сноўск у 1437 г. Халецкія, нашчадкі Паўла, атрымалі імя ад назвы маёнтка. У Хальчы па чарзе гаспадарылі Яўстафій, Міхал, Дзмітрый Халецкія. Апошні ўваходзіў у пасольства, выпраўленае да татарскага хана (1496—1501).

У 1641 г. Хальч дастаўся мечніку ВКЛ Яну Халецкаму, з 1588 г.— маршалку, жанатаму з Ганнай Весялоўскай. У іх было два сыны — Уладзіслаў і Геранім.

Хальч дастаўся Уладзіславу, дэпутату сойма і літоўскага трыбунала. З ягоных трох сыноў сярэдні Крыштоф загінуў у Шклоўскай бітве. Мазырскі староста Караль Халецкі атрымаў Хальч па спадчыне. На пачатку XIX ст. землі маёнтка перайшлі ва ўласнасць Аляксандра, жанатага з Тарэсай Ціханавецкай. Апошнім уласнікам Хальча стаў іх сын Зыгмунт Войніч-Сенажэцкі [295].

Н. Орда гасцяваў у Аляксандра і выканаў малюнак яго рэзідэнцыі.



# ЖЫТКАВІЦКІ РАЁН

## *Тураў*

Мястэчка (цяпер горад), размешчаны за 27 кіламетраў ад Жыткавічаў. Упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 980 г. Адзін з самых старажытных гарадоў Беларусі. З канца X ст.— цэнтр Тураўскага княства. Першым летапісным князем, ад імя якога пайшла назва горада, з'яўляецца Тур. З 988 г. у Тураве княжылі Рурыкавічы (Святаполк I Акаянны, Ізяслаў, Усевалад, Яраполк, Святаполк II, Уладзімір Манамах, Вячаслаў). Тут жыў і працаваў славуты дзеяч старажытнабеларускай культуры Кірыла Тураўскі. На пачатку XII ст. тут пабудавана праваслаўная царква. З XIII да XIX ст. існавала вежа — галоўная абарончая пабудова замка. З 1320-х гг. Тураў у складзе ВКЛ.

З канца XV ст. горад перайшоў да Глінскіх, у XVI—XVII стст.— князёў Астрожскіх, пасля Сапегаў, Патоцкіх. Падчас татарскіх нашэсцяў і вайны з Масквой быў спустошаны да такой ступені, што ў 1667 г. у ім налічвалася ўсяго 111 двароў. З 1793 г. Тураў у складзе Расіі, належаў Салагубам. У другой палове XIX ст. у Тураве пражывала больш за чатыры тысячы жыхароў, меліся гасцінны двор, цагельня, млын, царква, касцёл [140].

Такім адлюстраваў Тураў Н. Орда на акварэлі, з якой пазней была выканана літаграфія.



**Тураў над Прыпяццю.**
Літаграфія

Надпіс: *Тураў над Прыпяццю. Мінская губ[ерня]. Сталіца Турава-Пінскага княства. Горад заснаваны ў IX ст. Турам у часы нападаў нарманаў-варагаў. Колішняя рэзідэнцыя ўладыкі, ці епіскапа, тураўскага і пінскага.*

Надпіс паўтораны па-французску [450].

Арыгінал акварэлі страчаны ці знаходзіцца ў прыватнай калекцыі.

Паводле акварэлі Н. Орды, мы ведаем, што ў в. Кімбароўка бліз Мазыра існавалі касцёл і кляштар цыстэрцаў.



**Кімбароўка. Агульны від кляштара з касцёлам з боку ракі Прыпяць.** 1864—1876 гг.

Надпіс: *Кімбароўка.* Надпіс на падкладцы: *Мінская г[уберня]. Кімбароўка*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 22,4х29,5

III-г. а. 4465 (Teka Mińska). MNK



**Кімбароўка. Агульны від мястэчка, касцёла Святога Міхаіла і кляштара цыстэрцаў з боку ракі Прыпяць.** 1864—1876 гг.

Надпіс: *Кімбароўка каля Мазыра над Прыпяццю.* Надпіс на падкладцы: *Мінская г[уберня]. Кімбароўка*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 22,5х29,7

III-г. а. 4466 (Teka Mińska). MNK

Пра гісторыю Турска маецца вельмі мала інфармацыі. Некалі мястэчка належала Войніч-Сенажэцкім. У 2-й палове XIX ст. гаспадаром быў Уладзіслаў Сенажэцкі, які адбудаваў палац і заклаў парк. Дом знішчаны падчас ваенных дзеянняў у Першую сусветную вайну.

Малюнак Н. Орды — адзіная крыніца, што дазваляе ўявіць сядзібу Сенажэцкіх у Турску. Мастак пабываў у ёй тады, калі там гаспадарыў Уладзіслаў Сенажэцкі.



**Турск. Палац Сенажэцкіх.** 1877 г.

Від з боку пад'езда. Палац аднапавярховы, з высокім порцікам на калонах.

Датавана: *24 жніў[ня] 1877 г.* Надпіс: *Турск, Уладзіслаў Сенажэцкі.* Надпіс на падкладцы: *Турск. Магілёўская г[уберня], уласнасць Уладзіслава Сенажэцкага*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,7x30,2

III-r. a. 4950 (Teka Mohilewska). MNK

# Гродзеншчына

Гродна | Астравецкі раён | Ашмянскі раён | Бераставіцкі раён | Ваўкавыскі раён
Воранаўскі раён | Гродзенскі раён | Дзятлаўскі раён | Зэльвенскі раён | Іўеўскі раён
Карэліцкі раён | Лідскі раён | Мастоўскі раён | Навагрудскі раён | Свіслацкі раён
Слонімскі раён | Смаргонскі раён | Шчучынскі раён



# ГРОДНА

Упершыню Гродна (летапісны Гародна, Гародня, Гарадзень) упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1128 г. як цэнтр удзельнага Гарадзенскага княства. Матэрыялы археалагічных раскопак сведчаць пра існаванне горада ўжо ў XI ст. [141].

Найбольш старажытныя пабудовы — Верхні (пазней Стары) замак (XI ст.), Ніжняя царква (2-я чвэрць XII ст.), абарончыя сцены і вежы замка (3-я чвэрць XII ст.), Барыса-Глебская (Каложская) царква (1180-я гг.), Верхняя царква (канец XIV — пачатак XV ст.). З канца 1240-х гг. Гародня ўвайшла ў склад Вялікага Княства Літоўскага. У 1253 г. Данііл Галіцкі ўключыў яе ў Галіцка-Валынскае княства. Аднак вялікі князь літоўскі Трайдзен у 1270-я гг. зноў авалодаў горадам. У XIII—XIV стст. насельніцтва горада паспяхова адбівала шматлікія напады нямецкіх рыцараў-крыжакоў (1284, 1296, 1306, 1311, 1328, 1393).

У час Вітаўта Гародня ператварылася ў другую сталіцу Вялікага Княства, атрымала магдэбургскае права (з 1391 г.). У XIV ст. пабудаваны другі замак — Ніжні, дзе размясціліся світа князя і ваенны гарнізон. У XVI ст. Стары замак рэканструяваны, пераўтвораны ў палаца-замкавую рэзідэнцыю караля Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя.

Падчас войнаў Рэчы Паспалітай з Расіяй і Швецыяй у XVII ст. горад быў заняты расійцамі (1655—1657), шведамі (1657—1661). У Паўночную вайну зноў моцна разбураны шведскімі войскамі, значна спустошаны пажарамі 1675, 1720, 1750 і 1782 гг.

Пасля заключэння Люблінскай уніі (1569) горад стаў адным з найзначнейшых дзяржаўна-палітычных цэнтраў Рэчы Паспалітай. Яшчэ з 2-й паловы XV ст. пачалася традыцыя правядзення тут соймаў, якія адбыліся ў 1469, 1492, 1501, 1506, 1522, 1535, 1550, 1566, 1607, 1613, 1618, 1620, 1631 і іншыя гады [141]. У 1678—1679 гг. у Гародне ладзіўся сойм Рэчы Паспалітай, на якім быў заключаны саюз з Расіяй супраць Турцыі, а ў 1793 г. тут прайшоў надзвычайны сойм, што зацвердзіў другі падзел Рэчы Паспалітай.

У сярэдзіне XVI ст. сярод найбольш цікавых гарадскіх збудаванняў вылучыліся праваслаўныя цэрквы: Уваскрасенская, Мікалаеўская, Верхняя, Сімяонаўская, Троіцкая, Часнога Крыжа (не збераглісь), Прачысценская, Барыса-Глебская.

З XVII ст. пачалі будавацца манументальныя культавыя комплексы розных каталіцкіх ордэнаў: касцёлы і кляштары бернардзінцаў, брыгітак, дамініканцаў, францысканцаў і інш. [348].

**Гродна. Панарама.** 1861—1869 гг.

Від горада з боку ракі Нёман

Надпіс на падкладцы: *Панарама Гродна з боку касцёла кс[яндзоў] францысканцаў*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19x25,3

III-r.a.4337 (Teka Grodzieńska). MNK



Адзінай сістэмай абароны горада заставаліся Верхні і Ніжні замкі, культавыя мураваныя збудаванні. У XVII—XVIII стст. пры захаванні рысаў ранейшай планіровачнай структуры павялічваецца колькасць мураваных будынкаў. У сярэдзіне XVIII ст. на месцы Ніжняга замка збудавалі Новы замак (каралеўскі палац), які стаў рэзідэнцыяй Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

У сувязі з заснаваннем у Гродне і яго наваколлі каралеўскіх мануфактур А. Тызенгаўза пачалося рэгулярнае будаўніцтва аб'ектаў грамадскага, прамысловага і жыллёвага прызначэння ў раёне Гарадніцы.

Пасля трэцяга падзелу (1795) Рэчы Паспалітай горад увайшоў у склад Расійскай імперыі. У 1797—1801 гг. ён зрабіўся цэнтрам Літоўскай, а з 1801 г.— Гродзенскай губерняў.

Пасля пракладкі чыгункі Пецярбург — Варшава (1862) пачалося развіццё горада ўздоўж дарогі на Ліду і на правабярэжжы Нёмана. У гэты час Гродна шмат разоў наведаў Н. Орда. Ён пакінуў у спадчыну шэраг гісторыка-архітэктурных малюнкаў і акварэляў..



**Гродна. Новы замак.**
1861—1869 гг.

Выгляд Новага замка з боку ўязной брамы, да якой вёў каменны мост. Будынак замкавага палаца мае два паверхі.

Датавана: *24 верасн[я].* Надпіс: *Вайсковы шпіталь. Гродна.* Надпіс на падкладцы: *Гродна. Замак, у якім адбыўся апошні сойм.* Надпіс на картцы, падклеенай да падкладкі: *Гродна. Горад, вядомы з 1128 г. На руінах абарончага замка в[ялікага] к[нязя] Эрдзівіла, пляменніка князя Міндоўга, стаіць замак, у якім адбыўся апошні сойм.*
Апошні надпіс паўтораны па-французску.

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,2x24,8

III-r.a.4338 (Teka Grodzieńska). MNK



**Гродна. Кляштары і касцёлы бернардзінцаў і кармелітаў.**
1861—1869 гг.

З левага боку фасад касцёла бернардзінцаў. З правага — фасад карміліцкага касцёла.

Надпіс: *Кляштар бернардзінцаў. Гродна.* Надпіс на падкладцы: *Гродна, кляштар бернардзінцаў*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19x25,7

III-r. a. 4339 (Teka Grodzieńska). MNK



**Гродна. Базыльянскі кляштар.**
1861—1869 гг.

Выгляд бакавога фасада касцёла і двухпавярховага будынка кляштара, абкружаных мураванай агароджай.

Надпіс: *Базыльянскі кляштар. Гродна.* Надпіс на падкладцы: *Базыльянскі кляштар. Гродна*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,1x25,6

III-r. a. 4340 (Teka Grodzieńska). MNK

**Гродна. Кляштар базыльянак Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі.** 1861—1869 гг.

Выгляд галоўнага і бакавога фасадаў. Вакол касцёла размешчаны жылыя збудаванні.

Надпіс на падкладцы: *Базыльянскі кляштар. Гродна*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19x25,2

III-г. а. 4341 (Teka Grodzieńska). MNK



**Гродна. Францысканскі касцёл.** 1861—1869 гг.

Від з боку Нёмана. Будынак касцёла і званіцы.

Датавана: *26 чэрвеня.* Надпіс: *Францысканскі касцёл. Каложа; Гродна*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19x25,6

III-г. а. 4342 (Teka Grodzieńska). MNK






**Гродна. Чыгуначны мост.**
1861—1869 гг.

Выгляд чыгуначнага моста на апорах цераз Нёман.

Надпіс: *Гродна*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19x25,5

III-г. а. 4343 (Teka Grodzieńska). MNK



**Гродна. Прадмесце.**
1861—1869 гг.

Выгляд драўляных аднапавярховых будынкаў. З правага боку — чыгуначны мост, за ім — вежа францысканскага касцёла.

Надпіс: *Прадмесце Гродна*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19x26

III-г. а. 4344 (Teka Grodzieńska). MNK

**Гродна. Былы езуіцкі касцёл Святога Францыска.**
1861—1869 гг.

Выгляд бакавога фасада касцёла. На пярэднім плане касцельныя будынкі.

Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20x24,7

III-r. a. 4345 (Teka Grodzieńska). MNK



**Гродна. Плошча Стэфана Баторыя з ратушай.**
1861—1869 гг.

Выгляд плошчы з боку Замкавай вуліцы. З левага боку — двухпавярховая ратуша з порцікам на калонах. Далей — жыллёвая забудова на Замкавай вуліцы. З правага боку — від фарнага касцёла.

Надпіс на падкладцы: *Гродна*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20x24,7

III-r. a. 4346 (Teka Grodzieńska). MNK





**Гродна. Брыгіцкі касцёл, казармы.** 1861—1869 гг.

Выгляд двара з будынкам казармы і мураванымі драўлянымі збудаваннямі. У глыбіні — касцёл з нізкімі вежамі.

Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20x25

III-r. a. 4347 (Teka Grodzieńska). MNK



**Гродна. Палац Чацвярцінскіх.** 1861—1869 гг.

Від з боку пад'езда. Трохпавярховы палац з рызалітамі, балконамі на першым паверсе і галерэяй на другім паверсе. Па баках размешчаны дзве аднапавярховыя афіцыны.

Датавана: *28 ліпеня.* Надпіс: *Палац к[нязя] Чацвярцінскага. Гродна.* Надпіс на падкладцы: *Палац кн[язёў] Чацвярцінскіх, Гродна*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19x25,6

III-r. a. 4348 (Teka Grodzieńska). MNK

**Гродна. Палац Валіцкіх — рэзідэнцыя праваслаўнага архірэя.** 1861—1869 гг.

Від з боку ўязной дарогі з драўляным мостам на мураваных апорах. Палац двухпавярховы з порцікам на калонах.

Надпіс: *Гродна. Палац Валіцкага, рэзідэнцыя праваслаўнага архірэя.* Надпіс на падкладцы: *Гродна. Палац Валіцкага*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 18,9x25,5

III-r. a. 4349 (Teka Grodzieńska). MNK



**Гродна. Замкавы ансамбль. Каложа.** 1866 г.

Агульны від ансамбля з боку ракі Нёман. На высокім беразе будынкі Старога і Новага замкаў. У глыбіні над ракой — руіны касцёла.

Датавана: *6 чэрв[еня] 1866 г.* Надпіс: *Гродна. Каложа. Стары замак.* Надпіс на падкладцы: *Гродна. Стары замак «Каложа»*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19x26

III-r. a. 4350 (Teka Grodzieńska). MNK





**Гродна. Руіны Каложскай царквы.** 1869 г.

Від рэштак царквы. З левага боку — драўляная двухпавярховая званіца. З правага боку ў глыбіні — руіны Старога замка, далей — вежа касцёла.

Датавана: *4 красавіка 1869 г.* Надпіс: *Каложа каля Гродна.* Надпіс на падкладцы: *Каложа каля Гродна. Гродзенская [губерня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 22,4x29,6

III-r. a. 4351 (Teka Grodzieńska). MNK



**Гродна. Руіны Каложскай царквы.** 1869 г.

Від рэштак царквы

Надпіс: *Каложа.* Надпіс на падкладцы: *Каложа каля Гродна.* Надпіс на картцы, падклеенай да падкладкі: *Каложа. Святыня Боская каля Гродна на беразе Нёмана, заснавана ў 1409 г.* (дата памылковая, у XII ст.— *Аўт.*) *палоннымі пасля войнаў Вітольда, в[ялікага] к[нязя] літоўскага.*

Апошні надпіс перакладзены на французскую мову.

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 22,3x31,2

III-r. a. 4352 (Teka Grodzieńska). MNK

**Гродна. Прадмесце.** 1861—1869 гг.

Агульны від забудовы прадмесця

Датавана: *13 жніў[ня]*. Надпіс: *Гродна, яр.* Надпіс на падкладцы: *Гродна. Яр на ўскрайку*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,1х26

III-г. а. 4353 (Teka Grodzieńska). MNK



**Гродна. Забудова прадмесця.** 1861—1869 гг.

Від аднапавярховых збудаванняў Занёманскага прадмесця. У глыбіні — чыгуначны мост. За ракой — фрагменты Новага замка.

Датавана: *Гродна, 20 жніў[ня]*. Надпіс на падкладцы: *Гродна. Прадмесце*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю і гуашшу. 19,2х25,7

III-г. а. 4354 (Teka Grodzieńska). MNK





**Гродна. Прадмесце.** 1866 г.

Від жыллёвай забудовы

Датавана: *Гродна, 4 жнiў[ня] 1866 г.* Надпіс: *Уезд у горад.* Надпіс на падкладцы: *Гродна, уезд у горад*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю і гуашшу. 18,9х25,4

Ш-г. а. 4355 (Teka Grodzieńska). MNK



**Гродна. Дом Макавельскай на вуліцы Скальманоўскай.** 1867 г.

Від аднапавярховых драўляных гаспадарчых збудаванняў

Надпіс: *Гродна, двор дома Макавельскай.* Надпіс на падкладцы: *Двор дома Макавельскай у Гродне*

Малюнак алоўкам, падпраўлены сепіяй і гуашшу. 19,1х25,6

Ш-г. а. 4356 (Teka Grodzieńska). MNK



**Гродна. Дом Макавельскай на вуліцы Скалманоўскай.** 1867 г.

Выгляд аднапавярховага дома з ганкам з боку падворка. З правага боку — уязная брама, з левага — драўляныя гаспадарчыя будынкі.

Датавана: *10 ліпеня 1867*. Надпіс: *Гродна, дом Макавельскай, вуліцы Скалманоўскай*. Надпіс на падкладцы: *Дом Макавельскай. Гродна*

Малюнак алоўкам, падпраўлены сепіяй. 19,2x25,7

III-r. a. 4357 (Teka Grodzieńska). MNK

**Гродна. Палац Бачкоўскага.**
1867 г.

Від паркавага фасада. Палац аднапавярховы з порцікам на калонах, побач драўляныя аднапавярховыя жыллёвыя будынкі.

Датавана: *Гродна, 23 мая 1867 г.* Надпіс: *Дом Бачкоўскага. Пакоі...* (неразборліва.— *Аўт.*) *кіраўніка Левандоўскага.* Надпіс на падкладцы: *Дом Бачкоўскага, Гродна*

Малюнак алоўкам, падпраўлены сепіяй. 19,1x25,8

III-r. a. 4358 (Teka Grodzieńska). MNK



**Гродна. Чыгуначны вакзал.**
1867 г.

Від з боку чыгункі. Вакзал аднапавярховы, сярэдняя частка мае два паверхі. З левага боку на другім плане бачныя гарадскія будынкі.

Датавана: *15 чэрвеня 1867 г.* Надпіс: *Гродна, вакзал.* Надпіс на падкладцы: *Чыгуначны вакзал. Гродна*

Малюнак алоўкам. 19,1x25,7

III-r. a. 4359 (Teka Grodzieńska). MNK





**Гродна. Дамініканская вуліца з гатэлем Ромера.** 1867 г.

Від жыллёвай забудовы з трохпавярховым будынкам гатэля з трыма рызалітамі і балконамі.

Датавана: *1 ліпеня 1867* г. Надпіс: *Гродна. Дамініканская вуліца, гатэль Ромера.* Надпіс на падкладцы: *Гатэль Рэміза (?) на Дамініканскай вул[іцы] у Гродне*

Малюнак алоўкам. 19,1x26

III-r. a. 4360 (Teka Grodzieńska). MNK



**Гродна. Будынак бернардзінскага касцёла.** 1861—1869 гг.

Выгляд будынка касцёла з трыкутным шчытком, да якога з правага боку падступае званіца-брама. У глыбіні — будынак кляштара. Касцёл абкружаны мураванай агароджай з аркаднымі нішамі.

Датавана: *6 ліпеня.* Надпіс на падкладцы: *Гродна*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,1x25,6

III-r. a. 4434 (Teka Grodzieńska). MNK

**Гродна. Рака Нёман.**
1861—1869 гг.

З правага боку месцяцца руіны галандскага млына ці вежы і аднапавярховага дома.

Надпісы адсутнічаюць.

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19x25,5

III-r. a. 4435 (Teka Grodzieńska). MNK



**Гродна. Гарадская забудова.**
1861—1869 гг.

Выгляд драўляных аднапавярховых будынкаў

Без надпісу

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19x25,8

III-r. a. 4436 (Teka Grodzieńska). MNK





**Гродна. Руіны Старога замка.**
1861—1869 гг.

Від руінаў. У глыбіні — вежа фарнага касцёла.

Датавана: *1 ліпеня.* Надпіс: *Цясніна*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19x25,5

III-r. a. 4440 (Teka Grodzieńska). MNK



**Гродна. Забудова горада.**
1861—1869 гг.

Выгляд драўляных аднапавярховых будынкаў

Датавана: *6 ліпеня.* Надпіс: *Гродна перад мостам.* Надпіс на падкладцы: *Над берагам Нёмана*

Малюнак алоўкам. 19x25,5

III-r. a. 4441 (Teka Grodzieńska). MNK

**Гродна. Панарама горада.**
1861—1869 гг.

Від з боку ракі Нёман. На абрывістым беразе руіны касцёла і забудова Старога і Новага замкаў.

Без надпісу

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19x25,5

III-r. a. 4442 (Teka Grodzieńska). MNK



**Гродна. Агульны выгляд.** 1867 г.

На пярэднім плане — рака Нёман, на другім замаляваны аднапавярховыя жыллёвыя будынкі, касцёл, млын.

Надпісы адсутнічаюць.

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19x25,7

III-r. a. 4445 (Teka Grodzieńska). MNK





**Гродна. Фрагмент забудовы.**
1861—1877 гг.

Выгляд двух дамоў з боку падворка. З левага і правага бакоў намаляваны аднапавярховыя дамы. Паміж імі — уязная брама. У глыбіні — вежа былога езуіцкага касцёла (?).

Без надпісу

Малюнак алоўкам. 18,2x25,2

III-г. a. 4447 (Teka Grodzieńska). MNK



**Гродна. Палац Тызенгаўза.**
1861 г.

Від з боку парку. Палац аднапавярховы, з рызалітам.

Датавана: *2 чэрвеня 1861 г.* Надпіс: *Палац Тэзынгаўза* (прозвішча напісана з памылкамі.— *Аўт.*) *у Гродне.* Надпіс на падкладцы: *Гродна, палац Тызенгаўза*

Малюнак алоўкам. 14,6x23,3

III-г. a. 4535 (Teka Grodzieńska). MNK

**Аўгустовак. Палац А. Тызенгаўза.** 1861—1877 гг.

Від з боку пад'езда. Палац аднапавярховы, з высокім рызалітам і алькежамі.

Датавана: *27 ліпеня.* Надпіс: *Аўгустовак. Дэ Ласі.* Надпіс на падкладцы: *Аўгустовак (дэ Ласі)*

Малюнак алоўкам. 19,1x25

III-r. a. 4313 (Teka Grodzieńska). MNK



## *Аўгустовак*

Палац узведзены Антоніем Тызенгаўзам у 2-й палове XVIII ст. на правым беразе ракі Нёман за тры кіламетры ад Гродна. Як і Станіслава, ён надаў другому палацу назву Аўгустовак у гонар тагачаснага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага [293]. Палац не быў дабудаваны. Пасля паўстання 1794 г. Кацярына II перадала яго ва ўласнасць генералу графу Маўрыцыю за ягоныя заслугі перад Расіяй падчас расійска-турэцкай вайны. Аўгустовак лічыўся сямейным гняздом роду О'Брыен дэ Ласі.

У 1912—1914 гг. палац карэнным чынам адрэстаўравалі, але ў 1915 г. у выніку ваенных дзеянняў ён згарэў разам з багацейшай калекцыяй музейных каштоўнасцей і архіўных дакументаў.

## *Панямонь*

Колішняя сядзіба. Размяшчалася на ўсходняй ускраіне горада (правы бераг Нёмана, адсюль і назва). Цяпер уваходзіць у межы горада, з'яўляецца помнікам сядзібна-паркавай архітэктуры позняга барока. Узведзена ў 1771 г. у якасці загараднай рэзідэнцыі Станіслава Аўгуста Панятоўскага (архітэктар Ю. Аляхновіч). Перабудавана ў XIX ст. у стылі класіцызму [293]. Уключае сядзібны дом, парк, флігель. З поўдня ансамбль



**Панямонь Сядзіба С. А. Панятоўскага.** 1861—1877 гг.

Від з боку ракі Нёман. Палац з порцікам на калонах і тэрасай на высокім падмурку. Бельведэр размешчаны над рызалітам на паркавым фасадзе. Пазней дабудаваны цяпліца і двухпавярховы будынак.

Датавана: *5 жніў[ня]*. Надпіс: *Панямонь, [уладанне] Лахніцкага каля Гродна.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня], Панямонь, двор*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19x25,8

III-r. a. 4400 (Teka Grodzieńska). MNK



**Станіслававa. Палац Любецкіх.** 1861—1877 гг.

Від з боку пад'езда. Палац аднапавярховы, з двухпавярховым рызалітам. Па баках двара — аднапавярховыя афіцыны.

Датавана: *28 ліпеня.* Надпіс: *Станіславаў к[няя] Любецкага; Гродна.* Надпіс на падкладцы: *Станіславаў кн[язёў] Любецкіх*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19x25,6

III-r. a. 4415 (Teka Grodzieńska). MNK

абмежаваны ракой, з усходу і поўначы — глыбокім ярам. Сядзібны дом аднапавярховы мураваны (пазней частка разбураных сцен заменена драўлянымі). Палац захаваўся. Выкарыстоўваецца пад жыллё.

### *Станіслававa*

Колішняя сядзіба паблізу Гродна. Размешчана на ўскраіне горада, былым прыгарадзе Станіслававa. Сфарміравана ў 1760—1770-я гг. па праекце архітэктара Дж. Сака як загарадная рэзідэнцыя караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага [141]. Ансамбль уключаў палац, бакавыя флігелі, якія разам утваралі парадны курданёр, абнесены цаглянай агароджай. Часткова захаваўся парк. Гаспадарчыя будынкі размешчаны за заходнім флігелем. У той час, калі палац наведаў Н. Орда, Станіслававa належала князю Друцкаму-Любецкаму.

Былая сядзіба з'яўляецца помнікам сядзібна-паркавай архітэктуры 2-й паловы XVIII ст. Цяпер у ёй размяшчаецца кафедра раслінназнаўства Гродзенскай сельскагаспадарчай акадэміі.

## АСТРАВЕЦКІ РАЁН

### *Варняны*

Да 1-й паловы XVII ст. Варняны, што згадваюцца з XVст., мелі назвы Касакоўшчына і Сульвястроўшчына. У 1462 г. уласніца гэтых зямель Марыяна Сагайлава была фундатаркай касцёла і плябаніі. У 1581 г. гаспадаром маёнтка з'яўляўся смаленскі




**Варняны. Палац Снядзецкіх.** 1875—1877 гг.

Від з боку сажалкі. Палац двухпавярховы, з рызалітамі. У цэнтры малюнка мураваная вежа.

Надпіс: *Варняны.* Надпіс на падкладцы: *Віленская г[уберня], Варняны*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,8x29

III-r. a. 4024 (Teka Wileńska). MNK




**Варняны. Парафіяльны касцёл.** 1875—1877 гг.

Выгляд цэнтральнага і бакавога фасадаў касцёла з дзвюма вежамі. З левага боку — двухпавярховы будынак.

Датавана: *13 ліпеня.* Надпіс: *Касцёл у Варнянах.* Надпіс на падкладцы: *Віленская г[уберня], Варняны*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,7x29

III-r. a. 4025 (Teka Wileńska). MNK

ваявода Ян Абрамовіч, жанаты з Даротай Валовіч. Ён увайшоў у гісторыю як прыхільнік праваслаўя, літаратар, асветнік. Да XIX ст. Варняны знаходзіліся ў руках Абрамовічаў. У сярэдзіне XIX ст. маёнтак выкупіў Андрэй Снядзецкі з Балтупа. Пасля яго ў Варнянах гаспадарылі Асяцімскія, Мілошы і Хамінскія [293].

У XVIII—XIX стст. Варняны з'яўляліся адной з найпрыгажэйшых сядзіб Віленшчыны. Захаваліся чатыры літаграфіі Варнянаў з 1820-х гг. і дзве акварэлі Н. Орды. Сёння ў адзіную кампазіцыю палаца-паркавага комплексу ўваходзяць касцёл, плябанія, дом аптэкара, жылыя дамы. [141].

## *Балтуп*

## АШМЯНСКІ РАЁН

Маёнтак, які ў XIX ст. з'яўляўся маёмасцю Андрэя Снядзецкага (1768—1838), вядомага ўрача, біёлага, хіміка, філосафа.

У XVI ст. фальварак Балтуп належаў роду Шашкевічаў, потым Малевічам. У канцы XVIII ст. маёнтак перайшоў да Міхала Вельямовіча, пазней належаў Ганне Студніцкай і Аляксандру Абрамовічу. У 1806 г. за 13 тысяч чырвонцаў маёнтак выкупіў Андрэй Снядзецкі. У 1812 г. двор быў спалены [293]. Невядома, хто са Снядзецкіх пабудаваў у Балтупе шыкоўны палац, дзе пабываў Н. Орда. Палац не захаваўся.

**Балтуп. Капліца-пахавальня.** 1876 г.

Выгляд драўлянай капліцы з надпісам. З левага боку — надмагілле ў форме урны на пастаменце.

Датавана: *21 мая 1876 г.* Надпіс: *Гароднікі. Пахаванне Андрэя Снядзецкага. Нар[адзіўся] 30 ліст[апада] 1768 г., памёр 29 крас[авіка] (12 мая) 1838г. у Вільні. Каз[імір] Шыманоўскі.* Надпіс на падкладцы: *Балтуп, могілкі. Гараднікі. Віленская г[уберня].* Надпіс на картцы, падклеенай да падкладкі: *Балтуп. Віленская губер[ня]. Некалі ўласнасць слыннага прафесара, доктара і пісьменніка Андрэя Снядзецкага, народжанага ў Жніне 30 ліст[апада] 1768 г., памершага ў Вільні 11 (!) мая 1838 г. На тутэйшых могілках знаходзіцца яго дамавіна. Цяпер уласнасць яго ўнука Енджэя Снядзецкага.*
Апошні надпіс паўтораны па-французску.

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,5х28,5

III-г. а. 3981 (Teka Wileńska). MNK



**Балтуп. Палац Снядзецкіх.** 1876 г.

Від з боку парку. Палац з тэрасай на першым паверсе і балконам у двухпавярховай частцы будынка.

Датавана: *Балтуп, 20 мая 1876 г.* Надпіс: *Андрэя Снядзецкага.* Надпіс на падкладцы: *Балтуп. Віленская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,5х29

III-г. а. 3980 (Teka Wileńska). MNK





**Баруны. Базыльянскі кляштар**

Агульны выгляд барочнага будынка касцёла, па баках — дзве сіметрычна размешчаныя вежы, выкананыя ў розныя перыяды, якія адрозніваюцца архітэктурным абліччам. На пярэднім плане — аднапавярховыя жылыя будынкі кляштара, на заднім — двухпавярховы мураваны будынак. Кляштар абнесены драўляным плотам.

Малюнак Баруноў быў надрукаваны ў часопісе «Клосы» за 1879 г. [308]. Арыгінал акварэлі не выяўлены. Магчыма, знішчаны ці знаходзіцца ў прыватнай калекцыі.

## *Баруны*

Мястэчка Баруны размяшчаецца на перакрыжаванні дарог з Гальшанаў да Крэва і з Гальшанаў на Валожын. Да 1917 г. тут працавалі мужчынская духоўная семінарыя, а паміж 1920 і 1922 гг.— Беларуская настаўніцкая семінарыя [308].

## *Гальшаны*

Гальшаны ўпершыню ўпамінаюцца ў летапісах з XIII ст. Заснавальнікам мястэчка стаў адзін з сыноў вялікага князя літоўскага Гольшы, ад імя якога пайшла назва мястэчка. Сынам Гольшы з'яўляўся Альгімонт (1280). Яго нашчадак луцкі епіскап Павел Альгімонтавіч Гальшанскі быў апошнім гаспадаром з роду Гальшанскіх. Пазней у Гальшанах гаспадарылі Сапегі, Валовічы, Кунцэвічы, Масевічы, Жабы, Пеліканы, Ягміны.

Найбольшы след у гісторыі Гальшанаў пакінуў падканцлер ВКЛ Павел Сапега (1565—1635). На месцы былога маёнтка Альгімонта, непадалёку ад мястэчка Гальшаны, на пачатку XVII ст. ён адбудаваў новую рэзідэнцыю: магутны замак з велізарнымі скляпеннямі, піўніцамі, бастыёнамі, капліцай, валамі і воднай сістэмай. Замак неаднаразова знішчаўся і перабудоўваўся. Найбольшае разбурэнне адбылося ў перыяд войнаў XVII ст., пасля якіх ён ужо ніколі не мог аднавіць былую веліч. Паступова зніклі каштоўнасці, разбурыліся галерэі і надбрамная вежа, дэкаратыўная аздоба сцен. Падчас гаспадарання ў Гальшанах Жабаў замак перабудаваўся [293].

Адначасова з замкам Павел Сапега ўзвёў комплекс кляштара францысканцаў, які ўключаў касцёл Іаана Хрысціцеля і жылы корпус. Касцёл пабудаваны ў 1616 г., перабудаваны







**Гальшаны. Замак Жабаў і руіны замка Сапегаў.** 1876 г.

Від з боку ракі Альшанкі. Замак двухпавярховы, з вежамі па баках, руінамі старога замка Сапегаў і капліцай.

Датавана: *18 мая 1876 г.* Надпіс: *Гальшаны.* Надпіс на падкладцы: *Гальшаны. Віленская г[уберня].* Надпіс на картцы, падклеенай да падкладкі: *Гальшаны над ракой Альшанкай. Віленская губерня. Мястэчка носіць назву ад князёў Гальшанскіх, што паходзілі ад Гольшы, сына Трабуса, к[нязя] літоўскага. Ганна Гальшанская, жонка мінскага ваяводы Багдана Сапегі, унесла Гальшаны ў сям'ю Сапегаў. Сын Багдана Павел пабудаваў замак. У сярэдзіне XVIII ст.— уласнасць роду Жабаў*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,6х28,8

III-r. a. 3992 (Teka Wileńska). MNK



**Гальшаны. Руіны замка.** 1876 г.

Агульны выгляд рэштак замка з бакавымі вежамі і капліцай. З левага боку на другім плане — францысканскі кляштар з касцёлам.

Датавана: *18 мая 1876 г.* Надпіс: *Гальшаны.* Надпіс на падкладцы: *Гальшаны. Віленская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,5x18,8

III-г. а. 3993 (Teka Wileńska). MNK

ў XVIII ст. У алтарнай частцы знаходзіліся фрэскі 2-й паловы XVIII ст. Жылы корпус узнік трохі пазней. П-падобны ў плане мураваны двухпавярховы будынак далучаўся да касцёла. Будынкі касцёла і жылога корпуса кляштара захаваліся.

## *Гейстуны*

Радзіма Антонія Эдварда Адынца — паэта, перакладчыка, мемуарыста і грамадскага дзеяча XIX ст. [141].

У XVI ст. Гейстуны ўваходзілі ў склад маёнткаў Радзівілаў. У 1574 г. Ганна з Радзівілаў прадала Гейстуны Андрэю Волану, які праз некалькі гадоў падараваў сядзібу брату Якубу. У сярэдзіне XVIII ст. Ян і Ганна з Путкамераў Воланы прадалі свае маёнткі Марыянне са Святарэцкіх Віткевіч, якая запісала Гейстуны ўнуку Т. Касцялкоўскаму. Пасля яго Гейстуны перайшлі да Саковічаў і Адынцоў. Гаспадар маёнтка Тадэвуш Адынец меў чатырох дзяцей і перадаў Гейстуны Антонію Эдварду Адынцу [293]. У 1870-я гг. у яго гасцяваў Н. Орда.



**Гейстуны. Двор Адынцоў.**
1875—1870 гг.

Від з боку фальварачнага падворка. Дом аднапавярховы, з ганкам і мансардным дахам, навокал — гаспадарчыя пабудовы.

Датавана: *19 мая. Гейстуны.* Надпіс: *Уласнасць і месца нараджэння Эдварда Адынца.* Надпіс на падкладцы: *Гейстуны. Віленская г[уберня].* Надпіс на картцы, падклеенай да падкладкі: *Гейстуны. Віленская губерня. Уласнасць паэта Антонія Эдварда Адынца. Тут ён нарадзіўся ў 1804 г.*

Апошні надпіс паўтораны па-французску.

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,4х28,8

III-г. а. 3987 (Teka Wileńska). MNK

Дом у Гейстунах быў узведзены ў 1760 г. з дрэва, меў 8 пакояў. У канцы 1895 г., калі ў ім гаспадарыла дачка А. Э. Адынца Тарэса Хамянтоўская, дом згарэў, а парк заняпаў і паступова знішчаўся.

## БЕРАСТАВІЦКІ РАЁН

### *Бераставіца Малая*

Вялікая і Малая Бераставіцы ў XVI ст. належалі вялікаму князю літоўскаму Аляксандру, пазней магнатам Хадкевічам, Мнішкам, Патоцкім, Касакоўскім. Ганна, дачка віленскага кашталяна Яна Казіміра і Соф'і з Пацаў Хадкевічаў, выйшла замуж за Яна Мнішку, унёсшы Бераставіцу ў пасаг мужу. Вандалін Мнішак дамогся для Бераставіцы прывілеяў. Яго дачка Амелія была пашлюблена са Шчасным-Патоцкім, а іх дачка Людвіка пабралася шлюбам з Юзафам Касакоўскім. Апошнім гаспадаром Бераставіцы (да 1939 г.) быў граф Станіслаў Касакоўскі, сын Юзафа і Марыі з роду Хадкевічаў [293].

Малую Бераставіцу ў 1868 г. наведаў Н. Орда. На паўночнай ускраіне вёскі яшчэ захаваўся колішні палац.

### *Бераставіца Мураваная*

У 2-й палове XVIII ст. гаспадарамі маёнтка былі Тадэвуш Дунін-Юндзіл, жанаты ў першым шлюбе з Францішкай Лазоўнай, у другі раз — з Анэляй Залескай. Ягоны сын Францішак быў пашлюблены з Тарэсай Бужынскай, а ўнук — з Тарэсай Ціхоцкай. Яны мелі шмат нашчадкаў, адна з якіх Марыя ў 1858 г. выйшла замуж за Станіслава Солтана

**Берастaвіца Малая. Царква і касцёл.** 1868 г.

Від з боку дарогі. Царква мела вежу з невялікім купалам над алтаром. На другім плане — касцёл, над уваходам якога быў надпіс.

Датавана: *Малая Берастaвіца, 4 красав[іка] 1868 г.* Надпіс на падкладцы: *Малая Берастaвіца*

Малюнак алоўкам. 19x25,5

ІІІ-г. a. 4325 (Teka Grodzieńska). MNK



**Берастaвіца Мураваная. Палац Валкавіцкіх.** 1868 г.

Від з боку парку. Палац двухпавярховы, з тэрасай на першым паверсе і высокімі сходамі.

Датавана: *4 красавіка 1868 г.* Надпіс: *Мураваная Берастaвіца.* Надпіс на падкладцы: *Мураваная Берастaвіца*

Малюнак алоўкам. 19x25,8

ІІІ-г. a. 4326 (Teka Grodzieńska). MNK



і ўнесла ў пасаг гэтаму роду Мураваную Бераставіцу. Пасля смерці жонкі Станіслаў Солтан ажаніўся з яе роднай сястрой Альбярцінай. Багдан Солтан (1897—1960), жанаты з Ганнай Нартоўскай, быў апошнім гаспадаром маёнтка [293]. Да нашых дзён захаваўся сядзібны дом, у якім некалі пабываў Н. Орда, дзе ў той час гаспадарылі Валкавіцкія.

### *Вайцехаўшчына*

Маёнтак роду Дашкевічаў, што знаходзіўся ў былым Гродзенскім павеце [188]. Летам 1868 г. тут гасцяваў Н. Орда.

### *Краснікі*

Вёска Краснікі, якая ўпамінаецца ў дакументах за 1558 г., з'яўлялася дзяржаўнай уласнасцю ў складзе Гродзенскай каралеўскай эканоміі, цэнтрам воласці Красніцкага двара. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай каралеўскі маёнтак Краснікі быў падараваны генералу графу Дзяконскаму.

Вёска і маёнтак набылі вядомасць пастаяннымі хваляваннямі і выступленнямі сялян у 1825, 1844, 1848 і 1905 гг. супраць рэкруцтва і памешчыцкай уласнасці на зямлю, высокіх падаткаў і малазямелля, патрабаваннямі пераводу іх у казённае падпарадкаванне.

Ва ўладанні Дзяконскага ў 1854 г. былі каля 5 тысяч дзесяцін зямлі і 1000 душ прыгонных, у мясцовым бровары штодзённа перапрацоўваліся 6 пудоў жыта і 8 чвэрцей бульбы.

Летам 1848 г. сяляне сумелі падаць скаргу гродзенскаму губернатару, але суд не падтрымаў іх, і ініцыятараў напісання скаргі сурова пакаралі.

У 1824 г. граф Дзяконскі ў в. Краснікі пабудаваў невялікі мураваны касцёл Святых Міхаіла Арханёла і Марыі Магдалены. Н. Орда замаляваў яго з натуры. Будынак касцёла разбураны ў 1970-я гг. Да сённяшняга часу захаваліся руіны стайні, канюшні і свірна.

### *Масаляны*

Сядзіба некалі была ва ўласнасці князёў Масальскіх. У 1-й палове XIX ст. маёнтак стаў цэнтрам шэрагу фальваркаў у Гродзенскім і Ваўкавыскім паветах, належаў Аляксандры і Юзэфе, дочкам Юзафа Біспінга. Абедзве сястры, не маючы ўласных дзяцей, завяшчалі Масаляны дваюраднаму ўнуку Аляксандру Біспінгу.

Першы з Біспінгаў, хто прыбыў з Вестфаліі ў ВКЛ, стаў Ян Біспінг. У прывілеі 1609 г., выдадзеным яму імператарам Святой Рымскай імперыі Рудольфам II, было засведчана, што род Біспінгаў пайшоў ад старажытнай рыцарскай сям'і. У 2-й палове XVIII ст. Масаляны належалі Баляславу Біспінгу. Ягоны нашчадак Адам Біспінг меў сына Каміла. Адным з сыноў Каміла, Аляксандр, з'яўляўся першым ардынатам Масалянаў. За ўдзел у паўстанні 1863—1864 гг. яго вывезлі ў Расію, дзе ён і памёр у Санкт-Пецярбургу бяздзетным. Пасля яго ардынацыя перайшла да брата Яна, таксама беспатомнага. Наступным масалянскім ардынатам стаў трэці сын Каміла Юзаф Біспінг, жанаты з Геленай Галынскай. Ён меў сыноў Казіміра і Яна. Чацвёртым і апошнім ардынатам Масалянаў быў Ян, жанаты першы раз з Евай з Рудамінаў, другі — з Марыяй Замойскай. У 1-й палове XIX ст. у Масалянах у атачэнні разлеглага парку пабудавалі прыгожы палац (архітэктар А. Градзецкі) [293].

У гэтым палацы некалі пабываў Н. Орда і напісаў дзве акварэлі з выглядам Масалянскай сядзібы.

**Вайцехаўшчына. Двор Дашкевічаў.** 1868 г.

Выгляд аднапавярховага сядзібнага дома з двума ганкамі на калонах. З правага боку — аднапавярховая забудова.

Датавана: *20 жніў[ня] 1868 г. Вайцехаўшчына.* Надпіс на падкладцы: *Вайцехаўшчына. Гродзенская[ губерня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю і гуашшу. 22,4x29,7

III-r. a. 4423 (Teka Grodzieńska). MNK



**Краснікі. Касцёл Святых Міхаіла і Марыі Магдалены.** 1868 г.

Выгляд галоўнага і бакавога фасадаў з порцікам на калонах.

Датавана: *24 чэр[веня] 1868 г.* Надпіс: *Капліца ў Красніку.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская [губерня]. Капліца ў Красніку*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю і гуашшу. 22,5x29,4

III-r. a. 4379 (Teka Grodzieńska). MNK





**Масаляны. Сядзіба.** 1861—1877 гг.

Від з боку сажалкі і капліцы з дзвюма вежкамі і павільёнамі.

Датавана: *24 чэрв[еня]*. Надпіс: *Масаляны.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская [губерня]. Масаляны, касцёл*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю і гуашшу. 22,5х29,5

ІІІ-г. а. 4385 (Teka Grodzieńska). MNK



**Масаляны. Палац Біспінгаў.** 1861—1877 гг.

Від з боку парку. Палац аднапавярховы, з бакавымі крыламі, порцікам на калонах і бельведэрам.

Надпіс: *Масаляны.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня], Масаляны, палац*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 22,5х29,7

ІІІ-г. а. 4384 (Teka Grodzieńska). MNK

**Гнезна. Касцёл Святога Міхаіла.** 1877 г.

Від з боку дарогі. Касцёл мураваны з чатырохбаковай вежай-званіцай.

Датавана: *Гнезна, 6 чэрвеня 1877 г.* Надпіс: *На цэгле выціснута дата 1121 г. Гнезна.* Надпіс на падкладцы: *Гнезна. Гродзенская г[уберня]. Касцёл вельмі старажытны, на знешняй сцяне ёсць выціснутыя лічбы 1121. Невядома, ці азначаюць яны год.*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,9x30,2

III-r. a. 4364 (Teka Grodzieńska). MNK



## ВАЎКАВЫСКІ РАЁН

### *Гнезна*

Сядзіба сфарміравалася ў 2-й палове XIX ст. Уключала дом, два флігелі, гаспадарчую пабудову, пейзажны парк (часткова захаваўся), дзве мураваныя брамы. Будынак сядзібнага дома аднапавярховы, каменны, прамавугольны ў плане. Цяпер у ім размяшчаецца адміністрацыя сельскага Савета [141].

У цэнтры вёскі знаходзіцца касцёл, пабудаваны ў 1527 г. Менавіта яго намаляваў Н. Орда.

### *Кватэры*

Сядзіба размяшчалася на рэчцы Куклянка недалёка ад мястэчка Свіслач. З XVII ст. належала роду Гліндзічаў. Апошнім гаспадаром Кватэраў да 1939 г. быў Адольф Бітнер-Гліндзіч.

Каля 1770 г. тут пабудавалі драўляны аднапавярховы палац, які меў порцік, падтрыманы калонамі. Дрэва на будоўлю прывозілі з Белавежскай пушчы. У часы Першай сусветнай вайны двор быў знішчаны. Сядзібу замаляваў Н. Орда [375].



**Кватэры. Палац.** 1868 г.

Від з боку ўязной дарогі і рэчкі. Палац аднапавярховы, з высокім порцікам на калонах.

Датавана: *4 ліпеня 1868 г. Кватэры.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская [губерня]. Кватэры*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю і гуашшу. 22,2x29,5

III-r. a. 4381 (Teka Grodzieńska). MNK

## *Рось*

Старадаўняе мястэчка. Належала некалі Ходкевічам, якія адбудавалі тут шыкоўную сядзібу, але ў ёй не жылі. Віленскі кашталян Геранім Хадкевіч увайшоў у гісторыю Росі тым, што ў 1611 г. пабудаваў тут рэнесансны касцёл.

У 2-й палове XVII ст. Рось належала Глябовічам, затым Сапегам. Крысціна Сапега пасля шлюбу ў 1686 г. прынесла ў дом мужа Стэфана Мікалая Браніцкага пасаг — маёнтак Рось. Пасля Браніцкіх Рось зноў пераходзіць у рукі Сапегаў, а пасля — да Патоцкіх. Апошнім гаспадаром маёнтка да 1939 г. быў граф Адам Браніцкі (1892—1947).

Палац у Росі пабудаваны ў XVII ст., у інвентары 1779 г. названы замкам [293].

Паводле малюнка Н. Орды 1877 г. і шэрагу надрукаваных на той час фотакартак, палац меў прывабны выгляд. Быў знішчаны ў перыяд Другой сусветнай вайны. Захавалася толькі адна з афіцын і рэшткі парку. У мясцовым касцёле знаходзіцца вытачаны з белага мармуру саркафаг Сафіі Патоцкай-Несялоўскай, а ў капліцы на могілках — саркафаг з чорнага мармуру Стэфана Патоцкага.

**Рось. Сядзіба Патоцкіх.** 1877 г.

Від з боку пад'езда. Палац аднапавярховы з порцікам на калонах і двухпавярховай часткай усярэдзіне. Па абодвух баках — аднапавярховыя афіцыны.

Датавана: *Рось, 7 чэрвеня 1877 г.* Надпіс: *Гр[аф] Стэфан Патоцкі.* Надпіс на падкладцы: *Рось, Гродзенская г[уберня]. Уласнасць гр[афа] Стэфана Патоцкага*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8х30,5

III-r.a. 4402 (Teka Grodzieńska). MNK



## ВОРАНАЎСКІ РАЁН

### *Старынкі*

Старадаўняе мястэчка. Да 1931 г. гаспадаром яго быў Міхал Бутаўт-Андрэйковіч, пасля якога да 1939 г. маёнткам валодаў Н. Мацкевіч. Палац і афіцыну, якія маляваў Н. Орда, пабудавалі ў 2-й палове XVIII ст. Андрэйковічы [293].

### *Бальценікі*

Сядзіба стала ўласнасцю Путкамераў у 1723 г., калі інфлянцкі стольнік В. Путкамер атрымаў пасаг за другую жонку, Дароту Шрэтэр, [293]. Дом быў пабудаваны на высокім узгорку каля рэчкі Гразолка. Падчас прыезду сюды Н. Орды дом быў ужо ў стане заняпаду. Новы палац (архітэктар Т. Раствароўскі) узведзены ў 1896 г. Фарміраванне парку пачалося, калі гаспадаром маёнтка з'яўляўся сын Марылі Верашчакі Станіслаў Путкамер. Парк і новы палац захаваліся.

### *Гародна*

Адзін з найбольш тыповых узораў сядзібна-паркавага мастацтва 2-й паловы XVIII ст. Падчас аднаго з падарожжаў маёнтак наведаў Станіслаў Аўгуст Панятоўскі [293, 357].

У 1762 г. уласніца Гародны Саламея Радзівіл падаравала маёнтак унуку сваёй дваюраднай сястры Людвіку Скумін-Тышкевічу, мужу Канстанцыі Панятоўскай (1759—1830).



**Старынкі. Сядзіба Андрэйковічаў.** 1861—1877 гг.

Від з боку пад'езда. Сядзібны дом драўляны, аднапавярховы, з порцікам на калонах. З левага боку аднапавярховая афіцына з ганкам на драўляных слупах.

Надпіс: *Старынкі Аляксандра Андрэйковіча, ж[онка] Клятыльда*

Надпіс на падкладцы: *Старынкі Аляксандра Андрэйковіча Гродзенская [губерня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,4x28,7

Ш-г. а. 4416 (Teka Grodzieńska). MNK



**Бальценікі. Двор Путкамераў.** 1875—1877 гг.

Від з боку пад'езда. Дом аднапавярховы, з тэрасай на калонах. З правага боку драўляны будынак для жылля.

Датавана: *Бальценікі. 27 чэрв[еня].* Надпіс: *Уласнасць Станіслава Путкамера: тут 27 снеж[ня] 1883 г. памерла Марыля.* Надпіс на падкладцы: *Бальценікі. Віленская г[убернія]. Уласнасць Станіслава Путкамера, сына Марыі Верашчакі, ушанаванай у паэтычных творах Міцкевіча пад імем Марылі*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,2

Ш-г. а. 3979 (Teka Wileńska). MNK



**Гародна. Палац Патоцкіх, некалі Тышкевічаў.** 1875—1877 гг.

Від з боку пад'езда. Палац аднапавярховы, на высокім падмурку, з піўніцамі і порцікам на калонах. З правага боку капліца з надпісам над уваходам і аднапавярховае жыллё.

Надпіс: *Гародна. Гр[аф] Маўрыцый Патоцкі — пасля гетмана Тышкевіча.* Надпіс на падкладцы: *Гародна. Віленская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,5х28,5

Ш-г. а. 3994 (Teka Wileńska). MNK

Пасля смерці Людвіка велізарны маёнтак перайшоў у рукі яго дачкі Ганны, якая была замужам за Аляксандрам Патоцкім. Пасля Патоцкіх з 1880-х гг. Гародну выкупіў расійскі генерал Асатураў. Потым маёнтак пераходзіў да графа Ігнацьева, генерала Кандратовіча.

Пры жыцці Людвіка Тышкевіча ў Гародне пабудавалі драўляны палац і сфарміравалі разлеглы парк. Палац быў разбураны падчас баявых дзеянняў у 1915 г. Парк часткова захаваўся.

## *Гайцюнішкі*

Дом-крэпасць у паўднёвай частцы вёскі, на левым беразе ракі Жышмы. Узведзены архітэктарам каралеўскіх збудаванняў у Вільні П. Нонгартам.

Галандзец П. Нонгарт у XVII ст. быў гаспадаром Гайцюнішак. На Беларусь прыехаў, хаваючыся ад пераследу па рэлігійных матывах. Маёнтак атрымаў за высокую кваліфіка-

цыю і будаўнічыя здольнасці. Яго дачка Сусанна выйшла замуж за Юрыя Храптовіча. Пасля Храптовічаў у Гайцюнішках гаспадарылі Шрэтэры, Путкамеры, Остэн-Сакены, Рымшы [293].

Акрамя дома-крэпасці ў Гайцюнішках захаваліся рэшткі парку і капліца-пахавальня Нонгартаў, пабудаваная ў 1633 г. [141].

У 1877 г. гаспадар Гайцюнішак Рамуальд Рымша гасцінна прымаў тут Н. Орду.



**Шаўры. Сядзіба Нарбутаў. Від з боку ракі.** Літаграфія

Надпіс: *Шаўры. Віленская г[уберня]. Уласнасць Тэадора Нарбута, аўтара «Гісторыі літоўскага народа». Нарадзіўся ў 1784 [годзе], памёр у 1864 г[одзе]*

Надпіс паўтораны па-французску [450].

Арыгінал акварэлі страчаны ці знаходзіцца ў прыватнай калекцыі.

## *Шаўры*

Старадаўняя сядзіба належала знакамітаму роду Нарбутаў. Сядзібны дом пабудаваны ў 2-й палове XVIII ст. Будынак аднапавярховы, драўляны, з вальмавым дахам і ганкам на чатырох слупах. Адначасова з будаўніцтвам сядзібнага дома быў закладзены пейзажны парк.

У сядзібе нарадзіўся Л. Т. Нарбут (1832—1863), адзін з кіраўнікоў паўстання 1863 г. у Беларусі, Польшчы і Літве. Бацька Людвіга Тэадор Нарбут быў вядомым гісторыкам і археолагам.

Падчас паўстання палкоўнік Людвіг Нарбут сфарміраваў адзін з першых у Беларусі паўстанцкіх атрадаў, які дзейнічаў на працягу трох месяцаў (люты — красавік). У ягоным атрадзе знаходзіліся вядомы мастак М. Э. Андрыёлі і, па некаторых звестках, Францішак Багушэвіч [141]. Людвіг Нарбут загінуў 22 красавіка 1863 г. у баі каля в. Дубічы (цяпер Літоўская Рэспубліка), дзе і быў пахаваны.

У 1870-я гг. у Шаўрах пабываў Н. Орда і намаляваў сядзібу Нарбутаў.




**Гайцюнішкі. Замак Рымшаў, раней Нонгартаў, Сакенаў.** 1877 г.

Від з боку пад'езда. Замак двухпавярховы, з трохпавярховым рызалітам і цыліндрычнымі вежкамі. З левага боку жыллёвы будынак.

Датавана: *28 чэр[веня] 1877 г.* Надпіс: *Ранейшая ўласнасць Сакенаў. Рамуальд Рымша. Гайцюнішкі, р[ака] Жызма.* Надпіс на падкладцы: *Гайцюнішкі. Віленская г[уберня], саркафаг у кальвінскім храме. Пётр Нонгарт, жонка з Мжыглудаў Шэвет, 1614 г. Некалі ўласнасць Сакенаў, цяпер Рамуальда Рымшы*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 21x30

III-г. а. 3990 (Teka Wileńska). MNK

**Абрамбшчына. Сядзіба.** 1868 г.

Від з боку парку. Палац з ганкам і аранжарэяй.

Датавана: *Абрамбшчына, 8 верасня 1868 г.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня]. Абрамбшчына, двор*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 22,4x29,6

III-r. a. 4393 (Teka Grodzieńska). MNK



## ГРОДЗЕНСКІ РАЁН

### *Абрамбшчына (цяпер не існуе)*

Маёнтак размяшчаўся ў колішнім Гродзенскім павеце [188, 375]. У 1868 г. у ім пабываў Н. Орда. Сядзіба не захавалася.

### *Гарны*

У верасні 1868 г. Н. Орда пасля наведвання сядзібы ў Абрамбшчыне прыехаў у маёнтак Гарны, які размяшчаўся побач з аднайменнай вёскай.

### *Скідаль*

Колішняя сядзіба Чацвярцінскіх. Палац і парк (часткова захаваўся) закладзеныя ў сярэдзіне XIX ст. Плошча парку складае каля 4,5 гектара. Падзелены ракой на дзве часткі: усходнюю — лесапаркавую і заходнюю — рэгулярна-пейзажную, з двума каналамі. Уваход аформлены мураванай брамай у выглядзе дзвюх круглых вежаў з шатровымі вярхамі і стрэльчатымі праёмамі. У 1920 г. палац згарэў, а жыллём служыў флігель [141]. У Скідалі гасцяваў Н. Орда і намаляваў палац.



**Гарны. Палац.** 1868 г.

Від з боку пад'езда. Палац з вежай і ганкам мае markup рознабаковую канфігурацыю. З правага боку месціцца аднапавярховая афіцына.

Датавана: *Гарны, 13 верасня 1868 г[ода]*. Надпіс на падкладцы: *Гарны. Гродзенская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 22,5х29,7

ІІІ-г. а. 4366 (Teka Grodzieńska). MNK



**Скідаль. Сядзіба Чацвярцінскіх.** 1861—1877 гг.

Від з боку пад'езда. Палац аднапавярховы, з ганкам.

Датавана: *Скідаль, 6 мая.* Надпіс на падкладцы: *Скідаль, Гродзенская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,4х28,8

ІІІ-г. а. 4413 (Teka Grodzieńska). MNK

**Чырвоная Рэчка. Вясковая забудова.** 1861—1877 гг.

Агульны від вясковай забудовы на высокім беразе рэчкі. Збоку ад іх пададзены вясковыя могілкі, абнесеныя мурам, і капліца. Злева ў глыбіні замалявана частка двухвежавага храма.

Датавана: *Чырвоная Рэчка. 20 ліпеня.* Надпіс на падкладцы: *Чырвоная Рэчка*

Малюнак алоўкам. 22,4x29,4

III-r. a. 4327 (Teka Grodzieńska). MNK



# ДЗЯТЛАЎСКІ РАЁН

## *Дзятлава*

Першае ўпамінанне пра Здзянцёл, які размяшчаўся над рэчкай Дзянцёлкай на шляху са Слоніма да Вільні, адносіцца да XVI ст., калі землямі валодалі Астрожскія. Пазней тут пачалі гаспадарыць Сапегі. Першым вядомым гаспадаром маёнтка быў Леў Сапега (1557—1633).

Праз некалькі пакаленняў маёнтак перайшоў у рукі Аляксандра Палубінскага (1626—1679), затым «па кудзелі» — да Радзівілаў і Солтанаў. У 1831 г. фальварачныя землі былі канфіскаваныя.

З часоў Астрожскіх у Здзянцёле існаваў замак. Пазней Радзівілы зрабілі тут сваю прыгожую трохпавярховую рэзідэнцыю, у якой у свой час працаваў Н. Орда.

## *Страла*

Некалі адзін з фальваркаў у маёнтку Жукаўшчына. У 2-й палове XVIII ст. фальварак Страла належаў Іпаліту Корсаку, пашлюбленаму з Н. Шырмай, у другім шлюбе — з Ядвігай Гюнтэр. Іпаліт меў трох дачок і чатырох сыноў, паміж якімі падзяліў свае землі. Непасрэдна Страла дасталася Яну, жанатаму з Каралінай з Ордаў. Яны мелі дзвюх дачок і сына Юльяна, які пабраўся шлюбам з Юзэфай Мацкевіч, дачкой Крыштафа і Крысціны з Лапацінскіх [293]. Менавіта ў гасцях ў Юльяна Корсака, паэта і перакладчыка, пабываў Н. Орда [503].



**Здзянцёл. Палац Солтанаў, раней Радзівілаў.** 1861—1877 гг.

Від з боку рэчкі Здзянцёлкі. Палац двухпавярховы, з рызалітам у цэнтры будынка і вежамі над бакавымі фасадамі.

Надпіс: *Здзянцёл, палац к[нязя] Радзівіла, а затым уласнасць палкоўніка Адама Солтана.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня]. Здзянцёл, палац*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20х28

III-r. a. 4429 (Teka Grodzieńska). MNK



**Страла. Сядзіба Корсакаў.** 1871 г.

Від з боку пад'езда. Палац аднапавярховы, з ганкам на калонах. З правага боку — аднапавярховы драўляны будынак.

Датавана: *Страла, 19 мая 1871 г.* Надпіс: *Уласнасць і месца нараджэння Юльяна Корсака, жонка з Мацкевічаў.* Надпіс на падкладцы: *Страла. Гродзенская г[уберня]. Уласнасць паэта Юльяна Корсака. Тут ён нарадзіўся і памёр.*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8х30,2

III-r. a. 4417 (Teka Grodzieńska). MNK

**Дзярэчын. Руіны дамініканскага касцёла.** 1877 г.

Выгляд руін дамініканскага касцёла і капліцы. У глыбіні — фрагмент жылога будынка, абнесенага агароджай.

Датавана: *21 мая 1877 г.* Надпіс: *Дзярэчын. Дамавіны к[нязёў] Сапегаў.* На падкладцы: *Дзярэчын. Гродзенская г[убернi]. Касцёл і дамавіны кн[язёў] Сапегаў, па-варварску зруйнаваныя і разабраныя на цэглу. Унутры бачны прыгожыя фрэскі.*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8х30,2

III-r. a. 4329 (Teka Grodzieńska). MNK



## ЗЭЛЬВЕНСКІ РАЁН

### *Дзярэчын*

Спачатку сядзіба належала Васілю Капацэвічу, які атрымаў за асабістыя заслугі Дзярэчын згодна з прывілеем караля і вялікага князя Казіміра Ягайлавіча. У XVI ст. гаспадарамі Дзярэчына сталі нашчадкі роду Палубінскіх. У 1685 г. Ізабела Палубінская выйшла замуж за князя Е. С. Сапегу. За ўдзел Сапегаў у паўстанні 1830—1831 гг. Дзярэчын быў канфіскаваны.

У 1-й палове XVIII ст. у маёнтку існаваў аднапавярховы палац, пабудаваны, магчыма, Палубінскімі. У 1793 г. Францішак Сапега і пераехаў з маладою жонкаю з Ружанаў у Дзярэчын, дзе з вялікім густам перабудаваў пад сваю рэзідэнцыю будынак колішняй вучэльні. Аўтарам праекта выступіў вядомы архітэктар Ян Самуэль Бекер [293].

У гасцях Яўстафія Сапегі пабываў Н. Орда.

Да 1939 г. ад палаца і парку мала што засталося.

### *Івашкевічы*

Маёнтак размяшчаўся на правам беразе рэчкі Зяльвянкі, паміж Слонімам, Ваўкавыскам і Гроднам. У 2-й палове XVII ст. Івашкевічы, уласнасць Станіслава Орды, набыў Станіслаў Дэмбскі. На пачатку XIX ст. гаспадаром маёнтка стаў прадстаўнік роду Стравінскіх, а ў 1814 г. гэтыя землі выкупіў Каспер Астрамецкі [293].

У Івашкевічах існаваў сядзібны дом з афіцынай, уязной брамай і невялікім паркам, пра што засведчыў малюнак Н. Орды.



**Дзярэчын. Палац Сапегаў.** 1877 г.

Выгляд аднапавярховага палаца з порцікам на калонах. З левага боку — аднапавярховая афіцына, з правага — фрагменты рэштках дамініканскага касцёла і званіцы.

Датавана: *Дзярэчын, 21 мая 1877 г.* Надпіс: *Дзярэчын — рэзідэнцыя к[нязя] Яўстахія Сапегі.* Надпіс на падкладцы: *Дзярэчын. Гродзенская г[уберня]. Уласнасць кн[язёў] Сапегаў, канфіскаваная пасля 1831 г.*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,2

III-г.а.4328 (Teka Grodzieńska). MNK



**Івашкевічы. Двор Астрамецкіх.** 1863 г.

Агульны від. Дом аднапавярховы, у сярэдняй частцы мае ўжо два паверхі. З левага боку месціцца афіцына. Абодва будынкі накрытыя ламаным дахам.

Датавана: *4 крас[авіка] 1863 г.* Надпіс: *Івашкевічы.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю і сепіяй. 20,7x23,7

III-г.а.4368 (Teka Grodzieńska). MNK

## *Пянюга*

Колішняя сядзіба. Паводле друкаваных крыніц, вядома з XVIII ст. Належала Грабоўскім, якія атрымалі землі ад Сапегаў. Грабоўскія былі цесна звязаны з апошнім каралём Рэчы Паспалітай Станіславам Аўгустам Панятоўскім. У 1789 г. маёнтак быў падзелены паміж шасцю сынамі Яна Юрыя Грабоўскага і Ганны з Грушчанскіх. Пянюга дасталася Паўлу Грабоўскаму (1759—1794), пашлюбленаму з Людвікай Тызенгаўз. Пры штурме варшаўскага прадмесця Прагі на заключным этапе касцюшкаўскага паўстання 1794 г. А. Суворавым генерал П. Грабоўскі загінуў, а паколькі не меў дзяцей, невядома, хто гаспадарыў потым у Пянюзе.

У сярэдзіне XIX ст. гаспадарамі маёнтка сталі Генрык Радзевіч і Амелія Кужанецкая. За ўдзел гаспадара ў паўстанні 1863—1864 гг. фальваркавыя землі былі прададзены за 28 784 рублі расійскаму арыстакрату Уладзіміру Давыдаву. Да канца Першай сусветнай вайны ў маёнтку гаспадарылі Давыдавы, затым асаднікі [293].



**Пянюга. Парк і аднапавярховы будынак.** 1861 г.

Выгляд парку з аднапавярховым будынкам.

Датавана: *Пянюга. 4 чэрвеня 1861 г.*

Малюнак алоўкам. 14,7х24

III-г. а. 4567 (Teka Grodzieńska). MNK



**Пянюга. Гаспадарчая забудова.** 1861 г.

Агульны выгляд аднапавярховых гаспадарчых будынкаў.

Датавана: *Пянюга. 1 чэрвеня 1861 г.*

Малюнак алоўкам. 14,7х23,5

III-r. a. 4566 (Teka Grodzieńska). MNK



**Пянюга. Парк і гаспадарчыя пабудовы.** 1864 г.

Агульны выгляд аднапавярховых гаспадарчых будынкаў.

Датавана: *8 чэрвеня 1861 г. Пянюга*

Малюнак алоўкам. 14,7х24

III-r. a. 4564 (Teka Grodzieńska). MNK

Геранёны належалі старажытнаму роду Гаштольдаў. Каля 1529 г. вялікі канцлер літоўскі Войцех Гаштольд пачаў будаўніцтва магутнага замка, які ўжо ў 1613 г. быў нанесены Тадэвушам Макоўскім на карту Вялікага Княства Літоўскага.

Наступны спадкаемца Геранёнаў Станіслаў Гаштольд, першы муж Барбары Радзівіл, не меў нашчадкаў і рана памёр. Паміж удавой Барбарай Радзівіл і Жыгімонтам II Аўгустам, сынам караля Жыгімонта I Старога і каралевы Боны, успыхнула гарачае каханне, якое закончылася трагічна. Геранёны перайшлі ва ўласнасць Жыгімонта II. Пры ім замак пачаў разбурацца, а ў канцы XVII ст. быў ужо без даху. У 1812 г. яшчэ стаялі голыя сцены першага паверха, якія потым пачалі разбіраць на будаўнічыя матэрыялы [141].

Замак быў абкружаны земляным валам вышынёй 9—10 метраў, шырынёй — да 15 метраў. У 1519 г. каля абарончага вала пабудавалі мураваны касцёл, які стаў дадатковай перашкодай на шляху ў замак.

У першай палове XIX ст. у Геранёнах ужо існаваў досыць вялікі палац, узведзены Оскарам Корвін-Мілеўскім (1846—1926), у гасцях якога пабываў Н. Орда.



**Геранёны.** 1875—1877 гг.

Агульны від руін

З левага боку — касцёл і званіца. На другім плане — аднапавярховы палац з рызалітамі.

Датавана: *Геранёны, 16 мая.* Надпіс: *Замак і двор, што належалі нацыянальнай артылерыі на чале з к[нязем] Я. Сапегам, знішчаныя ў 1720 г. Касцёл 1529 г. Замак пабураны ў 1720 г.* Надпіс на падкладцы: *Геранёны. Віленская г[уберня].* Надпіс на картцы, падклеенай да падкладкі: *Геранёны, Віленская губерня. На падставе былых хронік, Геранёны нададзеныя былі в[ялікім] к[нязем] Эрдзівілам ваяўнічаму Грумпію, сын якога Гаштольд стаў заснавальнікам знакамітага роду Гаштольдаў, згаснуўшага ў 1542 г. Тут у 1538 г. жыла Барбара Радзівіл, калі была жонкаю Станіслава Гаштольда. Цяпер уласнасць Мілеўскіх.*

Апошні надпіс паўтораны на французскай мове.

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,4x18,4

ІІІ-г. а. 3988 (Teka Wileńska). MNK



**Геранёны. Руіны замка.** 1875—1877 гг.

Від руін замка і касцёла з боку ракі.

Надпіс: *Колішняя замкавая капліца Гаштольдаў. Геранёны. Мілеўскі Оскар, к[сёндз] Вайцяхоўскі.* Надпіс на падкладцы: *Геранёны. Віленская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,5х28,8

III-r. a. 3989 (Teka Wileńska). MNK

## *Жамыслаўль*

Старадаўняя сядзіба, што некалі ўваходзіла ў склад маёнтка ў мясцовасці Кандрацішкі. Першым вядомым гаспадаром з XVI ст. быў Ян Зяновіч. Затым па чарзе ў Кандрацішках гаспадарылі Шчорсы, Роскія, Стахоўскія і Швыкоўскія. У XVII ст. некалькі фальваркаў выкупіў Ежы Ваўрынец Жэмля, ад якога пайшла назва маёнтка Жамыслаўль. На пачатку XIX ст. яго гаспадарамі сталі Умястоўскія [293].

Пасля смерці Казіміра Умястоўскага ягоная ўдава Юзэфа з Дунін-Раецкіх адбудавала на месцы старога драўлянага дома новы палац і заклала разлеглы парк, якія існуюць да сённяшняга часу.

У Жамыслаўлі гасцяваў Н. Орда і намаляваў палац.

**Жамыслаўль. Палац Умястоўскіх.** 1875—1877 гг.

Від з боку пад'езда. Палац двухпавярховы, з бельведэрам, рызалітам і порцікам на калонах. З левага боку — двухпавярховая афіцына з порцікам на калонах.

Надпіс на падкладцы: *Жэмлослаў (!). Віленская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,5х28,5

III-r. a. 4026 (Teka Wileńska). MNK



**Абрына. Палац Кашыцаў, некалі Раецкіх.** 1876 г.

Від з боку рэчкі Абрынкі. Палац трохпавярховы, з чатырохпавярховым рызалітам. З правага боку — трохпавярховая афіцына, накрытая ламаным дахам. Злева на аркушы замалявана частка будынка з невялікай вежкай.

Датавана: *Абрынь, 17 ліпеня 1876 г.* Надпіс: *Пабудавана палкоўнікам французскіх войск Канстантам Дуніным-Раецкім, 1837 г; Кашыц.* Надпіс на падкладцы: *Абрынь. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8х30,2

III-r. a. 4486 (Teka Mińska). MNK



## *Абрына*

Сядзіба, якую называюць часам Абрына ці Абрынь, размяшчалася ў маляўнічай мясцовасці, некалі была радавым гняздом Абрынскіх. У 1-й палове XIX ст. маёнтак належаў Канстанціну Дуніну-Раецкаму, ветэрану напалеонаўскай кампаніі 1812 г. Яго дачка была замужам за Ю. Кашыцам, таксама афіцэрам арміі Напалеона. Чарговым гаспадаром Абрынаўскага маёнтка стаў ягоны сын Канстанцін, жанаты з Ю. Несялоўскай, затым унукі Юзаф і Станіслаў [293].

У 1839 г. Канстанцін Дунін-Раецкі пабудаваў у Абрыне палац, у якім пабываў некалі Н. Орда. Сядзіба захавалася часткова.

## *Варонча*

Старадаўняя сядзіба. Належала роду Несялоўскіх, пазней Межаеўскіх. У гасцях у Межаеўскіх пабываў Н. Орда і выканаў тут акварэль з выявай прыгожага палаца.



**Варонча. Палац Межаеўскіх, некалі Несялоўскіх.** 1876 г.

Від з боку пад'езда. Палац аднапавярховы, з двума порцікамі на калонах, ламаным дахам з люкарнамі, побач аднапавярховая афіцына.

Датавана: *18 ліпеня 1876 г.* Надпіс: *Ваявода Курч. 1876 г. Колішняя рэзідэнцыя ваяв[оды] Юзафа Несялоўскага, цяпер — Межаеўскіх. Варонча.* Надпіс на падкладцы: *Варонча. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,2

III-г. а. 4512 (Teka Mińska). MNK

**Крынкі. Сядзіба.** 1868 г.
Агульны від сядзібы з касцёлам.
Датавана: *Крынкі. 31 сакавіка 1868 г.*
Малюнак алоўкам. 19,1x25,8
III-г. а. 4380 (Teka Grodzieńska). MNK



## *Крынкі*

Пра сядзібу Крынкі захавалася мала звестак. Н. Орда быў тут праездам, вандруючы па Гродзенскай і Мінскай губернях.

## *Мір*

Палаца-замкавы комплекс. Размешчаны на ўсходняй ускраіне мястэчка. Уключае замак, палац (захаваўся часткова), парк і капліцу-пахавальню. Пабудаваны на пачатку XVI ст. з цэглы магнацкім родам Іллінічаў. З 1568 г. належаў Радзівілам, потым Вітгенштэйнам, Святаполк-Мірскім [141].

На працягу стагоддзяў замак шмат разоў асаджалі. У выніку аблогаў 1655, 1706, 1794, 1812 гг. значна разбураны. 27—28 чэрвеня 1812 г. каля замка адбыўся бой паміж французскай кавалерыяй маршала Даву і казацкай конніцай М. І. Платава — ар'ергардам 2-й рускай арміі. Была ўзарвана паўночна-ўсходняя вежа, разбураны і спалены палац. З 1969 г. замак знаходзіцца ў стадыі кансервацыі і рэстаўрацыі. Цяпер у замкавым комплексе працуе музейны комплекс.

Пра выгляд замка ў XIX ст. сведчыць акварэль Н. Орды [429].



**Мір. Руіны замка Радзівілаў, раней Іллінічаў.** 1864—1876 гг.

Від з боку рэчкі Міранкі. Руіны замка з чатырма вежамі па вуглах, брама з вежай пасярэдзіне галоўнага фасада.

Надпіс: *Мір.* Надпіс на падкладцы: *Мір. Мінская г[уберня].* Надпіс на картцы, падклеенай да падкладкі: *Мір. Мінская губерня. Руіны цудоўнага замка, пабудаванага Юрыем Іллінічам у канцы XV ст. Ягоны сын быў бяздзетным і адпісаў у 1568 г. сваю рэзідэнцыю к[нязю] Крыштофу Мікалаю Радзівілу Сіротцы.*

Апошні запіс паўтораны на французскай мове.

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,7х30,3

ІІІ-г. а. 4472 (Teka Mińska). MNK

## *Мядзведка*

Радавое гняздо Ігната Дамейкі (1802—1889), вядомага геолага, натураліста, сябра А. Міцкевіча, Н. Орды, Ф. Шапэна і іншых мысляроў і асветнікаў.

Палац у Мядзведцы, якая раней звалася Нядзведкаю, пабудавалі з дрэва ў сярэдзіне XIX ст. На здымку, надрукаваным у 1900 г. Тэафілам Барэці, ён яшчэ меў прыгожы выгляд. Такім яго бачыў і маляваў Напалеон Орда [441].

У 1914 г. палац быў спалены, адбудаваны праз два гады, а ў канцы 1940-х гг.— канчаткова знішчаны. На яго месцы ў 1997 г. усталявалі камень з памятнай дошкай. У мясцовай школе працуе музей, прысвечаны жыццю і дзейнасці І. Дамейкі, у экспазіцыі знаходзіцца яго бюст. Ад колішняй сядзібы захаваліся будынкі праваслаўнай царквы і флігеля, склеп і рэдкія дрэвы старога парку.

## *Райца*

Колішняя сядзіба. Вядома з XVI ст. Належала роду Раецкіх. На пачатку XIX ст. дзве сястры Раецкія выйшлі замуж і прынеслі частку маёнтка ў пасаг роду Умястоўскіх; непасрэдна Райца дасталася Юзафу Верашчаку. Ягоны сын Францішак Верашчака быў беспатомны, таму пасля яго смерці паміж удавой і братам Казімірам разгарэліся спрэчкі вакол уласнасці. Юзэфа Тунаноўская (сястра Казіміра) прыняла бок удавы, але Казімір патаемна заключыў фіктыўны продаж маёнтка з В. Путкамерам, унукам Марыі з Верашчакаў Путкамер (былой каханай А. Міцкевіча). Дачка В. Путкамера Яніна ў 1910 г. атрымала

**Мядзведка. Сядзіба Дамейкаў.** 1864—1876 гг.

Від з боку парку. Палац аднапавярховы, з двума крыламі (левае — двухпавярховае).

Надпіс на падкладцы: *Вялікая Нядзведка. Мінская г[уберня]. Належыць нявестцы Марыі з Дамейкаў Адахоўскай. Месца нараджэння Ігнацыя Жэготы Дамейкі, тут ён быў таксама праз 78 гадоў і начаваў.*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,3x30,2

III-r. a. 4473 (Teka Mińska). MNK



**Райца. Царква.** 1864—1876 гг.

Выгляд царквы на пагорку з вежай-званіцай. З левага боку — двухпавярховы будынак з брамай і выхадам на царкоўныя могілкі.

Датавана: *19 ліпеня.* Надпіс: *Пабудавана ў 1816 г. палкоўнікам Канстанцінам Дуніным-Раецкім. Заснавана ў XVI ст. Дунінымі-Раецкімі. Райца. Францішак Верашчака.* Надпіс на падкладцы: *Райца, Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,2

III-r. a. 4495 (Teka Mińska). MNK



маёнтак у заклад і да 1939 г. гаспадарыла разам з мужам Адамам Жалтоўскім. У Райцы існаваў невялікі (каля трох гектараў) парк, які залажыў Францішак Верашчака [293]. Некалі праездам у маёнтку Райца спыніўся Н. Орда і намаляваў царкву.

## ЛІДСКІ РАЁН

### *Ліда*

У «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх», складзеным паміж 1387 і 1406 гг., Ліда ўпершыню згадваецца як невялікае мястэчка ВКЛ. Спачатку ім валодаў вялікі князь літоўскі Альгерд, потым яго сын Ягайла.

У 1387 г. Ягайла, які ажаніўся з каралевай Ядзвігай і стаў польскім каралём, у Лідзе выдаў загад аб забароне паганства ў Вялікім Княстве Літоўскім. У 1392 г. горад і замак былі захоплены і спалены крыжакамі. З 1396-га да 1399 г. тут жыў збеглы хан Тахтамыш. У 1406 г. смаленскі князь Юрый Святаславіч паспрабаваў узяць Ліду, каб вызваліць сваю жонку, якая знаходзілася тут у палоне.

Няўдачай закончылася для крымскіх татараў спроба узяць штурмам замак у 1506 г. Яны былі адбіты войскамі пад кіраўніцтвам князя М. Глінскага. У XVI ст. Ліда стала цэнтрам павета Віленскага ваяводства і атрымала ў 1587 г. магдэбургскае права.

У час войнаў паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй 30-тысячнае рускае войска ўлетку 1659 г. захапіла замак штурмам. У Паўночную вайну (1700—1721) Лідскі замак ужо не меў стратэгічнага значэння, паступова разбураўся. Зберагліся рэшткі абарончых збудаванняў. Праведзена рэстаўрацыя сцен і вежаў [141].



**Ліда над ракой Лідзянкай. Віленская губерня.** Літаграфія

Надпіс: *Вельмі старажытнае мястэчка. Руіны замка, збудаванага вялікім князем літоўскім Гедзімінам у 1323 г. У замак прыязджалі вялікія князі Вітаўт, Ягайла, Аляксандр Ягелончык. Тут жыў татарскі хан Тахтамыш. Лідскім старостам быў Хаджы-Гірэй, які пазней стаў крымскім ханам. Замак разбураны шведамі каля 1710 года. [450]. Віленская губерня*

Арыгінал акварэлі не выяўлены. Магчыма, знішчаны ці знаходзіцца ў прыватнай калекцыі.

# МАСТОЎСКІ РАЁН

**Аляшэвічы. Палац Незабытоўскіх.** 1861—1877 гг.

Від з боку пад'езда. Двухпавярховы палац з рызалітам і тэрасай на калонах, абкружаны разлеглым паркам.

Датавана: *8 мая.* Надпіс: *Аляшэвічы з боку двара. Канстанцін Незабытоўскі, жонка Камінская.* Надпіс на падкладцы: *Аляшэвічы. Гродзенская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,9х28,9

III-г.а. 4395 (Teka Grodzieńska). MNK

## *Аляшэвічы*

Сядзіба вядома з XVIII ст., належала роду Барановічаў. У канцы XVIII ст. Аляшэвічы выкупіў Ян Незабытоўскі, які жаніўся з Барбарай з Завішаў. Яны сталі фундатарамі касцёла ў Свіслачы. Пасля Яна Незабытоўскага гаспадаром маёнтка стаў ягоны сын Крыштоф, затым унук Канстанцін. Апошнім уласнікам Аляшэвіцкага двара з роду Незабытоўскіх па мужчынскай лініі з'яўляўся старэйшы з трох сыноў Канстанціна Караль Станіслаў Незабытоўскі (1865—1952). Ён быў вядомым палітыкам, паслом у Расіі, міністрам сельскай гаспадаркі і сенатарам Польшчы. Меў трох дачок. Малодшая з іх, Ірэна, выйшла замуж за Казіміра Ранікера і ў якасці пасагу прынесла Аляшэвічы свайму мужу. Яны з'яўляліся апошнімі гаспадарамі маёнтка да 1939 г. [293].

Палац, у якім пабываў Н. Орда, быў пабудаваны яшчэ ў XVII ст. Адамам Барановічам. У 1846—1848 гг. Канстанцін Незабытоўскі правёў яго грунтоўную рэстаўрацыю (архітэктары А. Градзецкі і А. Ядкоўскі). Такім Н. Орда замаляваў палац на акварэлях.





**Аляшэвічы. Палац Незабытоўскіх.** 1861—1877 гг.

Від з боку парку. Палац з высокім рызалітам і верандай.

Датавана: *9 мая.* Надпіс: *Аляшэвічы з боку парку. Канстанцін Незабытоўскі.* Надпіс на падкладцы: *Аляшэвічы. Гродзенская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,8x18,4

III-r. a. 4394 (Teka Grodzieńska). MNK



**Ябланаў. Палац Лубенскіх.** 1861—1877 гг.

Від з боку рэчкі. Палац аднапавярховы, з крыламі і афіцынамі па баках.

Надпіс на падкладцы: *Ябланаў над Нёманам. Гродзенская г[уберня]. Уласнасць графіні Соф'і Лубенскай*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,9x30,3

III-r. a. 4369 (Teka Grodzieńska). MNK

## *Ябланаў*

Даўняя сядзіба роду Ябланоўскіх, у прыватнасці Ябланаў, была адной з найпрыгажэйшых рэзідэнцый навагрудскага ваяводы Аляксандра Ябланоўскага. У другой палове XIX ст. сядзіба належала Актавію Эйсмонту, пашлюбленаму з Геленай Солтан. Іх дачка Сафія выйшла замуж за Генрыка Лубенскага [293]. Менавіта ў іх гасцяваў Н. Орда, пра што сведчыць малюнак. Палац стаяў на высокім беразе Нёмана, недалёка ад мястэчка Масты. Палац разбураны.

# НАВАГРУДСКІ РАЁН

## *Навагрудак*

Старадаўняе паселішча. У 2-й палове XIII ст. Навагрудак — сталіца Вялікага Княства Літоўскага. Тут князь Міндоўг у 1252 г. быў каранаваны, атрымаўшы каралеўскую карону.

Старажытны цэнтр Навагрудка — замак, колішняя рэзідэнцыя літоўскіх князёў,— будаваўся ў XIII—XVI стст. на часткова насыпным 20-метровым узгорку, так званай Замкавай гары (дзядзінцы).

У 1278 г. татары беспаспяхова спрабавалі захапіць замак. Рэальная пагроза Навагрудку ўзнікла ў 1314 г., калі тэўтонскія рыцары ўзялі горад. Жыхары зачыніліся ў замку, і крыжакі пасля некалькіх штурмаў і асады, згубіўшы лепшых рыцараў, вымушаны былі адысці.



**Навагрудак. Руіны замка.** 1876 г.

Від руін замка і фасада зачыненага касцёла.

Датавана: *Навагрудак, 20 жніў[ня] 1876 г.* Надпіс на падкладцы: *Навагрудак. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,2

III-г. а. 4483 (Teka Mińska). MNK



Пасля замацавання на троне вялікага князя Вітаўта для горада наступіла адноснае зацішша. У 1415 г. у Навагрудку быў скліканы духоўны сабор, на якім выбраны незалежны ад Маскоўскага патрыярха літоўскі мітрапаліт Рыгор Цамблак [141].

Спустошальны набег крымскіх татараў горад вытрымаў у 1505 г. Жыгімонт I Стары 26 ліпеня 1511 г. надаў Навагрудку магдэбургскае права, Жыгімонт II Аўгуст у 1562 і 1570 гг. яго пацвердзіў.

У XIV ст. у Навагрудку была пабудавана царква, у якой адбыліся сесіі Трыбунала — вышэйшага апеляцыйнага суда Вялікага Княства Літоўскага. Замак канчаткова разбураны ў XIX ст. Захаваліся падмурак, частка сцен і падкупальных слупоў.

**Навагрудак. Былая Барыса-Глебская базыльянская царква.** 1876 г.

Выгляд галоўнага і бакавога фасадаў царквы з дзвюма вежамі.

Надпіс: *Навагрудак. Мінская г[уберня]. Базыльянская царква ў Навагрудку пабудавана ў 1632 г. Адамам Храптовічам на рэштках капішча Пяруна.* Надпіс на падкладцы: *Мінская г[уберня]. Навагрудак*

Малюнак алоўкам, падпраўлены сепіяй. 20,6х29,4

III-r. a. 4484 (Teka Mińska). MNK





**Навагрудак. Руіны замка і парафіяльны касцёл.** 1876 г.

Выгляд руін замка з чатырохбаковай вежавай брамай. Пазней з правага боку ўзведзены касцёл з дзвюма вежамі над галоўным фасадам, завершанымі трохкутным шчытом.

Датавана: *29 ліпеня 1876 г.* Надпіс на падкладцы: *Навагрудак. Мінская г[уберня].* Надпіс на картцы, падклеенай да падкладкі: *Навагрудак. Мінская губерня. Горад і замчышча з вялікай гісторыяй. Пасля вядомага нападу татараў у 1240 г. Эрдзівіл, в[ялікі] к[нязь] л[ітоўскі], адбудаваў гэты горад і далучыў да Літвы. Тут, як сцвярджаюць некаторыя гісторыкі, прыняў хрышчэнне і каранаваўся ў 1252 г. каралём Міндоўг, а ў 1422 г. адбыўся шлюб Уладзіслава Ягайлы з Соф'яй, к[нязёўнай] кіеўскай.*

Апошні надпіс паўтораны па-французску.

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,2

III-r. a. 4482 (Teka Mińska). MNK

**Навагрудак. Сядзіба Міцкевіча.** 1876 г.

Від з боку пад'езда. Палац аднапавярховы, з ганкам. Вакол драўляная гаспадарчая пабудова.

Надпіс: *Дом бацькі Адама Міцкевіча ў Навагрудку...* (тэкст пашкоджаны, немагчымы для прачытання.— *Аўт.*). *Цяпер дом уласнасць п[ана] Дамброўскага...* (пашкоджаны.— *Аўт.*). *Дом стары, мураваны, ганак і афіцына...* (пашкоджаны.— *Аўт.*). Надпіс на падкладцы: *Навагрудак, дом бацькі Міцкевіча. Мінская г[убернія]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20x18,5

III-r. a. 4485 (Teka Mińska). MNK



## СВІСЛАЦКІ РАЁН

### *Вердамічы*

Палаца-паркавы ансамбль у Вердамічах пачаў фарміравацца ў 1-й палове XIX ст. Гаспадар маёнтка Янопаль Юльян Талочка, жанаты з Н. Ельскай, у 1820—1830 гг. пабудаваў у Вердамічах шыкоўны палац. Будынак прамавугольнай формы, меў даўжыню 40 метраў. Левае крыло палаца двухпавярховае. На правым баку да палаца была дабудавана трохпавярховая, квадратная ў плане вежа.

Пасля Юльяна вердаміцкі двор паслядоўна пераходзіў да яго сына Эдварда, унука Юльяна і праўнука Станіслава Талочкаў, які стаў апошнім гаспадаром маёнтка [293].

Калі ў Вердамічы прыязджаў Н. Орда, будаўніцтва палаца і фарміраванне парку ўжо былі завершаны.

Парк часткова захаваўся, палац знішчаны.

### *Свіслач*

Старадаўняе паселішча. У 1542 г. у Свіслачы гаспадарыў князь Заслаўскі. У XVII ст. маёнтак належаў роду Крышпінаў, пазней Тышкевічам. Вінцэнт Тышкевіч, уладальнік Лагойска, Свіслачы і Белаполя, быў жанаты з Тарэсай Панятоўскай. Ён прылежна заняўся добраўпарадкаваннем занядбанага мястэчка, дамогся аднаўлення ў Свіслачы колішніх ярмарак, а ў 1806 г. заклаў акадэмічную гімназію, стварыў у ёй бібліятэку. Сябраваў з Францішкам Карпінскім і Янам Снядзецкім. Запрасіў аўтарытэтных архітэктараў для перабудовы мястэчка: тады ўзніклі палац, парк, звярынец, двор адміністратара, каналы,



сажалкі (без змен застаўся толькі даўні драўляны палац XVII ст. у атачэнні старых ліп). Пры ўездзе ў мястэчка з'явілася мураваная брама, яшчэ дзве брамы ўзніклі на Брэсцкай вуліцы.

Гаспадар Свіслачы славіўся шчодрымі баламі, маскарадамі, тэатралізаванымі прадстаўленнямі. Але Вінцэнт Тышкевіч не меў нашчадкаў. Каханая жонка не надта адказвала яму ўзаемнасцю, амаль увесь час бавілася пры каралеўскім двары ў Варшаве. У 1813 г. Вінцэнт запісаў Лагойск П. Тышкевічу, Белаполле — «украінскім» Тышкевічам, а Свіслач хацеў перадаць Юзафу Ігнацію Тышкевічу, але апошні адмовіўся ад падарунка. Таму свіслацкі маёнтак дастаўся брыгаднаму генералу Тадэвушу Тышкевічу (1774—1852), колішняму ад'ютанту генерала Якуба Ясінскага. Тадэвуш стаў апошнім гаспадаром Свіслачы. За ўдзел у паўстанні 1830—1831 г. яго фальваркі былі канфіскаваны ў казну.

Вінцэнт Тышкевіч пакінуў добрую памяць пра сябе: працавала створаная ім Свіслацкая гімназія, якую пазней закончылі Юзаф Крашэўскі, Лявон Зянкевіч, Напалеон Орда і іншыя будучыя дзеячы беларускай культуры [141].

Вярнуўшыся ў родныя мясціны з эміграцыі, Н. Орда часта наведваў Свіслач, гэты мілы сэрцу з юнацтва горад, і выканаў два малюнкі з выявамі гістарычных будынкаў.

**Вердамічы. Палац Талочкаў.**
1877 г.

Від з боку рэчкі. Палац рознапавярховы, з квадратнай вежай і сходамі. З левага боку на другім плане — двухпавярховая афіцына з балконамі.

Датавана: *Вердамічы, 4 чэрв[еня] 1877 г.* Надпіс: *Юліян Талочка.* Надпіс на падкладцы: *Вердамічы. Гродзенская г[уберня]. Уласнасць Юліяна Талочкі*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,2.

III-r. a. 4421 (Teka Grodzieńska). MNK

**Свіслач. Вуліца Брэсцкая.**
1868 г.

Від аднапавярховай забудовы. У глыбіні — капліца з аркаднымі брамамі па баках.

Надпіс: *Вуліца Брэсцкая ў Свіслачы.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская [губерня]*

Малюнак алоўкам. 22,4х29,4

III-r. a. 4418 (Teka Grodzieńska). MNK



## *Юзафполь*

Старадаўняя сядзіба. Атрымала назву ад імя гаспадыні ці гаспадара маёнтка.

Пры пераездзе ў Свіслач Н. Орда спыніўся ў фальварку Юзафполь. Ён быў прыемна ўражаны не толькі гасціннасцю гаспадароў фальварка, але і іх патрыятычным настроем і жаданнем падтрымаць паўстанне, подых якога ўжо адчуваўся ў наваколлі Свіслачы. Дарэчы, крыху пазней, калі паўстанне выбухнула, яго падтрымалі жыхары 17 населеных пунктаў Свіслацкага павета, у тым ліку і гаспадары маёнтка Юзафполь. У наваколлі вёсак дзейнічаў атрад пад кіраўніцтвам Валерыя Урублеўскага (у далейшым — адзін з кіраўнікоў Парыжскай камуны).

Палац у Юзафполі пабудаваны ў 1-й палове XIX ст. у стылі класіцызму. У 1897 г. сядзіба ўваходзіла ў склад фальваркаў Лыскаўскай воласці, мела тры двары, бровар і 28 жыхароў. У 1905 г. у Юзафполі налічвалася ўжо толькі 14 жыхароў.

Будынак палаца меў вальмавы дах, ганак у форме калоннага порціка і флігель пад саламянай страхой.

Сядзіба не захавалася. Зберагліся толькі чатыры гаспадарчыя пабудовы, якія выкарыстоўваюцца пад зернасховішча мясцовага сельскагаспадарчага прадпрыемства.



**Юзафполь. Сядзіба.** 1863 г.

Від з боку пад'езда. Палац аднапавярховы, з ганкам. З правага боку — гаспадарчыя пабудовы.

Датавана: *Юзафполь. 25 студз[еня] 1863 г.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю і гуашшу. 20,8х23,8

III-r. a. 4371 (Teka Grodzieńska). MNK



**Сымфаны. Палац.** 1868 г.

Від з боку дарогі. Палац аднапавярховы, з двухпавярховым рызалітам, балконам, якія былі накрыты ламаным дахам. Фасад аздоблены пілястрамі і вазонамі.

Датавана: *5 ліпеня 1868 г. Сымфаны.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 22,4х29,4

III-r. a. 4420 (Teka Grodzieńska). MNK

## *Сымфаны*

Колішняя сядзіба. Размяшчалася ў фальварку Клепачы каля Свіслачы. Належала Крыштафу Шчыту і яго жонцы Ганне з Завішаў (яны ў фальварку не жылі). Побач з палацам была вялікая сажалка. На адным з астраўкоў мелася вежа з гадзіннікам. За палацам цягнуўся старадаўні сад. Па загадзе гаспадара сад выкарчавалі, а на яго месцы пасадзілі клёны і каштаны. Пасля заканчэння пабудовы палаца фальварак Клепачы назвалі Сымфанамі, што на грэчаскай мове значыць «Новы дом» [293].

**Хараўшчына.** Літаграфія

Агульны від на фальварак Францішка Карпінскага. На першым плане гаспадарчы склеп, на другім — злева сядзібны дом, з правага боку дзве афіцыны. Усе будынкі драўляныя. Да гэтага часу захаваліся гаспадарчы склеп, афіцына і падмуркі сядзібнага дома.

Малюнак з краявідам фальварка Хараўшчына быў надрукаваны ў часопісе «Tygodnik Ilustrowany» за 1879 г. [312].

Арыгінал акварэлі не выяўлены, магчыма, знішчаны ці знаходзіцца ў прыватнай калекцыі.



## *Хараўшчына*

Колішні фальварак, сядзіба вядомага паэта-сентыменталіста і асветніка Францішка Карпінскага (1741—1825), жыццё і творчасць якога амаль цалкам звязаны з беларускай культурай. Ён захапляўся беларускімі народнымі песнямі, матывамі нацыянальнага фальклору, што знайшло адлюстраванне ў ягоных шматлікіх творах.

У 1819 г. Ф. Карпінскі купіў у Вінцэнта Ажахоўскага фальварак Хараўшчыну і з таго часу жыў у ім да канца свайго жыцця. Быў пахаваны каля муроў Троіцкага касцёла ў суседняй в. Лыскава (цяпер Пружанскі раён).

У маі 1877 г. у Лыскаве і Хараўшчыне пабываў Н. Орда і выканаў акварэлі гэтых мясцін.

# СЛОНІМСКІ РАЁН

## *Альбярцін*

Да 1-й паловы XIX ст. сядзіба была фальваркам, належала да Шыдловіцкага ключа (шэрагу маёнткаў). Першае ўпамінанне пра Альбярцін датуецца пачаткам XV ст. Яго гаспадарамі былі Пяцігорскія, Сапегі, Палубінскія, Бжастоўскія.

Ад Бжастоўскіх у 1809 г. Шыдловіцкі ключ з фальваркам Альбярцін выкупіў Войцах Пуслоўскі (1762—1833), маршалак слонімскі, пасол на чатырохгадовы сойм, жанаты з Юзафінай Друцкай-Любецкай. Пасля гаспадаром маёнтка стаў адзін з іх сыноў, Уладзіслаў (1801—1859), жанаты з Генавефай Друцкай-Любецкай, і ўнук Францішак Ксаверый (1847—1908), жанаты з Леанцінай Влодак. Апошнімі гаспадарамі Шыдловіцаў, Альбяр-




**Альбярцін. Палац Пуслоўскіх.** 1877 г.

Від з боку возера. Палац двухпавярховы, з порцікам на калонах і балконам. За палацам знаходзіцца аднапавярховая афіцына.

Датавана: *24 мая 1877.* Надпіс: *Альбярцін. Фр[анцішак] Пуслоўскі, ж[анаты] з Леанцінай Влодак.* Надпіс на падкладцы: *Альбярцін. Гродзенская г[уберня], гаспадарка Фр[анцішка] Пуслоўскага, суконная фабрыка*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 21x30,3

III-r. a. 4310 (Teka Grodzieńska). MNK

ціна і іншых сядзіб з'яўляліся Уладзіслаў Пуслоўскі (1871—1964) і яго жонка Крысціна Пагнатэлі [141, 293].

Сядзіба закладзена ў 1-й палове XIX ст. ва ўрочышчы Альбярцін. У гэты перыяд яна ператварылася ў вядомы фабрычны комплекс (суконная і медная мануфактуры). Меўся парк плошчай 20 гектараў, які часткова захаваўся, але моцна зменены за апошнія дзесяцігоддзі. Былы сядзібны дом выкарыстоўваецца цяпер у якасці культурнай установы пасёлка Альбярцін — прыгарада Слоніма.

## *Дзеравянчыцы*

Дзякуючы акварэлі Н. Орды мы ведаем, што ў Дзеравянчыцах існавала капліца-пахавальня нашчадкаў адной з ліній роду Ордаў.

Сядзібны дом Н. Орды тут не захаваўся, існуюць толькі рэшткі пейзажнага парку.

**Альбярцін. Палац.** 1865 г.

Датавана: *11 сакавіка 1865 г.* Надпіс: *Альбярцін.* Надпіс на падкладцы: *Альбярцін. Гродзенская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, дапоўнены гуашшу, акварэллю і сепіяй. 20,2x25

III-r. a. 4309 (Teka Grodzieńska). MNK



**Альбярцін. Фабрыка.** 1865 г.

Выгляд фабрычных будынкаў.

Датавана: *9 сакавіка 1865 г.* Надпіс: *Альбярцін.* Надпіс на падкладцы: *Альбярцін. Гродзенская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, дапоўнены акварэллю, гуашшу і сепіяй. 20,1x25

III-r. a. 4311 (Teka Grodzieńska). MNK





**Дзеравянчыцы.** 1861—1877 гг.

Капліца-пахавальня роду Ордаў.

Від з боку галоўнага і бакавога фасадаў з надпісам на франтоне і прысценнымі падпорамі.

Надпіс на адвароце: *Пахавальня Пятра і Эвеліны з Мікульскіх Ордаў у Дзеравянчыцах*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,9х28,6

III-r. a. 4437 (Teka Grodzieńska). MNK



**Дзявяткавічы. Палац Слізняў.** 1861—1877 гг.

Від з боку парку. Палац трохпавярховы, з вежкамі і прылеглай да асноўнага будынка аднапавярховай аранжарэяй.

Надпіс: *Дзявяткавічы. Альфрэд Слізень.* Надпіс на падкладцы: *Дзявяткавічы. Гродзенская г[уберня]. Уласнасць Альфрэда Слізеня*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8х30

III-r. a. 4336 (Teka Grodzieńska). MNK

## *Дзявяткавічы*

Старадаўняя сядзіба роду Мялешкаў. У 1648 г. па жаночай лініі перайшла да Аляксандра Слізеня і Тэадоры Мялешкі. Іх праўнук Стафан Юзаф меў адну дачку Тэклю, якая была пашлюблена з Рафалам, таксама нашчадкам Аляксандра Слізеня.

Падчас Першай сусветнай вайны згарэў багацейшы архіў роду Слізеняў. Да 1939 г. гэтая сям'я жыла ў мураваным будынку (так званым скарбцы). На пачатку XIX ст. палац быў значна пашыраны і перароблены ў неагатычным стылі. На працягу XIX ст. ён пераабсталёўваўся, яго будаўніцтва закончыў Альфрэд Слізень, у гасцях якога пабываў Н. Орда.

## *Жыровічы*

Мястэчка Жыровічы вядома са старадаўняга часу. Ужо ў 1-й палове XVI ст. тут заснавалі манастыр. Спачатку ён быў драўляны, размяшчаўся на ўзвышаным беразе ракі Шчары. Падчас пажару 1659 г. поўнасцю згарэў. У 1672—1825 гг. на яго месцы ўзвялі новы мураваны комплекс манастырскіх будынкаў, які ўключаў Успенскі храм, Богаяўленскую і Крыжаўзвіжанскую цэрквы, званіцу, семінарскі і жылы корпусы, шпіталь, трапезную, агарод, сажалкі, сад і шэраг гаспадарчых пабудоў. Ядро ансамбля — Успенскі



**Жыровічы. Агульны від мястэчка.** 1865 г.

Выгляд цэркваў і манастыра.

Датавана: *Жыровічы, 14 сакавіка 1865 г.* Надпіс на падкладцы: *Жыровічы. Гродзенская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю і сепіяй. 20x24,8

III-r. a. 4432 (Teka Grodzieńska). MNK



**Жыровічы. Богаяўленская і Крыжаўзвіжанская цэрквы.** 1876 г.

Выгляд галоўнага і бакавога фасадаў царквы. З правага боку — капліца, з левага — царква з вежай.

Датавана: *8 верасн[я] 1876 г.* Надпіс: *Жыровічы. Царква Стопкі і Кальварыя.* Надпіс на падкладцы: *Жыровічы. Гродзенская г[уберня], месца дзейнасці епіскапа Іасафата Кунцэвіча*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,8х28,7

III-r. a. 4431 (Teka Grodzieńska). MNK

сабор, пабудаваны ў 1613—1650 гг. і злучаны крытымі пераходамі з будынкам духоўнай семінарыі (на поўначы) і жылым корпусам (на поўдні) з арачным праездам. Крыжаўзвіжанская царква дзейнічае з 1769 г. як храм-кальварыя. У тым жа годзе ў цэнтры ансамбля ўзведзена Богаяўленская царква. Семінарыя будавалася на працягу XVII—XVIII стст. У пасляваенны час яна выкарыстоўвалася як навучальны корпус саўгаса-тэхнікума [141].

У Жыровічах пабываў Напалеон Орда. Там ён выканаў дзве цудоўныя акварэлі з гістарычнымі пейзажамі мястэчка.

У канцы XX ст. на месцы былога базыльянскага манастыра пачала працаваць праваслаўная духоўная семінарыя.

## СМАРГОНСКІ РАЁН

### *Крэва*

Захаваліся рэшткі старажытнага замка, якія размяшчаюцца на заходняй ускраіне вёскі. Ён быў пабудаваны пасля 1338 г. на насыпным узгорку, абкружаным ровам з вадою, і стаў сведкам многіх гістарычных падзей. Тут у 1385 г. заключана пагадненне аб саюзе Вялікага Княства Літоўскага і Польскага каралеўства (Крэўская унія). Паводле уніі на чале абедзвюх краін станавіўся вялікі князь Ягайла. Палітычнае аб'яднанне было абумоўлена неабходнасцю сумеснай барацьбы супраць нямецкай агрэсіі [141].

У 1443 г. Крэўскі замак быў узяты войскамі князя Свідрыгайлы, які ваяваў супраць Жыгімонта Кейстутавіча за велікакняскі прастол. У 1503—1506 гг. замак трымалі ў аблозе і значна разбурылі крымскія татары. Праз чатыры стагоддзі, у часы Першай сусветнай вайны, замак моцна зруйнаваны. У 1929 г. праведзена яго частковая кансервацыя.



**Крэва. Руіны замка.**
1875—1877 гг.

Выгляд рэшткаў замка з вежай.

Датавана: *20 мая.* Надпіс: *Крэва.* Надпіс на падкладцы: *Крэва. Віленская г[уберня].* Надпіс на картцы, падклеенай да падкладкі: *Крэва. Віленская губ[ерня]. Руіны знакамітага замка. Тут у дзяцінстве перад уступленнем на трон жыў в[ялікі] к[нязь] Альгерд. Тут ёсць памятная ў гісторыі вежа, вядомая трагічнай смерцю в[ялікага] к[нязя] літоўскага Кейстута ў 1382 г.*

Апошні надпіс паўтораны па-французску.

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,7х28,8

III-г. а. 3999 (Teka Wileńska). MNK

## *Залессе*

Радавое гняздо знакамітага кампазітара, дыпламата, палітычнага і дзяржаўнага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага, паплечніка Т. Касцюшкі Міхала Клеафаса Агінскага (1765—1833).

Агінскія (герб Агінец) выводзілі сваё паходжанне ад Рурыкавічаў. У дзяржаўных актах ВКЛ прадстаўнікі гэтага роду пачалі называцца князямі Агінскімі з 1547 г. Маці Міхала Клеафаса Агінскага Паўла паходзіла з роду магнатаў Шэмбекаў, бацька Андрэй быў ваяводам трокскім.

Маёнтак Залессе М.К. Агінскі атрымаў у падарунак ад свайго дзядзькі Францішка Ксаверыя Агінскага ў 1802 г. Тут прайшлі самыя плённыя гады кампазітара (1802—1822). Гэта быў час росквіту сядзібы Залессе, якую ў тыя часы называлі «Паўночныя Афіны». Ён разгарнуў шырокамаштабнае пашырэнне і будаўніцтва палаца-паркавага ансамбля. Па праекце архітэктараў Віленскага універсітэта Міхаіла Шульца і Ёзэфа Пусэ былі пабудаваны мураваны палац з дзвюма аранжарэямі, мураваны двухпавярховы млын, капліца, закладзены пейзажны парк, куды ўваходзілі англійскі парк і два звярынцы. На тэрыторыі парку знаходзіліся паўкруглая і кітайская альтанкі, масткі цераз раку, памятныя камяні. У 1822 г. М. К. Агінскі назаўсёды пакінуў радзіму.

Залессе да 1927 г. заставалася ва ўладанні ягоных нашчадкаў. Пасля Вялікай Айчыннай вайны ў сядзібе размяшчаліся дом адпачынку, потым дом састарэлых.

У 1978 г. пачаліся навукова-даследчыя (гісторыка-архіўныя, бібліяграфічныя) і праектныя працы па рэстаўрацыі сядзібы.


384 KŁOSY. [Nr. 650. — Tom XXV.]

Zaleś, pałac książąt Ogińskich. (Z teki Napoleona Ordy.) (4872)

**Залессе.**

Агульны від на сядзібу Міхала Клеафаса Агінскага.

На сённяшні час на тэрыторыі сядзібы захаваліся рэшткі парку XVIII—XIX стст., абкружаныя ліпавымі алеямі, гаспадарчы двор XVIII ст. з пабудовамі 20-х і 50-х гг. XX ст.,, моцна перабудаваны мураваны палац, капліца, падмуркі млына і паркавай альтанкі.

Малюнак Н. Орды з пейзажам сядзібы М. К. Агінскага ў Залессі быў надрукаваны ў часопісе «Kłosy» за 1877 г.

Арыгінал акварэлі не выяўлены, магчыма, знішчаны ці знаходзіцца ў прыватнай калекцыі.

## ШЧУЧЫНСКІ РАЁН

*Беражніца*
*Жалудок*

Колішні маёнтак Сапегаў. У XVI ст. Ганна Сапега выйшла замуж за Мікалая Францкевіча, які стаў гаспадаром маёнтка. Затым па жаночай лініі Жалудок перайшоў да Тызенгаўзаў, потым да Урускіх і Чацвярцінскіх.

Жалудоцкі ключ меў плошчу 16,5 тысячы гектараў. Тут працякаюць чатыры ракі: Нёман, Шчара, Лябёда і Жалудчанка. У перыяд гаспадарання Тызенгаўзаў у Жалудку існаваў невялікі неагатычны замак. Перад Першай сусветнай вайной Чацвярцінскія ўзвялі тут новы палац (аўтар праекта Уладзіслаў Марконі) [293]. Парк быў закладзены ў XVIII ст. Палац і парк захаваліся.

Уладзімір Чацвярцінскі ў палацы прымаў Н. Орду.

**Беражніца. Касцёл.** 1861—1877 гг.

Будынак драўляны, з вылучаным прытворам.

Надпіс: *Беражніца пры Ражанцы.* Надпіс на падкладцы: *Гродзенская г[губерня]. Беражніца каля Ражанкі*

Малюнак алоўкам. 20,8x23,9

III-r.a. 4315 (Teka Grodzieńska). MNK





**Жалудок. Парафіяльны касцёл Узнясення Божай Маці.**
1861—1877 гг.

Выгляд галоўнага і бакавога фасадаў касцёла з порцікам на калонах, сходамі, вежкай і надпісам. Перад касцёлам — званіца з аркадай. З левага боку ўглыбіні бачны фрагмент будынка аднапавярховай плябаніі.

Датавана: *16 мая.* Надпіс: *Жалудок, дамавіна Ант[онія] Тызенгаўза.* Надпіс на падкладцы: *Жалудок, Гродзенская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,4х28,9

III-r. a. 4430 (Teka Grodzieńska). MNK



**Ішчална. Палац Важынскіх.** 1876 г.

Від з боку сажалкі. На першым плане аднапавярховы палац з порцікам на калонах. З правага боку размешчана двухпавярховая, з левага — аднапавярховая афіцыны.

Датавана: *13 мая 1876 г.* Надпіс: *Ішчална. Важынскі Баляслаў.* Надпіс на падкладцы: *Ішчална. Віленская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,5x28,8

ІІІ-г. а. 3997 (Teka Wileńska). MNK

## *Ішчална*

Сядзіба Ішчална, паводле пісьмовых крыніц, вядома з 1505 г.

У 1514 г. вялікі маёнтак быў падзелены паміж братамі Янам і Мікалаем Лімонтамі. Непасрэдна вёска Ішчална дасталася Мікалаю, затым у ёй на працягу некалькіх стагоддзяў гаспадарылі Вішнявецкія, Радзімінскія-Францкевічы, Скарбек-Важынскія, Валы.

У 1740 г. Ян Вал пабудаваў тут палац, у якім гасцяваў Н. Орда, калі гаспадаром маёнтка з'яўляўся Баляслаў Важынскі [293].



**Мажэйкава Вялікае. Палац.**
1875—1877 гг.

Від з боку ўязной дарогі. У глыбіні парку пададзены фрагмент палаца з порцікам на калонах, з левага — аднапавярховая афіцына, накрытая ламаным дахам.

Датавана: *В[ялікі] Мажэйкаў, 12 мая.* Надпіс на падкладцы: *Мажэйкаў. Віленская г[уберня].*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,5х28,7

III-г. а. 4005 (Teka Wileńska). MNK

## *Мажэйкава Вялікае*

У пісьмовых крыніцах Мажэйкава вядома з пачатку XVI ст. як фальварак у складзе Жалудоцкай воласці Токскага ваяводства. У 1506 г. вялікі князь ВКЛ і кароль польскі Жыгімонт I Стары падараваў Мажэйкава каралеўскаму двараніну Міхайлу Гагіну. Затым гаспадаром маёнтка стаў князь В. А. Палубенскі, у 1514 г. ён атрымаў пацвярджэнне на валоданне Мажэйкавам. З гэтага часу вёска стала называцца Вялікім Мажэйкавам у адрозненне ад суседняга Малога Мажэйкава. У 1616 г. Вялікае Мажэйкава купіў віленскі ваявода Януш Скумін-Тышкевіч [289].

У XVIII ст. маёнткам валодалі Хадкевічы, у XIX— пачатку XX ст. графы Грабоўскія. Менавіта ў Грабоўскіх пабываў Н. Орда і маляваў іх невялікую, але ўтульную рэзідэнцыю.

## *Ражанка*

Старадаўняя сядзіба роду Пацаў была сфарміраваная ў 2-й палове XIX ст. У цэнтры размяшчаўся сядзібны дом, на ўсходзе ад яго месціліся два флігелі, на поўнач — гаспадарчыя пабудовы (свіран, стайня). У першапачатковым выглядзе захаваўся аднапавярховы драўляны флігель з мансардным дахам, тэрасай і ганкам на калонах. У сярэдзіне вёскі знаходзілася капліца, пабудаваная ў XIX ст. з цэглы. На паўночнай ускраіне вёскі ўзвышаецца касцёл Святых Пятра і Паўла, узведзены ў 1674 г. з цэглы і бутавага каменю (перабудаваны ў 1924—1925 гг.).

Наведаўшы Ражанку, Н. Орда намаляваў касцёл у яго аўтэнтычным выглядзе.

**Ражанка. Касцёл Святых Пятра і Паўла.** 1861—1877 гг.

Выгляд бакавога і галоўнага фасадаў касцёла. Будынак мае дзве цэнтральныя вежкі. Перад касцельнай брамай месціцца званіца на аркадах. З левага боку стаіць будынак плябаніі.

Надпіс: *Ражанка роду Пацаў*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,4х28,4

III-г. а.4412 (Teka Grodzieńska). MNK



*Нявызначаныя малюнкі Н. Орды*
*(Гродзенская губерня)*



**Забудова над ракой Нёман.** Фрагмент 1861—1877 гг.

Датавана: *4 верасня.* Надпіс: *Нёман.* Надпіс на падкладцы: *Нёман*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19x25,7

III-r. a. 4390 (Teka Grodzieńska). MNK



**Від на раку Нёман.** 1861—1877 гг.

Надпіс: *рака Нёман.* Надпіс на падкладцы: *Нёман*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю.

III-r. a. 4391 (Teka Grodzieńska). MNK



**Сядзіба над ракой Нёман.** 1861—1877 гг.

Будынак аднапавярховы, з ганкам. З левага боку аднапавярховая афіцына.

Надпіс на падкладцы: *Гродзенская [губерня]*

Малюнак алоўкам. 22,4х29,5

Ш-г. а. 4433 (Teka Grodzieńska). MNK



**Тарфярня. Вясковая забудова.** 1861—1877 гг.

Від вясковай забудовы. Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю.

III-r. a. 4438 (Teka Grodzieńska). MNK



**Вёска з млынам над рэчкай.** 1867 г.

Від вясковай забудовы і млына.

Датавана: *чэрвень 1867... (не чытаецца)*

Малюнак алоўкам. 19x25,2

III-r. a. 4444 (Teka Grodzieńska). MNK

**Мястэчка.** 1861—1877 гг.
Від забудоў прадмесця (Гродна?).
Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19x25,8
III-г. a. 4448 (Teka Grodzieńska). MNK



**Бераг ракі**
Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю.
III-г. a. 4449 (Teka Grodzieńska). MNK





**Палац і парк.** 1861—1877 гг.

Від з боку пад'езда. Палац аднапавярховы, з тэрасай на калонах.

Малюнак алоўкам. 18,2x25,2

III-r.a.4446 (Teka Grodzieńska). MNK



**Мястэчка над ракой.** 1861—1877 гг.

Агульны від забудовы з боку ракі. Фрагмент сядзібы з вежай.

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19x25,8

III-r.a.4451 (Teka Grodzieńska). MNK

# Магілёўшчына

Магілёў | Бялыніцкі раён | Горацкі раён | Кіраўскі раён
Магілёўскі раён | Шклоўскі раён






# МАГІЛЁЎ

Горад упершыню ўпамінаецца пад 1267 г. у магілёўскай хроніцы. З XIV ст. Магілёў — у складзе ВКЛ. Паміж 1496 і 1538 гг.— у Маскоўскім княстве. Належаў жонцы Ягайлы каралеве Ядвізе, потым жонцы Аляксандра Ягелончыка Алене Іванаўне. З 1514 г. Магілёў перайшоў да Ю. Зяновіча. У 1577 г. горад атрымаў герб і поўнае магдэбургскае права.

У 1526 г. быў узведзены новы абарончы замак, у пачатку XVII ст. пабудаваны тры паясы абарончых умацаванняў (земляныя валы з бастыёнамі і ровам) з васьмю ўязнымі брамамі. У XII—XVIII стст. сфарміравалася планіровачная структура горада. Цэнтрам стала Гандлёвая плошча з ратушай. Сярод збудаванняў вылучаліся Успенская, Мікалаеўская, Паўлаўская цэрквы, а таксама Богаяўленскі манастыр, Станіслаўскі касцёл, езуіцкія калегіум і касцёл.

У 1850 г. на месцы Замкавага вала пракладзены шаша і Дняпроўскі пад'ём. Да сярэдзіны XIX ст. склаліся ансамблі Губернатарскай і Саборнай плошчаў [142]. У 2-й палове XIX ст., калі Н. Орда знаходзіўся на Магілёўшчыне існавала мноства культавых збудаванняў: Спаскі манастыр, архірэйскі палац, духоўная семінарыя, касцёл кармелітаў, касцёл і кляштар бернардзінцаў, архіепіскапскі палац [431].



**Магілёў. Цэнтр горада.** 1877 г.

Агульны від з боку ракі Дняпро. З левага боку — дзвюхвежавы касцёл, побач — двухпавярховы будынак кляштара, у глыбіні — царква. На другім беразе (з правага боку) — касцёл з вежай і дзве царквы, на пярэднім плане — драўляны мост.

Датавана: *10 жніў[ня] 1877 г.* Надпіс: *Касцёл бернардзінаў, цяпер архіў. Магілёў. Дняпро.* Надпіс на падкладцы: *Прадмесце Магілёва, рака Дняпро, былы бернардзінскі касцёл, цяпер архіў*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,2

III-r. a. 4944 (Teka Mohilewska). MNK

**Бялынічы. Касцёл і кляштар кармелітаў.** Літаграфія

Надпіс: *Бялынічы. Магілёўская г[убер-ня]. Мястэчка над Друццю. Колішняе ўладанне князёў Сапегаў. Былы касцёл кармелітаў, які славіўся цудатворным абразам Найсвяцейшай Панны Марыі, заснаваў князь Леў Сапега, канцлер вялікі літоўскі ў 1623 г. Пазней уласнасць князёў Агінскіх.*

Надпіс паўтораны на французскай мове [450].

Арыгінал акварэлі страчаны ці знаходзіцца ў прыватнай калекцыі.



## БЯЛЫНІЦКІ РАЁН

*Бялынічы*

У пісьмовых крыніцах упамінаецца з канца XVI ст. як мястэчка Аршанскага павета ВКЛ [142]. У 1624 г. уладальнік Бялынічаў канцлер ВКЛ Леў Сапега заснаваў тут кляштар кармелітаў. Пасля Сапегаў Бялынічамі валодалі Агінскія і Радзівілы. Найбольш старадаўнімі будынкамі тут з'яўляліся друкарня пры кляштары кармелітаў (XVI ст.) і касцёл кармелітаў (XVIII ст.). У XIX ст. у мястэчку працавалі народнае вучылішча, лячэбніца, млын і бровар.

## ГОРАЦКІ РАЁН

*Горкі*

Размешчаны на рацэ Проня (басейн Дняпра). Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца ў сярэдзіне XVI ст. як вёска і маёнтак князёў Друцкіх-Любецкіх. Пазней перайшлі ў валоданне Сапегаў. Канцлер Леў Сапега ў 1619 г. надзяліў Горкі правам самакіравання. Пасля яго смерці Горкі адышлі да старэйшага сына Яна Станіслава Сапегі, а з 1635 г.— да малодшага Казіміра Льва. У 1-й палове XVII ст. Горкі сталі горадам. З 1660 г. гаспадаром Горак быў маршалак ВКЛ Аляксандр Палубінскі, потым маёнтак перайшоў да яго зяця Юрыя Сапегі. Затым горадам і маёнткамі акругі па чарзе валодалі А. Д. Меншыкаў, М. А. Патоцкі і граф Я. М. Салагуб [142, 293].

У канцы XVIII ст. у Горках існавалі праваслаўная і дзве уніяцкія цэрквы, касцёл, суконная мануфактура, працавалі тэатр, аркестр Салагуба і іншыя ўстановы. У час паўстання 1863—1864 гг. горад быў заняты паўстанцкім атрадам. Напрыканцы 1830-х гг. тут заснавалі земляробчую школу, ператвораную ў 1848 г. у Горы-Горацкі агранамічны (земляробчы) інстытут, у якім пабываў Н. Орда і намаляваў ягоныя будынкі.



**Горкі. Агранамічны інстытут.** 1877 г.

Выгляд галоўнага і бакавога фасадаў трохпавярховага будынка з рызалітамі.

Датавана: *9 жніў[ня] 1877 г.* Надпіс: *Агранамічны інстытут. Горкі.* Надпіс на падкладцы: *Горы-Горкі. Магілёўская г[уберня]. Агранамічны інстытут, закладзены ў 1838 г. Некалі ўласнасць к[нязя] Льва Сапегі, пазней Лявона Салагуба.*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,2

III-г. а. 4941 (Teka Mohilewska). MNK



**Раманава. Палац Корсакаў, некалі Радзівілаў.** 1877 г.

Агульны від з боку ракі. Палац двухпавярховы з рызалітамі і высокай вежай. З правага боку ў глыбіні знаходзіцца афіцына, царква з купаламі і званіцай, побач — гаспадарчыя будынкі.

Датавана: *Раманава, 5 жніў[н]я 1877 г.* Надпіс: *Дундакоў-Корсакаў, радца Панятоўскага, к[нязь] Дундакоў-Корсакаў.* Надпіс на падкладцы: *Раманава. Магілёўская г[уберня]. Велізарная маёмасць кн[язя] Караля Радзівіла, канфіскаваная ў 1772 г.*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x29,8

III-г. а. 4946 (Teka Mohilewska). MNK

## *Раманава*

Старадаўняя сядзіба. Вядомымі гаспадарамі яе былі Радзівілы (XVIII ст.), потым Корсакі (XIX ст.), у якіх пабываў Н. Орда, і замаляваў маляўнічую рэзідэнцыю.

## КІРАЎСКІ РАЁН *Добасна (Жылічы)*

Сядзіба размяшчалася на рацэ Дабосне, якая ўпадае ў Дняпро. У XV ст. сядзіба належала князям Трабскім, што паходзілі з роду князёў Гальшанскіх. Віленскі ваявода і барысаўскі староста Альбрэхт Гаштольд атрымаў ад сястры сваёй бабулі княгіні Марыі Трабскай шэраг маёнткаў, у тым ліку Гальшаны, Быхаў і Добасну. Сын Альбрэхта Станіслаў, апошнім з Гаштольдаў, пашлюблены з Барбарай Радзівіл, памёр у 1542 г. Добасна перайшла да Аляксандра Хадкевіча. У 1620-х гг. дачка Хадкевіча Ганна выйшла замуж за Яна Сапегу, перадаўшы маёнтак Сапегам. Напрыканцы XVIII ст. у Добасне пачалі гаспадарыць Булгакі. Ігнацій Булгак значна пашырыў свае маёнткі і давёў іх агульную плошчу да 27 тысяч дзесяцін. Ён быў жанаты двойчы: спачатку з Ізабэлай Кларай Слізень, а пасля з яе сястрой Тарэзай.

Маючы багаты даход з маёнткаў, І. Булгак задумаў пабудаваць самую шыкоўную рэзідэнцыю ў наваколлі. Месцам яе размяшчэння была вызначана Добасна. Будоўля, распачатая ў 1825 г. па праекце выпускніка Пецярбургскай акадэміі Клабукоўскага, вялася шмат гадоў, вымагаючы вялікія сумы. У сярэдзіне XIX ст. палац перабудавалі [293]. На акварэлях Н. Орды занатаваны палаца-паркавы ансамбль, апошнім гаспадаром якога быў Эдвард Булгак.



**Добасна. Палац Булгакаў.**
1864—1876 гг.

Від з боку пад'езда. Палац у сярэдняй частцы двухпавярховы, з мезанінам. З левага боку — двухбаковае крыло з порцікам на калонах, побач — чатырохбаковая вежа.

Надпіс на падкладцы: *Уласнасць Эдварда Булгака. Дабосна. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,7x30,3

III-г. а. 4455 (Teka Minska). MNK




**Добасна. Палац Булгакаў.** 1864—1876 гг.

Від з боку парку. Палац з порцікам на калонах і чатырохбаковай вежай пад купалам. Правае крыло мела порцік на калонах з прылеглымі аранжарэяй і афіцынай.

Надпіс: *Добасна.* Надпіс на падкладцы: *Уласнасць Эдварда Булгака. Добасна. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,7х30,3

III-r. a. 4456 (Teka Minska). MNK

## МАГІЛЁЎСКІ РАЁН

### *Дашкоўка*

Парк і палац, закладзеныя незадоўга да прыезду Н. Орды, размяшчаліся ў маёнтку Жукоўскіх, што месціўся на высокай тэрасе Дняпра. Сядзібны дом стаяў на краі тэрасы, меў складаную аб'ёмную канфігурацыю з трох'яруснай бакавой вежай. У архітэктурных формах палаца адчуваюцца розныя стылі. У парку меліся дэкаратыўныя масткі і вадзяны млын (захаваўся часткова).

### *Масальшчына*

Сядзіба ў Масальшчыне належала разгалінаванаму роду Ціханавецкіх. Іх ранейшымі сядзібамі былі Касцюковічы і Канічы, атрыманыя ў канцы XVI ст. пасля шлюбу Нікадзіма Кішкі-Ціханавецкага з князёўнай Цвярской. Вядомы гаспадар Масальшчыны Уладзімір Ціханавецкі, маршалак шляхты Магілёўскай губерні, меў ва ўласнасці каля 1000 дзесяцін зямлі, якія атрымаў ад жонкі Людвікі Войніч-Сенажэцкай. Верагодна, ён і пабудаваў палац, у якім прымаў Н. Орду.

### *Нішаўка (Незаўка)*

Колішняя сядзіба, якую часцей называлі Нішаўцамі, цяпер размешчана паблізу вёскі Заводская Слабада. Належала Міхалу Савіцкаму, у гасцях якога пабываў Н. Орда.

**Дашкоўка. Палац Жукоўскіх.** 1872 г.

Агульны выгляд трохпавярховага палаца з лоджыяй на паркавым фасадзе. Пазней быў дабудаваны двухпавярховы будынак вадзянога млына.

Датавана: *15 жніў[ня] 1877 г.* Надпіс: *Дашкоўка над Дняпром. Эдвард Жукоўскі, сын Вітольда, жонка Эмілія Ціханавецкая.* Надпіс на падкладцы: *Дашкоўка. Магілёўская г[уберня], уласнасць Эдварда Жукоўскага*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,7х29,8

III-r. a. 4937 (Teka Mohilewska). MNK



**Масальшчына. Палац Ціханавецкіх.** 1877 г.

Агульны від з боку ракі. Палац аднапавярховы, з двума высокімі рызалітамі і порцікам на калонах з левага боку.

Датавана: *Масальшчына, 11 жніў[ня] 1877 г.* Надпіс: *Уладзімір Ціханавецкі, ж[онка] Людвіка Сенажэцкая.* Надпіс на падкладцы: *Масальшчына. Магілёўская губ[ерня], уласнасць Уладзіміра Ціханавецкага*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,7х30

III-r. a. 4943 (Teka Mohilewska). MNK





**Нішаўка. Царква.** 1877 г.

Агульны від з боку ракі. Царква з купалам і званіцай. З левага боку месціўся двухпавярховы дом.

Надпіс: *Нішаўка. Савіцкі Міхал, палкоўнік інжынераў.* Надпіс на падкладцы: *Нішаўка-Нішаўцы. Магілёўская губ[ерня], уласнасць Міхала Савіцкага, палкоўніка інжынераў*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,7х30,3

III-г. а. 4945 (Teka Mohilewska). MNK

## ШКЛОЎСКІ РАЁН

### *Фашчаўка*

Даўняя вёска і фальварак належалі розным гаспадарам. У 1754 г. у ім гаспадарылі Галкевічы. Цяпер ад старога парку захаваліся толькі асобныя дрэвы.



**Фашчаўка. Былы езуіцкі касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі.** 1877 г.

Выгляд галоўнага і бакавога фасадаў касцёла. Храм двухвежавы, з трансептам і шчытком на бакавым фасадзе.

Надпіс: *Касцёл езуітаў, зас[наваны] ў 1754 г. Ксёндз Галкевіч. Фашчаўка.* Надпіс на падкладцы: *Фашчаўка. Магілёўская г[уберня]. Касцёл езуітаў, закладзены ў 1754 г. Цудоўны абраз Маці Божай*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,7х30,2

# Міншчына

Мінск | Барысаўскі раён | Вілейскі раён | Дзяржынскі раён | Капыльскі раён
Лагойскі раён | Любанскі раён | Маладзечанскі раён | Мінскі раён | Нясвіжскі раён
Пухавіцкі раён | Слуцкі раён | Стаўбцоўскі раён | Чэрвеньскі раён



Першае ўпамінанне пра Менск у крыніцах адносіцца да 1067 г., калі адбываліся ваенныя дзеянні паміж полацкім князем Усяславам Брачыславічам і кіеўскімі князямі, якія разбурылі гэты, памежны горад Полацкага княства [143].

Прыкладна ў 1100 г. узнікла Менскае княства, узначаленае Глебам Усяславічам. Пасля Глеба ўладаром Менска стаў ягоны сын Расціслаў. З 1129 г. да сярэдзіны XIII ст. горад апынуўся пад уладай кіеўскіх князёў, а ў першай чвэрці XIV ст. увайшоў у склад ВКЛ.

У 1499 г. горад атрымаў магдэбургскае права. Войны 1648—1667 гг. разбурылі яго і знішчылі велізарную колькасць насельніцтва (у 1667 г. налічвалася ўсяго дзве тысячы чалавек). З 2-й паловы XVII ст. у Менску рэгулярна адбываліся сесіі Галоўнага трыбунала ВКЛ. У Паўночную вайну (1700—1721) горад быў зноў моцна зруйнаваны. З 1793 г. у складзе Расійскай імперыі. З сярэдзіны XIX ст. пачаў актыўна развівацца, колькасць жыхароў пераўзышла 31 тысячу чалавек. У гэты перыяд Мінск наведаў Н. Орда, замаляваў Саборную плошчу з касцёлам.

## МІНСК

**Мінск.** 1864—1876 гг.

Саборная плошча. Касцёл і збудаванні езуіцкага кляштара

Выгляд двухвежавага касцёла з аздобленым уваходам і тэрасай. З левага боку — двухпавярховы касцёл з рызалітам, з правага — будынак чатырохбаковай вежызваніцы з гадзіннікам. Надпіс на падкладцы: *Мінск*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8х30,3

III-г. a. 4471 (Teka Mińska). MNK



## БАРЫСАЎСКІ РАЁН

### *Студзёнка*

Тут каля вёскі Студзёнка ў лістападзе 1812 г. адбылася вырашальная бітва 3-й Заходняй рускай арміі адмірала П. В. Чычагава (30 тысяч чалавек) з арміяй Напалеона Банапарта (40 тысяч чалавек). З-за няўзгодненых і нерашучых дзеянняў камандуючых П. В. Чычагава і П. Х. Віттэнштэйна Напалеон пазбегнуў палону і скіраваўся з рэшткамі сваёй арміі ў напрамку Вільні [143].



**Студзёнка. Від на раку Бярэзіну.**

На пярэднім плане — драўляны дом з гаспадарчай пабудовай. На другім — вёска Студзёнка.

Надпіс: *Бярэзіна, Студзёнка*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,2

III-r. a. 4453 (Teka Mińska). MNK

## ВІЛЕЙСКІ РАЁН

### *Ганута*

Сядзіба Ганута размяшчалася ў лясістай мясцовасці пры ўпадзенні ракі Нарач у Вілію. У XVI ст. сядзіба належала князям Гальшанскім, ад якіх перайшла да Коцелаў [276, 293]. У 1723 г. маёнткамі ў Гануце, Беніцы, Маладзечне і Гарадзілаве валодаў Казімір Коцел. Яго дачка Разалія была пашлюблена з Казімірам Ігнацыем Агінскім, але не мела дзяцей. У 1738 г. муж і жонка запісалі Гануту і Маладзечна брату Казіміра Тадэвушу Францішку Агінскаму, які пабудаваў каля 1765 г. у маёнтку вельмі прыгожы палац. Менавіта яго маляваў Н. Орда, калі гасцяваў у Гануце.

# ДЗЯРЖЫНСКІ РАЁН

Да 1932 г. мястэчка мела назву Койданава. Размяшчаецца на рацэ Няцеча. Вядома з XII ст. як Крутагор'е ў Полацкім і Менскім княствах. З 1326 г. увайшло ў склад ВКЛ. З канца XV ст. належала шэрагу заможных родаў, затым уласнасць вялікіх князёў літоўскіх і польскіх каралёў Жыгімонта I і Жыгімонта II. Апошні ў 1550 г. падараваў Койданава Радзівілам, якія ўтварылі асобнае графства [143]. У 1502—1503 гг. мястэчка спалена татарамі. Прыехаўшы ў Койданава, Н. Орда замаляваў гістарычна-архітэктурны краявід мястэчка.



**Ганута. Палац Жавускіх, раней Агінскіх.** 1875—1877 гг.

Від з боку парку. Палац аднапавярховы, з мансардай і двухпавярховай часткай пасярэдзіне і трыкутным франтонам. З левага боку месціўся турэцкі павільён, з правага — аднапавярховыя афіцыны.

Датавана: *2 чэрвеня.* Надпіс: *Ганута. Валенс Жавускі.* Надпіс на падкладцы: *Віленская г[уберня], Ганута*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,4x29

III-г. a. 3991 (Teka Mińska). MNK

**Койданава. Руіны замка і кальвінскі збор.** 1876 г.

Від з боку рэчкі. Касцёл з адной вежай, узведзены побач ля муроў замка з абарончымі вежамі.

Датавана: *13 ліпеня 1876 г.* Надпіс: *Кальвінскі збор у Койданаве, заснаваны к[нязем Мікалаем] Радзівілам Рудым.* Надпіс на падкладцы: *Койданава. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,7х30,3

III-r. a. 4467 (Teka Mińska). MNK



## *Станькава*

Старадаўняя сядзіба роду Радзівілаў, вядомая паводле пісьмовых крыніц з XVI ст. У 1766 г. адна з пяці дачок князя Міхала Казіміра Радзівіла Рыбанькі — Вераніка — выйшла замуж за Францішка Чапскага (1725—1802), і з таго часу маёнтак Станькава перайшоў да роду Гутэн-Чапскіх. Францішак Чапскі не адразу пасяліўся ў Станькаве. Спачатку маёнтак быў узяты пад заклад Швыкоўскімі, затым на пачатку XIX ст., у ім пачаў гаспадарыць сын Фрацішака Караль Чапскі, жанаты з Фабіянай з роду Абуховічаў. Іхні сын Эмерык (1828—1896) набыў папулярнасць у грамадстве сваёй схільнасцю да збіральніцтва і калекцыяніравання. Дзякуючы ягоным намаганням у Кракаве быў створаны музей, а ў Станькаве на месцы старой сядзібы XVII ст. ім пабудаваны палац і закладзены парк.

З 1875 г. Эмерык Гутэн-Чапскі працаваў дырэктарам Ляснога дэпартамента, шмат выступаў на абарону ляснога багацця, з гэтай нагоды часта канфліктаваў з вышэйшымі чыноўнікамі, затым у 1879 г. выйшаў у адстаўку і поўнасцю аддаўся збіральніцтву музейных, бібліятэчных і архіўных каштоўнасцей.

Як падае Р. Афтаназы, палац Эмерыка Чапскага не вылучаўся вонкава, затое ў залах, салонах, кабінетах знаходзіліся багацейшыя на Міншчыне калекцыі старасветчыны [293]. Мэбля палаца была выканана ў стылі Людовіка XVI. У пакоях віселі партрэты прадстаўнікоў роду Чапскіх і палотны, напісаныя Валенціем Ваньковічам, Айвазоўскім, іншымі вядомымі мастакамі, гравюры, набытыя ў Тышкевічаў з Лагойска, габелены, тканіны, выкананыя ў майстэрнях Агінскіх у Слоніме, старадаўнія абразы і карціны з выявамі гістарычных падзей і г. д.

Залы, салоны і кабінеты былі напоўнены калекцыямі манет, старажытнай зброі, каштоўным посудам, шклом, паясамі, адзеннем, геалагічнымі і археалагічнымі каштоўнасцямі,



**Станькава. Палац Чапскіх.** 1864—1876 гг.

Від паркавага фасада з боку сажалкі. Палац двухпавярховы, з верандай і вежамі.

Датавана: *Станькаў, 13 ліпеня.* Надпіс: *Эмерык Чапскі.* Надпіс на падкладцы: *Станькаў. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8х30,2

III-r. a. 4503 (Teka Mińska). MNK

вырабамі з бронзы, срэбра і золата. У кніжных шафах на паліцах размяшчаўся велізарны кнігазбор (каля 20 тысяч тамоў), у тым ліку старадрукаў, набытых з бібліятэкі Залускіх. Частка найбольш каштоўных музейных рэчаў, кніг і рукапісаў захоўвалася ў спецыяльных жалезных шафах і сейфах пад пільным наглядам. Бібліятэчныя зборы кніг, выдадзеных пазней, пераважна ў XIX ст., некамплектныя зборы кніг, іх дублікаты і іншыя менш каштоўныя рэчы захоўваліся ў так званым Скарбчыку — мураваным будынку з чатырма вежкамі, пабудаваным раней за палаца, перапробленым у 2-й палове XIX ст. у неагатычным стылі. Будынак Скарбчыка захаваўся да сённяшняга часу.

У 1894—1895 гг. Эмерык Чапскі вырашыў вывезці асноўную частку каштоўнасцей у Кракаў. Яе запакавалі ў 134 скрыні, размясцілі ў шасці вагонах і адправілі ў Галіцыю. Цяпер гэтыя каштоўнасці знаходзяцца ў фондах аддзела імя Эмерыка Гутэн-Чапскага ў Кракаўскім нацыянальным музеі.

У 1835 г. Эмерык Чапскі пабудаваў капліцу-пахавальню ў стылі ампір, у якой пазней былі пахаваны Караль Чапскі, ягоны ўнук, таксама Караль, нязменны прэзідэнт Мінска, і іншыя нашчадкі роду Чапскіх. Сам Эмерык Чапскі пахаваны ў Кракаве.

Пасля Эмерыка па спадчыне ў Станькаве гаспадарыў яго старэйшы сын Караль, пашлюблены з Леанцінай Марыяй Пуслоўскай.

Апошнімі гаспадарамі Станькава да 1920 г. з'яўляліся сыны Караля — Эмерык-Аўгуст і Войцех Гутэн-Чапскія.

Палац Чапскіх у Станькаве быў разбураны ў часы Другой сусветнай вайны. Захавалася значная частка пейзажнага парку.

У гасцях у Эмерыка Чапскага пабываў Н. Орда і пакінуў у спадчыну віды гістарычных будынкаў.

**Станькава. Бібліятэка Чапскіх.** 1864—1876 гг.

Будынак двухпавярховы, з вежкамі.

Надпіс: *Бібліятэка ў Станькаве*. Надпіс на падкладцы: *Станькаў. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,2

III-г. а. 4504 (Teka Mińska). MNK



## КАПЫЛЬСКІ РАЁН

### *Грозаў*

Сядзіба і мястэчка Грозаў размяшчаліся некалі ў паўночнай частцы колішняга Слуцкага княства пры дарозе з Капыля на Слуцк. Да 1863 г. маёнтак належаў роду Межаеўскіх, што аселі на беларускіх землях у XVII ст. У сярэдзіне XIX ст. Грозавам валодаў Севярын Межаеўскі, у якога ўсе землі пасля паўстання 1863—1864 гг. былі забраны і выстаўлены на распрадажу. Іх набыў князь Людвіг Віттенштэйн, муж Стафаніі Радзівіл, дачкі князя Дамініка. У канцы XIX ст. Грозаў стаў уласнасцю расійскіх памешчыкаў [293].

На пачатку XIX ст. у Грозаве пры Межаеўскіх быў пабудаваны вельмі шыкоўны палац сярод разлеглага пейзажнага парку.

Падчас гаспадарання ў Грозаве Віттенштэйнаў у іх у гасцях пабываў Н. Орда. Тут ён выканаў акварэль з відам палаца і маляўнічай мясцовасці.

У Першую і Другую сусветныя войны палац быў моцна пашкоджаны і не аднаўляўся.

### *Савічы*

Да XVI ст. Савічы належалі князям Алелькавічам. Дачка Юрыя Алелькавіча і Барбары з Кішкаў — Сафія — была пашлюблена з Янушам Радзівілам і далучыла велізарны абшар маёнткаў да маёмасці Радзівілаў. Затым Тальшэўскія выкупілі Савічы. Ганна Тальшэўская, дачка Валенція, першы раз выйшла замуж за Людвіка Вайніловіча, другі — за Рэйтана. Усю маёмасць перапісала на дзяцей ад першага шлюбу. Ад 1661 г. Савічы з'уляліся сямейным гняздом Вайніловічаў [293]. У XIX ст. Савічы разам з Пузавам належалі



**Грозаў. Палац Віттенштэйнаў, некалі Межаескіх.** 1864—1876 гг.

Від з боку ракі. Палац двухпавярховы, з порцікам на калонах і вялікім балконам.

Датавана: *Грозаў. 8 жніў[ня]*. Надпіс: *Севярына Межаеўскага.* Надпіс на падкладцы: *Грозаў. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,6x30,3

III-г. a. 4461 (Teka Mińska). MNK



**Савічы. Палац Вайніловічаў.** 1864—1876 гг.

Від з боку пад'езда. Палац двухпавярховы, з порцікам на аркадах.

Датавана: *31 ліпеня.* Надпіс: *Савічы. Эдвард Вайніловіч.* Надпіс на падкладцы: *Савічы. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,2

III-г. a. 4497 (Teka Mińska). MNK

па чарзе Антонію Вайніловічу, слуцкаму маршалку, жанатаму з Тэафілай Адынец, затым яго сыну Адаму, пашлюбленаму з Ганнай Ванькавіч, і ў канцы — Эдварду, унуку Антонія, у гасцях у якога пабываў Н. Орда.

## ЛАГОЙСКІ РАЁН

**Гайна. Касцёл Узнясення Найсвяцейшай Панны Марыі.** 1876 г.

Агульны від дзвюхвежавага касцёла з боку рэчкі Гайны.

Датавана: *Гайна, 29 чэрвеня 1876 г.* Надпіс: *Адзін з сямі касцёлаў, закладзеных у гэтай мясцовасці Ягайлам.* Надпіс на падкладцы: *Гайна. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,7x30,1

III-r. a. 4459 (Teka Mińska). MNK

### *Гайна*

Колішні маёнтак. Цяпер сядзібны дом не існуе, захавалася толькі невялікая частка парку.

Праязджаючы па Міншчыне, Н. Орда зацікавіўся архітэктурай гайнаўскага касцёла, пабудаванага ў маляўнічым месцы, на невысокім узвышшы. На пярэднім плане — рака Гайна з драўляным мастком.



У 1690 г. сядзіба Кухцічы перайшла ад Барбары Горскай да Апалоніі з Кіршанштэйн-Крыспінаў, удавы Яна Юрыя Завішы. З той пары і да пачатку XIX ст. Кухцічы належалі пастаянна роду Завішаў. На памежжы XVIII—XIX стст. Казімір Завіша стаў стваральнікам прыгожай рэзідэнцыі ў Кухцічах. Ягоны сын памёр у юнацкім узросце, таму двор Кухцічы перайшоў да дачкі Валерыі, якая пабралася шлюбам са стрыечным братам Тадэвушам Завішам. Апошнім спадкаемцам Кухцічаў па мужчынскай лініі быў іх сын Ян Казімір Завіша, знакаміты археолаг, аўтар шматлікіх даследаванняў, уладальнік багатай калекцыі старажытнасцей. Ян Казімір адбудаваў вялікі палац у Варшаве. Ён меў дзвюх дачок. Кухцічы атрымала малодшая — Магдалена, жонка Людвіка Красінскага, якая пасля смерці мужа выйшла замуж за Мікалая Радзівіла [293].

Напалеон Орда гасцяваў у Яна Казіміра Завішы.

**Кухцічы. Палац Завішаў.**
1864—1876 гг.

Від з боку пад'езда. Палац двухпавярховы, з порцікам на калонах. Па баках — дзве аднолькавыя аднапавярховыя афіцыны з порцікамі на калонах.

Датавана: *13 жніў[ня]*. Надпіс: *Кухцічы. Ян Завіша.* Надпіс на падкладцы: *Кухцічы. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,7x30,2

III-г. а. 4468 (Teka Mińska). MNK



*Лагойск*

Упершыню ў пісьмовых крыніцах згадваецца ў «Павучэнні» Уладзіміра Манамаха, які распавядаў пра паход у 1078 г. на полацкага князя Усяслава. Уладзімір захапіў Лагойск (летапісны Лагожск, Лагожаск) [143]. На правым беразе рэчкі Гайны ў парку яшчэ захоўваліся рэшткі крэпасці на месцы дзяцінца Лагойска, які быў цэнтрам удзельнага княства (1180). З XIV ст. горад уключаны ў склад ВКЛ, у XV ст. падараваны каралём і вялікім князем Казімірам Ягайлавічам Аляксандру Чартарыйскаму. Пры Сямёне Чартарыйскім мястэчка і замак былі спалены татарскім ханам Махмудам-Гірэем (1505). Гірэй захапіў маленькіх сыноў князя Сямёна і адправіў іх у палон, таму Лагойск па спадчыне перайшоў да дачок. Пасля горадам валодалі Тышкевічы, якія ў сярэдзіне XVI ст. адбудавалі новы замак (пазней разбураны шведамі). У 1815 г. у Лагойску быў узведзены прыгожы палац у стылі класіцызму, у якім пабываў Напалеон Орда.



**Лагойск. Палац Тышкевічаў.** 1864—1876 гг.

Від паркавага фасада з боку ракі Гайны. Палац аднапавярховы, з двухпавярховымі крыламі і рызалітам.

Надпіс: *Лагойск з боку ракі Гайны. Гр[аф] Оскар Тышкевіч, жонка Ганорцыя Новавейска, сын Юзаф...* (не чытаецца.— *Аўт.*). Надпіс на падкладцы: *Лагойск. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,4х29

III-г. а. 4470 (Teka Mińska). MNK

Радзіма Уладзіслава Сыракомлі, вядомага паэта XIX ст. (сапраўднае прозвішча Людвік Кандратовіч). Нарадзіўся ў 1823 г., вучыўся ў Нясвіжы (дамініканская школа) і Навагрудку. Працаваў у нясвіжскай канцылярыі па кіраўніцтве маёнткамі, арандаваў фальваркі Залучча ў Навагрудскім павеце і Барэйкаўшчына пад Вільняй. Маючы абвостранае пачуццё высокага патрыятызму, выступаў супраць палітыкі царскага рэжыму, за што быў зняволены ў віленскую турму (1861).

Першы друкаваны твор — верш «Паштальён», які ў перакладзе паэта Л. Трэфалёва лёг у аснову рускай народнай песні «Когда я на почте служил ямщиком» [220]. Пераважна беларуская па сваёй тэматыцы творчасць паэта адлюстроўвала антыпрыгонніцкія настроі прагрэсіўнай часткі грамадства. У 1870-я гг. на радзіме паэта пабываў Напалеон Орда [499].



**Смольгава. Сядзіба Кандратовічаў.** 1864—1876 гг.

Выгляд драўлянага аднапавярховага дома з ганкам на калонах і гаспадарчымі пабудовамі

Надпіс на падкладцы: *Смольгаў. Мінская г[убернія]*. Надпіс на картцы, падклеенай да падкладкі: *Смольгаў. Мінская губерня. Месца нараджэння паэта Людвіка Кандратовіча, вядомага пад псеўданімам Уладзіслаў Сыракомля. Нарадзіўся д[ня] 17 верасня 1822 г., памёр у Вільні д[ня] 15 верасня 1862 г.*

Апошні надпіс паўтораны па-французску.

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,7х30,2

III-г. а. 4501 (Teka Mińska). MNK

**Анопаль. Парафіяльны касцёл.** 1864—1876 гг.

Від з боку ўвахода. Будынак касцёла драўляны, у плане крыжападобны, з надпісам на лацінскай мове. Дом разам з царкоўнымі могілкамі быў абнесены мураванай агароджай з трохаркаднай брамай. З левага боку — аднапавярховая плябанія з ганкам.

Надпіс: *Анопаль. Касцёл. Рэст[аў]раваны] п[анам] Альбрэхтам Радзівілам і Ганнай Халецкай.* Надпіс на падкладцы: *Анопаль. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,3

III-г. a. 4452 (Teka Mińska). MNK



## МІНСКІ РАЁН

### *Анопаль*

Да пачатку XVIII ст. сядзіба насіла назву Кропіца і належала роду Халецкіх. Ганна Халецкая ў 1747 г. была пашлюблена з князем Альбрэхтам Радзівілам і прынесла яму ў якасці пасагу маёнтак. З гэтага часу сядзіба пачала насіць назву Анопаль ад імені Ганны. У канцы XIX ст. у маёнтку гаспадарыла ўдава Аляксандра Радзівіла княгіня Іаана, пры якой гаспадарка стала ўзорнай. Пасля яе маёнтак перайшоў да Красінскіх. Апошнім уладаром да 1939 г. быў граф Ян Тышкевіч, жанаты з Ганнай Марыяй Радзівіл [293].

Сядзіба размяшчалася на тэрасе каля ракі Пціч. Палац быў драўляны, згарэў у сярэдзіне XIX ст., таму Н. Орда не змог яго намаляваць. Сядзібным домам служыў аднапавярховы мураваны будынак, які называўся «Белым домам» і размяшчаўся з паўднёвага боку ад уязной алеі. Захаваліся рэшткі будынка і парку з тэрасамі.

### *Грудок (Астрашыцкі Гарадок)*

Старадаўняя сядзіба. Да 1590 г. мястэчка Астрошычы (Астрожчыцы), замак і маёнтак, што знаходзіліся каля яго, належалі Гарнастаям, затым Радзівілам. З канца XVI ст. мястэчка пачало насіць назву Гарадок Астрожчыцкі. У 1791 г. ім валодаў Ю. Тышкевіч. Фундатарам палаца, узведзенага ў неагатычным стылі, быў граф Міхал Тышкевіч (1828—1897), муж Марыі, дачкі князя Мікалая Радзівіла па бярдычаўскай лініі.

У 1860 г. палац згарэў, у 1870 г. яго часткова рэканструявалі, што засведчыў малюнак Н. Орды.



**Грудок. Палац Тышкевічаў.**
1864—1876 гг.

Від з боку ўязной дарогі. Палац у сярэдняй частцы аднапавярховы з бакавымі двухпавярховымі крыламі, тэрасай на арках. З правага боку — рэшткі спаленай часткі палаца з чатырохбаковай вежай, з левага — аднапавярховы будынак.

Надпіс на падкладцы: *Грудок. Мінская г[убернія]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,5х29

III-г. а. 4458 (Teka Mińska). MNK

У палацы мелася невялікая капліца. Міхал Тышкевіч практычна не жыў у Грудку (ён надоўга асеў за мяжой). Наступным гаспадаром стаў ягоны сын Юзаф Тышкевіч, які пасля смерці маці падараваў Грудок Клемянціне Патоцкай. Апошнім гаспадаром маёнтка да 1939 г. быў Альфрэд Тышкевіч, жанаты з Лізаветай Радзівіл [293]. У 1920 г. палац разам з галерэяй мастацкіх твораў яшчэ існаваў, але пазней яго знішчылі.

## *Прылукі*

Сядзіба вядома па інвентарах 1651 і 1772 гг. Да 1740 г. у Прылуках існаваў праваслаўны манастыр, пабудаваны ў 1635 г. Ганнай Тышкевіч з блаславення кіеўскага мітрапаліта Пятра Магілы. Манастыр быў авеяны шматлікімі легендамі. Паэт А. Адынец у баладзе назваў яго «зачараваным замкам» [293].

Спачатку Прылукамі валодалі Статкевічы і Агінскія, ад якіх перайшлі да Іваноўскіх. Людвіка Іваноўская выйшла замуж за Францішка Ашторпа і прынесла Прылукі ў якасці пасагу ў род Аштарпаў з Дукоры. У 1851 г. іх сын Лявон распачаў дзейнасць па фарміраванні новай сядзібы, імкнуўся аднавіць мураваны будынак разбуранага манастыра. Пасля смерці Лявона працу працягвала ягоная дачка Людвіка, якая стала жонкаю мінскага маршалка Атона Харвата.

Колішні «зачараваны замак» ператварыўся ў маляўнічы неагатычны палац. У 1872 г. Прылукі набыў граф Эмерык Гутэн-Чапскі. У 1886 г. будынак быў моцна пашкоджаны пажарам. У адноўлены будынак пераехаў малады граф Юрый Чапскі, пашлюблены з аўстрыйскай прынцэсай Юзэфай Каралінай. Яны былі апошнімі гаспадарамі Прылукаў [276]. У 1876 г. Прылукі наведаў Напалеон Орда і пакінуў дзве акварэлі з пейзажамі мястэчка.

**Прылукі. Палац Чапскіх, раней Ашторпаў і Харватаў.** 1876 г.

Выгляд галоўнага і бакавога фасадаў палаца. Будынак двухпавярховы з чатырма вежкамі, рызалітам з аркадамі і сходамі. З правага боку — гадзіннікавая вежа з галерэяй і тэрасай.

Датавана: *1876 г., 10 ліпеня. Прылукі.* Надпіс: *Рака Пціч.* Надпіс на падкладцы: *Прылукі. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,2

III-r. a. 4494 (Teka Mińska). MNK



**Прылукі. Палац з боку ракі Пціч.** 1876 г.

Палац мае трохпавярховы рызаліт з балконамі і сходамі. З правага боку павільён з вежкай, далей гаспадарчыя збудаванні з аранжарэяй.

Датавана: *10 ліпеня 1876.* Надпіс: *Прылукі Ашторпа — Атона Харвата — Эмерыка Чапскага, жонка Медыўм.* Надпіс на падкладцы: *Мінская г[уберня]. Прылукі. Некалі гаспадарка Ашторпа, затым — Атона Харвата, цяпер гр[афа] Эмерыка Чапскага*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 30,8x30

III-r. a. 4493 (Teka Mińska). MNK



## *Сёмкаў*

У XVI ст. землі, на якіх узнікла сядзіба, належалі Мацяевічам, Рэкуцам, Статкевічам, затым Саламярэцкім. У сярэдзіне XVIII ст. гаспадаром Сёмкава стаў Адам Хмара-Саламярэцкі (1720—1805), які адбудаваў сядзібу Сёмкаў у цэнтры вялікага ключа. Дзякуючы адукаванасці і кіпучай энергіі Адам дасягнуў высокіх пасад — стаў мінскім ваяводам, атрымаў ордэны Белага Арла і Святога Станіслава. Сёмкаўскі гаспадар меў некалькі аўдыенцый у Кацярыны II, якая даравала яму ордэн Аляксандра Неўскага, тытул тайнага саветніка і табакерку [276]. Ён мала займаўся палітыкай, больш эканамічнымі рэформамі: будаваў млыны, цагельні, бровары, вінакурні, гандляваў збожжам. Апошнім гаспадаром Сёмкава быў нашчадак Саламярэцкага, які таксама зваўся Адамам Хмарай. У яго аднойчы гасцяваў Н. Орда.



**Сёмкаў. Палац Хмараў.** 1876 г.

Палац аднапавярховы з двухпавярховым рызалітам, увенчаным трохкутным франтонам, накрыты ламаным дахам.

Датавана: *9 ліпеня 1876 г.* Надпіс: *Сёмкаў, заснаваны ў 1771 г. ваяводам Хмарай...* (не чытаецца.— *Аўт.*) *цяпер уласнасць Адама Хмары.* Надпіс на падкладцы: *Сёмкаў. Мінская [губерня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,2

III-г. а. 4498 (Teka Mińska). MNK

## МАЛАДЗЕЧАНСКІ РАЁН

### *Беніца*

Колішняя сядзіба. Існавала ў XVIII—XIX стст. каля вёскі Беніца. Належала Коцелам, Абрамовічам, Швыкоўскім. У комплекс уваходзілі палац, парк, сад, гаспадарчыя пабудовы. Палац узведзены ў 1779—1781 гг. Праект выканаў італьянскі архітэктар К. Спампані [293].

Калі ў Беніцы гасцяваў Н. Орда, інтэр'еры палацавых пакояў былі багата аздоблены (фігурны паркет, філёнчатыя сцены, лепка). Сцены ўпрыгожвалі шматлікія карціны і гравюры.



**Беніца. Сядзіба Швыкоўскіх.** 1875—1877 гг.

Від з боку пад'езда. Палац драўляны, аднапавярховы з порцікам на калонах і бакавымі крыламі. З правага боку — фрагмент драўлянага будынка з вежкай.

Датавана: *Беніца, 20 ліпеня.* Надпіс: *1702 г. Некалі Міхала Коцела, падск[арбія] л[ітоўскага], цяпер Канст[анціна] Швыкоўскага.* Надпіс на падкладцы: *Беніца. Віленская г[уберня]. Уласнасць Канстанціна Швыкоўскага, абывацеля і доктара медыцыны*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,2

III-г. a. 3978 (Teka Mińska). MNK

## НЯСВІЖСКІ РАЁН

### *Гарадзея*

Маёнтак і вёска Гарадзея ўваходзілі некалі ў склад радзівілаўскіх ардынацый. У 1-й палове XIX ст. сядзіба належала Брахоцкім. Амаль усе прадстаўнікі роду Брахоцкіх былі выхаваны ў традыцыях патрыятызму. Асабліва вызначыліся Валенцій (1782—1856) — паўстанец 1831 г., Уладзіслаў (1810—1890) — царскі вязень за ўдзел у паўстанні 1863 г., Антоній — маршалак Ашмянскага павета, таксама паўстанец 1863 г., Адам Юзаф, жанаты з Мілашэўскай (ён і быў гаспадаром Гарадзеі) [276].

Палац пабудаваў Юзаф Брахоцкі ў 1830 г. Госцем у яго і пабываў Н. Орда.



**Гарадзея. Палац Брахоцкіх.**
1864—1876 гг.

Від з боку сажалкі. Палац аднапавярховы, на высокім падмурку, сярэдняя частка двухпавярховая, завершаная трохкутным франтонам.

Датавана: *15 ліпеня.* Надпіс: *Гарадзея Эміліі Брахоцкай.* Надпіс на падкладцы: *Гарадзея. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,2

III-r. a. 4460 (Teka Mińska). MNK

## *Нясвіж*

У летапісе ўпершыню ўпамінаецца пад 1223 г., калі нясвіжскі князь Юрый з дружынай удзельнічаў у бітве рускіх князёў супраць мангола-татараў на рацэ Калка. Нясвіж быў цэнтрам удзельнага княства, якое ў першай чвэрці XIV ст. увайшло ў склад ВКЛ.

У XV ст. гэтыя землі належалі Нямірам і Манцігірдавічам [144]. З 1432 г. у Нясвіжы гаспадарылі Пётр Ян Кішка, а з 1513 г. на працягу больш за 400 гадоў — Радзівілы. Першым нясвіжскім князем з роду Радзівілаў быў Мікалай Чорны, які ў 1547 г. атрымаў княскі тытул. З гэтага часу вотчына Радзівілаў афіцыйна называлася Нясвіжскім княствам. У яго ўваходзілі Нясвіж, Карэлічы, Свержань, Мірскае графства. У 1586 г. Нясвіжскае княства абвешчана ардынацыяй Радзівілаў, мела свае войска і замкавы суд. У 1555 г. Мікалай Чорны прыняў кальвінізм і зрабіў Нясвіж яго цэнтрам, заснаваў бібліятэку з архівам. У XVI ст. з удзелам С. Буднага створана друкарня, дзе з 1562 г. на беларускай мове выдаваліся ягоныя кнігі. Мікалай Радзівіл Чорны быў параднёны з Жыгімонтам II Аўгустам. Кароль ажаніўся з дваюраднай сястрой князя — Барбарай, удавой ваяводы С. Гаштольда [276].

Новым уладальнікам Нясвіжа стаў Мікалай Крыштоф Радзівіл, пашлюблены з Лізаветай Вішнявецкай. Пасля смерці Юрыя Ілініча ён валодаў Мірскім графствам.

У 1583 г. Мікалай Крыштоф Радзівіл-Сіротка (1549—1616) заклаў у Нясвіжы мураваны замак. Да 1599 г. у яго будаўніцтве браў удзел італьянскі архітэктар Джавані Марыя Бернардоні. У 1586 г. Нясвіж атрымаў магдэбургскае права і герб.

Пры двары Мікалая Крыштофа Сіроткі працаваў гравёр, картограф і друкар Тамаш Макоўскі, які кіраваў Нясвіжскай друкарняй, адкуль выйшла першая дакладная карта Вялікага Княства Літоўскага са звесткамі па гісторыі і геаграфіі Беларусі (1613).

У вайну 1654—1667 гг. горад двойчы разбураўся, але замак не быў узяты. Пажар 1693 г. прынёс Нясвіжу новыя страты, а ў маі 1706 г. шведскае войска разрабавала і спаліла горад з замкам, узарвала магутныя бастыёны. У 1720-я гг. Нясвіж адбудаваны. Міхал Казімір Радзівіл Рыбанька (1702—1762) умацаваў гарнізон замка, заснаваў кадэцкі корпус, дзе рыхтавалі афіцэраў для прыватнага войска Радзівілаў [293].

У будаўніцтве Нясвіжскага палаца ўдзельнічалі знакамітыя архітэктары М. Педэці, М. Фларыяновіч, К. Спампані. У XVIII ст. у Нясвіжы жылі і працавалі мастакі Мацей Бейтнік, Ксаверы Дамінік і Юзаф Ксаверы Гескія. Пры калегіі езуітаў з 1584 г. працавала школка. Пасля ліквідацыі ў 1773 г. ордэна ў Нясвіжы дзейнічала школа, адкрытая Адукацыйнай камісіяй. У вайну 1812 г. горад быў моцна разбураны і разрабаваны. Зімой 1814—1815 гг. тут жыў паэт-дзекабрыст К. Рылееў [144].

Пасля пажараў 1836 і 1843 гг. горад заняпаў. Асаблівыя страты былі ад пажару 1843 г., калі згарэла 150 дамоў і пабудовы манахаў па Міхалішкаўскай вуліцы. Да 1835 г. дамініканцы мелі школу, дзе вучыўся выдатны беларускі і польскі паэт Уладзіслаў Сыракомля. Кляштар дамініканцаў спыніў дзейнасць у 1873 г. У яго будынку праз два гады запрацавала настаўніцкая семінарыя, якая рыхтавала настаўнікаў для пачатковых народных вучылішчаў. Яе скончылі будучыя дзеячы культуры — беларускі этнограф, фалькларыст і мовазнавец А. Я. Баргановіч, пісьменнікі Якуб Колас, Кузьма Чорны і інш.

У ліпені 1876 г. у Нясвіжы пабываў Н. Орда выканаў тут восем арыгінальных малюнкаў з пейзажамі горада.



**Нясвіж. Панарама горада.** 1876 г.

Від горада з боку ракі Ушы. З левага боку — бенедыкцінскі касцёл, з правага — езуіцкія касцёл і кляштар.

Датавана: *29 ліпеня 1876 г.* Надпіс: *Нясвіж. Від з майго акна ў замку.* Надпіс на падкладцы: *Нясвіж. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8х30,2

III-г. а. 4474 (Teka Mińska). MNK



**Нясвіж. Касцёл і кляштар бенедыкцінак.** 1876 г.

Від з боку вадаёма. Кляштар, абнесены мурам з брамай-званіцай. За будынкамі кляштара — фрагмент касцёла з вежай.

Датавана: *28 ліпеня.* Надпіс: *Нясвіж. Кляштар бенедыкцінак.* Надпіс на падкладцы: *Нясвіж. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,3х30,2

III-г. а. 4478 (Teka Mińska). MNK




**Нясвіж. Замак Радзівілаў.** 1876 г.

Від з боку ракі Ушы. Комплекс замкавых будынкаў з бастыёнамі і дзвюма вежамі. З левага боку — касцёл і кляштар бернардзінцаў. Далей езуіцкі касцёл і званіца.

Датавана: *Нясвіж. 26 ліпеня.* Надпіс: *Пачатак ракі Ушы. К[нязь] Антоній Радзівіл, Марыя Кастэляні — [дочкі] Лізавета, Гелена, сын Ежы.* Надпіс на падкладцы: *Нясвіж. Мінская г[убернія]. Замак Радзівілаў*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,7x30,3

III-г. а. 4475 (Teka Mińska). MNK

**Нясвіж. Бенедыкцінскі касцёл Святога Крыжа і кляштар.** 1876 г.

Выгляд галоўнага і бакавога фасадаў касцёла. З левага боку — двухпавярховы будынак кляштара.

Датавана: *27 ліпеня.* Надпіс: *Святы Крыж каля Нясвіжа. Могілкі.* Надпіс на падкладцы: *Нясвіж. С[вяты] Крыж. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,2.

III-r. a. 4481 (Teka Mińska). MNK



**Нясвіж. Панарама горада.** 1876 г.

Від з боку ўязной брамы.

Датавана: *Нясвіж, 28 ліпеня 1876 г.* Надпіс на падкладцы: *Нясвіж. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,7x30

III-r. a. 4476 (Teka Mińska). MNK






**Нясвіж. Панарама замка.** 1876 г.

Агульны від.

Надпіс: *Нясвіж (Мінская г[уберня])*. Надпіс на падкладцы: *Мінская г[уберня], Нясвіж*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,5x29,3

III-г. а. 4477 (Teka Mińska). MNK

**Нясвіж. Замак.** 1876 г.

Від з боку двара. Галоўны будынак замка з рызалітам, увенчаным трохкутным франтонам з тэрасай на першым паверсе і трохпавярховымі будынкамі-крыламі. За правым крылом — замкавая вежа.

Датавана: *29 ліпеня 1876 г.* Надпіс: *1583 г., мая 7. Мікалай Крыштоф Радзівіл. Замак у Нясвіжы.* Надпіс на падкладцы: *Нясвіж. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,5х29,3

III-r. a. 4479 (Teka Mińska). MNK



**Нясвіж. Замкавы двор.** 1876 г.

Агульны від двара.

Надпіс: *Замкавы двор у Нясвіжы — рэзідэнцыя к[няздя] Караля Радзівіла Пане Каханку.* Надпіс на падкладцы: *Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,5х29,4

III-r. a. 4480 (Teka Mińska). MNK





## *Сноў*

Мястэчка Сноў вядома з XVI ст. Належала Радзівілам, Гарабурдам, Рдултоўскім. Заснавальнікам сноўскай лініі роду быў Ян Багуслаў Рдултоўскі (1665—1744), муж Алены Ваньковіч. Па спадчыне маёнтак перайшоў да іх сына Антонія, затым да ўнука Яна Хрызастома. Фарміраванне сядзібы пачалося яго сынам Казімірам [293].

Казімір Рдултоўскі (1785—1853) з дзяцінства жыў і вучыўся ў Оксфардзе, дзе атрымаў званне доктара філасофіі. Ён ажаніўся са зводнай сястрой Тарэсай. Шлюб быў сапраўды шчаслівым. Яны пасяліліся ў Снове і стварылі маляўнічую рэзідэнцыю, якую намаляваў Напалеон Орда.

**Сноў. Палац Харцінгаў, некалі Рдултоўскіх.** 1864—1876 гг.

Від з боку парку. Палац аднапавярховы з двухпавярховай сярэдняй часткай, порцікам на калонах і двухпавярховымі крыламі. Па баках — павільёны, злучаныя з палацам пераходамі.

Надпіс: *Сноў. Палац Рдутлоўскіх. Уласнасць Густава Харцінга.* Надпіс на падкладцы: *Сноў. Мінская г[уберня]. Палац, пабудаваны Рдутлоўскімі*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,7x28,5

III-r. a. 4502 (Teka Mińska). MNK

# ПУХАВІЦКІ РАЁН

## *Дукора*

Паводле Р. Афтаназы, сядзіба вядома з XVI ст. Уваходзіла ў склад сапегаўскіх уладанняў. Потым Дукорай валодалі прадстаўнікі родаў Завішаў і Агінскіх. Згодна з інвентаром 1696 г., у маёнтку гаспадарылі Мікалай і Кацярына Агінскія. Апошнім гаспадаром Дукоры з Агінскіх быў Міхал Казімір (1730—1800), які не меў спадкаемцаў. Маёнткамі велізарнага ключа фактычна ўпраўлялі арандатары: Станіслаў Манюшка, дзед вядомага кампазітара, і Францішак Ашторп, сын асеўшага ў Беларусі шведскага ваяра арміі Карла XII [293]. З цягам часу гаспадаром Дукоры стаў Ашторп, а суседніх Смілавічаў — Манюшка.

Ашторп у якасці пасагу ад Людвікі Іваноўскай атрымаў яшчэ маёнтак Прылукі. Ён быў дбайным гаспадаром, узвёў палац, магчыма, дабудоўваў яго сын Лявон, камандор Мальційскага ордэна, мінскі маршалак. У сядзібе ўтрымліваліся цыркавыя трупа і аркестр. У 1851 г. Лявон патануў у Свіслачы [293].

У 1874 г. сядзіба перайшла да барона Канстанціна Харцінга, мужа Юзэфы Несялоўскай, у гасцях якога пабываў Н. Орда.



**Дукора. Палац Харцінгаў, некалі Агінскіх, Ашторпаў.** 1876 г.

Від з боку пад'езда. Палац двухпавярховы з порцікам на калонах і балконам. Да бакавога фасада дабудавана аранжарэя.

Датавана: *Дукора, 4 ліпеня 1876 г.* Надпіс: *Некалі Ашторпаў; дочкі — Сенажэцкая, Харватава, Кастравіцкая з р[оду] Здзяхоўскіх. Цяпер Канстанціна Харцінга і [яго] ж[онкі] Юзэфы Несялоўскай. Рака Волва (?).* Надпіс на падкладцы: *Дукора над ракой Свіслач — некалі ўласнасць кн[язёў] Агінскіх, пазней сям'і Ашторпаў. Дукора. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,2

III-г. а. 4457 (Teka Mińska). MNK

*Слуцк*

Упершыню згадваецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1116 г. (летапісны Случеск). З 1160 г.— цэнтр невялікага ўдзельнага княства; яно праз трыццаць гадоў канчаткова выдзелілася з Тураўскага княства. У 1320—1330-я гг. Слуцк увайшоў у склад ВКЛ. З 1395 г. стаў цэнтрам удзельнага княства, што належала князю Уладзіміру Альгердавічу і ягоным нашчадкам, князям Алелькавічам, якія валодалі горадам і княствам да 1612 г. [144]. У XVI ст. на Слуцк і яго ваколіцы неаднаразова нападалі крымскія татары. У 1582 г. Слуцкае княства падзялілася паміж братамі Алелькавічамі. Кожны атрымаў адну з трох частак горада (Стары горад, Новы горад і Востраў), што склаліся гістарычна.

Слуцк атрымаў магдэбургскае права ў 1441 г. і ўпершыню перайшоў на самакіраванне. Пры княжацкім двары паміж 1672 г. і 1705 г. працавала друкарня, выдаваліся кнігі на рэлігійныя, ваенныя і геаграфічныя тэмы, мастацкія творы, падручнікі, даведнікі.

У 1862—1863 гг. адбываліся хваляванні вучняў Слуцкай гімназіі. Каля трыццаці гімназістаў старэйшых класаў прынялі ўдзел у паўстанні супраць царызму, што ахапіла Польшчу, Літву і Беларусь. У лютым 1863 г. у Слуцкім павеце дзейнічаў паўстанцкі атрад Р. Рагінскага, які прыбыў з Польшчы, а з вясны — яшчэ чатыры мясцовыя атрады, у якіх налічвалася да 500 чалавек.

У Слуцку пабываў Н. Орда і намаляваў гістарычны пейзаж горада.



**Слуцк. Прадмесце Трайчаны (Новы горад).** 1864—1876 гг.

Від Траецкай царквы і манастыра. Храм двухвежавы. З правага боку ў глыбіні — двухпавярховы будынак кляштара.

Датавана: *4 жніўня.* Надпіс: *Трайчаны — манастыр, заснаваны Соф'яй Алелькаўнай, князёўнай Слуцкай, ж[онкай] Януша Радзівіла. Слуцк.* Надпіс на падкладцы: *Слуцк. Мінская г[уберня]*

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,8x30,2

III-г. а. 4499 (Teka Mińska). MNK

# СТАЎБЦОЎСКІ РАЁН

## *Жукаў Барок*

Колішняя сядзіба, у якой правёў дзіцячыя гады выдатны пісьменнік і выдавец Адам Плуг (сапраўднае прозвішча Антоній Пяткевіч; нарадзіўся ў 1823 г. у вёсцы Замосце на Случчыне). Скончыў Слуцкую гімназію, вучыўся ў Кіеўскім універсітэце. Пасля вучобы вярнуўся ў Жукаў Барок. Сябраваў з Уладзіславам Сыракомлем, настаўнічаў на Украіне, у Бесарабіі, друкаваўся ў кіеўскіх часопісах. Пасля сустрэчы з Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам шмат пісаў пра Беларусь, выкарыстоўваючы мясцовы фальклор. Памёр у Варшаве ў 1903 г. [220].



**Жукаў Барок. Сядзіба.** 1876 г.

Агульны від сядзібы з боку ракі Ячанкі. На пярэднім плане — будынак царквы.

Датавана: *Жукавы Барок. 15 жніўня 1876 г.* Надпіс: *Месца нараджэння Антонія Пяткевіча (Адама Плуга).* Надпіс на падкладцы: *Жукавы Барок над Нёманам. Мінская г[уберня]. Тут правёў дзяцінства Антоній Пяткевіч (Адам Плуг), народж[аны] у Замосці. Далей верш Сыракомлі: «Не згасне ў памяці...» Жукавы Барок. Сыракомля.* Надпіс на картцы, падклеенай да падкладкі: *Жукавы Барок. Мінская губерня. Тут правёў дзіцячыя гады сучасны пісьменнік і паэт Антоній Пяткевіч (Адам Плуг), народжаны ў Замосці. Далей верш Сыракомлі.*

Апошні надпіс паўтораны па-французску.

Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 20,7х30,2

III-г. а. 4514 (Teka Mińska). MNK

